# КАЛОСЬСЕ

## ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

КНІЖКА 1




ВІЛЬНЯ 1936 ГОД

**Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2.**

Складка на год—4 зал., на паўгода—2 зал.
Адна кніжка—1 зал.

**Часапіс выходзіць раз у тры месяцы.**

# ЗЬМЕСТ



Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 1(5)** **1936 г.** **Год II**



* * *

*Патрэба беларускага літаратурна-навуковага часапісу ў Заходняй Беларусі адчувалася даўно. Урэшце гэткі часапіс паявіўся. Ёсьць ім — ужо добра нашаму грамадзянству ведамае — „Калосьсе". Арганізаваньне яго ня было справай лёгкай. Многа было ўсякіх труднасьцяў і перашкодаў. Усё гэта аднак удалося перамагчы і прыступіць да выдаваньня часапісу.*

*За мінулы год „Калосься" вышлі 4 сшыткі, гэта знача столькі, колькі было ў намеры выдавецтва. Такім чынам часапіс наш данае грамадзянству слова стрымаў.*

*Праўда, гэтыя чатыры сшыткі „Калосься" — гэта яшчэ даволі скромныя пачаткі. Беларускай аднак літаратуры і навуцы ёсьць яны позытыўным укладам. Спатыкаем у іх цэлы рад твораў з краснага пісьменства, а таксама арыгінальныя навуковыя працы і рэцэнзіі, што ўсё разам зьяўляецца хоць невялікім, але сусім рэальным укладам у скарбніцу беларускай культуры.*

*Мусім так-жа сказаць, што ня лічачы нямногіх выняткаў, беларускае грамадзянства аднеслося да нашага часапісу агулам здаваляюча. Відаць гэта як з прыхільных да нас лістоў і водзываў, так і з грашовых складак і з агульнага нашым выдавецтвам зацікаўленьня беларускага грамадзянства розных кірункаў і пагрядаў.*

*А гэта нам парука таго, што мы стаімо на добрай дарозе і што простым шляхам ідзём да сваей галоўнай мэты. Мэтай-жа нашай ёсьць: гуртаваць беларускія літаратурныя і навуковыя сілы, друкаваць іх творы і такім чынам прычыняцца да тварэньня беларускай культуры і пашыраць яе ў шырокія слаі нашага грамадзянства й народу. Робім-жа мы гэта, бо сьвята верым, што культура народу — найгалаўнейшая падстава лепшага ягонага заўтра.*

*Ідэовыя рамы „Калосься“ шырокія. Ёсьць у іх месца ўсім беларускім паэтам, пісьменьнікам, навукоўцам, крытыкам і інш., бяз розьніцы іх праканаНьняў палітычных, соцыяльных і рэлігійных.*

*Усім ім наш часапіс ставіць толькі адну вымогу: каб творы іх былі магчыма ў поўнай згодзе з Праўдай, Дабром і Красой і, як такія, каб былі прыдатныя беларускай культуры і каб служылі шчасьцю беларускага народу.*

*Вот наша ідэовая дэклярацыя, вось нашы мэты, з якімі пачынаем нашу працу ў „Калосьсі“ ў другім годзе яго існаваньня.*

*РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.*



МІХАСЬ МАШАРА

* * *



Мы — жывы маладняк песьняроў,
Песьню нашу стварылі мы самі,
Між расквечаных працай палёў. —
Тых, што вянуць, няма паміж намі!

Гэтай песьні юнацкія душы
Прысягалі дасьмертна служыць,
З гэтай песьняй паходам мы рушым
Сонцавеі у цемры тварыць.

Хай варожыць пагрозай і жахам,
І злуецца варожая моц, —
Нашы сілы — у творчым размаху,
Нам ня страшна ні цемра, ні ноч.

## ЗВАНАР

Звані званар...
Звані трывогу.
У самы большы звон удар.
Звані на бой, на перамогу,
На радасьць новую, званар!

Навокал ноч...
І блудзяць людзі,
Шукаюць шлях даўно яны,
А хутка, хутка бура будзе;
Мацней — звані, звані, звані!

Паўзуць па небе страхі — хмары
І цені — дзіва па зямлі.
Устае далёка лунь пажара,
Крыжы хістацца пачалі.

Ты чуеш рэхі бур у далі,
Віхроў магутных грозны тон —
Хутчэй сыгнал давай на хвалі,
Удар у самы большы звон.

Звані — заві з сваей званіцы,
А то яшчэ праблудзяць век,
Ідзе, праз буры — навальніцаў,
Да нас запраўды — чалавек.

Звані — каб выйшлі на дарогу,
Яны, як трэ яго спаткаць.
Звані, званар! — звані трывогу!
Каб зноў вясну ім не праспаць.

5. І. 36 г.

* * *

Вецер, вецер, вецярок,
Замяцеліў, завірыў,
Замяцеліў пух — сьняжок
У нізу і у гары.

Серабрыцца пышна бель,
Мурам гурбы над акном,
Мякка сьцелецца пасьцель,
Завявае ўсё кругом.

Гэй, прачніся ты віхор!
І махні крылом сваім!
Падымі сьнягі да зор,
Над прасторам няжывым.

Прыдарожныя крыжы
І рагаткі на мяжы
Бураломам пакрышы,
Чысьціць шлях нам памажы.

Ён заломам, дзірваном
Праляжаў стагодзьдзі тут
І курган за курганом
Насыпаў працоўны люд.

Насыпалі не з сьнягоў;
Прынімала дар зямля;
Косьці белыя рабоў —
Гібель чорную ярма.

Дык віры сьнягі, віхор!
Чысьці шлях наш, буралом!
Мы выходзім на прастор,
Раськідаць вякоў залом.

Таболы, 5. І. 36 г.



# З ЦЫКЛЮ „ПАДАРОЖЖА“ *)

I.

Люблю я раніцы вясною,
Люблю іх сьвежы халадок,
Зары румянай над зямлёю,
Агнём расквечаны вянок.

Падглядзіць, як туманіць рэчка,
Туман бялявы і густы,
І як з вятрамі ціха спрэчку
Вядуць лазовыя кусты.

Падслухаць, стаўшы дзесь
пры лесе,
Птушыны хор і шум лісьця
І думаць, што на гэтым сьвеце
Ў сям'і жывых — жывы і я.

Люблю касой выводзіць
строчкі,
Пракосаў стройных на лугу,
І сінявокім васілёчкам
Ківаць дзень добры!—на хаду.

Люблю я раніцай вясною,
Ў гаю падслухаць салаўя,
І ў млечна-белым цьветабою
Шукаць красу і чар жыцьця.

Вясна, вясна!.. і май прыгожы,
Вы ўжо праходзілі няраз,
Але у кожным падарожжы
Так многа чар красы у вас!

II.

Цягнік нясецца — далі, далі —
Наўстрэч: палі, лясы бягуць.
Ўставай-жа, муза, мы заспалі!
Трэ апяваць вандроўны пуць.

Настрой-жа ліру, муза, звонка
І голас выпрабуй, як трэ,
Мо' сьпеў наш гэты па
старонца
Вандроўны вецер разьнясе.

— — — — — — — — — —

Песьні! солад ваш і мукі
Пеняць радасьці і боль.
Я хачу пявучым гукам
Залаціць мазоль!

Люба шыр мне... Лес сьмяецца
Ціхім шолахам лісьця;
Людзі, людзі! й вашы сэрцы
Прагнуць радасьці жыцьця.

Ды на грэблю пералескаў
Цяжка выпаўзьці з нары,
Яшчэ змалку нашу сьцежку
Затапталі ведзьмары.

Ўсю тугу запром ў бяздоньня,—
Прэч ад вёсак нашых сум!
Усе мукі хай сягоньня
Глушаць сьпеўны шум.

Вецер — ты наш брат ван-
дроўны —
Памажы ўзмахнуць да зор,
Як і ты, і я — бяздомны
Пакахаў прастор.

III.

Мігаюць за вакном вагона
Лагчыны, дрэвы і палі,
Прыбраў іх пышна май
зялёны
У шоўк рухомы і жывы.

*) Зьмяшчаем у гэтай кніжцы „Калосься“ палавіну твору, які належыць да цыклю „Падарожжа“; другая палавіна будзе надрукавана ў наступнай кніжцы часапісу. У гэтым творы пясьняр перадае уражаньні з свайго побыту ў Вільні ў 1934 г., — і перадае іх у такім парадку хранолёгічным, у якім атрымліваў і перажываў. Твор, як чытачы пераканаюцца, мае вялікую эмоцыянальную сілу, насычаны высока ідэёвым зьместам, — зьмяшчае шмат важных і палючых праблемаў соцыяльнага, нацыянальнага і агульна-людзкага характару, а такжа мае вартасьці артыстычныя.

Рэдакцыя.

Мінаем вось касца ў балоце,
(Занадта рана вышаў, брат),
А ён расхрыстаны і босы
Навіў пракосаў цэлы рад.

Далей вось пасьба... і кароўкі
Скубуць травіцу смачна так,
А тут пясчаныя ўзгоркі
І каля вёскі — млын-вятрак.

Махае пёрамі ляніва,
Як птушка зломаным скрылом.
(Яму таксама не да мліва,
Калі вясна цьвіце кругом).

І абразы за абразамі —
Узорна-ткана палатно, —
Лясы, гаі, руччы, з палямі
Прывет свой шлюць мне праз
вакно.

О май! чароўны і вясёлы,
Вясны і сонца — дзіцянё,
Люблю твой чар і шум зялёны,
Табой шумячае жыцьцё.

IV.

Ўжо блізка Вільня — горы,
горы,
Пакрыты густа хвайнікам;
Адна з аднэй, як хвалі ў моры,
Бягуць, каб стрэцца з цягніком.

А між гарамі хаты-цацкі,
Вузкія вулкі і муры,
Якбы з прыгожай нейкай казкі
Абраз, узяты кімсь сюды.

Па вузкіх сьцежках і дарожках,
Куды ні глянь, — што тых
людзей!
І пільна кратаецца кожны
Хутчэй пачаць свой новы дзень.

Чуваць настрой і пульс
мястовы
Такі рухлівы і жывы,
Зусім адменны ад палёвай
Задумы ў шолаху травы.

Сачу скваплівымі вачамі
За схілам кожнае гары
І бачу — ў далі, між гарамі,
Растуць фабрычныя муры;

І каміны ў вышы над імі —
Плюець у неба хмарай дым,
І чую, ў сэрцы б'е прыпівам
Размах юнацкі і уздым.

V.

Прадмесьце — хаты, хаты...
Гароды, клюмбы і кусты
Прыбраў зялёны май багаты
І бельлю ўсьпеніў ўсе сады.

Сьвісток! Цягучы і глыбокі
Ўзадуму-ціш маўклівых гор.
Вітае нас чырвоным вокам
Ўгару падняты сэмафор.

І замільгалі камяніцы,
Касьцёлы, вежы і муры,
Гара Замковая са шпіцам
І гістарычных тры крыжы.

За вулкай вуліца праходзіць
З вясновай раніцай на бруку,
І коскі сонца ў карагодзе
Танцуюць ў скочным рытме
руху.

VI.

Ласкот гамульцаў па калёсах...
І стаў задыхаўшысь цягнік.
Яшчэ раз, Вільня, давялося
Таптаць нагамі твой хаднік.

Уходжу ў вір жывы, кіпучы,
Ў натоўп людзей, паміж валіз,
І зліўшысь ўсе рухомай кучай
Плывём ў тунэль па сходах
ўніз.

Гудзіць тунэль адзвонным
рэхам —
І шум, і гом, і срыбны сьмех;
Бубняць шагі ў пасьпешным
бегу, —
Ідзём ізноў па сходах ўверх.



VII.

А вось і брук твой шэры, Вільня,
Асфальты, цэмэнт і муры...
Узор раклямы каляровай,
І шум, і гул, і рух жывы.

Таксоўка ластаўкай па бруку
Снуе з прахода у праход;
А вазьнікі стаяць бяз руху:
Чакаюць сумна на чарод.

І людзі йдуць, праходзяць міма,
Усе з павагай, як адзін.
І зьяе сонца пералівам
У люстрах вокан і вітрын.

Я — сын бязьмежных даляў
поля,
Вясковай цішы і задум
Іду да места, у няволю,
Лавіць яго рытмічны шум.

VIII,

О, Вільня, ты для нас ня матка!
І мы як пасынкамі тут:
З тваіх мvolоў — палацаў
гладкіх
Займаем мы апошні кут.

І хоць мы кутнікі у хаце,
З якіх сьмяецца гаспадар,
Але тут маем шмат багацьця
І Зьніча нашага аўтар.

І ты сама з мінулай процьмы,
Ты помніш нас, беларусоў:
Каменнымі сваімі вочмі,
Глядзіш на нас з сівых часоў!

Мы ня прышлі сюды з-за мора,
Твой воўк жалезны з нашых
пушчаў
Забрыў прарочыць гэтым
горам, —
Што ты тут вырасьцеш
магучай.

Цябе карміла наша поле,
І будавалі мазалі.

Ўсе нашы радасьці і болі
Калісь супольнымі былі...

Цяпер ты іншай стала, іншай,
Глядзіш на нас, як на прыблуд.
Мы непатрэбнаю і лішняй
„Mniejszością“ сталі табе тут.

Але ці хочаш, ці ня хочаш,
Ці як глядзі, ці не глядзі, —
Яшчэ пабачаць твае вочы,
Як будзем тут і мы людзьмі.

Прыліў сялянскі із-за гораў
Ў твае муры прыбоем б'е...
О, Вільня! мы яшчэ паспорым,
Няраз — з табой і за цябе.

IX.

Хачу спагнацца з рытмам
места,
Шагі прысьпешаны мае.
О, людзі! як вам тут ня цесна,
Ў мурох... і няжывой красе?

Каменныя карыты вуліц
Мігцяць прачнуўшыся
жыцьцём.
Каштан да муру ціха туліць
Зялёны дах над хаднікам

І ўсё ў цьвяту... Каштан
і вішня
Ў задуме белай пры муры
Здаецца мне — прыкрасай
лішняй,
Як заблудзіўшысь тут яны.

Там, дзе муры з жалезам
дружаць,
Дзе дым, ласкот і гул машын,
Там ня жыве, а цяжка служыць
Прастораў вольных, вольны
сын.

І хочыцца сказаць мне гэтым
Каштанам, вішням і людзям,
Засьмягшым тут на бруку
летам: —
Ідзіце ў поле, — воля там!

X.

Іду далей... вось Востра-брама.
Зьнімаю шапку (трэба тут).
Малітвай раньняю сабраны
Каля муроў таўпіцца люд.
— — — — — — — — — —

Я не малюсь мурам і тайнам
Незразумелым і пустым.
Мой Бог — такі прасты,
звычайны,
Але магутны і жывы.

Яго аўтар — лясы і поле,
Яго сялібай — даль і шыр,
І гай зялёны на прывольлі
Шуміць імшой, як манастыр.

І я малюсь Яму з калосьсем,
І я малюсь Яму з травой,
І ў веснашумаў адгалосьсі
Гутрыць часта Ён са мной.

XI.

А вось старыя Базыльяны, —
Царква й вядомыя муры —
З сьвятою надпісьсю над
брамай
І ў ей абраз якісь стары.

За брамай ціш... Настрой
вясьняны...
Схілілісь дрэвы над муром.
Дуронік-вецер расьпяны
Шуміць, паспорыўшы
з лісьцём.

А на крыжох царквы—вароны
Спраўляюць раньнюю імшу.
І са сьцяны Хрыстос ста-
млёны
Глядзіць пытаньнем мне
ў душу.

О Ты, Вялікі і Магучы,
Ня грэшны я перад зямлёй!
З жывых нікога я ня мучыў
І гэты цяжкі боль пявучы
Вылучна — мой.

Ня быў ніколі я багатым,
Асобай важнаю ня быў,
Пяяў аб тых, што ходзяць
ў латах
Паміж прыгожа пышных ніў.

І ня судзіў, як Ты, нікога,
Прымаў усё і выбачаў.
Ў грудзёх людзей шукаў я
І праўды тэй, [Бога
Што на крыжы Ты паказаў.

XII.

Саджусь на лаўцы каля муру,
Кармлю душу спакоем дрэў,
А за мурамі ў даль разгулам
Нясецца места шумны вей.

Спляліся штучныя дарожкі
У засень дрэў, каля царквы.
Пясочак жоўценькі, прыгожы,
А на пяску чыесь сьляды.

Калісь хадзіў па гэтых
сьцежках
З душой бунтуючай адзін —
Адам Міцкевіч — волат вешчы
Палёў тваіх, о Вільня, сын.

Пяяў тут гімны „прамяністым“
І оды вечна маладым.
Задумай топаль срыбналісты
Шумеў, схіліўшыся над ім.

І вы — старыя Базыльяны —
Яму вязьніцаю былі,
І дух натхнённа-расьпяны
Гасілі краты і муры.

XIII.

Цяпер тут ходзяць гімназісты,
Сыны мужыцкае сям'і;
І на пясочку гэтым чыстым —
То пэўна іх відаць сьляды.

Усьцяж іх болей; з кожным
годам
Ідзе з палёў прыліў сюды:



Надзея прышлая народу, —
Мы верым ім ужо згары.

Хоць будзе з іх і рэнэгатаў
І здраднік пэўна не адзін,
Але ў сям'і жыве й гарбаты,
А ў маці ён — нат любы сын.

Цяпер іх дух кіпуч і сьветлы
І сэрца чыста, як крыштал.
Шукаюць: сэнс, дарог і мэты,
Ва ўсім і ўсюды — ідэал.

І ўсё-ж на іх надзея наша,
На перамогу ў барацьбе:
Ўсіх душ ня струціць жадна
каша,
Бо згіне — зломак і слабы.

XIV.

Хутчэй-жа зьмена маладая,
Вучысь, гартуйся і расьці!
Вас праца цяжкая чакае, —
Трэ пад крыжом да мэты
йсьці.

Ў старым балоце многа гнілі,
І бруд, і плесьня завялась.
Расьціце моцнымі: —
На вашы сілы
Братоў надзея засталась.

Мацнейце, юныя,
Душой і целам! —
Вам будаваць прыдзецца
новы дом,
А гэты наш бяз часу згніў...
І спарахнелы — пайдзе
на злом.

XV.

Але, Міхась, — няхай!..
Што будзе — тое будзе...
І не твая віна у тым:
З табой мы—маленькія людзі,
Прарочыць сьцежку маладым.

Яны знайдуць дарогу самі,
І зьмест і форму прынясуць,

І песьню новую
Над новымі палямі —
Гучней ад нашай запяюць.

Ты-ж толькі вёскі лірнік ціхі,
Цябе нат ў месьце не пяюць,
Судзіць ня важся тых вялікіх,
Што верхаводзяць і...
„жывуць“.

Давай лепш рушым мы з пад
муру,
Бо тут да грэху надта блізка,
Бо тут падняць мы можам
буру:
Бо кожны цэніць ў час наш
хмуры
Сваё карыта, або міску.

XVI.

—Музэй Луцкевіча Івана —
Чытаю надпісь на дзьвярох,—
Жалезам дзьверы акаваны
І ганак крыты у мурох.

Званю...
Мне адчыняе дзьверы тыя
Наш—знаны крытык—Навіна
(Ня бойся, муза, мы — малыя:
Малых — малая-ж і віна).

І прывітаўшысь з дзядзькам
ветла,
Ідзём гуторачы далей.
Ў душы і радасна і сьветла
(Уходжу першы раз ў музэй).

Бібліятэка... Колькі кніжак!
Малых, вялікіх і таўстых.
Пяшчу рукой; падхожу
бліжай —
Ўсё гэта мудрасьць дзён
старых,

Сьляды мінуўшчыны багатай,
І дум, і творчасьці дзядоў;
Жыцьцё і быт — ад шэрай
хаты,
Да пышных княжацкіх муроў.

Ўсё аб Табе — мой Край
каханы!
У кожнай кнізе і радку
Багацьці дум і звон баянаў
Ляжаць сабраныя ў кутку.

XVII.

Пакой другі... На першым
пляне,
На столе лапці і гаршкі
(Хаця і сёньнека сяляне,
Яшчэ ад лапцяў не ўцяклі).

Там на сьцяне дуда, цымбалы,
Спакойна ціхімі вісяць;
Іх час прайшоў,
І сэрцаў сьмелых і удалых
Яны ўжо больш не весяляць.

Каля сьцяны у рад фігуры,
У рознай постаці, Хрыста:
Сваю душу і лёс пануры
У іх адбіў народ-мастак.

А на стале, з гаршкамі радам,
За тапаркамі—там пад край—
Ляжаць вясельныя прылады
І быццам з печы „каравай".

Супроць сьцяна зьмясьціла
зброю
Тых слаўных рыцарскіх
часоў,
Калі Пагонь была жывою
Ў дружыне вольных Крывічоў.

XVIII.

Далей пакой... Зусім другое:
Статут Літоўскі, абразы,
І ў шафцы шклянай пад
сьцяною
Вісяць Слуцкія паясы;

Князеў пярсьцёнкі і манэты
І шаты тканы серабром;
Ля іх—здаецца майго дзеда—
Сівая сьвітка, пад акном.

А вось і Твой куток, Іване!
Твой бюст, партрэты на сьцяне
Знайшлі ціхое тут пры-
станьне—
Тут часьць душы Тваей жыве.

— — — — — — — — — —

XIX.

Іван, Іван! — Сяйбіт наш
слаўны!
Яна прачнулася — жыве,
Зярняты сеяў ты нядарма,
Ня марны мукі ўсе Твае!

Зярняты дум Тваіх і дзеяў,
Што так ахвярна сеяў Ты,
Сягоньня пышна зарунелі
Усходам радасным, жывым.

Хоць там далёка, ў „Zako-
panem"
Сумуе Твой магільны крыж,—
Дзе Ты, наш слаўны і каханы,
Адзін пакінуты ляжыш.

Прывет Табе! — Прывет —
Краіны
Табой ўзварушанай, жывой,
Ад вёсак, ніў і даляў сініх,
Ад ўсіх разбуджаных Табой.

Я знаю, Ты там тужыш, тужыш,
Між дзікіх гор чужой зямлі:
Як сонца чырваньню і ружам
Зальле магілак камяні, —

І сьніцца Край усьцяж прыгожы
Гэнь там, туды—за гор граніт,
Дзе столькі вытаптаў дарожак
Ты, вартаўнічы і сяйбіт.

— — — — — — — — — —

XX.

Іван, Іван, Сяйбіт вялікі!
Прынёс Табе паклон я свой!
Адзін я з тых, якіх Ты клікаў,
Адзін з адроджаных Табой.



Ля абраза Твайго з пашанай
Стаю ў музэі Тваім тут.
Наш гэты скарб, Табой
сабраны—
Сьляды і славы і пакут.

Рэзьбіў Ты ўпорна і трывала
Абраз магутнасьці яе
І мукай творчай сумавала
Твая душа. — Ці аджыве? —

Спакойным будзь, о Дух Вялікі,
Ня згасім мы Твой творчы
зьніч, —
Нядарма Ты будзіў і клікаў:
Яна жыве — і будзе жыць!

XXI.

Бывай музэй! мне трэба далей,
Бывай Іван і Навіна!
Удзячны я, што паказалі
Мне, як калісь жыла Яна.

Цяпер пайду глядзець другую,
Сачыць сьляды ў віры жыцьця.
Шукаць прачнуўшыся —
жывую,
З пад заняпаду — нябыцьця.

Іду па вуліцах. Нанова
Зьвіняць асфальты пад нагой;
Як тая хваль да даляў новых
Плыву і я ў таўпе — з таўпой.

Куды, куды ты варушысься,
Ручэй нястрымана-жывы?
Праз дзень, праз два, як
ня імкніся —
Дагоніць нас чарвяк малы.

І непатрэбнымі уляжыць
Ў грудзёх: і радасьць і мана,
І як тады камусь адкажам,
Чаго прыходзілі сюда.

XXII.

Вось растаран — „Зялёны
Штраль",
Каля сталоў „эліта" ўся.

Яны так пэўны, што пазналі
І сэнс і радасьці жыцьця.

Вакно адчынена... Я бачу
Тлустых аголеных жанчын.
Няшчыры сьмех... Джаз-банд
зьвінячы...
З юрлівым рогатам мужчын.

І заля пышна так прыбрана:
Каўры, крыштал і серабро...
А колькі красак растаптаных
Тут уміpae, — пад сталом!

Ля вокан з вуліцы таўпіцца
Таўпа працоўная людзей:
Глядзяць, — як можны
І дзеці тут — [весяліцца;
Ах, адвядзіце-ж хоць дзяцей!

XXIII.

Скачы, скачы незразумелы,
Стары распусна-брудны сьвет!
Ты не паймеш узмах наш
сьмелы,
Да новых сьветазарных мэт.

Ты глух на енкі і праклёны
Ў нядолі гінучых братоў,
Ты глух, — ня чуеш, як хтосьці
звоніць: —
На суд апошні будзь гатоў!

Свой розум выліўшы
ў распусту
І сэрца кінуўшы на брук,
Распрастытучаны і клусты —
Ты не паймеш — ні нашай ра-
дасьці, ні мук.

А наш сьвятляны шлях ідэі
Табе і сьмешан і няміл:
Жывеш бяз веры і надзеі;
Паўзі далей! Паўзі — чарвяк —
бяз крыл.

XXIV.

Скачы над прорваю вулкана,
Хоць там дыміцца дынаміт...

Ды што табе? калі ты п'яны,
Распрастытучаны і сыт.

Няхай ў сырых падвалах гінуць,
Як краскі, — дзеці беднякоў.
Варштатаў вашых не спакіне
Цяжкая праца іх бацькоў.

Бярыце цела на пацеху,
Далей іх матак і сясьцёр,
Чым болей крыўд, чым болей грэху, —
Хутчэй ваш суд і прыгавор.

XXV.

Міхась, Міхась! мне надта сьмешна,
Што ты пачаў карыць другіх.

Даўно вядома: сьвет наш грэшны,
І гнільлю пахне сьвет сытых.

Яшчэ здаўна у браце брата
Казаў нам бачыць добры Бог,
Але за пузам—сьвет багатых
Ня бачыць нават ўласных ног.

Сягоньня хай жывуць панамі;
Няхай гуляюць і пяюць:
Яны асуджаны ня намі
І хутка, хутка дагніюць.

І нам з табою проста сорам
Шукаць сумленьня ў сэрцы тым,
Якое век было сьцюдзёным
І нат радзілася пустым...

(*Працяг будзе*).

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

## МЕСЯЧНАЙ НОЧАЙ

Ноч срыбным пальцам ціха водзіць
Па стройных пнях готыцкіх вежаў
І топіць фрэскі ў белым лёдзе
І вокны блескам белым рэжа...

. . . . . . . . . . . . . . .

Стаю ў туманным срыбры ночы...
За мною горад празаічны,
Няўпынны горад плюшчыць вочы —
Кругі лятарняў электрычных,

Цяжарам кол жалезных крышыць
Сьлізкі асфальт, дзікія брукі,
І сьніць аб месяцы і цішы
Пад хрыплы хор мястовых гукаў...

Галосіць радыё ў кавярні,
Нястройна енчаць кляксафоны,
Міргаюць жоўтыя лятарні,
Мігціць рэклямаў пыл чырвоны.



У нэоновым трупім блеску
Плывуць сыльвэткі самаходаў, —
Ў глухіх завулкаў пералесках
Шукаюць дробнае прыгоды.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А ноч... Ноч срэбным пальцам водзіць
Па стройных пнях готыцкіх вежаў,
Ноч топіць фрэскі ў белым лёдзе,
Й вітражы блескам белым рэжа.

Ноч цягне месячныя тоні,
Сплятае зьзяньні ў мост узьлётны,
Каб завясьці ў нябёс бяздоньні
Натхнённа выцягнуты готык...

Хэлмна, 1935.

## ВЕЧАР ЗІМОВЫ

Ціха... Між клёнаў бязьлістых
Сьцелецца змрок надвячорны.
Месяц халодны і чысты
Выплыў на небе бяззорным.

Сьцішаны сьпевам мяцелі
Дзень дапаліўся вятраны,
Сінімі робяцца белі
Даляў чужых і нязнаных.

Сумна... Дадзе́ла праменнасьць
Льдзістых зімовых заходаў,

Хочацца нейкай адмены,
Неператжытых прыгодаў.

Хочацца летніх палудняў
Палкасьці й золата ніваў,
Звону чмялёў-перагудняў,
Сьмелых, гарачых парываў.

Трудна... Між клёнаў бязлістых
Дзень дапаліўся зімовы
Й месяц халодны і чысты
Выплыў на небе лілёвым.

---

А. БЯРОЗКА

* * *

Адзінота...
Глухая...
Неба ў тумане шэрым,
Шэрае поле і стрэхі хат,
Шэрыя думкі туга навявае...
Глуш... Цішыня...
Доўгія цені кладуцца на сумных палёх...
Вечарэе...
Цені кладуцца на думках і тушаць надзеі.
Ў сэрца бяз веры
Ім адчыніла туга-адзінота шырокія дзьверы.
Вецер злуецца за вокнамі, дзіка рагоча, як кат,
З бедных, пахіленых стрэх рве пачарнелы мох...

Вецер гуляе...
　　　　вецер шалее...
Маўчыць туга — адзінота...
І я маўчу і чакаю...
Можа зноў зварухнуцца у глыбях душы залатыя надзеі?
Можа блескі апошнія дня
Яшчэ блескаў апошніх у сэрцы ня стушаць?
Можа веры ня здушыць
Глуш—туга адзінота?
Можа голас якісьці ажывіць сьмяротную ціш? Мо хоць
　　　　[скрыпнуць вароты?
Ў небе зорка мо' блісьне з-за хмар хоць адна?
Але глуш ўкруг пануе і цемра бяз дна...
Адзінота...
А там... з цемры ўстае здань-зладзейка
І паўзе па сьцяне; злудай нейкай
Свае доўгія пальцы снуе па кутах...
І на сэрца трывожнае падае страх.
Хто ты, мара праклятая? Хто ты?
Цемра ўкруг... Цішыня... Адзінота...

## З І М А

І прышла яна... Шчодра сьнягі разаслала
І павісла на вецьці жальлівых бяроз
Белай наквецьцю... Шклянаю нізкаю сьлёз
Маразяных на землю апала...

А вакно маё сівы мароз акаваў
У халодныя, срэбна-іскрыстыя ковы...
Сівер злосна дыхнуў завірухай зімовай...
Хмары неба туманяць, моў плоймы зьяў...

А калі загуляе на полі завея
І заплача, застогне сьцюдзёны віхор —
Ўскалыхнецца, як волат, асьнежаны бор,
Ўстане шум з яго нетраў, расьце, магутнее,
Бястрывожна ідзе, каб сустрэнуцца з бурай
І віхры праламаць, сум разьвеяць пануры.

29. XII. 1935.



Я. ПАЧОПКА

## МЯЦЕЛІЦА

Улеглася мяцель, —
　　Не варушыцца.
Разаслалась пасьцель
　　Ды харошыцца.
Што вун горы ляжаць —
　　Бел-падушачкі,
На іх сьвечкі гараць,
　　Як ў задушачкі.
З-за гары маладзік
　　Падымаецца;
Падняў вочы, прынік —
　　Углядаецца.

Ні ў гару, ні у ніз
　　Не парушыцца;
Узыйшоў і павіс, —
　　Усё любуецца.
Тяк і знаць, па ўсяму
　　Адбіваецца,
Што занадта яму
　　Падабаецца.
Гэты пух, гэта бель,
　　Што так сьвеціцца,
А найбольш ты, мяцель,
　　Размяцеліца!

В. АДВАЖНЫ

## ЧУШКІ

Я відзеў раз такіх... сьвіней —
(Ня буду раўнаваць іх да людзей!).
Яны ўсё елі — спалі,
Нічога больш ня зналі;
І елі так бяз меры, елі, елі!...
І спалі ад нядзелі да нядзелі.
А елі смачна, ласа,
Бо... гадаваліся на мяса.

Я гэтай басьні ня буду нат тлумачыць,
Бо, хто захоча, сэнс убачыць.

## КРУЧОК

Маленька рыбка з бацькам, з маткай
Пайшла шукаць сьняданьня: —
Дый на вадзе ціхой і гладкай
Дарэмна паляваньне!
— Ах, мама, мама — чарвячок! —
Крычыць маленька рыбка,
І стала гнацца за ім шыбка.
— Дурнењка ты, ня руш, бо там кручок.
Другая справа — вось чарвяк! —
Сказала маці, зачапіўшыся за гак.

Бываюць і старыя
Лакомы, як малыя.



АНТОН ХМУРНЫ

З нядр. пов. „Юры Рушчыц“.

# У пушчы

...Гэ, Рачыцкі! Хачу пра яго табе расказаць, сынку. Дык і ты, маці, калі спаць не ахвота, паслухай.

Скуль дзед ягоны тут браўся, — напэўна ня знаю. Старыя людзі казалі, што і ён з Меншчыны родам паходзіў і што панаваў на вялікіх абшарах. І звалі яго не Рачыцкім, як цяпер унука, а проста Рачком, дый яшче Аднарукім. Да прыгонных людзей быў Аднарукі Рачок, як зьвер люты. Ня толькі па ягонаму загаду катавалі прыгонных людзей цівуны, але й ён сам пацеху меў мучыць і катаваць людзей так, што не адзін пасьле душой загавеў. Сілу меў, як мядзьведзь, і хадзіў ён паляваць у пушчу адзін і не баяўся зьвяроў, якіх поўна было. Раз у пушчы сустрэў ён чалавека, што з рагацьцём і сякерай ішоў, як і ён, паляваць на зьвярыну.

— А ты хто і адкуль? — запытаўся Рачок, — як сьмееш паляваць тут без дазволу? Мо' ня ведаеш, што я тут гаспадар, а ніхто іншы? Дык зьдзяру зара скуру з цябе!

— Папрабуй — адказаў чалавек.

— Як ты сьмееш гразіць! А-а, ты-ж Сьцяпан, што ўцёк з двара... Я аблаву загадаў ужо зрабіць на цябе, дык вось, папаўся ты сам да мяне!

— Не чапай, не падходзь, бо вось гэтым ражном распару чэрава табе! Хоць ты й пан, але ня тут, бо ў гэтай пушчы і я пан і што упалюю, дык будзе маё. Гэтага лесу ты не садзіў. Бог пасадзіў яго на карыстаньне для ўсіх. Хацеў ты замучыць мяне ў двары, дык змусіў схавацца ў гэтай пушчы. Не зачэпіш мяне — не крану й я цябе. Дык выбірай: або разойдземся кожны ў свой бок, або на сьмерць будзема біцца? — спытаўся Сьцяпан.

— Дык ты, хам, мне гразіш, а ня кінуўся цалаваць маіх ног, каб табе дараваў я правіны! Дык вось мігам зраблю з табою расправу!

І кінуўся ён, як той зьвер, на Сьцяпана. Але й Сьцяпан ня быў слабунок, а ламаў для забаўкі падковы. І, схапіўшы за грудзі Рачка, так яго стармаснуў, што той паваліўся.

Годзе ці не? — спытаўся Сьцяпан. Здаецца відаць, што я дужэйшы за цябе і цяпер, нябось, ня маеш ахвоты брацца са мною ўходкі?

— Маю, хам! — крыкнуў Рачок і махнуў сякерай у Сьцяпана.

— Ах, калі так, дык давай!

І схапіўшы сякеру наляту, адным махам адсек правую руку Рачка аж па локаць.

— Цяпер ідзі, душагубнік і гад. Рабі аблавы, палюй на мяне, як на зьвярыну дзікую. Ідзі і скажы, што Сьцяпан табе руку адсек за крыўду ня толькі сваю, але й за крыўды і сьлёзы другіх. Калі-ж будзеш на мяне аблавы рабіць, дык з агнём пушчу тваё гадаўскае гняздо і сам ты ў ім згінеш.

Рачок Аднарукі — як пачалі зваць яго з гэнага часу — ня спыняў аблаў на беднага Сьцяпана. Але і Сьцяпан стрымаў словы. У адну цёмную восенскую ноч падпаліў палац, у якім ледзь не згарэў Аднарукі, а сам ізноў у пушчу схаваўся.

Гутарылі старэйшыя, што доўга ў пушчы ён жыў, а пасьле некуды зьнік...

---

ЯЗ. БУРАК

# У парку

У старым парку на іх лаўцы чакаў яе. Ціхай, ёй толькі ведамай, паходкай па ледзь скрыпучым жвіры алеі прышла яна і села побач моцна тулячыся да яго. Яны кахаліся і ўкладалі пляны на будучыню.

Ён сказаў:

— Учора была прыгожая ноч і я доўга думаў аб табе. Ты шмат сьветлых мысьляў уліла ў душу маю і запаліла перадамною бліскучыя імкненьні шчасьця. Цяпер я ведаю, што калі адыдзеш ты — адыдзе ад мяне супакой дзён і жыцьцё мае будзе пустое. Але сяньня шчасьлівы я, што ты пры мне. Ты маеш добрую душу і прыгожыя вочы. Урэшце я кахаю цябе.

Цёпла блішчэлі яе вочы. Сьвяціў месяц і зьдзіўлена дрыжэла пурпура вуснаў:

— Я не пакіну цябе. Як цень буду хадзіць за табою, буду жыць тваім жыцьцём і думаць тваімі катэгорыямі. —

Ціха шапталіся ліпы. У шуме іх рэфлексам сьмелае імагінацыі выснуўвалі міражы шчасьця, блыталі пралётныя ўражаньні рэальнасьці ланцугамі адзіночна аформленых пачуцьцяў. Сілай хвараблівага ўзлёту, у аднабаковым захопленьні, занятыя толькі сабою, шапталі акружаючыя зьявы. У прыплыве ўзбураных уражаньняў сьлядзілі за адбітымі ў вачох праблыскамі праснуўшае ідэалізацыі і лунаді ў мрыях сумеснае будучыні. У кустох пяяў салавей.

Але раптам лёгкая імгла прыкрыла яго вочы, калі ён казаў:

— Чаму ты прышла? Мы ня можам быць разам, бо мова наша розная, як рознай была мова нашых бацькоў. Ты ня знаеш майго народу, ня ведаеш яго трагэдыі. Але я не хачу, каб сын мой быў чужым мне, каб каменьнем ненавісьці кінуў у бацьку. Я ня маю права на гэта перад маім народам і ўласным сумленьнем.

Але яна маўчала. Толькі вочы яе ламалі нявідавочныя праменьні жалю і ціха туліліся дрыжачыя вусны. Магчыма яна плакала.

* * *

Прайшло шмат гадоў. Зноў спаткаліся яны. Роднай яму мовай адазвалася яна і голас яе быў звонкі і мілагучны.

— Я шчасьліва, што мы зноў спатыкаемся тут, — казала яна. І раскошна сьмяяліся яе вочы.

— Твой голас стаўся мілы і вочы зрабіліся больш сінімі. Чым вытлумачыш ты гэта? — спытаў ён.

— Я пазнала тваю мову, а вочы ўцягнулі глыбіню неба ў тваім краі. Памятаеш, як апошні раз былі мы тут разам? Я не магла забыцца цябе і твае словы заўсёды гучэлі ўва мне. А ў краі тваім цьвілі белыя акацыі і босы дзяцюк гонячы каровы сумна іграў на жалейцы. Увечары-ж зьбіраліся дзеўкі на прызьбе і пялі песьні аб дзяўчыне, каторая кінулася ў раку. Заўсёды здалёк слухала я іх і тады сэрца на кускі рвала туга па табе. Я ня ведала, калі мы спаткаемся зноў.

Ступнёва штораз больш цішэў яе голас, пераходзячы ў нейкі нявыразны шэпт. Ціха кідалі словы дрыжачыя вусны і нешта пакорна прасілі вочы. Гледзячы ў твар яе, на каторым ня было ўжо румянцаў дзявочае маладасьці, ён сказаў:

— Я заўсёды верыў у цябе і мучыўся з адсутнасьці твае ў сваім жыцьці. Цэлымі днямі я пабываў у тых мясцох, гдзе былі мы разам, каб уваскрасіць духа прайшоўшых форм. Я засынаў і прабуджаўся з думкаю аб табе, а тугу сваю зрабіў галоўным элемэнтам дня — аўтаром, пры каторым да ўспамінаў аб табе маліўся я. Я ня ведаў, ці спаткаемся мы зноў. Але цяпер, калі шчасьлівы лёс зноў злучыў нашы дарогі, нічога ўжо не павінна разлучыць нас.

З новаўваскросшым захопленьнем, з частак хаотычных успамінаў укладалі прычудлівыя ўзоры ўзьнятых пачуцьцяў. Адвагай сьмелага прызнаньня праз прызмы вачэй пранікалі ў капітулюючыя тайнікі душы і яркім уздымам плавіліся ў атмосфэры суадносін. Наступаючы вечар прыносіў новыя задаткі чару. Таёмным рухам уехаўшы на быстраногім Пэгасе ён запаліў вагні вялікага возу і ў ліству дрэў кінуў адзіноку Вэнэру.

Ціха сьлядзілі за ігрой апошніх вібруючых акордаў уступаючага дня і з пашанай няпэўнасьці будучых хвілін перад усемагутна абымаючай сучаснасьцю глядзелі ў вочы наступаючых ценяў.

Тады ён сказаў:

— Нашто ты прышла? Мы ня можам быць разам, бо думкі нашы ходзяць іншымі дарогамі. Ты ня ведаеш душы народу, мову каторага пазнала цяпер. Ты ня вышла напроціў і не падала маяму рукі, але здалёк захапілвалася словам яго, як мэцэнас мастацтва захопліваецца палатном няведамага мастака. Ты ніколі не палюбіш яго, бо ніколі не зразумееш усіх тайнікаў ягонай душы. Ці разумееш ты гэта?

Але яна маўчала. Пасьля сьхіліўшы галаву яна адышла няроўна ціхай, ёй толькі ведамай, паходкай. Аднак яна, як і даўней, кахала яго.

* * *



І трэці раз спаткаліся яны. Постаць яго згорбілася і белыя ніці прабіваліся ў валасох. Яна, як і ўсе сёстры яе, была заўсёды маладой. Пабялелі толькі яе валасы.

Што сталася з тваімі валасамі, — яны цяпер сівыя, — сказаў ён.

— Я пазнала тое жыцьцё, аб каторым ня ведала раней, — казалі яе страціўшыя свой прыгожы колер вусны. — У душных цёмных норах раскінутых на вузкіх палосках зямлі жывуць сваім жыцьцём шэрыя людзі.

— І што ты бачыла ў іх?

— Жнучы жыта, жанкі пялі працяжныя песьні і цешыліся, што заўтра будуць пячы хлеб. А зімой малы хлопчык пытаўся маці: — Чаму мы ня маем хлеба? — і вочы яго рабіліся бліскучасумнымі. Малы дзівіўся, за што б'юць яго, — ён-жа не хацеў месяца з неба, як хочуць часта малыя дзеці. Дзяўчына-ж мела нявінныя сінія вочы і кахала хлапца з шырокімі плячыма і тварам дзіцяці. Але прышоў чужы чалавек і яна як цень пайшла за ім. Золатам раскідаўся ён, а дзяўчына мела прыгожыя, нявінныя вочы і была галоднай. Моўчкі хадзіў хлапец з шырокімі плячыма і тварам дзіцяці.

Інтуіцыйна ціха тулілася да яго. Роўнамерна ціхі, як плач разьвеяных некалісь лятуценьняў, праз бледныя вусны выплываў яе шэпт:

— Я пакахала гэты народ, як кахаю цябе. Я пазнала ўжо тыя граніцы, каторыя аддзялялі нас. Пойдзем разам у жыцьцё і для шчасьця іх аддамо свае сілы!

Але ён запытаў:

— Ці маеш ты другое жыцьцё?

Яна-ж маўчала, сочучы за ценямі, якія моўчкі клаліся пры дарозе...

* * *

Падалі асеньнія лісьці, а з цёмнага неба зьдзіўлена глядзеў іронічны дыск месяца.

Магчыма, ён ня быў прыхільнікам тэорыі расы.

Беласток, 1934.

МІХАСЬ ВАСІЛЁК

## ДАРОГАЙ З ВІЛЬНІ

Глухім лясочкам сярод ночы
Бадзёрны, сьвежы зноў іду я —
І сэрца цяжару ня чуе,
Сьнег сыпле зорамі мне ў вочы.

Іскрыцца, сьцелецца пад ногі,
Вакол ціша, ціша нямая —
Сьмяецца месячык двурогі,
З чупрынай белай ель густая
Гальлём тут зьвісла над дарогай.

Гукнуць-бы так здаецца — гэй!
Заліцца песьняй весялухай,
Каб буйнасьць выліўшы з грудзей —
Усё сонна-сьпячае разрухаць...

— Паўстаньце вы, чый лёс благі, —
Душой вас клічу на параду: —
Пасевы бура нішчыць градам,
Цярпеньне лье праз берагі...

— На ўсходзе ўжо разьліў хтосьць медзь —
Віхрыста думка ў даль бяжыць...
Агонь ў грудзёх — я тым агнём
Шалёна прагну сьвет пагрэць...
А навакол — крыжы, крыжы...

Крыжы, браты, і кроў пад крыжам...
Як чорны кот падкраўшысь ціха,
Яе цень ночы моўчкі ліжа, —
Над ёй скавыча дзіка віхар!

Іду. А вось і вёска родна,
Што у віры жыцьцёвых зьмен
Дала мне столькі праўд нягодных
І мала радасьці ўзамен...

За мой пагляд, мае імкненьні —
Інтрыгай, плёткамі, пад час
Мне цені з чорных сутарэньняў
Душу аплёўвалі ня раз!

Баброўня, 1936 г.



А. ЧЭМЕР

### З повесьці:

## Старое і новае

...Весела скача сіні аганёк па дагараючых вуглёх! За вакном — марозная, месячная ноч.

Ганка задумлена ўглядаецца ў жывыя, рухавыя аганькі. Прыемная ўтома схіляе на падушку яе галаў, клеіць вялікія, прыгожыя вочы... Вышыўка ападае на калені, мімаволі зачыняюцца павекі...

З лёгкім скрыпам адчыняюцца дзьверы. Клубы пары сьцелюцца па падлозе... Уваходзіць мілы, стройны і магутны, высьнены ў адзінокіх дзявочых снах, у доўгіх бязсонных начах...

Пэўнаю рукою прыгартае яе да сябе, як пярынку саджае ў санях і цераз хвіліну мчацца па іскрыстым сьнезе ў бязьмежную месячную ноч...

Серабрыста-белыя абшары мігцяць міліёнам сьнежных зораў. Сінія цені завілым узорам уплятаюцца ў таемны чар ночы...

Коні мчацца, як віхар. Мінаюць узгоркі і лагчыны. Узьбіваюць пухам ледзяныя іскры сьнегу. Лес. Высокія хвоі, адзетыя беласьнежным уборам, узносяцца маўклівымі статуямі панад гладкай дарогай. Востраверхія яліны, скупаныя ў халодным сьвятле месяца, як нямыя судзьдзі прыслухоўваюцца да водгаласу пралятаючай зьявы... А месяц здаецца бяжыць разам з коньмі, мінаючы белыя вяршыны асьнежаных дрэў, ясныя валокны лёгкіх хмарак... Ганка мацней прыціскаецца да грудзей любага. У прыгожых вачах яе малюецца захопленьне, страх і зьдзіўленьне. Раптоўны заварот. Сані уразаючыся ў сыпкі курган сьнегу абдаюць халоднымі іскрамі твар. Коні мацней рванулі і зноў марозны імпат захватвае дух...

— Куды едзем? — пытае мілага ціха і трывожна...

Але ён толькі моцна прыціскае яе да грудзей і падганяе імкнучых, як віхар, каней...

І зноў лес. Вялікія дубы і хвоі засланяюць бляды сьвет месяца. Цёмны гушчар абыймае іх жудаснай цішынёй... Хмары засланілі месяц. Коні наставілі вушы і пачалі фыркаць... Паабапал дарогі паказаліся шэрыя цені, бліскаючы вуглямі вачэй...

— Ваўкі!!!...

— Н.. н.. о.. о.. о!!...

Рванулі коні. Санкі панясьліся з ветрам навыперадкі. Зьвяры скочылі за імі ўдагон...

Выхапіў паляўнічы нож і ня пускаючы лейцаў абярнуўся назад. Дзікім скокам дападае саней воўк, але праколаты падае ў сьнег... Стада затрымалася на момант і зноў прэцца ўдагон... Што раз бліжай, бліжай...

Ах!.. Вострыя зубы ўпіваюцца ў маладое цела Ганкі. Страшны, распачлівы крык вырываецца з яе грудзей...

* * *

— Ганка!.. Ганка!.. — Вось работніца!.. — будзіць яе маці...— Вышыўка на зямлі. Вуглі перагарэлі... —

І лагодная, добрая ўсьмешка блукае па завялым, зьнішчаным матчыным твары...

Катовіцы, 20-24. І. 36.

ВІК РЭНО

## У вырай

Бела-чорная грамада буслаў абступіла стог сена. Там, пад лесам, на балоце. Плаўна, падымаючы чырвоныя ногі, з павагай блытаюцца яны каля стогу. Ідзець нарада. Чырвоныя дзюбы час ад часу задзіраюцца да свайго павадыра, што стаіць падняўшы адну нагу на самай шапцы стогу. Важнымі зваротамі доўгае галавы раздае загады. Зараз апошняе слова і бела-чорныя вятругі скрыдлаў зашумяць у бледна-васільковым небе. Паляцяць у вырай, у краіну цёплае бяздзейнасьці.

У вырай — дабравольны вастрог.

* * *

Сядзіць каля стала апёршы на мазалістых руках віхрастую галаву. Скончылася гарачае лета і распружыліся мускулы спрацаваных рук. Сярод іскаркаў радасьці плоднае працы з куточкаў вачэй выступае імгла суму. Глядзіць праз спацеўшае шкло малога ваконца ў халадзеючы прастор.

Бачыць марш буслаў.

Зьбіраюцца ў вырай на адпачынак. — А я? — ціха спытаў ён сябе. Па хаце расплыўся шопат.

— У вырай, на працу.—

І рвануўся, хацеў падняць магутныя скрыдлы да лёту у вырай. Але пачуў, што былі зьвязаныя. Са стогнам апусьціў гордую галаву на халодны стол.

— Сынку, у суседа музыкі, — ідзі пагуляй — лагодна лечыць рану сэрца бязрадная маці.

— Не магу, — раздаецца па стале хрыпавы голас.

* * *

Тах-тах, тах-тах — выбіваюць вальца моцныя абцасы хлапцоў і дзяўчат пад гукі галоснае гармоні. Забыўшыся аб цяжкай долі, моладзь рассыпае сярэбраны сьмех. Была лекцыя, цяпер — скокі, гульні...



А ў яго? Была лекцыя, цяпер — сум...

Блукаецца ў лябірынце думак. Матка ціха выходзіць за дзьверы.

Летам рабіў матцы запас на зіму.

Касіў...

Жаў...

Вазіў...

Малаціў...

Матка пражыве. А ён? — Будзе жыць, абы туды, да крыніцы веды. Туды, туды да працы праз сябе да агулу. Але, як туды дастацца? Калаваротны сылягізм. Разьвязкаю маглі б быць толькі грошы. А іх няма. І нямаведама, дзе іх узяць. Прадаць няма чаго. Жменя жыта, — і тая, што ён намалаціў, — малавартасна. Пазычыць? Няма ў каго.

Толькі на дарогу. Толькі на дарогу — паўтарае, ківаючы ў такт галавою. Закрывае вочы і ляціць думкамі туды...

Чуе, як званок склікае сьвежую моладзь на лекцыі.

Слухае: дзінь, дзінь, дзінь, дзінь, дзінь — раздаецца над самым вухам.

Уздрыгнуў. Раскрыў вочы. Матка з шчасьлівай усьмешкай сыпала на стол жоўтыя і белыя грошы.

Пазычыла, назьбірала па грошыку з хаты. Табе на дарогу. Заробіш — прышлеш, тады зьвярну, — поўная шчасьця гаварыла матка.

Схапіўся на ногі. Васеньняе сонца іграла на загарэлым твары.

— Зараблю, прышлю — шаптаў ён тулячы да моцных грудзей шчасьлівую матку.

* * *

Сьвісток дыхавічнага паравозу разрэзаў васеньняе паветра. Вагоны высыпаюць падарожных. Хваля натоўпу хлынула ў дзьверы станцыі.

Яго вясёлы твар вітае знаёмае места. Крык і шум рэжа вушы.

Яркім сьветам заліты крывыя вуліцы. Рэклямы пераміргіваюцца каляровымі вагонамі. Галосьнікі радыя ткуць сетку крыклівых танго. Натоўп плыве па вузкіх хаднікох. Паволі, не сьпяшаючыся, прытуліўшыся адно да другога, пары снуюць перад вітрынамі крамаў. Людзі, забыўшыся ўсе клопаты жыцьця, цешацца цёплымі вечарамі восені.

Яму няма супакою. Усе думкі гуртуюцца каля аднаго слова: — праца. Знайсьці якуюколечы працу.

Бегае, лётае дзень, вечар, вечар і дзень. Усё дарма. Аднак склапатаны, неспакойны, кладучыся спаць, ня губляе надзеі зарабіць і адаслаць матцы пазыку.

Лёг змучаны, як ніколі разьбіты...

* * *

Не, ён не паддасца. Моцны, цьвёрды нагне нелітасьцівы лёс да свае ўслугі. Поўны веры ў свае ўласныя сілы закрыў вочы з усьмешкаю на вуснах. Думка пачала путацца ў імгле салодкага сну. У вушох зьвіняць гукі радыя.

Добра яму, лёгка...

Будучыня маніць абяцанкамі лепшага. Заўтрашні дзень сьвеціць яснасьцю цёплага сонца. Вясёлкавыя кругі расплываюцца перад вачыма ад аднаго пункту, які з бесканечнае далечыні ляціць проста на яго, а пасьля стварае вобраз знаёмага твару. Твар маткі, уквечаны яснымі праменьнямі, усьміхаецца да свайго сына. Сын вітае матку. Сьмяецца, бо ўжо патрапіць сагнаць чорную хмару з гарызонту шэрага жыцьця маткі. Прайшлі дні клопату, шуканьня працы. Ён, моцны ўладар свайго лёсу, калышыцца на хвалях мора-жыцьця.

Тысячы, міліёны паднявольных працягваюць да яго рукі з цёмнае глыбіні, а ён усіх горне да сваіх магутных грудзей і добра яму — ён жыве — жыве міліёнамі.

А жыцьцё гэтае... Тое, што шукаў, да чаго імкнуўся, само прыбліжаецца да яго; а тыя, што не давалі працы, заробку на доўг маткі, бесканечнаю чаргою пачынаюць ісьці да яго, прасіць выбачэньня за сваю адмову. Яны ідуць, каб сказаць, што ёсьць праца, якая выбавіць яго матку з клопату. Яны ідуць. Ён чуе і сьмяецца. Чуе, як ключ скрыпануў у замку. Ціхі скрып дзьвярэй. Сьвет электрычнага фанара маланкай зіхануў у цемры пакою. Балючай іскрай упаў на векі закрытых вачэй. Ах, як закалоў у глыбіні вачадолаў. Непраглядная цемра спавіла ўтомленае цела, а слух раніў бразг сталі. . Няведамая рука сьцягнула заслону спакойнага сну.

Схапіўся і пачуў, як яго прасілі ў паднявольны «вырай»..

Вільня.







П. Сергіевіч „Кастусь Каліноўскі“

# З Усходняе Беларусі

МАКСІМ ЛУЖАНІН *)

## Галасы гарадоў

**матар'ялы на поэму**

Штосьці
слоў не хапае,
дужа скупа радкоў...
Чыкільгае
дурная
тут гіронія зноў.

Каб пачулі
мой выраз,
ўзмах (ад сэрца)
рукі —
я хачу
быць
так шчыра,
як ніколі
ні з кім.

Каб унікнуўшы
сварак
і турбот міліён —
сустракаць сваю старасьць,
быццам
майстар Брэньён.
Так
ці раз лятуценіў
я пад цяжкі настрой,
калі
дрогнуць калені
і
сьцюдзёніцца кроў.
Не таму мне холадна,
што ня веру
ў наш час.

*) Лужанін Максім — гэта псэўдонім А. Каратая, аднаго з лепшых беларускіх паэтаў-лірыкаў Усходняй Беларусі. Радзіўся ў 1909 г. у Случчыне. Скончыў пэдагогічны тэхнікум. У 1928 г. уступіў на літаратурна-лінгвістычны аддзел пэдагогічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Быў сябрам літаратурнага аб'еднаньня „Узвышша". Друкавацца пачаў у 1925 г. Вершы з 1926, 1927 і 1928 г. г. зьмешчаны ў зборніках: „Крокі", (Б. Д. В., Менск, 1928 г.), „Новая ростань", (Б. Д. В., Менск, 1930 г.); вершы з 1929, 1930 і 1931 г. — зьмешчаны ў чатырох зборніках: „Неаплачаны рахунак" (Б. Д. В., Менск, 1930), „Аднагалосна", „Кастрычнікам! Ліпнем! Маем!" і „Галасуе вясна за вясну".

„Літературная энцыклопедия", (т. VI, Москва, 1932) піша аб Лужаніне так: „Вершы першага пэрыяду яго творчасьці поўны асабістых, інтымных перажываньняў. Савецкая сапраўднасьць яму чужая. Ён не адчувае ў сучаснасьці грунту пад нагамі. У яго творчасьці заўважываецца вялікі уплыў нацдэмаўшчыны; савецкай рэчаіснасьці ён супроцьстаўляе ідэалізаваную мінуўшчыну (Беларусі — рэд. „Калосься"). У вершы, прысьвечаным гадаўшчыне Кастрычніка (1928), ён піша: „Мы ня хочам радасьці вітаць, што чужымі дадзена рукамі". Адлюстроўваючы кулацкую нац-дэмакратычную ідэолёгію ў першыя годы свайго творства, Лужанін у апошніх сваіх творах, аднак, паступова адходзіць ад нацдэмаўскіх установак".

Друкуем у гэтай кніжцы „Калосься" тры адрыўкі з твору пад загалоўкам: „Галасы гарадоў", надрукаванага ў літаратурным журнале „Узвышша" (Менск, 1931 г.). Рэдакцыя.

Мая ў гэтым паходня —
шмат ярчэй,
як у вас.
Без халоднай развагі,
сэрцам
чуючы век,
не надужыўшы цягліц
гэты рос чалавек.

Я,
ў сваей маладосьці,
многа
бачыў відна.
Месца чорнае зглосьці
заступала вясна.

Але хіліць
да плачу,
сэрца
кроіць мне згук:
шмат я дзіўнага бачу,
а падняць
не магу.
Можа —
гэта юнацтва —
час
вясёлай хады.
Я мяркую застацца
назаўжды
малады.
Каб нашчадкам вясёлым
найшчасьліўшай зямлі —
так
аддаць
гэты золак,
як яго
мы ўзялі.

Ды ня йдуць нешта песьні,
сам-жа троіў
ральлю.
Згадка блісьне балесна:
мо' ня тое раблю?
Можа-б лепш
пад ударам
паддавалася сталь,
можа-б
быў
ў загары
я адменны каваль.

А то —
ўзьбіўся на вершы —
ні туды —
ні сюды...
і блукаю ня еўшы
з сэрцам
поўным лухты.

І вось гэтую тэму
вывеў
(зноў-жа)
на зман:
„матар'ялы поэмы",
а поэмы —
няма.

Ўсё кудысьці сьпяшаю,
ўсё
шукаю чагось...

Мо' праз гэта
у краі
буду лішні
я госьць.

---

Каб вы знали, таварышы!
Дзень...
Дзень...
быў ясны...
Такі,
як сон,
што ў маленстве бывае,
сон,
што аднойчы прысьніцца
сон.

---

Уздымалася —
(з за лясоў).
Прыназемілася —
(на пясок).
Разьвілося —
(як паясок).

---

Люстравалася —
на вадзе.

Сусьцігалася —
у хадзе.
Залацілася —
ў барадзе.
(Значыць, сонца—была й рака)
у старэнькага
рыбака.

---

Значыць сонца...
Яно, як сон, —
кіне
восеньню галасоў
над галовамі
ўсіх лясоў,
жоўтатвары свой парасон.

І тады —
палятуць далоў
птушкі жоўтыя
без галоў,
птушкі зморaныя,
бяз крыл
у вятры.

І тады —
зашасьцяць лісты,
да вясны
абляцяць яны,
будзе
дзікі іх сівер крыць,
будзе
дзіка мяцеліца выць,
будзе
сьнег ім пасьцелю слаць,
каб —
на костках трава расла—
птушак жоўтых
без галавы,
птушак зморaных
і бяз крыл.
Павуцінны асеньні шоўк,
залацісты паркаль лістоў.

І лясы ўсе —
як церамы,
і хаціны ўсе —
як дамы,
з нейкай казачнай
зямлі,

што ў лятунках
даўней былі.

---

Недалёка ўжо да зімы.

---

І праходзіць
яна
між іх,
госьцяй ладнаю
удавой, —
вымярае
густы удой
і
падлічвае
ураджай,
наймудрэйшым
малюнкам
з кніг
аздабляе цябе,
мой край.

Край мой —
гэта ня поле й лес,
Край мой —
гэта ня бруд і твань,
Край мой —
гэта ня лапці з лык,
дзе —
гібеюць, як на смале,
дзе —
панурваецца галава,
дзе —
бядуе „дурны мужык".

Мо' й да гэтакага
хто звык.
Але маючы
вочы й слых—
прыпыніся.

Пачуеш ты
думкі накшае яснаты:
новым гукам
ударыў смык,
новай арміяю
музык.

Край мой —
гэта адзіны рух,
Край мой —
моц гартаваных рук.

Край мой —
вольты вялікіх воль...
Калі мы
здабывалі зару, —

называўся ён —
Беларусь...

---

Я сягоньня
згадаў адну
песьню
ясную
пра вясну,
бо
назначыўся
гэты
кон,
калі быў яшчэ
блазьнюком:
„Пра вясну
песень мала —
замянілі
на восень вясну.

Я
на простых,
вясковых
цымбалах
заіграю адну
і вясну
ўспамяну.

Думы
кволасьць кране,
і туга
замаўкае,
бо па нашай
па ўсёй старане
йдзе вясна
і вясна
маладая“.

За тое,
што на полі
на нашым
рунь,
За тое,
што на яблынях
на нашых
цьвет,
За тое,
што будзіць
ад сну
зямлю —
я
вясну,
як сястру,
люблю.

У-ух!
як прыкра
заспанага стрэць!



КУЗЬМА ЧОРНЫ *)

## З раману:

# „Трецяе пакаленьне“ **)

Дні два, у гарачую пору, над лесам, можна было бачыць дзіўны малюнак: груганы і вароны ўзляталі з крыкамі густа і зноў спускаліся ў вершаліны хвояў. Так кіпіць вада ў крыніцы. Зьверху плаваў дробны каршачок, баючыся спусьціцца ніжэй: мусіць, там арудвала буйнейшая штука, якое каршачок баяўся. У канцы другога дня падзьмуў вецер і на гэны бок зьвілістай ручаіны чутно стала трупным пахам. Птушыны крык чуўся мацней.

Лес стаяў высока. Мясцовасьць ішла да яго ўгару. Па гэты бок лесу, схаваная ў нізкарослых зарасьніках, мінаючы камяньні і ўзгоркі, імчалася ручаіна. Паўз яе, скрозь краем лесу, вілася добра вытаптаная сьцежка. Змрок і цішыня панавалі тут.

Было яшчэ гадзіны дзьве да вечара, сонца яшчэ толькі падыходзіла да лесу, калі на гэтай сьцежцы з'явіўся чалавек. Ён быў шыракаплечы, на выгляд здаровы. Боты яго былі ў высахлай на іх зямлі. Ня гледзячы на гарачыню, на ім была накінута наапашкі жаўтавая, зьлінялая, салдацкая целагрэйка. Гэтая кароценькая вопратка была паношана: мясцамі ўнізе ў ёй вісела, з-пад адпоратай падшэўкі, вата. Ішоў чалавек паволі, стомленай паходкай. Адразу відаць было, што гэты чалавек спрацаваны.

---

*) Пад псэўдонімам Кузьма Чорны — пісаў і піша Н. Раманоўскі, беларускі пісьменьнік Усходняй Беларусі. Радзіўся ў 1900 г. К. Чорны — гарадзкі інтэлігент, аднак інтэлігент моцна зьвязаны з вёскай, — кажа Кучар у „Вялікай перабудове“ (Менск, 1933). — Быў сябрам літаратурнага аб'яднаньня „Узвышша“. Пачаўся друкавацца ў 1924 г. Многа напісаў апавяданьняў і раманаў. Адны з раньніх кніжак Чорнага „Верасьнёвыя ночы“, „Хвоі шумяць“ і „Пачуцьці“ зьмяшчаюць многа апавяданьняў, якімі паказаўся аўтар як вялікі, плодны і творчы талент-мастак, як знаўца беларускае вёскі, беларускага народу, як псыхолёг і філёзаф. З раманаў ранейшае пары, да 1929 г., вызначаюцца: „Зямля“, „Сястра“, пазьнейшае — „Ідзі, ідзі“ („Раскрыжаваньне“), „Бацькаўшчына“, „Трэцяе пакаленьне“.

Паводле „Малой советской енцыклопедии“ (т. IX, Москва, 1931 г.), творчасьць Чорнага ранейшае пары—„выяўляе дробна-буржуазную сутнасьць яго сьветапагляду. Чорнага інтэрэсуе не соцыяльна-клясавы чалавек, а чалавек агулам. Апісываючы сучасную вёску, Чорны не заўважвае клясавай барацьбы. У рамане „Зямля“ (1928 г.) Чорны падходзе бліжэй да савецкай рэчаіснасьці, яго ідэя „уласнасьці да зямлі“ усёж-такі домінуе над усім. Вясковыя камуністы ў рамане паказаны нейкімі гуманістамі і сузіральнікамі, а не барацьбітамі. Цяпер Чорны далучыўся да тэй групы пісьменьнікаў „Узвышша“, што стараюцца перагледзіць свае творчыя і палітычныя пазыцыі“.

Трэба дадаць, што „Узвышша“, аб якім вышэй гутарка, ад 1932 году зьліквідавана. Чорны пасьля сваей перабудовы, пасьля „перагляду сваіх творчых і палітычных пазыцыяў“ — піша згодна з духам палітычнага бальшавіцкага рэжыму ў Савецкай Беларусі.

**) „Трецяе пакаленьне“, бач. 297, 1 нлб. фарм. 8. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск, Лім, 1935. Рэдакцыя.

Твар яго быў вельмі малады. Наўрад ці было яму нават дваццаць чатыры гады, у кожным разе ня больш. Але дзіўная справа: ён быў апусклівы, няголены. Барада і вусы расьлі няроўна і ня густа. Чалавек нёс на плячы палавіну, відаць знойдзенай на дарозе, дугі. У адным месцы ён спыніўся, стаў сьпіной к лесу і спаміж кустоў глянуў на прырэчнае поле. Там была папарная ральля. Чалавек гаварыў сам з сабой.

— Яшчэ павінна добра ўпрэць. Яшчэ пасьпею заскародзіць і раз перааараць пад жыта.

Ён акінуў вокам шырыню палетка і раптам занепакоіўся:

— Што за ліха, як-бы ў мяне вузей, чым унь там. Мералі, чэрці, надзялялі, аднаму болш, другому менш. Душы ў кожнага здаецца-ш роўныя!

Ён шпарка вярнуўся, перамераў крокамі суседні палетак, пасьля свой і тады паспакайнеў:

— Чорт яго, гэта мне здалося.

І пайшоў далей, роўна пагойдваючы плячыма. Дзьмуў вецер, сонца падбіралася да самага лесу. Крокаў праз сотню чалавек падняў галаву ўгару:

— Зноў крычаць, унімку на іх няма!

Непадалёку, над самай прырэчнай хвояй, аж кіпела вараньнё. Каршачок таксама плаваў, як і ўдзень, як і ўчора.

— Што там за ліха, — бурчэў сам сабе малады чалавек, — падлу хто выкінуў, ці якая трасца? Другі дзень ад груганьня, як у гаршку кіпіць. Цьфу!

Ён пераклаў недаломак дугі на другое пляче і рушыў далей. Яшчэ крокаў праз сотню ён увайшоў у паласу ветра, якраз з таго месца, над якім узьвівалася вараньнё.

— Ого, — спыніўся чалавек, — у нос дае!

Цікаўнасьць пацягнула яго туды. Ён ішоў, размаўляючы сам з сабой:

— Хто-б гэта мог падлу выцягнуць? Здаецца-ж ні ў кога... А можа воўк здох?

Тут цікаўнасьць яго вырасла ўтройчы: пэрспэктыва ўбачыць здохлага зьвера не такая ўжо нецікавая рэч чалавеку, які нічога ня бачыць, апроч свае хаты, свайго поля і гэтай сьцежкі. Ён пайшоў подбегам. Дайшоўшы да месца, ён аж жахнуўся, аж адскочыў назад.

— Ах, браткі-ж мае!

Ён пабачыў чалавечы труп. Труп ляжаў у самай гушчырні, нагамі ў вадзе, грудзьмі ўгару, на крутым беразе. Здавалася, што труп сядзіць.

Да голай пяты ў рачным драсьне папрыліпалі ракі. Варушачы клешнямі, яны лезьлі адзін да аднаго, дабіраючыся да пачатага месца. Сонца глянула зьверху і асьвяціла труп і іх, і ваду. Убачыўшы чалавека, груганьнё зьнікла ўмомант. Спалоханы нечаканасьцю, чалавек адумаўся. Ён падышоў бліжэй і агледзеў труп. Яму было страшна і агідна глядзець. Адно пляче ў трупа трымалася вышэй, другое ніжэй. Было падобна, што труп старэецца абаперціся рукой на жвірысты грунт гэтай дробнай рачулкі і ўстаць. Пляшывая галава трымалася проста, рысы твару ня былі папсаваны гвалтоўнай сьмерцю — відаць сьмерць наступіла адразу. Толькі стрыжаныя вусы былі запэцканыя і закарэлыя.

Калі-ж малады чалавек глянуў на труп ззаду, яму стала яшчэ страшней і агідней. Над вухам, бліжэй да задняй часьці галавы, была рана. Льга было пазнаць, што па галаве стукнулі нечым цьвёрдым. І ад гэтага галава пакінула жыць. Груганьнё пасьпела ўжо расклюваць рану аж да шыі. Тое цьвёрдае, чым, відаць, білі па галаве, валялася тут-жа. Гэта была сукаватая ламачына, кавалак высахлае лясное старадрэвіны. Яна была ў крыві. Малады чалавек гэтую даўбешку ўбачыў адразу. Ім апанаваў такі жах, што ён кінуўся адгэтуль ходу, адцураўшыся і знойдзенага на дарозе недаломку дугі. Будучы ў гэтай справе нявінны, як ягнё, ён аднак з баязьлівасьцю думаў, паддаючы ходу: „заявіць, ці не? А што, калі падумаюць на мяне? Чорт ім верыў! Няхай лепш хто іншы ўбачыць і заявіць, а мне нашто ўмешвацца, лепш трымацца стараны. А калі хто з-за куста глядзіць? Тады будзе яшчэ горш: бачыў і не заявіў. Пагнала-ж мяне якраз бо сёньня ральлю аглядаць!“ Такі кірунак думак паказваў, што чалавек гэты быў сапраўды нявінны тут, але разам з тым, быў, відаць, напалохан жыцьцём; можа нават з прыглушанай, забітай душой. У яго вачах стаяў гэты спушчаны к вадзе з крутога берагу труп.

Але ўжо адышоўшыся крокаў трыста, малады чалавек пачаў спакайнець. Ён пайшоў цішэй і думаў ужо, як ён зараз пойдзе ў сельсовет і заявіць. „От народ кінецца глядзець!“ Такі паварот у думках выяўляў няўроўнаважаную натуру гэтага чалавека. Ён ішоў ужо зусім паволі. От ён убачыў пры дарозе сям'ю грыбоў.

— Мусіць тут ніхто не хадзіў гэтыя дні, — гаварыў ён сабе. — Грыбы пры самай дарозе чарвівеюць. Дзіва што гэтага мерцьвяка ня ўбачылі дагэтуль.

Прывычка гаварыць самому сабе бывае ў людзей, прывыклых да адзіноты, або адданых ёй сваёй натурай. Малады чалавек вырваў грыбы і панёс іх у руках. Па дарозе адзін грыб вываліўся з рук. Чалавек нагнуўся надняць яго і ўбачыў у сябе пад нагамі грошы — дзьве трохрублёўкі, зусім новыя, ня зломленыя згортваньнем. Радасна паднімаючы грошы, ён абсалютна ня думаў, што гэта можа быць як-небудзь зьвязана з трупам. Пра гэта ён падумаў толькі тады, калі праз некалькі крокаў знайшоў яшчэ грошы. Тут быў ужо цэлы пачак новенькіх трохрублёвак, акуратна пераклееных стужкай белай паперы. На паперы было напісана „300 руб.“.

— Пра мерцьвяка заяўлю, а грошы — хто бачыў, што яны ў мяне? — шаптаў высахлымі губамі чалавек, запіхаючы грошы глыбока ў халяву.

Цяпер ён раскінуў розумам: калі чалавека забілі з-за грошай, то чаго яны валяюцца па дарозе? Калі забойцы гэтыя грошы згубілі, то як-жа гэта яны не пільнаваліся іх, забіўшы з-за іх чалавека? А калі гэта толькі частачка грошай, то адкуль такая вялікая сума ў так бедна адзетага чалавека? (Труп быў у сялянскай рванай адзежы, босы). Ня могучы ні да чога дадумацца, чалавек пайшоў далей, ні разу не азірнуўшыся. Ён мінуў лес і спусьціўся ў палявую лагчыну. Там стаяла некалькі хат, новых, але неяк не ўладжаных: адна бяз шчыта, другая без сянец, трэцяя без агарожы і ўсялякіх гаспадарчых прыбудовак. Хоць новыя сьцены і пашарэлі ўжо ад гадоў, але відаць было адразу, што жыцьцё тут ніяк ня можа ўсталявацца. Калі ёсьць адно — не хапае другога, і доўгімі гадамі будзе яно наладжвацца, пакуль ня стане сшрубавана ўсюды як і трэба. Але пакуль гэта можа стацца, то першыя шрубы паржавеюць, а пакуль яны заменяцца новымі, то ўжо і апошнія павывальваюцца. Так і ідзе ўсё тут, ня маючы ніколі свайго сталага завяршэньня.

Хаты стаялі адна ад адной наводдалек, бяз вуліцы, у непарадку. Чалавек падышоў да першае. На маладзенькай арабінцы перад вокнамі чырванела пучкоў тры ягад — першы ўраджай на маладым дрэўцы. На плоце сушылася дзіцячая кашулька. Сонца пачынала заходзіць, на двары шарэла. Чалавек увайшоў у хату. Дзяўчынка, малая, наўрад ці ёй было і шэсьць год, перастаўляла на стале дробныя калодачкі, каштаны і жалуды.

— Тата, — узрадвалася дзяўчынка, — паглядзі, каштаны — гэта каровы, жалуды — гэта авечкі.

— Дзе-ж маці? Бач, як ты гуляеш, жывёлы ў цябе многа. Ну, гуляй сабе.

Ён некалькі хвілін стаяў над дзяўчынкай, ня зводзячы з яе вачэй. Ён штосьці думаў. Нарэшце пагладзіў дзяўчынку па галаве і пайшоў з хаты. У сенцах ён спаткаўся з жанчынай. Яна была здаровая, жоўтавалосая. Сонца стаяла нізка над полем і праз адчыненыя дзьверы асьвечвала жанчыніную постаць. На твары яе былі рэшткі вяснушак, вочы былі задумёныя, разважлівыя. Як загаварыла яна, у голасе гучэла сталасьць. Сваёй жаночай сталасьцю яна вабіла да сябе. Так гэтая сталасьць натуральна была ёй да твара. З выгляду ёй можна было даць год дваццаць чатыры. З першае фразы, якую яна сказала да чалавека, льга было бачыць, што яна мае здольнасьць наглядальнасьці, можа шмат што заўважыць. Яна сказала:

— Што ты такі, нейкі... Устрывожаны ты чым, ці што?

Ён адказаў:

— Каб ты ведала што! (Урачыстая і трывожная паўза). — Толькі барані цябе Божа, калі каму раскажаш, або хоць адным словам...

— Гавары хутчэй!

— Нікому ні слова. Маўчы—і ўсё. От я табе зараз пакажу.

Ён паволі выцягнуў дзьве трохрублёўкі.



— Што ты мне іх паказваеш! Што ты такі зьбянтэжаны.

— Знайшоў на дарозе. Нагнуўся грыб падняць. Бачу — грошы. Каб ты ведала, які жах мяне агарнуў! Ты ведаеш, што я каля рэчкі бачыў? Труп валяецца, нагамі ў вадзе ляжыць.

Труп? Бяжы ў сельсовет, заяўляй хутчэй пра ўсё.

— Пра што — пра ўсё? — храбрыўся перад жонкай чалавек. — Пайду скажу, што труп валяецца. (Раптам ня вытрымаў штучнай храбрасьці). Які жах! Нагамі ў вадзе, і ракі пяты грызуць. Гніць пачаў. Я іду, сонца над лес спускаецца...

— То чаму нікому ні слова не казаць? Пра што гэта ты гаварыў, каб не казаць нікому? Мо/ка пра грошы гэтыя, што знайшоў каля трупа? Колькі ты іх знайшоў?

— Я-ж табе паказаў.

— Хлусіш! Ты больш знайшоў! Ты ўстрывожыўся і прагаварыўся! Зараз-жа ідзі, заяві і аддай грошы. (Губы яго задрыжалі). Ты што кулакі сьціскаеш? Ты глядзі! Пакажы кішэні.

Ён вывярнуў усе кішэні.

— На, глядзі, ты мне ня верыш? Ты заўсёды такая. Ты заўсёды мяне маеш, чорт ведае, за каго. А калі я гэтыя дзьве трохрублёўкі і захацеў пакінуць пры сабе, то што гэта, важны інтэрас? Усё адно чалавек не ажыве, а жываму — шэсьць рублёў гэта ня грошы? Унь дзіця ў нас расьце, перад векам сваім стаіць, а яшчэ ўсё на сьвеце можа быць. Ты ніяк пра дзіця ня дбаеш, ты думаеш, што дзень пражыў, то і дзякуй Богу? А што наперадзе? Ты думаеш вайны ня будзе? Яшчэ можа прыдзецца дзіцяці голаму і босаму па дарогах бадзяцца, бяз бацькі і маткі ўміраць з голаду! А ты літасьці ад людзей чакаеш? Кожны сабе зарваць стараецца, а ты думаеш, што ўсе добранькія?

Ён увайшоў у сваю ролю. Ён думаў: „добра, што я ўпору схамянуўся і не паказаў ёй пачкі трохрублёвак. Чорт мяне пацягнуў за язык сказаць ёй, каб „нікому ні слова“. Траха не прагаварыўся. Цяпер будзе здагадвацца. Што я нарабіў“!

Спусьціўшы галаву, ён пайшоў з сянец. Постаць яго панура гойдалася над каляіністай дарогай. Праз хвілін дзесяць ён быў ужо ў сельсовеце і заявіў, што бачыў каля рэчкі труп. Дзьве трохрублёўкі ён аддаў адразу.

---

А. БУЖАНСКІ

# Да беларускай літаратурнай творчасьці ў Заходняй Беларусі

Прыглядаючыся да выдавецкага руху і да зьместу пэрыядычных выданьняў у Заходняй Беларусі, можна заўважыць, што беларускі чытаючы агул даўно ўжо чакае сваіх бэлетрыстаў. Маючы поэтаў з нештодзенным талентам, наш чытаючы агул усьцяж азіраецца шукаючы мастацкае прозы і, пакульшто, астаецца нездаволеным у гэтай галіне.

У журналах, каторыя выходзілі, ці выходзяць, можна знайсьці маленькія эскізы, адрыўкі з нечага, што мае выйсьці друкам, але калі чытачы дачакаюцца бэлетрыстыкі ў агульнапрынятым разуменьні гэтага слова, нажаль, конкрэтных дадзеных ня маем.

Адносна вершаў, дык крызысу не адчуваецца — наадварот, можна сказаць, што ў літаратурным жыцьці ў Заходняй Беларусі — гіпэртрофія поэзіі прычыняецца да атрофіі прозы.

Рады поэтаў усьцяж павялічваюцца.

Рэч зразумелая, што масавая продукцыя поэзіі ёсьць катэгорычным імпэратывам у пару нацыянальнае летаргіі і ўпачатку адраджэньня; калі потэнцыянальныя магчымасьці народу яшчэ не аб'явіліся — тады поэзія, як найбольш эмоцыянальны від літаратуры, пачынае красаваць і буйна разьвівацца.

Дзеля таго, што гэты пэрыяд беларускі народ мае ўжо за сабою, дык трэба думаць, што з „фордаўскай" фабрыкацыяй вершаў можна было-б стрымацца.

Як-бы не разглядаць беларускую поэзію, ці то агулам, ці творчасьць у Заходняй Беларусі ўасобку, сьцьвердзім, што ў гэтай галіне ёсьць запраўды чым пахваліцца.

Пройдзены аграмадны шлях, зроблена колёсальная работа, душа народу выявіла сябе ў поэзіі ўсебакова. Ад сьлёзлівых тонаў нашаніўскае пары да бадзёрных акордаў сучасных лірыкаў і ад прымітыўных, што да формы, вершаў першых адраджэнцаў — да прэцызыйна абробленых пэрлаў.

Калі возьмем поэтаў Заходняй Беларусі, дык сярод іх знаходзяцца адзінкі, творы каторых можна паставіць побач твораў лепшых эўропэйскіх сымболістаў. Некаторыя рэчы Машары („Валачобнае", друк. у „Нёмане") ня ўступаюць поэмам Андрэя Белага. Наагул, пісаць мімаходам аб Машары няма сэнсу, аб ім трэба пісаць цэлую монографію.

Творчасьць Н. Арсеньневай у антолёгіі сучаснай беларускай поэзіі займае першараднае месца. А калі яе ліра ня мае розгаласу ў сьвеце, дык толькі дзякуючы таму, што ня маем, або маем вельмі мала сілы популярызуючай беларускае мастацкае слова заграніцай.

Возьмем зборнік поэзіі перадавой італіянскай поэтэсы Ады Нэгрі „Canti dell' Isola". Знойдзем тамака шмат супольнага з вершамі Натальлі Арсеньневай — і формаю і зьместам, асабліва мяккімі нюансамі супольнымі абедзьвём пясьняркам. Прыгэтым уважлівае параўнаньне, бязумоўна, выйдзе на карысьць Арсеньневай. Тымчасам італіянская поэтка мае сусьветны рэзонанс, а слава беларускае не перайшла за этнографічную мяжу бацькаўшчыны.

Наша поэзія прайшла ўжо ўсе стадыі разьвіцьця. Не хапае толькі перакладаў з Вэрхарна і Бодлера (пераходная ступень), каб кшталтам расейскае поэзіі напярэдадні рэволюцыі дайсьці да „заумнага" языка футурыста Кручэных, або да эстэтычнага дэкадэнтызму Ігара Северяніна — („О лилия ликёров, — о Crème de Violette"!)

Робячы вывады з вышэй сказанага, прыходзім да перакананьня, што ў бягучы мамэнт, калі чулыя „апякуны" сьцырківаюць Беларусаў з этнографічнае карты Эўропы (з палітычнае карты нас ужо даўно хімічна вывелі), неабходным ёсьць для Беларусаў выявіць сябе ў галіне духовай, перадусім у бэлетрыстычнай літаратуры. Трэба форсоўна разбудаваць бэлетрыстыку Зах. Беларусі. Бэлетрыстыка Усходняе Беларусі, дзякуючы свайму спэцыфічнаму характару, у сучасны мамэнт ня можа прадстаўляць агульнабеларускую літаратуру, апрача таго яна слаба да нас даходзіць.

І тут ізноў даходзім да выхаднога пункту: у галіне мастацкае прозы маем сяньня адно толькі адрыўкі з нечага, фрагмэнты чагосьці прыабяцанага — адным словам імглістыя рэчы, замест літаратурнае дзейнасьці. Але, паўтараем, вершаў аж зашмат.

Трэба сабе ўявіць, з практычнага боку, што поэзія вельмі цяжкая дзеля перакладаў на чужыя языкі, заціраецца і не выкарыстоўваецца,—тады, як невершаванае прыгожае слова магло-б стацца нашым рэпрэзэнтантам у Эўропе. Бо яно выкажа нашы імкненьні, наш смак, увыпукліць наша самаістнае аблічча і будзе найлепшым антыдотум проціў інсынуацыяў цёмных сілаў паборваючых беларускую вызвольную думку.

Гаворачы аб літаратурнай творчасьці маладых сілаў, трэба паставіць пытаньне рубам: высокавартасьцёвыя рэчы трэба друкаваць і заахвочваць аўтараў да далейшае працы, аўтараў маючых толькі проблематычныя шансы зрабіцца ў будучыні паэтамі— стрымліваць ад непатрэбнае працы, скіроўваючы на шлях бэлетрыстычнае творчасьці. Няхай пакінуць рымы і ассонансы і прабуюць працаваць у прозе, у галіне, дзе ёсьць аграмаднае запа-

трабаваньне і вялікія прабелы. Гэтую справу трэба рэгуляваць і абвесьціць ударным заданьнем дня.

Трэба работнікаў пяра падпарадкаваць грамадзкім запатрабаваньням.

Трэба прывітаць пачын рэдакцыі „Шляху Моладзі“, што ў сваім часе абвесьціла конкурс на расказ. Але гэтага мала. Трэба расьпісаць конкурс на роман і ўключыць увесь літаратурны актыў у гэтую работу. Трэба разгарнуць спаборніцтвы і прысвоіць стаханаўскія мэтоды работы.

Няхай нашы пісьменьнікі дадуць сэнсацыйны роман, няхай створаць псыхолёгічную повесьць, няхай займуцца гэтай патрэбнай справай.

Беларускае жыцьцё апошніх часоў дае багаты фон і рознаякія сюжэты для акцыі роману.

Рэч вельмі характэрная: чужыя сучасныя пісьменьнікі ўжо карысталі з беларускай тэматыкі, але гэтая-ж самая тэматыка ніяк ня здолела захапіць беларускага літаратара.

Уздым і канец Грамады, пераплятаючыся з асабістымі нутранымі конфліктамі герояў, — гэта-ж багацейшы матар'ял для трылёгіі, які чакае сваіх Шалом Ашаў, Аляксееў Талстых, Стругаў...

Рамантыка, каторая да апошніх часоў ахінала дзейнасьць Грамады (ўсёроўна—ці гэта была нацыянальная эпопэя, ці арлекінада, таксама, як і павадыр Грамады—народны трыбун, ці П'еро?), чамусьці дагэтуль не аказалася годнай увайсьці ў літаратуру Заходняе Беларусі.

Канчаючы, можна выказаць сваю пэўнасьць, што ня гледзячы на натугі цёмных сілаў, калі паважная і цікавая беларуская кніжка пашырыцца па Зах. Беларусі і адначасна знайдзецца на паліцах заграпічных выдавецтваў, тады акт 25 сакавіка з далёкае пэрспэктывы прыблізіцца да нас на бліжэйшы дыстанс і стане наперададні трывалае рэалізацыі.

---



АД. САЛАДУХ

# Беларускі элемэнт у повесьці Ант. Мільлера „Powołanie“

Рэгіональная і разам аўтобіографічная повесьць пад вышэйазначаным назовам вышла яшчэ ў 1928 г. Актуальнасьці сваей для Беларусаў ня страціла яна дагэтуль і варта ей пасьвяціць крыху ўвагі.

Затрымліваццa над будовай повесьці ня буду, бо ў гэтым артыкуле ідзець мне толькі аб тое, каб аднатаваць — і магчыма верна — беларускі элемэнт, які аўтар уплёў у яе.

Повесьць адносіцца да 1890 году; аснавана яна на грунце польска-літоўскіх адносінаў каталіцкага клеру ў Літве і Беларусі; акцыя адбываецца: ў Вільні, Бірштанах, Немонюнах, у дарозе да Кучкурышак, у Полацку і ўзноў у Вільні, у Крожах і ўрэшце канчаецца ў Вільні. Расеяй кіруе цар Александар III „Міратворац“, стасуючы да сваіх падданых палітыку яўна „ограничительскую“. Рэакцыя трыумфуе. Беларусь крэпка сьпіць і аб беларускай справе няма й мовы. „Северо-Западным Краем“ кіруюць цьвёрдай рукой віленскія генэрал губэрнатары Каханов і Оржэвскій. Адным з асяродкаў, што ў гэтым часе ўмеў жыць уласным жыцьцём, была каталіцкая духоўная сэмінарыя ў Вільні. Ад яе Мільлер і распачаў у повесьці „Powołanie свой расказ.

Польска-літоўскі спор у сэмінарыі ўжо ўпоўні. Аб Беларусах першы раз паяўляецца ўспамін, калі інспэктар Ключынскі (у повесьці Замчынскі) гэтак напамінае занадта адданага музыцы сэмінарыста Альфрэда Шыльлера: „Касьцёл у Літве патрабуе духоўнікаў-жаўнераў, а не трубадураў. Забываешся, што жывём на былых рубяжох Рэчыпаспалітай з беларускім і літоўскім насельніцтвам, духова і палітычна з намі асыміляваным. Нясём яму збаўленьне на вастрыі эвангельскіх радаў! Таруем Рыму дарогу на ўсход“... (бач. 50). Здольны да глыбейшых рэфлексыяў сэмінарыст гэны ў сваім дзеньніку напісаў: „Разумею, што хто пойдзе з місіянарскім крыжам у Расею, той станецца ахвярай. Без ахвяры скрыпкай не разбуджу божых думак у Хама Вялікай і Белай Русі. Калі маемо наварачваць, дык не аднымі мастацкімі сродкамі. Цёмнага Беларуса ці Маскоўца трэба страшыць *серкай з пекла, смалой з пупа бэльзэбуба!* Лягчэй яго пераканаць абразом Люцыпара з рагамі, як памазком Рафаэля ці Мурыльля“ (51). Раз, пасьля добра адбытай споведзі, Шыльлер падае ў дзеньніку урыўкі пачутай ад спаведніка навукі і свае разважаньні: „Не пара на нацыянальную калатню, што можа разбудзіць інстынкты людзкой бэстыі. Прызнаў я яму слушнасьць, хоць ня таю, што душа мая аднолькава тужа як да гуку мовы беларускай, так і Цыцэрона“. (53). Яшчэ лепш зарысоўваецца духовы абраз

Шыльлера ў наступных выражэньнях: „Уважаю сябе за Паляка... Аднак часамі, калі паддамся навальніцы ўспамінаў... надыходзяць хвіліны духовага неспакою і сябе пытаю: кім я ёсьць, што люблю, якія мае суб'ектыўныя палітычныя нахілы? —

„Здаецца мне, што я на раздарожжы. Хоць я ўдыхнуў у сябе расчыну культуры польска-лацінскай і чуюся генэтычна зьвязаным з польскай нацыянальнасьцяй, — чую аднача сна, што люблю Беларусь, што люблю яе мову. Паходжу з Віцебшчыны... Магу, знача, што да паходжаньня парафразаваць словы Оржэхоўскага: gente Alboruthenus sum, natione — Polonus! Праўду кажучы, мы ўсе, паўночныя рубежане, гэта самае аб сабе можам сказаць..." (59).

Далей аўтар у ваднэй з частых дыспут укладае ў вусны сэмінарыста Літоўца Борусаса гэткі зварот адносна Беларусаў: „А хто-ж не гарцаваў па нашым нібы жаўлаковым карку?!.. Ах, скажу вам, што нас заліваў і Беларус! Гэта сьцьверджаная гістарычная праўда! Праз Літоўскі Статут беларускі язык дастаўся ў судоўніцтва, адміністрацыю, загарнуў абшары на захад ад Вільні, а нам пакінуў нейкія павыкрыўляныя граніцы". —

— „Хто-ж вам вінават? — заўважыў іронічна Марцінкевіч, прототып сэмінарыста беларуса. — Прагарэлі, ня маеце адпорнасьці! Vae victis! — „Праўду кажаш! — стукнуўшы кулаком па стале — казаў Солюнас... Бяда нам ня ў тым, што мы пераможаныя, а ў тым, што мы сябе за такіх уважаем. А вось сяньня, як Сымэон, зачынаем аглядаць збаўленьне! І не ў пакорным цалаваньні царскіх папіхачоў, не ў чаканьні бяздзейным, не ў наварочваньні ўсходняй душы, але ў разьвіваньні ў сабе самастойнасьці, самапачуцьця і нацыянальнага духа! Vae victis! Гора вам, варшаўскім слугам! Вы пераможаныя! А мы ўжо перамагаем, бо ў нас жыве бунт. Бунт тварэц!... Ня верце, што будуюць ціхія... Не! Толькі тыя, што ўмеюць стварыць новую зару і жыць яе блескам! Зарой гэтай будзе незалежная Русь і Літва!" (69—70).

Прабываньне ў прыгожых Бірштанах над Нёманам жыва прыпомніла Альфрэду радзімы край. Праўда, няма ў яго яшчэ перадуманага нацыянальнага пагляду, дык якбы пярэчачы таму, што казаў раней, зрабіўшы гістарычную дыгрэсыю, аб мінуўшчыне Беларусі і аб яе сумным і прыгожым крайабразе, расчуляецца і кажа: ...„І цяпер чую сьлёзы ў вачох, бачачы абраз гэны. Хацеўбы вярнуцца да гэнага гнязда, гдзе сэрца жыло з прыродай, а людзі былі добрыя і лагодныя. Нажаль, вярнуцца туды не магу! Двор па сьмерці дзядзькі прадалі, бо я, як каталік, спадкаберцам быць не магу. Праваслаўныя спадкаберцы спусьцілі бацькаўшчыну сялянам. Корчыцца маемасьць... Залівае царская авангарда і Паляка і Беларуса!"

„Калі падумаю, што беларускія дзеці, якія са мной гулялі, стопяць сваю гаворку з языком *валдайскіх ямшчыков*, чую вялікую крыўду, быццам адбірае хто ад мяне права гаварыць



папольску і пабеларуску. З расейскім языком украдзецца ў сэрцы рубяжан і ненавісьць да польскасьці. Можа прыйсьці час, што на грунце палітыкі, стоячы вока ў вока, адчуваць будзем разбежнасьць імкненьняў. Пашкадаванай тут будзе польскасьць і каталіцкасьць. З гэтым аднак не згаджаюцца са мной ані таварышы, ані знаёмыя. Занадта магутнай, кажуць яны, ёсьць наша культура і занадта вялікія ўплывы клеру, каб мог утрываліцца які сэпаратызм. І хто-ж лічыўся-б з некулькімі авантурнікамі! Аднак-жа сумна мне, Божа!" (91—92).

Далей натуе Шыльлер дзіўнае зьявішча, што жывучыя на Беларусі стараверы, хоць паходжаньня вялікарускага, ужывалі на сяле, і пэўна ўжываюць цяпер, беларускай мовы. Відаць гэта з таго, што лазьня ў сераду робіцца на тое, як кажуць яны, „каб чэрці ня цешыліся", а ў суботу: „каб абмыць грэшнае цела" (92).

Доўгія зімовыя вечары па дварох на Беларусі запаўняліся галосным супольным чытаньнем кніжак, або — яшчэ часьцей — страшным расказам аб нападах ваўкоў, успамінамі з паўстаньня. Калі раз зайшла гутарка аб павешаных і расстрэленых, сталася здарэньне, каторае падаю тут у апавяданьні Шыльлера: „На маё пытаньне, за што? пан харужы адказаў: — за імкненьні да свабоды. Цётка шапнула яму: „нашто дзіцяці гаварыць аб гэтым?!" Харужы з абурэньнем сказаў пабеларуску: *Калі рабёнак ня будзе знаць, што гэта маскаль, а што паляк, то ніколі ня будзе кахаць роднай зямлі*. Агулам беларускі язык у штодзеннай гутарцы быў ужываны нароўні з польскім. Служба знала абодва. Слухаючы гутарак на кухні, чуў я сказ: *паны зьбяднелі, прагарэлі*. Старая кухарка Сафея была тэй думкі, што *калі-б паны за картамі не сядзелі і за бабамі не ганяліcь, тобы цар іх ня трогаў*. Стары Сенька, былшы лясьнічы, часта сардэчна гаварыў мне: *Бедны панічок! што табе асталась? дзед быў багаты. Маліcь... Адбярэш зямлю, што Мураўёў забраў!"*

„Не адчуваў я ненавісьці ў сялян ані да паноў, ані да Польшчы. Здавалася мне, што яны яшчэ не асвоіліся з скасаваньнем паншчыны і ўсьцяж клоняцца да двара. Усе вакалічныя сяляне радзіліся ў дзядзькі, жылі з ім у найлепшай згодзе, цалавалі яго (і мяне) у рукі і называлі мяне *панічок*. Забаўляўся я з сялянскімі дзяцьмі, як з прыяцелямі, і гаварыў з імі пабеларуску..

Маё выабражэньне гадавалі і разьвівалі легенды валдайскія і беларускія. Расказвала мне іх 104-летняя Беларуска Мялюшчыха... Мела яна нязвычайны дар вобразнага апавяданьня прыкладнай беларушчынай. Ад яе так-жа чуў я песьні, каторых ніхто ўжо з жывучага пакаленьня не пяе. Адна з гэтых песьняў-легендаў, з падкладам гістарычным, урэзалася мне ў памяць і дагэтуль распальвае выабражэньне сваей поэтыцкасьцяй, ёмкасьцяй выражэньня і казаўбы прарочай сілай напяцьця" (92—93).

Даўгаватай гэтай легенды паўтараць тут ня трэба. Даволі сказаць, што дышала яна вайной Рэчыпаспалітай польскай

з Масквой, а выступае ў ей апрача розных гістарычных асоб, так-жа юродзівы — дух Русі. Асновай гэтай легенды ёсьць інтуіцыйная тэза: „Як звон Зыгмунта ў Кракаве, так звон Івана Грознага ў Маскве не сальюцца ў вадзін голас, так Польшча з Масквою ня згодзяцца на супольнага караля“ (97).

Дагэтуль у повесьці забіралі голас выключна мужчыны, цяпер-жа даходзе да голасу і маладая інтэлігэнтная Полька Аўрэля. Паслухаўмо новай вакацыйнай дыскусіі: „Завязалася дужа ажыўленая гутарка на тэму здольнасьці двух народаў, што жывуць на ўсходніх рубяжох быўшай Рэчыпаспалітай. Аўрэля выказала знаёмасьць прадмету. Зьдзіўлены сэмінарыст, Альгерд, запытаўся: Якім спосабам дайшла пані да так канкрэтных вестак?

— „Асабістым стыкам з народам. Мала чытаць: трэба справу дасьледжваць на месцы! Затым так сьмела праводжу паралель між тыпам Беларуса і Літоўца. Беларус сонны, Літовец—павольны, але энэргічны; гэны ня вера ў вартасьць вынаходаў, — гэты разумее ўжо карысьць машын, мэліорацыі. А гэта ўсё дзякуючы кунігасу і канспірацыі вучыцелькі. Ксёндз нават растрыгае цывільныя справы, знаючы права звычаёвае, а народ падлягае яго аўторытэту, мінаючы суды каронныя з накінутым, чужым кодэксам. Гэткага ўплыву ксяндзы на Беларусі не асягнулі. Занадта блізка жывуць з дваром, які не патрабуе такой апекі, як селянін“...

— „Праўду пані кажаш, але ня сусім. Я такжа крыху знаю этнічную Беларусь. Беларускі двор нязвычайна зьвязаны ў пашырэньні польскасьці. Сабачы нос урядніка, звычайна праваслаўнага Беларуса, сьлядзіць ксяндза і пана, як хорт ці гончы. Ваколіцы з мяшаным насельніцтвам няпэўныя. Прынцыпова сяляне хіляцца... да двара, але яшчэ помняць указ скасаваньня паншчыны...

— „Аднак-жа бароцца трэба—сказала Аўрэля! Згаджаемся, што тут працаваць лягчэй. Элемэнт аднолькавы расова і рэлігійна — гэта сіла! І псыхіка іншая! Літовец любіць зямлю ня так утылітарна, як Беларус, што кажа — *каб зямелькі пабольш,* — але больш духова, бо зямля сьвятая!“., (140—141).

Падчас вакацый, прабытых на радавітай Літве, у Амброзайцісаў, раз скарысталі з парафіяльнага сьвята, каб заімпровізаваць над роднай ліпой веча, на якім мелі забіраць голас некалькі сымпатыкаў літоўскай і беларускай нацыянальнай справы. Літоўцы, учасьнікі веча, наракаюць на тое, што „Літва-Русь зрабіла гістарычную памылку спалучэньня з чужаплеменнай нам Польшчай. Мусім памылку гэту паправіць“... (155).

Другі ўзноў Літовец гэтак гаварыў: „Баючыся беспасрэднай стычнасьці гранічнай з Немцамі, Масква захоча мець Літву-Русь, пабратымчыя плямёны, што маюць палову праваслаўнага насельніцтва. А гэгемонію над гэтымі народамі: Беларусамі, Русінамі, над рэштай Палякоў мусім абняць мы: Літоўцы!“ (Там-жа). Іншы ізноў казаў: „нашто нам Русь! Даволі Літвы вялікай еднасьцяй веры і языка!“ (161). Спольшчаны Літовец на гэта так рэплікаваў: „Толькі палітыка нашых грабароў палітычных магла выдумаць шалёную канцэпцыю стварэньня Вялікага Княства Літоўска-Рускага паміж Расеяй і Польшчай! Гэта справа ясная!.. Хутчэй Эўропа адрэстаўруе Польшчу, як Літву-Русь і да таго пад гэгеморіяй Літвы“. (162).

Усё ў нас, што датычыла Беларусаў, было звычайна зводжана да справы бізантызму, як гэта відаць хацяжбы з гутаркі наступнай: „Польская культура мусіць падвоіць сваю чуйнасьць, каб зваяваць наступаючы на нас бізантызм“.

— „Праўду кажаш — заявіў Альф; ужо даўна ідзець барацьба на нашых землях, асабліва на ўсход ад Вільні... барацьба духавенства каталіцкага і праваслаўнага... За што? За душу гэтага беларускага народу“... (170).

Беларуская справа яшчэ вернецца ў повесьці, калі яе галоўны гэрой Альф знайдзецца ў Полацку, скуль вось гэтак напіша да свайго сэмінарыстага таварыша Альгерда: „Далёка мы адзін ад другога: я ў сэрцы паўночнай беларушчыны, у бацькаўшчыне Рагнеды, а ты на землях бацькаўшчыны Біруты. Аднак-жа чуемся дзяцьмі адной зямлі, каторай гісторыя запісана літарамі — крывавымі і някрывавымі. Што далей будзе пісацца? Няведама. У кожным выпадку будуць гэта нашы дзеі ў дальшым цягу; дзеі нашай адпорнасьці прад навалай бізантызму. Пішу да цябе, праняты думкамі: allora e oggi. Сяджу на руінах Горнага Полацкага Замку. Праступная воля наезьніка не апякуецца гэтымі рэліквіямі, што сьведчаць аб мінуўшай волі нашай“... (200).

Мінула трохі часу. Якраз мінаў год ад здарэньняў, каторыя так страсанулі ўсей Літвой. Надыход кражанскага працэсу выклікаў зацікаўленьне клеру палітычнымі справамі... Дыспуты ў сэмінарыі мелі цяпер характар рачовы, спакойны... Альф студыюе этнолёгію і гісторыю літоўска-польскіх адносінаў і зацікавіўся ён так-жа і лёсам Беларусаў.

„Была гэта першая заранка зацікаўленьня грамадзянства беларускай справай. Рух гэты вялі перадусім мінчукі. Альгерд так-жа зацікавіўся ім. Аб гэтым адбываліся доўгія дыспуты, на каторых абодва прыходзілі да пракананьня, што розная іх псыхіка клоніцца да розных сьветаў, да адменных формаў зьдзейсьненьня іх ідэолёгіяў“... (229—330).

Вышэйапісанае паказвае нам, як агулам выглядалі ў нас прапачаткі беларускай справы, асабліва на грунце каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Вільні. Ведама, гэта толькіласкуты таго, што перадумалі і перадыскутавалі аб гэтым сэмінарысты, у душы каторых, ня гледзячы на варожае асяродзішча, жыла яшчэ лучнасьць з беларускім народам і з ягонай „простай“ мовай. Дзеелася ўсё гэта на гадоў колькі раней, як у мурох тэй-жа сэмінарыі знайшліся сьведамыя Беларусы ў сучасным разуменьні гэтага слова.

---

Др. СТ. ГРЫНКЕВІЧ

# Аб праве да Бацькаўшчыны

Ёсьць балючыя праблемы, яб якіх грамадзкая апінія развaжае неахвотна. Кожнае грамадзянства мае свае „непапулярныя" тэмы. Ёсьць іх нямала й ў беларускім жыцьці. Да аднэй з такіх тэмаў належыць пытаньне адносінаў нашых да Палякоў.

Гісторыя нашага Адраджэньня мае ўжо некалькі этапаў ў суадносінах двох народаў — беларускага і польскага, бяручы найнавейшыя падзеі й не варочаючыся да далёкае гісторыі. Найбольш будуць тутака яркімі тры мамэнты: *даваенная пара да 1914 г., пара рэвалюцыі* ў Расеі ў 1917 г. і войнаў незалежнае ўжо дзяржавы польскае й наканец *падзеі ў незалежнай Польскай Рэспубліцы,* дзе складовaю часткаю лучылі й мы, Беларусы.

Пачаткі нашага Адраджэньня, трэба адцеміць, сустрэнулі, агульна бяручы, адносіны нэўтральныя са стараны Палякоў, або нат даволі цёплыя. Рэакцыя гэная была абаснавана на вельмі рознаякіх умовах тагачаснага палітычнага ладу. Беларусы былі тады адным з тых дзейнікаў, з якім народы панявольныя ў Расеі маглі мець супольны шлях. Да таго-ж і *непалітычна* было-б глядзець варожа на адраджэньне Беларусаў, варожасьць геная магла-б быць лёгка аружжам проці самых сябе.

Частка польскага грамадзянства зусім шчыра, бяз ніякіх падыходаў, вітала спробу загнанага народу знайсьці назад сваё імя ў гісторыі. Былі паміж гэнымі сымпатыкамі адзінкі рознаякія. Адныя па традыцыі йшлі за лёзунгам „вольныя з вольнымі", іншыя нават пачувалі ў сабе родны кліч; адным і другім імкненьні пачынальнікаў новае пары ў жыцьці беларускага народу былі зразумелыя; можна было ў іх толькі папытацца, чаму яны ня сталі супольна да змаганьня, чаму асталіся толькі сымпатыкамі? І шмат было такіх, што ня стрывалі, пачуўшы, што родныя гоні ажываюць і паклалі, хто колькі мог, працы пад фундаманты нашага Заўтра.

Нажаль, колькасьць іх ня была такая, як можна было-б чакаць, і якая была-б патрэбная згодна з палажэньнем беларускага народу. Вайна з усімі яе раструскамі, новымі аспэктамі палітычнага жыцьця, працерабіла рады і гэных адзінак. Захопленыя новымі магчымасьцямі польскімі, адны саромліва крыху, іншыя з пачуцьцём ахвяры, іншыя нічога не выяўляючы, пакінулі рады змагароў беларускіх. Шкада дзеля нас, шкада й дзеля іх самых.

Сяньня мо было-б яшчэ захутка шукаць адказу канкрэтнага на прычыну, чаму тыя людзі ад нас адышлі, ды чаму людзі з іх сфэры асталіся нам чужымі. Дасьледчыкі ў будучыне мецімуць магчымасьць падрабязна й абасновываючыся на дакумантах даць на гэныя пытаньні адказ.



Хаця гэта падзеі з апошніх амаль дзён, падзеі з канца вайны і рэвалюцыі, аднак тады людзі гэтак хутка жылі й працавалі, што неяк неспадзеўкі дзеля самых сябе, быццам нечакана, зглядзілі, што нешта перамянілася ў іх і адышлі ад беларускага загону.

Крыўду мы зрабілі-б тым адышоўшым, шукаючы аднаго толькі выключна матыву ў іх, а мяноўна карыснасьці вузка матарыяльнае, імкненьня за гонарам ці славаю. Ня трэ' нам забывацца, што ўздойм рэвалюцыі выкінуў на верх новыя каноны, накінуў людзям іх міжвольна, што выйсьці з кругу катэгорыяў новага думаньня яны не маглі

Хто пачынаў Адраджэньне Беларусі? Ці можна казаць, што гэта былі выключна прадстаўнікі сялянства й работніцтва? Ці ў фундаманты вызвольнага руху былі пакладзены думкі клясавасьці й выключнасьці клясавае?

Калі сілаю фактаў паміж першымі рабачаямі на ніве беларускай бачым сыноў вёскі, то ўсё-ж такі ня трэ' забывацца, што нямала паміж імі было й тых сыноў народу, што радзіліся, калі й не ў палацах, дык прынамся ў том асяродзішчы, якое даўно парвала лучнасьць з гушчаром народу й адыйшло ад яго далёка.

Ці яны не маглі вярнуцца на ўлоньне народу? Ці мог ім гэтага нехта забараніць?

Яны прышлі, пачалі працаваць і гэтым пацьвярдзілі вялікую праўду, што кожны народ — гэта сялянства, работніцтва й яшчэ „н е ш т а". Генае „нешта" неканечна мае быць клясаю. Хачу тут падчыркнуць, што народ і кляса з сацыяльнага боку гледжаньня гэта паймы, якія стыкаюцца з сабою ды ніколі не супадаюць. Народ — гэта *сынтэза* ўсяго, бяручы гістарычна, ды нат у кожным актуальным разрэзе свайго жыцьця.

І вось вайна з рэвалюцыйным віхром скалыхнулі ў нас гладзь жыцьця і побач розных іншых сьледамкаў, вельмі добрых і вельмі благіх, накінулі нацыянальнаму жыцьцю аспэкт клясавасьці Яно праўда, што Беларусь „мужыцкая", што стаіць на селаніне, гэта ужо факт гістарычны. Аднак гэта яшчэ не азначае, што сялянства — гэта Беларусь.

Падзеі нашыя пайшлі сваімі каляінамі, мінула рэвалюцыя, аджыў кліч „роўныя з роўнымі". Ці было гэта шчыра, ці толькі гест, выкліканы іншымі плянамі, ня будзем уваходзіць. Адно толькі можна адцеміць, што яны ўжо былі „вольныя", а мы асталіся паднявольнымі й хутка мы ня чулі ўжо аб „роўнасьці".

Чарговыя дні, настроі маладога польскага вялікадзяржаўніцтва заганялі штораз больш на накінуты беларускаму Адраджэньню шлях выключнасьці народу-клясы. Толькі таўро (кляймо) паходжаньня з пад сялянскае страхі давала быццам права прызнавацца да беларускасьці.

І мы прывыклі да новага ладу. Часта на'т не ўяўляем сабе іншых магчымасьцяў, зусім быццам забываемся, што народ гэта ня толькі мы, а народ—гэта ўсенькае тое, што было, што народ ня толькі тое, што ёсьць, а й тое, што будзе!.. Але — скажа

нехта — нашто ламаць адчыненыя дзьверы, кожны хай прыходзіць у сьвятыню, дзе правіцца Служба вялікая ў імя Народу Беларускага.

На першы пагляд сказ слушны, шмат у ім праўды. Ніхто забараніць ня сьмее, калі брат заблудзіўшы й змадзеўшы зусім, варочаецца на загон бацькі свайго. Шмат цяжэй часта гаварыць з такім братам, які прыходзіць пышаючыся сваім багацьцем і новаю Бацькаўшчынаю, хаця ён там толькі заўсёды быў пры маком. І такога трэба прыняць, не адкідаць яго, ён хаця й бадзяўся па бездарожжы, то ён усё-ж такі наш, хай толькі пачуе ён родны загон, які загаворыць да яго сэнтымэнтам усяе мінуўшчыны.

Клікаць яго мы ня можам. Трэба аднак, каб ён ведаў, што прымем, калі схоча прыйсьці, і прымем сапраўды як роўнага з намі.

Ці гэткія магчымасьці павароту належаць да галіны сапраўднасьці?

Ужо маглі мы бачыць у жыцьці іншых народаў (Чэхі, Літоўцы), што выключнасьць клясавая, ці на'т толькі ідэолёгічная, шкодная дзеля паўніні жыцьця Народу. Не раней дык пазьней трэба варочацца й папраўляць памылкі гэткія, зробленыя ў мінуўшчыне. Паварот пазьнейшы на ўлоньне Бацькаўшчыны, калі яна ўжо загадае сваім заблудзіўшым сынам вярнуцца, не такі прыгожы. Лепш было-б і дзеля нас і дзеля тых ейных сыноў, а нашых братоў, каб хутчэй яны ўявілі, што Бацькаўшчына Беларусь іх жджэ й вітае.

---

АД. СТАНКЕВІЧ

# Зацемкі аб П. Сяргіевічу і яго творстве

**(з нагоды выстаўкі рысункаў і малярства)**

Пётра Сяргіевіч — гэта адзін з найвыдатнейшых беларускіх мастакоў-маляроў у Зах. Беларусі. Імя яго ўжо шырока ведама ня толькі беларускаму грамадзянству.

Паходзіць П. С. з Браслаўскага пав., з в. Стаўрова. Радзіўся ў 1900 г. Бацькі яго незаможныя сяляне. Вучыўся сьпярша ў царкоўна-прыходзкай школе, у прытулку імені Мантвіла ў Вільні, у фабрычнай школе недалёка Стаўрова, у 1917 г. на тэхнічных курсах у Петраградзе пры фабрыцы грошаў, у 1920 г. запісваецца вольным слухачом у Віленскі Унівэрсытэт на аддзел мастацтва, у 1924/25 г. студ'юе ў Кракаве і ўрэшце ўзноў у Вільні, дзе ў 1928/29 г. канчае ўнівэрсытэт.





П. Сергіевіч „Падарожныя“

Пётра Сяргіевіч — гэта бязумоўны талент. Ведае аб гэтым ён сам і працуе, не пакладаючы рук, каб гэнага таленту не змарнаваць, ведае аб гэтым і беларускае грамадзянства, якое так часта з ягонага таленту карыстаецца для розных культурных мэтаў, ведае аб гэтым і іншае віленскае грамадзянства, якое сьлядзіць за культурным жыцьцём Вільні.

Шырэй даўся грамадзянству П.С. пазнацца, бяручы ўчасьце ў выстаўках „Związku Niezależnych Artystów Malarzy" ў Вільні (1933-34), у выстаўцы таго-ж „Związku" й „Zachęcie" ў Варшаве (1933) і ўрэшце ў самастойнай выстаўцы сёлета ў Вільні, з нагоды якой і пішам гэтыя зацемкі.

Гэтая выстаўка — першая самастойная — звалася выстаўкай рысункаў і малярства. Адбывалася яна ад 26. XII. 35 да 8. I. 1936 у памешканьні школы Т-ва Артыстаў Плястыкаў (Міцкевіча 7).

На выстаўцы было да сотні экспанатаў. З іх пераважалі працы алейныя і значны лік рысункаў, робленых сангвінай і вуглём. Тэматыка, форма і мастацкія спосабы творства П. С. рознародныя. Ёсьць композыцыі, партрэты, пэйзажы, студыі галоў і інш. У працах сваіх мастак наш прадстаўляе быт беларускага народу, малюе беларускую прыроду, а такжа адтварае беларускую мінуўшчыну, даючы абразы гістарычнага зьместу. З композыцыяў перадусім кідаюцца ў вочы вялікіх разьмераў абраз „Вясьляр", які адважна, з сілай і разгонам, плыве праз усхваляваныя воды, надзейна імкнучыся да берагу, а такжа абраз „Артай", які, наперакор няспрыяючым стыхіям прыроды, гоніць баразну за баразной, пераканаць, што працай усё пераможа, вялікіх спраў даканае.

З абразоў, што малюе беларускі быт, заслужваюць на ўвагу „Калыска", „Залёты", „Сялянскае падворышча" і інш.

Абразом гістарычнага зьместу, узорам эпіцкага творства, вобак з „Усеславам" зьяўляецца „Каліноўскі", абраз разьмерамі найбольшы за ўсе іншыя, яшчэ крыху нявыканчаны. — Лес. Грамада сялян. Пасярэдзіне К. Каліноўскі — у сьвітцы, малады, энэргічны, з агнем у вачах прамаўляе аб патрэбе барацьбы з царом. Гледзячы на гэты абраз, здаецца чуеш, як слаўны „Дыктатар Літвы" ў беларускай мове граміць царскую тыранію над Краем, заклікае сялян да барацьбы за зямлю й волю, як прадстаўляе сьветлы ідэал незалежнасьці „Вялікага Літоўскага Княства", у якім усе народы будуць вольныя, шчасьлівыя, у якім панаваць будзе праўда і справядлівасьць.

Творчыя магчымасьці П. С. дужа шырокія. Прабуе ён свайго пэмазка і алоўка так-жа й у галіне малярства рэлігійнага. І на гэтай ніве ён можа ўжо шмат чым пахваліцца. У касьцеле ў Солах, Ашмянскага павету, мастак наш намаляваў 34 вялікія абразы, а так-жа цэлы рад абразоў і фігур у прэзбітэрыі і ў сярэдняй наве касьцёлу ў мястэчку Корац, Роўненскага павету, на Валыні.

На мой пагляд — найбольшай заганай творства П. С. — гэта яго часта нявыканчанасьць, недахоп мастацкай прэцызыі. Ведае аб гэтым і сам мастак; ведае, разумее і працуе ў кірунку перамогі гэтай сваей слабасьці. Пазытыўныя вынікі яго пад гэтым узглядам працы — ўжо яўныя. Выстаўка рысункаў і малярства, аб якой тут гаворым, абымала працы П. Сяргіевіча за пяць гадоў (1930 — 1935). Вось-жа, хто бачыў яго творства пяць гадоў таму і параўняў яго з творствам апошняга часу, той ясна бача, як Сяргіевіч „вырас", як шмат ён зрабіў між іншым і ў кірунку выканчанасьці сваіх абразоў, у кірунку іх мастацкай прэцызыі.

На выстаўцы можна было пачуць галасы, што аддзел мастацтва ў Віленскім Унівэрсытэце Пятру Сяргіевічу шмат даў, асабліва ў галіне тэхнікі, але ня даў тэй шырокай магчымасьці выяўляньня свайго буйнага таленту, якую яму дала-б заграніца з яе вялікімі мастакамі, з яе шэдэврамі.

Пэўна-ж, гэта ўсё шмат памагло-б нашаму мастаку. І калі-б была нагода, дык трэба было-б яе выкарыстаць. Але пакуль надзеі на паездку заграніцу няма, астаецца П. Сяргіевічу ў краі шукаць магчымасьцяў усестаронна выявіць свой талент. А гэтыя тут магчымасьці прадусім дзьве: праца, студыі.

Ёсьць спробы залічыць П. Сяргіевіча з яго мастацкім творствам да прадстаўнікоў так зван. „szkoły wileńskiej regjonalnej". Дарэмна. Ад гэтай школы ён незалежны; ён ідзе сваей незалежнай, беларускай дарогай, ён тыповы мастак беларускі.





# Кнігапіс

## И. И. ЛАППО: Литовскій Статутъ 1588 года.

**Том I. Изслѣдованіе. Часть первая.**

Kaunas, 1934, бач. XVI + 476.

Аб Літоўскім Статуце існуе ўжо даволі багатая літаратура. Пісалі рускія і польскія вучоныя, а ў апошнім часе, з ростам і пашырэньнем нацыянальнай сьведамасьці сярод Беларусаў, Літоўцаў і Украінцаў, пачалі займацца навуковым досьледам і вывучэньнем гэтага вельмі цікавага гістарычнага помніка беларускія, літоўскія і украінскія вучоныя.

Агульны падрахунак і ацэнку ўсёй дацяперашняй гістарычнай літаратуры, якая прысьвечана Літоўскаму Статуту, знаходзімо ў працы У. Пічэты, выдатнейшага гісторыка Беларусі, першага рэктара Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску: „Распрацоўка літоўска-беларускага права XV—XVI стагодзьдзяў у гісторыяграфіі" („Полымя", Менск, № 8 за 1926 і № 2 за 1927). У. Пічэта ўважае, што сапраўднае навуковае вывучэньне Літоўскага Статуту яшчэ толькі пачынаецца. І нельга з гэтым не пагадзіцца: ў дацяперашняй гістарычнай літаратуры награмаджана ёсьць столькі розных супярэчнасьцяў у пастаноўцы і вырашэньні пытаньняў аб узьніку Літоўскага Статуту, што прыходзіцца ўсё пачынаць спачатку, трэба ўздымаць цаліну, каб выкрыць і выявіць гістарычную праўду. Гэта мабыць і мае на ўвазе І. Лаппо, калі ўважае патрэбным адзначыць, што ў сваей працы ён рад пытаньняў, зьвязаных з Літоўскім Статутам, вырашае іначай, чымся гэта ёсьць прынята ў гістарычнай літаратуры (бач. VIII).

Першае і аснаўное цьверджаньне аўтара палягае на тым, што Трэці Літоўскі Статут зьяўляецца завяршэньнем кодыфікацыйнай працы, якая адбывалася ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI стагодзьдзі, зьяўляецца тым зборам законаў, з якім Вялікае Княства Літоўскае перажыло эпоху злучэньня з Польшчай паводле Люблінскай вуніі 1569 г. Статутовае права, за выняткам з яго конституцыйных законаў Вялікага Княства Літоўскага, перажыло падзел злучанай Польска-Літоўскай Рэчыпаспалітай і заставалася дзейным правам пасьля далучэньня да Расіі аж да 1840 году; у значнай меры было прынята і расейскім законадаўствам (бач. VI).

Вось-жа: І. Лаппо рашуча запярэчывае распаўсюджаны ў гістарычнай літаратуры пагляд, што Вялікае Княства Літоўскае перастала існаваць, як самастойная дзяржава, пасьля падпісаньня акту Люблінскай вуніі. Сваё цьверджаньне аб дзяржаўнай самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага пасьля Люблінскай вуніі абапірае на гэткіх фактах: 1) Вялікае Княства Літоўскае было прыведзена да Люблінскай вуніі проці яго волі, таму і ўмова аб вуніі павінна быць прызнана не дабравольнай, а змушанай; 2) Вялікае Княства Літоўскае захавала паводле Люблінскай вуніі свой дзяржаўны тытул, свой асобны ўрад, усе свае дзяржаўныя прывілеі сваіх станаў; умова аб вуніі 1569 году не зьлівала Вялікае Княства Літоўскае з Польшчай у адну унітарную дзяржаву, але стварала іх фэдэрацыйны саюз, у якім фэдэрацыйнай уладаю для абедзьвух дзяржаў зьяўляўся супольны кароль і аб'еднаны сойм і сэнат; супярэчнасьці ўнутры самога акту Люблінскай вуніі, як і тыя абставіны, у якіх ён быў падпісаны, ня толькі не ўнясьлі прымірэньня ў адносіны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай, але яшчэ больш абвастрылі іх узаемную нездаволенасьць; 3) умова аб Люблінскай вуніі зьяўляецца міжнародным актам; 4) гэта ёсьць акт недасканалы і ўнутрана супярэчлівы, але найбольшы яго дэфэкт у тым, што зусім не ўстанаўлівае ўзаемнаадносіны абедзьвух дзяржаваў у часе бескаралеўя (бач. 277—289).

Цьверджаньне І. Лаппо аб тым, што Вялікае Княства Літоўска-Беларускае ня страціла сваей дзяржаўнай самастойнасьці пасьля падпісаньня акту Люблінскай вуніі 1569 году ня ёсьць новае: у беларускай гісторыяграфіі гэта пытаньне ўважаецца вырашаным і не выклікае ніякіх сумліваў. Дакладны і ўсебаковы разгляд гэтага пытаньня знаходзімо ў працы В. Друшчыца: „Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі" („Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску", Менск, 1925, № 6-7, бач. 216—251).

Новае і сапраўды цэннае ў працы І. Лаппо ёсьць тое, што ён сабраў дужа многа фактычнага матарыялу аб паходжаньні Літоўскага Статуту, асабліва да гісторыі яго направы — другой і трэцяй рэдакцыі (1566 і 1588 году); гэта ёсьць плодны вынік яго 22-х гадовай працы. Але нельга не адзначыць, пры гэтым, што ў манографічнай працы І. Лаппо аб Літоўскім Статуце, як і ў ліку іншых яго гістарычных прац аб В. К. Літоўскім, увесь сабраны ім фактычны матарыял падлягае такой ідэолёгічнай апрацоўцы, такой сыстэматычнасьці і стылізацыі, што, нарэшце, зусім нават губляецца лёгіка фактаў і поўнасьцю замяняецца своеасаблівай лёгікай суб'ектыўных уяваў аўтара.

У аснову направы Статуту 1529 году, кажа Лаппо, палажана была ідэя шляхэцкай вольнасьці: шляхціц ёсьць вольны чалавек, які жыве на кошт сваей „аселасьці" і нясе павіннасьці дзеля абароны дзяржавы ад вонкавай небясьпекі. Галоўныя крыніцы направы былі дзьве: судовая і адміністрацыйная практыка ўрадаў В. Кн. Літоўскага і чужаземнае заканадаўства. Лаппо крытычна ўзіраецца, пры гэтым, на вельмі пашыраны ў гістарычнай літаратуры пагляд аб выключным уплыве польскага заканадаўства. В. Кн. Літоўскае ня жыло ізалявана ад вонкавага сьвету. Яго зьвязкі з культурным сьветам сягалі далёка на Захад і на Усход. Маглі быць розныя ўплывы. На першым мейсцы ставіць уплыў рымскага права: гэта адбывалася ня толькі спосабам уплываў канонічнага права і нямецкага гарадзкога права, але таксама і непасрэдна, бо нямала ў той час было ў В. Кн. Літоўскім адукаваных людзей, якія атрымлівалі асьвету ў замежных унівэрсытэтах, дзе мелі змогу дакладна і ўсебакова пазнаёміцца з рымскім правам, як у тэорыі, так і на практыцы. Апрача таго мела ўплыў грэка-рымскае права, якім кіравалася праваслаўная царква ў В. Кн. Літоўскім. Вялікае значэньне мелі таксама ўзаемаадносіны В. Кн. Літоўскага з Чэхіяй і Нямеччынай. Усё гэта разам перэтварылася ў Трэцім Статуце ў нацыянальнае права В. Кн. Літоўскага (бач. 134).



Але што ляжала ў яго аснове, з якіх карэньняў вырастала гэта нацыянальнае права В. Кн. Літоўскага?

І. Лаппо зьвяртае ўвагу на звычаёвае права, якое глыбока ўпілося ў народнае жыцьцё і выяўлялася ў судовай практыцы нават у часе дзейнасьці Другога і Трэцяга Статуту, але адзначае пры гэтым, што гэны звычай ня быў адзін і той самы на ўсіх землях В. Кн. Літоўскага: побач з літоўцамі жылі беларусы і украінцы. Якому з гэтых трох народаў належыць Літоўскі Статут, як нацыянальнае права В. Кн. Літоўскага? — Гэта пытаньне рубам ставіцца ў сучаснай беларускай, літоўскай і украінскай гістарычнай літаратуры. Лаппо, аднак, ухіляецца даць выразны адказ на гэта пытаньне, але ўкосна робіць пробы разьвязаць і гэты складны вузел, які пакінула нам у спадчыну гісторыя.

У расейскай гісторыяграфіі істнуе пагляд, што ў аснове Літоўскага Статуту ляжыць старое рускае права. Лаппо гэтаму не пярэчыць і абяцае нават, што ў другой часьці сваей працы ён дасьць падробнае высьвятленьне, як і ў якой меры ўплывала гэна старое рускае права на ўзьнік Літоўскага Статуту. — На першы пагляд, маўляў, можа здавацца, што Трэці Літоўскі Статут зьяўляецца кодэксам Беларуска-Літоўскай дзяржавы, таму, што пасьля Люблінскай вуніі ў склад В. Кн. Літоўскага не ўваходзілі ўжо украінскія землі. Але межы гэнай дзяржавы пасьля 1569 году далёка не супадалі з этнографічнымі межамі разсяленьня „южной и западной ветвей русскаго народа, т. е. малоруссовъ-украинцевъ и бѣлоруссовъ". Такім чынам, уважае Лаппо, і паводле тэрыторыі, на якую пашыралася моц Літоўскага Статуту, нельга назваць яго кодэксам якой небудзь аднэй „южной или западной ветви русскаго народа". Нельга ўважаць яго так яшчэ і дзеля таго, што „старое русское право, легшее въ его основу, было пра-

вомъ, вырабатывавшемся на протяжении всѣхъ русскихъ земель, которыя въ себя вобрало Великое Княжество Литовское“ (бач. 135—136).

Лаппо імкнецца даказаць, такім чынам, што Літоўскі Статут, маючы ў сваей аснове „старое русское право“, зьяўляецца нацыянальным кодэксам „русскаго народа“. Але ўзьнікае пытаньне: што маемо разумець пад гэтым крылатым словам: „старое русское право“? Гэта паняцьце вельмі часта сустракаецца ў рускай гісторыяграфіі, ужывае яго і Лаппо, але, паколькі ведама, ніхто яшчэ ня даў належнага тлумачэньня яго канкрэтнага зьместу: ужываецца як нейкая мэтафізычная ўява. Трэба, аднак, спадзявацца, што ў другой часьці працы Лаппо „Литовскій Статутъ 1588 года“, якая ў незабаве мае выйсьці з друку, знайдземо адказ на гэта пытаньне, бо ў праціўным выпадку ў нішто распадзецца ўся яго складная будоўля гісторыі ўзьніку Літоўскага Статуту.

*Др. Т. Грыб.*

---

**Гістарычна-Археолёгічны Зборнік № 1.** Выд. Інстытуту Беларускае Культуры. Менск 1927 г., бач. 389.

Хоць з вялікім спазьненьнем, але усё ж такі на некаторыя менскія выданьні, якія мы нядаўна атрымалі, трэба кінуць вокам і зрабіць хоць кароткую рэцэнзію. Кніга, аб каторай пішам, ёсьць яшчэ „нацдэмаўская“, дык у ёй знаходзім яшчэ сапраўды шырокі навуковы сьветагляд, пазбаўлены вузкага, партыйнага марксізму.

Зборнік гэты, прысьвечаны гісторыі і археолёгіі Беларусі, вышаў, нажаль, толькі адзін (№ 1), пасьля выходзілі працы, прысьвечаныя выключна археолёгіі; аб першых двух томах мы пісалі ў кніжцы 4-ай „Калосься“, аб трэцім пішам у гэтай кніжцы далей.

Зборнік, аб якім ідзе гутарка, прадстаўляецца вельмі паважна і лікам тэмаў і іх апрацоўкай. Зьмешчаны там працы такія:

М. Доўнар-Запольскі. Социяльна-экономічная структура Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XVI—XVIII ст.

М. Шчакаціхін. Орнамэнтальныя роспісі сьмядынскай Барысаглебскай царквы ў Смаленску.

М. Доўнар-Запольскі. Да юбілею беларускага кнігадруку. Аўтар асьвятляе эканамічны грунт, на якім паўстала гэтакае буйнае беларускае пісьменства і беларускі друк у XVI ст.

У. Пічэта. Гаспадарскія (вялікакняскія) двары ў заходніх воласьцях Беларусі пасьля рэформы Жыгімонта-Аўгуста.

З. Даўгяла. Магілеўскае „брацтва прасалаў“. Прасал — даўнейшае беларускае слова, якое азначала дробнага гандляра, які вазіў сваю краму на вазе і гандляваў па вёсках і мястэчках. (Расейскае слова „прасол“ азначала прадаўца солі, а так-жа прасоленай рыбы, мяса і г. д.). Гэткія „прасалы“ ў XVII ст. мелі ў Магілеве сваё „брацтва“ і свой „парадак“ (статут), пісаны пабеларуску, тады, калі буйнае купецтва ў Магілёве мела ў той час „парадак“ пісаны ўжо ў польскай мове.



З. Даўгяла. Урадавыя адносіны да ўнітаў на Меншчыне ў часы Паўла I.

А. Бурдзейка. Нарыс соцыяльна-экономічнага жыцьця места Наваградку ў XVI ст.

А. Ляўданскі. Нэолітычныя стаянкі ў Смаленскай губ.

І. Сербаў. Археолёгічныя раскопкі ў аколіцах Менску ў 1925 г.

К. Палікарповіч. Нэолітычная стаянка каля балота Печанеж на Калінінщчыне.

В. Дружчыц. Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры.

І. Хозераў. Да пытаньня аб Спасаўскай царкве ў Полацку.

П. Харламповіч. Праскія грашы ў беларускіх манэтных скарбах.

П. Харламповіч. Манэтныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах Беларускага Дзяржаўнага Музэю

Далей ідуць „Varia“, паміж каторымі ёсьць так-жа вартасныя даведкі, як Дружчыца: Да пытаньня аб мове Літоўскага Статуту; З. Даўгяла: Знаходка палеолітычнай стаянкі ў Беларусі; С. Дубінскі: Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску ў 1926 г. і іншыя.

Паміж „Varia“ мы зьвярнулі ўвагу на першы артыкул В. Дружчыца пад заг.: „Да пытаньня аб мове Літоўскага Статуту“. Хоць гэты артыкул друкаваны быў ужо дзевяць гадоў таму, то усё-ж такі ён ня страціў сваей актуальнасьці і цяпер. Скіраваны ён проціў украінскага захопніцтва, якое імкнецца прысвоіць памяткі беларускай культуры сабе. Як ведама, некаторыя украінскія пісьменьнікі і дзеячы хочуць правесьці ў навуцы пагляд, што пісьменства ў даўнейшым В. Княстве Літоўскім было украінскае і што нават ведамы Літоўскі Статут зьяўляецца памятнікам украінскага права ня толькі з боку яго зьместу, але і мовы. Справа ў тым, што яшчэ ў 1923 годзе выйшаў „Науковий Збірнік Українського Університету в Празі“, т. I, у каторым праф. Р. Лашчэнка зьмясьціў артыкул: „Літовский Статут як памятник українського права“. У гэтым артыкуле праф. Лашчэнка цьвердзіць, што Літоўскі Статут нават у сваёй трэцяй рэдакцыі з 1588 году ёсьць памятнікам украінскага права. На гэта яму адказвае В. Дружчыц, што калі першая рэдакцыя з 1529 году і другая з 1566 г. зьяўляюцца аднолькава памятнікамі як беларускага, так і украінскага права, то зусім іншае палажэньне займае Статут з 1588 г. У склад камісіі, якая была ўтворана для складаньня III-га Статуту яшчэ на Люблінскім Сойме, не ўвайшлі ні польскія ні украінскія прадстаўнікі. Дружчыц сьцьвярджае, што Статут 1588 г. зьяўляецца сапраўднай і грунтоўнай канстытуцыяй Літоўска-Беларускага княства пасьля Люблінскай вуніі (г. зн. пасьля 1569 г.). Статут значна папраўляў пастановы гэтай вуніі, а некаторыя артыкулы і зусім скасаваў. Як дзяржаўная канстытуцыя, Статут зусім не падходзіць да таго палітычнага палажэньня, якое ў той час займала Украіна, будучы аднэй з правінцыяў Польскай Рэспублікі, так як зямля Серадзкая, Каліская ці якая іншая, тады калі Літоўска-Беларускае княства мела сваю аўтаномію і свой Статут.

На якіх-жа навуковых довадах апіраецца праф. Лашчэнка?

навуковых довадаў, асабліва філёлёгічных, ён і не падае, а ў сваім цьверджаньні грунтуецца на тым, што мова Літоўскага Статуту названа мовай „рускаю“, („а писар земский маеть по руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым языком и словы“ (Статут 1588 г. раз. IV, арт. 1), а як словы „Русь“, „рускі“ першапачаткова ўжываліся ў Кіеве, праф. Л. робіць вывад, што моваю Статуту ва ўсіх трох рэдакцыях была мова украінская! Вось-жа Дружчыц выказвае, што слова „рускі“ ўжывалася тады ня толькі на азначэньне мовы і народу украінскага, але і беларускага і што такія вялікія моваведы, як акад. А. Шахматаў, Буслаеў, Сабалеўскі, Уладзімераў, Карскі, прызнаюць, што ў В. Княстве Літ. беларуская мова была мовай дзяржаўнай і залічаюць Статут у лік памятнікаў беларускага а не украінскага пісьменства. Да беларускага пісьменства залічаюць Літоўскі Статут нават некаторыя ўкраінскія вучоныя, як напр. Дарашэнко ў кнізе „Славянський світ в його мінулому і сучасному“ (Бэрлін, 1922 г., т. І). Усё гэта аднак не перашкодзіла праф. Лашчэнку „анэктаваць“ г. зв. Літоўскі Статут да украінскага пісьменства.

Ад сябе дададзём, што пасярод украінскіх навуковых і палітычных дзеячоў дагэтуль было многа такіх, якія „анэктавалі“ ня толькі беларускае пісьменства, але і ўсю паўдзённую Беларусь па Беласток, Лунінец, Бабруйск і Гомель, чым рабілі вялікую моральную крыўду беларускаму народу. Цяпер аднак мы з вялікай радасьцю сьцьвярджаем, што пасярод украінскага грамадзянства можна заўважыць адносіны да нас болей справядлівыя. Маем тут на думцы артыкул А. Курдыдыка ў „Шляху Нацii“ (№ 1. 1936 г.), дзе паважаны аўтар, пазнаёміўшыся ў Вільні з беларускім жыцьцём асьвятліў гэтае жыцьцё з вялікай прыхільнасьцяй і нават сэнтымэнтам, чаго мы дагэтуль у ўкраінскай прэсе не спатыкалі. Праф. Лашчэнка і А. Курдыдык — гэта вялікі этап украінскай грамадзкай думкі у адносінах да Беларусаў, этап у кірунку да лепшага... *В. Г.*

---

**Працы Сэкцыі Архэолёгіі. Том III. Беларуская Акадэмія Навук. Інстытут Гісторыі. Менск, 1932. 260 бач. in 4-о.**

Гэты III том ёсьць працягам двух першых і таксама, як два першыя, ёсьць багаты зьместам *). У ім ёсьць такія навуковыя артыкулы:

1. А. Ляўдански. Архэолёгічныя досьледы ў Смаленшчыне.
2. Н. Дэбец. Чарапы Люцынскага магільніка і старажытных славян Беларусі і месца апошніх у палеантраполёгіі Усходняй Эўропы.
3. В. А. Рыбакоў. Радзімічы.
4. К. М. Палікарповіч. Палеоліт на рэчцы Судасьці (вадазбор Дзясны).
5. К. Фляксбэргер. Зёрны з Банцараўскага гарадзішча пад Менскам.

*) Аб першых двух томах гл. рэцэнзію у кн. 4 „Калосься“ 1935 г.



6. К. М. Палікарповіч. Знаходкі рэштак чацьвярцёвай фаўны на тэрыторыі БССР.
7. А. Зьм. Каваленя. Архэолёгічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Уцяж-Бук і Лукомкі.
8. Анат. Рынейскі. Архэолёгічныя разьведкі на р. Пціч.

Апроч гэтага ў томе знаходзяцца яшчэ апрацаваныя наступныя тэзісы да І-га Усесаюзнага Зьезду архэолёгаў і этнографаў у Ленінградзе:

1. А. Ляўданскі. Архэолёгічныя досьледы ў БСРР пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі.
2. К. М. Палікарповіч Палеоліт і мэзаліт БССР і некаторых суседніх краін верхняга Падняпроўя.
3. Акад Н. М. Нікольскі. Этнографія ў БССР пасьля Кастрычніка.
4. М. Я. Грынблят. Вывучэньне раёнаў малага рыбалоўства і рыбацкіх арцеляў.
5. Акад. Н. М. Нікольскі. Пытаньне аб вывучэньні мотываў клясавай барацьбы ў фальклёры.

Апроч гэтага ёсьць багатая хроніка архэолёгічных прац у БСРР, рэцэнзіі і гэографічны паказьнік. У кніжчы ёсьць арх. карта был. Рослаўскага павету (Смаленскай губ.) і карта расьсяленьня радзімічаў і суседніх плямёнаў (пры артыкуле Рыбакова „Радзімічы“).

У гэтым III цім томе ёсьць яшчэ адно, чаго няма ў папярэдніх тамох: змаганьне з нацыянал-дэмакратызмам. А. Ляўданскі у сваім тэзісе: „Архэолёгічныя досьледы ў БСРР пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі“ востра выступае процiў быццам нацдэмаўскага кірунку ў архэолёгічных досьледах ранейшага кіраўніцтва Бел. Акадэміі Навук. Ляўданскі цьвердзіць, што цяперашняя праца Сэкцыі Архэолёгіі выразілася паміж іншым „ва ўмоцненым імкненьні працаўнікоў Сэкцыі да аўладаньня марксысзкаленінскай мэтодолёгіяй і дапасаваньня апошняй у сваей навукова-дасьледчай рабоце“. Мы вельмі сумняваемся, ці ў архэолёгіі паможа нешта мркcызска-ленінская мэтодолёгія, а пашкодзіць дык можа. На наш пагляд навука павінна быць навукай і толькі яна павінна *сьцьвярджаць факты, выкрываць прычынную сувязь паміж імі і падаваць гэтыя факты да публічнага ведама* бяз ніякага нацягваньня на такія ці іншыя грамадзкія ці палітычныя кірункі. Маючы аб'ектыўныя факты, кожны вучоны зможа выбраць для сябе патрэбныя матар'ялы і абапёрці на іх сваю тэорыю. А ідэолёгічная прадузятасьць можа зьвярнуць архэолёгічныя досьледы, якія у БССР ужо зрабілі вялікі поступ і паставілі беларускую архэолёгію нараўне з архэолёгіяй іншых народаў.

Апроч гэтага добра было б дзяржацца ў выдаваньні архэолёгічных працаў аднолькавага кніжнага фармату, бо калі І-шы том выпушчаны ў сьвет у фармаце сярэдняй васьмёркі, то III-ці том in 4-о. Найлепшым фарматам для такіх прац быў-бы, здаецца, фармат II-га тому (вялікая васьмёрка). *В. Г.*

**Ад. Станкевіч. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.** Вільня 1935, выдавецтва „Шляху Моладзі“, фармат 8⁰, 128 бач.

Няўтомны працаўнік на ніве беларускае культуры кс. Ад. Станкевіч усьцяж узбагачывае наш культурны даробак сваімі цэннымі працамі пераважна гістарычнага характару. Да гэткіх працаў належыць і вышэй успомненая, азначаная аўтарам, як „агульны нарыс, які беларускім гісторыкам можа паслужыць матар'ялам і плянам да апрацаваньня поўнай беларускай вызвольна-палітычнай гісторыі“.

У прадмове аўтар зазначае, што квэстыя беларускага палітычнага вызваленьня даўно яго цікавіла, але ня было магчымасьці выдаць працу друкам аж да 1934 г., у якім яна пачалася друкавацца ў „Шляху Моладзі“; друкаваньне трывала два гады. Аўтар абмяжаваўся ў працы да „выказаньня галоўных мамэнтаў з гісторыі беларускай палітычна-вызвольнай думкі і барацьбы, а такжа да выказаньня генэзы, вытокаў ідэі сувэрэннай незалежнай Беларусі і да агульнага апісаньня спробаў зьдзейсьненьня гэтага ідэалу“. Перад чытачом адчыняецца ўзрост народнай сьведамасьці ад канца XVIII стаг. у Еўропе агулам і беларускай у прыватнасьці. Першым пачынальнікам беларускага палітычнага вызваленьня аўтар лічыць Кастуся Каліноўскага, прыхільніка ідэі фэдэрацыйнай лучнасьці беларуска-літоўскіх земляў з Польшчай. Фэдэрацыя гэта мелася быць толькі вольным саюзам незалежных дзяржаваў. Думку Каліноўскага па яго сьмерці снаваў Ігнат Грынявіцкі, беларускі народнік, які быў „неразарвальным злучвом вызвольнай беларускай традыцыі між Каліноўскім і яго „Мужыцкай Праўдай“ і між „Гоманам“. Аўтар падрабязна спыняецца над аналізам палітычнага кірунку „Гоману“, а яшчэ раней „Муж. Пр.“, і з сынтэтычнага параўнаньня між імі, даходзіць да вываду, што „Гоман“ быў далёка бліжэй да зразуменьня беларускага нацыянальнага прынцыпу, чымся „М. П.“, якая ад паняцьця беларускага народу, як нацыі, была далёка. Далей аўтар спыняецца над асобай Фр. Багушэвіча, і кажа, што ён ласьне зрабіў рашучы пераломны шаг у падыходзе да беларускага нацыянальнага пытаньня. Багушэвіч, кажа аўтар, скончыў назаўсёды з беларуска-польскім народніцтвам Каліноўскага і з народніцтвам беларуска-расейскім гоманцаў, а стварыў народніцтва беларускае нацыянальнае, і паказаў самастойныя дарогі беларускага нацыянальнага адраджэньня агулам і нацыянальна-палітычнага вызваленьня. Годнага спадкаберніка нацыянальнага беларускага народніцтва Багушэвіча аўтар бачыць у Адаме Гурыновічу. Узбуджаная Фр. Багушэвічам думка беларускага адраджэньня на прынцыпе беларускае нацыянальнасьці не заглохла і сталася асновай беларускага арганізацыйнага культурна-палітычнага жыцьця, а ў сувязі з падзеямі, што стварыліся ў выніку сусьветнае вайны, сталася фундамантам для пабудаваньня ідэі сувэрэннай Беларусі, выражанай у акце з дня



25. III. 1918 г., і спробаў зьдзейсьненьня гэтага ідэалу, разглядам чаго і канчаецца праца.

Пастаўленае сабе заданьне аўтар бязумоўна споўніў. Дадатныя староны працы (а іх ёсьць шмат) кідаюцца аж надта чытачу ў вочы і дзеля недахопу месца ня будземо над імі спыняцца. Адцемім толькі некаторыя няточнасьці, якія пры студыяваньню гэтай працы даюцца спасьцерагчы.

Аўтар памылкова глядзіць на Люблінскую вунію, як на палітычную і культурную сьмерць беларускага народу, пасьля якой народ „апынуўся пад Польшчай ужо не як палітычна самастойны, але як яе падданы“ (бачына 9). Сутнасьць Люблінскае вуніі ў тым, што Вял. Кн. Літ. і Карона (Польшч) у аднолькавай ступені зракаліся некаторых сваіх сувэрэнных правоў на карысьць новага палітычнага твору — супольнае Рэчыпаспалітае, але ніколі ня было так, каб беларускі народ, або дзяржава, стаўся *„падданым“ Польшчы.* Калі-б тут і казаць аб залежнасьці палітычнай беларуска-літоўскай дзяржавы, дык толькі адносна да супольнае Рэчыпаспалітай, але ніколі не да Польшчы (Кароны), якая сама знаходзілася ў гэткай-жа залежнасьці ад новага твору. Іншая рэч, што фактычная перавага Польшчы (Кароны) пад кожным і асабліва культурным паглядам давяла ў канцы да палітычнага і культурнага заняпаду беларускага народу.

Памылковым ёсьць такжа і пагляд аўтара на ролю рэлігіі і царквы ў беларускім культурна грамадзкім жыцьці XVII і XVIII стаг. Ролю гэту аўтар малюе надта дадатна і нават у рэлігіі бачыць адзіную грамадзкую вартасьць, каторая зьберагала беларускую нацыю і тварыла беларускую культуру ў часы найвялікшага яе заняпаду. Згаджаемся, што беларускі народ у той час быў рэлігійны, але ласьне рэлігійныя адносіны XVII і XVIII стаг. былі аднэй з найвялікшых прычынаў аканчальнага яго заняпаду. Трэба мець наўвеце, што г. зв. „народнага касьцёлу“, ня гледзячы на спробу, беларускі народ не стварыў, а тыя рэлігіі, што найбольш былі распаўсюджаны на Беларусі — праваслаўе, вунія, р.-каталіцтва — найменш баранілі вартасьцяў і культуры беларускага народу і нават яго існаваньня. Ня трэба забывацца, што ў змаганьнях між сабой праваслаўе і вунія клікалі на дапамогу вонкавыя палітычныя сілы (вунія — Карону, праваслаўе — Маскву), каторыя помач давалі, але перадусім не забываліся аб сваіх інтарэсах, дыямэтральна процілежных з інтарэсамі беларускага народу. Дасьледываючы дзейнасьць гэткіх выдатных асобаў таго часу, як Сматрыцкі, Кунцэвіч і ін., ад якіх у першую чаргу трэба было спадзявацца беларускага палітычнага розуму, паміма волі кідаецца ў вочы, што яны дзеля правядзеньня сваіх рэлігійных прынцыпаў найменш былі склонны рахавацца з інтарэсамі беларускага народу і дзяржавы. Пэўне-ж, што праваслаўе да барацьбы з вуніяй, і вунія пасьля перамогі над праваслаўем мелі некаторы дадатні ўплыў у беларускім жыцьці, але па першае гэта яшчэ належна не дасьледавана, а па другое і тады-б роля

рэлігіі была ўсё-ж бязьмежна далёкай ад тэй, якой хоча яе бачыць аўтар.

У разьдзеле аб Ігнаце Грынявіцкім і яго беларускім народніцтве спасьцерагаецца вялікая распятасьць між ідэалізаваньнем Грынявіцкага, як „сапраўды годнага наступніка Кастуся Каліноўскага“ і беларускага народніка, а тымі аб'ектыўнымі дадзенымі, каторыя гэта пацьвярджаюць.

Праводзячы сынтэтычнае параўнаньне „Мужыцкае Праўды“ і „Гоману“, аўтар не дацэнівае ролі гоманцаў у крысталізацыі беларускага нацыянальнага прынцыпу і ў канцавых сваіх вывадах даходзе да пэўных супярэчнасьцяў. Бо, як відаць нават толькі з цытаванага аўтарам, неазаглаўленага артыкулу аб нацыянальным пытаньні, гоманцы мелі цалком ясны і шырокі пагляд на беларускае нацыянальнае пытаньне, зьмест якога быў той, што гоманцы лічылі беларускі народ зусім самастойным, маючым права на незалежнае існаваньне, роўны іншым, прычым абарону гэтых правоў беларускага народу гэтак ад Палякоў, як і Маскоўцаў, гоманцы лічылі за сваю мету. Гоманцы адкідалі толькі гэткае паняцьце нацыяналізму, пры каторым адна нацыя ўважае сябе за вышэйшую ад другой (адсюль г. зв. „нямецкі дух“, „рускі дух“, і г. п., інакш шовінізмы і нетолеранцыя адносна іншых нацыяў). Гоманцы выразна і заявілі, што гэткага роду „беларускі дух“ (інакш беларускі шовінізм) ня можа быць складовай частка беларускага здаровага нацыяналізму. Не адкарастываліся затым гоманцы ад беларускага здаровага нацыяналізму, але не хацелі ў ім бачыць „беларускага духу“ — шовінізму. Гэтак і трэба разумець іхнюю нацыянальную ідэолёгію. Той-жа факт, што гоманцы, як рэвалюцыянеры, мала зьвярталі ўвагі на культурную працу ў народзе, аддаючы гэта „аматарам“, ня можа падважыць вартасьці іхняе нацыянальнае сьведамасьці, ды і ўрэшце ішлі яны тут за прыкладам расейскіх народнікаў-рэвалюцыянераў, каторыя таксама не зьвярталі ўвагі на культурную працу, імкнучыся перадусім да зьмены палітычных умоваў жыцьця. З гэтых прычынаў не згаджаемся з аўтарам, быццам Фр. Багушэвіч ёсьць першым тварцом беларускага здаровага нацыяналізму ў сучасным яго разуменьню. Трэба думаць, што пагляды гоманцаў былі вядамы Багушэвічу і значэньне яго палягае ласьне на тым, што ён першы пачаў сапраўды беларускую нацыянальную працу на нашае культурна-грамадзкае ніве, тады як гоманцы праводзілі яе ў сэнсе выключна палітычным.

Ня гледзячы аднак на гэтыя няточнасьці, праца кс. Ад. Станкевіча мае вялікія дадатныя староны і перадусім ёсьць яна крыніцай, з якой можна даведацца аб вытоках беларускае сувэрэннае ідэі, ейным разьвіцьці і спробах зьдзейсьненьня. Ясны і лёгкі стыль, каторы адзначае агулам усе працы кс. Ад. Станкевіча, робіць разгляданы „нарыс“ даступным кожнаму. Праца гэта набірае і будзе набіраць кожны раз асаблівае актуальнасьці з нагоды штогодніх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі (25. III. 1918 г.) і ўжо з гэтай прычыны павінна знайсьціся ў бібліятэцы кожнай беларускай арганізацыі і на стале кожнага сьведамага нацыянальна Беларуса. *М. Шкялёнак.*

---

**І. Любан.** Разграміць рэшткі нацдэмаўшчыны і трацкізма ў музыцы. Літаратура і Мастацтва, № 7 (1135) і № 17 (1145), Менск, 1935.

Працэс вялікай перабудовы грамадзка-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцьця ў Саветах, на аснове марксіцкаленінска-сталінскай навукі — дзеля асягненьня проблематычнага бясклясавага грамадзтва — адбываецца плянова і рашуча.

З увагі на склад нацыянальны насельніцтва Савецкага Саюзу, перабудова адбываецца там паводле ведамага, мэтодолёгічнага характару, прынцыпу — лёзунгу: нацыянальная форма — соцыялістычны зьмест, пры гэтым зьмест соцыялістычна-пролетарскі.

Згодна з гэтым прынцыпам творацца там новыя цывілізацыйныя і культуральныя вартасьці, коштам нівэляцыі нацыянальных вартасьцяў і спэцыфічных — будучых з нашага гледзішча творчымі стымуламі — індывідуальных уласьцівасьцяў народаў Савецкага Саюзу.

Два інформацыйныя артыкулы, пад пададзеным вышэй вымоўным і крыклівым загалоўкам, І. Любана, цяперашняга старшыні Саюзу Савецкіх кампазытараў БССР, — ор'ентуюць нас часткова аб працэсе соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне музыкі ў Беларускай ССР, а такжа аб перашкодах стаўленых гэтаму будаўніцтву г. зв. „контрэволюцыяй“. — Артыкулы маюць характар „самакрытыкі“. З нястачы месца ў нашым часапісе, ня можам перадрукаваць цэласьці іх, і дзеля гэтага спынаемся на найбольш характэрных цытатах.

Любан — сказаўшы напачатку, што „разам з бурным ростам усяе соцыялістычнае гаспадаркі Савецкае Беларусі расьце і разьвіваецца музычны фронт БССР: музычная асьвета, выканаўчая і творчая музычная думка“... — пераходзе да кароткае агаворкі вынікаў працы беларускіх савецкіх кампазытараў за 1934 г.

„Дзесяткі гармонізацый народных песень: беларускіх, польскіх, рускіх, яўрэйскіх, дзесяткі масавых песень піонерскіх, калгасных, чырвона-армейскіх, цэлы рад музычных буйных палоцен, як сымфанічныя паэмы, сымфоніі — вось творчы вынік працы савецкіх кампазытараў БСРР за 1934 г.“ — кажа Любан.

Далей аўтар успомніўшы аб характэрнай рабоце — музычным помніку Мірону Кіраву, у які ўвашлі творы кампазытараў Туранкова, Аладава, Любана, Цікоцкага, Палонскага, Падкавырава, Багатырова, а такжа аб, дапасаванай да г. зв. савецкага рэалізма, тэматыцы музычнай творчасьці, спыняецца даўжэй на „контрэвалюцыі“ у музыцы ў БССР.

„Музыка ў БССР — кажа Любан — разьвіваецца ў жорсткай клясавай барацьбе супроць рэштак ворагаў пролетарыята, якія

пранiклi выключна са шкоднiцкiмi i здраднiцкiмi (!) мэтамi на ўчасткi соцыялiстычнай гаспадаркi i культуры. Клясавыя ворагi, контрэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты, вялiкадзяржаўныя шавiнiсты, былыя царкоўнiкi, чорнасоценцы пранiклi таксама i на музычны ўчастак соцыялiстычнага будаўнiцтва. Яны iмкнулiся i iмкнуцца праз музыку прышчапiць працоўным свае варожыя контрэвалюцыйныя iдэi".

„Былое нацыянал-дэмакратычнае кiраўнiцтва Наркомасьветы i Iнбелкультуру (Балiцкi, Iгнатоўскi, Ластоўскi) навадняiлi Савецкую Беларусь музычнымi „спецамi", ад'яўленымi (!) контрэвалюцыянерамi, чорнасоценцамi, нацдэмамi (Прохараў, Анцаў, Грыневiч i K⁰)".

„КП(б)Б своечасова расшыфравала i выгнала шкоднiкаў, контрэвалюцыйных нацдэмаў з усiх участкаў соцыялiстычнага будаўнiцтва, у тым лiку i з фронту музыкi. Разам з гэтым праведзена вялiкая выхаваўчая работа з кампазытарамi, якiя раней знаходзiлiся пад уплывам i ў палоне нацдэмаў".

„Пазьней у 1932—1933 гадох у БССР паяўляецца на гарызонце другая група шкоднiкаў, якiя ўжо не адкрыта, а „цiхай сапай" шкодзiлi музычнаму фронту БССР. Я — кажа Любан — маю на ўвазе контрэвалюцыйную групу прафэсара Шэпелеўскага, Панаевай, якая пад крылком „комунiста" перараджэнца Казакова тварыла сваю агiдную (!) справу. Чыстка партарганiзацыi Белдзяржкансэрваторыi выявiла гэты контрэвалюцыйны гнайнiк(!)".

„Зусiм не так даўно (1934 г.) у кансэрваторыю быў запрошаны нехта Бергельсон для выкладаньня гiсторыi музыкi. Праз некалькi месяцаў яго „работы" высьветлiлася, што гэта прахадзiмец, трацкiст, якi асьмелiўся пець дыфiрамбы здраднiкам (!) рабочага класа Троцкаму (Бергельсон у сьнежнi месяцы 1934 г. знят з работы i выгнан з БССР).

Выгнаны з Беларусi ў 1928 годзе Прохараў, у кастрычнiку месяцы 1934 г. зноў паяўляецца ў Беларусi. Ён паяўляецца на трыбуне Акадэмii Навук у якасьцi лектара".

Далей спыняецца Любан на „адным з важных участкаў музычнай культуры, —гэта на ўчастку крытыкi", якi „найбольш слабы, найбольш незабясьпечаны савецкiмi кадрамi". I тут аўтар распраўляецца з „двурушнiкам", „ворагам ленiнскай нацыянальнай палiтыкi", „антыпролетарскiм контрэволюцыянэрам" Ю. Дрэйзiнам, чалавекам, якi праз друк, праз радыё, ды ў шматлiкiх канцэртах „адукоўваў працоўныя масы", а якi „зняты з работы ў кансэрваторыi за нацдэмаўскiя установкi ў выкладаньнi гiсторыi музыкi".

Даўжэй Любан спыняецца на Дрэйзiне — крытыкуе ягоны артыкул „Музыкальная жизнь Белоруссии", зьмешчаны ў маскоўскiм часапiсе „Советская Музыка" № 7, 1934 г. Артыкул, паводле Любана, „зьяўляецца згусткам нацдэмакратычных iдэй па лiнii мастацтва ў БССР". А вось шэраг фактаў, якiмi Любан iлюструе „вiну" Дрэйзiна:



1) што ў лiк зьбiральнiкаў беларускiх народных песень Дрэўзiн залiчыў „ярага нацдэма, агента польскага фашызма (!) Рака-Мiхайлоўскага;

2) работа Прохарава, якая паводле Любана „акрамя шкоды, акрама насаджэньня нацыяналiстычных iдэй" нiчога для Беларусi не дала, паводле Дрэйзiна, зьяўляецца „крокам наперад на шляху разьвiцьця беларускай музыкi";

3) Дрэйзiн у артыкуле сказаў: „Только в 1928 г. был напечатан сборнiк из 318 песен, записаных у певицы Проси Гарецкой, крестьянки деревни Богатьковки Мстиславльского района. Мелодии этих песен записаны А. Егоровым, тексты — сыном певицы, М. Гарецким". — Паводле Любана ня трэба было гаварыць аб гэтым зборнiку, бо ён зьмяшчае „шмат кулацкiх i антысэмiцкiх песень, наўмысьля падабраных нацдэмам Гарэцкiм".

4) Дрэйзiн напiсаў: „Наконец не малое значение в области музыки имеют и Бел. гос. драматические театры (всего в Белоруссии три театра)". — Любан ставiць закiд Дрэйзiну, што гэта „паклёп на тэатральны фронт Савецкай Беларусi", бо „акрамя пяцi беларускiх дзяржаўных тэатраў... маем на Беларусi яўрэйскi дзяржаўны тэатр БССР, Трамы i рад iншых тэатральных прадпрыемстваў";

5) Дрэйзiн пiша: „Белорускiе композиторы, а также музыковеды и критики после исторического постановления ЦК ВКП(б) от 23 апреля 1932 г. об'единены в Союз Белорусских Композиторов". Трэба, паводле Любана, пiсаць не Союз Белорусских Композиторов, а „Саюз савецкiх кампазытараў Беларусi".

Далей Любан вiнiць Дрэйзiна, што даючы ацэнку i пералiчваючы творы паасобных кампазытараў у артыкуле „наўмысьля замоўчываў нацдэмаўскiя „памылкi" гэтых кампазытараў, — паказываючы ўсе iх „шкодныя" творы, (ад якiх цяпер самi кампазытары ўжо адмовiлiся), „як дасягненьнi беларускай культуры". Нпр. да заслуг кампазытара Аладава Дрэйзiн адносiць опэру-жарт (на лiбрэтто Дрэйзiна) „Тарас на парнасе", — забаронены i асуджаны „нацдэмаўскi" твор; музычнае афармленьне Тэраўскiм п'ес „Кастусь Калiноўскi", „Кар'ера Брызгалiна", „Панскi гайдук" i iн., п'ес, якiя „знятыя з рэпэртуару, як шкодныя, ня маючыя нiчога супольнага з пролетарскiм тэатральным мастацтвам — як кажа Любан — Дрэйзiн залiчае да вялiкiх дасягненьняў у беларускай музыцы. Далей, Дрэйзiн дадатна ацанiў зборнiк вайсковых песень Тэраўскага, гдзе надрукаваны „Ваяцкi марш", — ведамы i ў Зах. Беларусi, а напiсаны, паводле Любана, „на словы нейкага ксяндза". Як нам ведама, аўтарам слоў таго маршу—зьяўляецца Краўцоў Макар, а ня „нейкi ксёндз". Тыя самыя „нацыяналiстычныя памылкi" Любан бачыць у ацэне Дрэйзiным творчасьцi Мацiсона, Цiкоцкага (гэтым апошнiм „написана — кажа Дрэйзiн — белорусская симфония, белорусская прелюдия"). I ўрэшце „вiна" Дрэйзiна ў тым, што ў ягоным артыкуле „няма нiводнага слова наконт вялiкай выхаваўчай работы, праведзенай пралетарскай грамадзкась-

цыю пад кіраўніцтвам КП(б)Б па перавыхаваньню і пераўзбраеньню кампазытараў, якія ў свой час папалі ў палон нацдэмаў".

А вось іншыя характэрныя „памылкі".

Даючы лекцыі з гісторыі музыкі ў кансэрваторыі, Дрэйзін азначае музыку, кажа Любан, так: „музыка, рэальна кажучы, гэта злучэньне таноў". — А паводле Любана — „музыка, як надбудова на матэрыяльным базісе, зьяўляецца прадуктам вытворчых і клясавых узаемаадносін". — Паводле Любана Дрэйзінаўскае азначэньне музыкі — „вульгарна-мэханістычная ўстаноўка"!..

Далейшай „віной" Дрэйзіна, што ў лекцыях, гаворачы аб крытыцы, сказаў так: „Аб'ектыўнай крытыкі ня было, няма і ня будзе, можа быць толькі крытычна-мастацкі падыход",—сказ, паводле Любана, нязгодны з марксыцкай крытыкай.

Ня будзем тут даўжэй спыняцца на „памылках" Дрэйзіна, якіх ён паводле Любана дапусьціўся ў сваей працы ў галіне музыкі. — Любан, закідаючы сабе не адзін раз у артыкулах брак бальшавіцкай пільнасьці, у канцы другога артыкулу кажа: „Перад сэкцыяй савецкіх кампазытараў, радыёкамітэтам, перад дзяржаўнай консэрваторыяй стаіць неадкладная задача: у лекцыях, канцэртах і ўва ўсей масавай музычнай рабоце паказаць перад усей пралетарскай грамадзькасьцю ўсю контрэвалюцыйную сутнасьць людзей, якія шмат нашкодзілі на музычным фронце (Прохараў, Дрэйзін, Бергельсон і інш.). — Беларускі тэатр опэры і балета павінен неадкладна дэталёва пераглядзець усе пераклады опэр, зробленыя Дрэйзіным, бо яны засьмечаны нацдэмаўскай тэрміналёгіяй, палянізмамі, архаізмамі... — Толькі ачысьціўшыся ад нацдэмаўскага трацкісцкага хламу музычны фронт БССР... узьнімецца на вышэйшую ступень".

Вышэйпададзеныя цытаты з артыкулаў Любана і ўзятыя ім цытаты з артыкулу Дрэйзіна, апроч інформацыйнага значэньня, маюць для нас тую вартасьць, што сьведчаць, пэўне-ж часткова, аб „соцыялістычным будаўніцтве" ў музыцы ў БССР, як і аб перашкодах, што ставяцца гэтаму будаўніцтву г. зв. „контрэвалюцыяй", а прадусім г. зв. беларускімі нацыянал-дэмакратамі.

Трэба тут дадаць, што ў сёлетнім 3-цім нумары часапісу „Літаратура і Мастацтва" ў перадавіцы „Патрэбна карэнная перабудова" шмат гаворыцца аб ідэолёгічных нястачах ува ўсіх галінах мастацтва ў БССР (літаратура, выяўленчае мастацтва, тэатр, музыка і гэт. д.) і што ў гэтым вінавацяцца паўперад Народны Камісарыят Асьветы і яму падуладныя органы.

Трэба думаць, што і тут маем дзела перадусім з „нацдэмаўскай контрэволюцыяй"!

*Я. Шутовіч.*



# Хроніка

═ Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы распачалі супольна акцыю сярод шырокіх гушчаў беларускага народу ў Зах. Беларусі ў справе складаньня польскім школьным уладам дэкларацыяў з дамаганьнем беларускай школы.

Як ведама, цяпер Беларусы пад Польшчай, якіх нават паводле дзяржаўнага перапісу насельніцтва з 1931 г. ёсьць 1 міліён 600 тысяч, а ў сапраўднасьці больш 2.500,000, беларускай школы ня маюць, калі ня лічыць 69 пачатковых школ, у якіх паводле віленскага школьнага куратара „język białoruski uwzględniony", і беларускай філіі польскай дзяржаўнай гімназіі ім. Славацкага ў Вільні.

Да школьнай акцыі ў 1936 г. трэба прыступіць усім Беларусам!

═ Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў Вільні ў канцы мінулага году дзеля навуковых мэтаў наладзіў абмен выданьнямі з Беларускай Акадэміяй Навук у Менску. Часьць з прысланых Акадэміяй выданьняў Інстытут ужо атрымаў, часьць аднак віленскае гарадзкое стараства затрымала і зажадала ад Інстытуту дазволу на атрымліваньне савецкіх выданьняў. У сувязі з гэтым, Інстытут ад сьнежня мес. м. г. робіць стараньні перад адноснымі адміністрацыйнымі ўладамі ў справе атрыманьня дазволу. Трэба ведаць, што некаторыя віленскія польскія і жыдоўскія навуковыя і культурна-асьветныя ўстановы дазвол на атрымліваньне сав. выданьняў маюць. Магчыма, што яго дастане і Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, як навуковая ўстанова.

═ Віленскі Аддзел Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры дзеля пашырэньня ведаў аб Беларусі сярод шырокіх гушчаў віленскага грамадзянства арганізуе цыклі лекцыяў. Ад 24 лістапада м. г. да 1. III. б. г. ужо адбылося 8 лекцыяў. 24. XI. і 8. XII. 1935 г. дзьве папулярныя лекцыі з гісторыі і літаратуры прачытаў др. Я. Малецкі. Пяць лекцыяў на тэмы гістарычныя 26. I, 2, 9, 16 і 24. II. 1936 г. прачытаў доўгалетні старшыня Бел. Інст. Гаспадаркі і Культуры, заслужаны грамадзкі і культурны дзеяч а. В. Гадлеўскі. Прэлегент узброіўшыся навуковымі аргумантамі і багатым арсэналам гістарычнай веды ўжо разгледзіў прагісторыю і старадаўнюю гісторыю Беларусі. Восьмую лекцыю аб слаўным беларускім друкару др. Францішку Скарыне і ягонай працы, з нагоды прыпадаючага сёлета 450-лецьця ад дня нарадзін Скарыны, прачытаў 1.III. сябра рэдакцыйнай калегіі нашага часапісу а. А. Станкевіч.

═ 26. I. і 24. II. па лекцыях выступаў Хор віленскага Аддзелу Інстытуту, які пад кіраўніцтвам інж. А. Клімовіча сьпяваў беларускія народныя песьні.

═ Хор Віленскага Аддзелу Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры апошнім часам значна ўзмоцніў працу. — Пры Хоры існуе бясплатны прыгатаваўчы курс нотазнаўства. — Хор часта выступае на г. зв. „нядзельніках", арганізаваных тым-жа Аддзелам Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

═ У Беларускім Навуковым Таварыстве ў Вільні ад Новага Году адбыліся два паседжаньні язычаведнае сэкцыі і па адным паседжаньні сэкцыі гістарычнае і літаратурна-мастацкае. — Закончана парадкаваньне багатае Бібліётэкі Т-ва. — Т-ва ў апошнія гады зварачвала ўвагу на працу ў Беларускім Музэі ім. Івана Луцкевіча, у якім працаваў так-жа рад замежных навукоў-

цаў (праф. Станг з Ослё, прафэс. Фальк—Швэцыя, Дэ-Віля—Гішпанія і т. д.).

═ У Беларускім Студэнцкім Саюзе ў Вільні ад Нова'а 1936 году адбылося некалькі рэфэратаў, спасярод якіх дня 25. II. на тэму „Час і месца паўстаньня стара-крывіцкага (старабеларускага) літаратурнага языка“, і дн. 3. III. на тэму „Повесьці і апавяданьні беларускіх летапісцаў“. Прэлегэнт др. Я. Станкевіч

═ У выніку літаратурнага конкурсу на найлепшае апавяданьне, зарганізаванага месячным часапісам беларускай моладзі „Шлях Моладзі“ ў мінулым годзе, з пасярод агульнага ліку 17 апавяданьняў і новэляк, прысланых на конкурс, конкурсны суд прызнаў найлепшым апавяданьне Андрэя Чэмера „На родным палетку“. Апавяданьне „На родным палетку“ будзе надрукавана ў „Шляху Моладзі“.

═ 15. I. б. г. у саюзе польскіх літаратараў у Вільні адбыўся прысьвечаны беларускай літаратуры вечар („Środa Literacka“). З рэфэратамі ў польскай мове выступалі гр. А. Луцкевіч і мгр. Ст. Станкевіч. Першы прэлегент даў агляд беларускай літаратуры ў пэрспэктыве гістарычнай. Трэба шкадаваць, што рэфэрат ня выпаў удачна — ня быў сынтэтычны, прэлегент зашмат без патрэбы гаварыў аб дробязях. Другі прелегент, мгр. Ст. Станкевіч, зрэфэраваў стан бел. літаратуры ў Сав. Беларусі. Рэфэрат ягоны значна перавышаў рэфэрат папярэдніка, як сваей конструкцыяй, сынтэтычным уняцьцем, так і зьместам пераважна інформацыйнага характару, — дзеля чаго быў выслуханы з вялікім зацікаўленьнем.

═ Нашыя супрацоўнікі-песьняры: Міхась Машара і Я. Пачопка працуюць цяпер: першы над п'есай, мясцамі вершаванай, п. з. „Дзеці сонца“, другі над поэмкай „Рыбак і Русалкі“ — пабудаванай на беларускім народным фолькльоры.

═ Максім Танк, адзін з уталентаваных паэтаў Заходняй Беларусі, якога творы ўжо паказываюцца ў друкаваным выглядзе ў бел. прэсе ў Вільні, піша цяпер апавяданьне з сялянскага жыцьця, п. з. „Папярок загонаў“. Апроч таго піша поэму п. з. „Нарач“, у якой аўтар дасьць абраз беларускага „мора“ Нарачы, адмалюе жыцьцё беларускіх наднарачанскіх рыбакоў, іх барацьбу за свае нацыянальныя і соцыяльныя правы.

═ Кампазытар Казура напісаў опэру „Powrót“, у якой музыка — па стылю бізантыйска-царкоўная — пераплятаецца беларускімі народнымі мотывамі. Нпр. „Malitwa“ ў опэры мае мэлёдыю беларускай песьні „Быстра рэчанька“. — Опэра канчаецца беларускай песьняй „Ой пара дамоў, пара, ужо вячэрняя зара“, якую пяе пабеларуску народ вяртаючыся з поля.

---

═ Трэці Пленум Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў СССР адбыўся ў Менску дня 10—16. II. 1936 г. На пленум зьехаліся прадстаўнікі нацыянальных літаратур Савецкага Саюзу — паэты, празаікі, драматургі. Пленум прысьвечаны пытаньням разьвіцьця сав. літаратуры. На парадку дня былі даклады: Клімковіча і Александровіча — аб беларускай літаратуры, Сенчэнкі — аб паэзіі Украінскай ССР, Суркова — аб паэзіі РСФСР., Тагірава — аб башкірскай літаратуры. Выслухаўшы даклады і дыскусыі па іх, пленум прыняў адносна беларускай і башкірскай сов. літаратуры рэзалюцыі.

═ Да пленуму Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выпусьціла рад кніг з мастацкай літаратуры: „Анталёгія рускай паэзіі“, „Дзень другі“ Эрэнбурга, трэці том „Ціхага Дона“ Шолахава, „Як гартавалася сталь“ Астроўскага, „Вядучая вось“ Ульенкава (у перакладах на беларускую мову); першы том трохтомніка выбраных твораў Я. Коласа, другі том выбраных твораў Я. Купалы, трэці том (проза) выбраных твораў Міхася Чарота, поэма „Цені на сонцы“ і „Падарунак дзеткам-малалеткам“ Александровіча і інш.

═ Дзяржаўнае Выдавецтва БССР падрыхтавала 250 бібліётэчак з твораў пісьменьнікаў БССР дзеля раздачы ўчасьнікам пленуму; зарганізавала выстаўку літаратуры, выданай Д. В. Б. — У будынку дзяржаўнай бібліётэкі зарганізавана выстаўка выданьняў Бел. Акад. Навук. — У доме мастака саюз сав. мастакоў БССР зарганізаваў выстаўку каля 50 абразоў, гравюр і скульптур лепшых мастакоў і скульптараў БССР. — Дзяржаўная бібліётэка і бібліёграфічны інстытут ім. Леніна зарганізавалі выстаўку твораў каля 70 пісьменьнікаў СССР.

═ 15 лютага адбылася ў Менску чарговая сэсія Беларускай Акадэміі Навук, прысьвечаная справам арганізацыйным. Сэсія прыняла да ведама просьбу Горына звольніць яго ад абавязкаў сябры прэзыдыюму і прэзыдэнта Акадэміі, выбрала ў сапраўдныя сябры Акадэміі і на прэзыдэнта яе Івана Захар'евіча Сурту. Сэсія выбрала камісію (у складзе Сурты, Шчарбакова і Бурстына), дзеля апрацоўкі новага статуту Акадэміі.

* * *

Новавыбраны прэзыдэнт Белар. Акад. Навук І. З. Сурта нарадзіўся ў 1893 г. у сям'і селяніна-беларуса ў вёсцы Бяседавічы, Магілеўскай губэрні. У 1914 г. скончыў сярэднюю мэдыцынскую школу, у 1928 г. скончыў мэдыцынскі факультэт 2-га МДУ, у 1932 г. скончыў інстытут чырвонай прафэсуры прыродазнаўства. З ліпня 1932 г. да сьнежня быў віцэпрэзыдэнтам Бел. Акадэміі Навук. З канца 1933 г. Сурта працаваў наркомам аховы здароўя БССР. — Зьяўляецца сябрам бюро ЦК КП(б)Б і сябрам прэзыдыюму ЦВК БССР. Навуковыя заінтэрасаваньні Сурты накіраваны прадусім у прыродазнаўства.

Цяпер Сурта працуе над праблемамі гісторыі навукі прыродазнаўства і рэдагуе два разьдзелы Беларускай Савецкай Энцыклёпэдыі (біолёгіі і мэдыцыны).

═ Беларускаа Акадэмія Навук атрымала пісьмы ад унівэрсытэтаў Каліфорніі, Новай Зэляндыі, Канады, Славянскага Інстытуту Парыскага унівэрсытэту з прапановай устанавіць культурную сувязь і абмен выданьнямі. У прыватнасьці унівэрсытэты просяць прысылаць „Запіскі Беларускай Акадэміі Навук“, працы ў галіне флёры, фауны, мовы, мэдыцыны і гісторыі Беларусі.

У сучасны момант Беларуская Акадэмія Навук падтрымлівае сувязь і наладзіла абмен навуковымі выданьнямі з 200 унівэрсытэтамі, акадэміямі, бібліятэкамі і іншымі навуковымі і культурнымі установамі 36 краін сьвету. Сюды ўваходзяць Злучаныя Дзяржавы Амэрыкі, Англія, Францыя, Нямеччына, Польшча, Японія, Баўгарыя, Чэхаславакія і інш.

═ Інстытут Літаратуры і Мовы Беларускай Акадэміі Навук скончыў складаньне беларускага арфаграфічнага слоўніка. Слоўнік налічае 20 000 слоў. Падрыхтоўваецца вялікі руска-беларускі слоўнік у двух тамох, — 75.000 слоў. Першы том (зьмяшчае літары ад „а“ да „о“) ужо апрацаваны. Выдаецца беларуская навуковая граматыка ў трох частках. Першая частка (фонэтыка) вышла ў мінулым годзе. Складаньне другой часткі (марфалёгія) ужо канчаецца.

═ Інстытут Экономікі Беларускай Акад. Навук скончыў працу — статыстычна-эканамічнае апісаньне раёнаў БССР. Апісана 90 раёнаў і Менск. Увесь сабраны матарыял ўвойдзе у спэцыяльны зборнік „Статыстыка — эканамічнае апісаньне раёнаў БССР.

═ Археолёгічныя знаходкі. Археолёгічнымі экспэдыцыямі Бел. Акад. Навук у працягу апошніх шасьці год былі знойдзены і сабраны на тэрыторыі БССР некалькі тысяч касьцей. Цяпер у БАН адбываюцца над імі досьледы. Палеонтолёгі, з учасьцем старшага палеонтолёга Усесаюзнай Акадэміі Навук, Грамова, што спэцыяльна прыехаў ў Менск дасьледжываць косьці, сьцьвярджаюць вялікае навуковае значэньне археолёгічных знаходкаў. Разбор касьцей ужо даў магчымасьць вызначыць, якія жывёліны былі і спажываліся ў харчах

чалавекам у даўнюю пару. Удалося ўстанавіць, што ў мястэчку Юравічы на рацэ Прыпяці, Мозырскага раёну, знаходзілася стаянка чалавека старажытна-каменнага веку. Чалавек паляваў на мамантаў. Стаянка налічвае 25 - 30 тысяч год. Асабліва цікавымі ёсьць косьці, знойдзеныя ў гарадзішчы каля вёскі Загорцы на рацэ Ловаці, Мехаўскага раёну. Тут вадзіліся зубры, алені, бабры, лосі, а з хатняй жывёлы — бык дробнай пароды, бараны, коні. Устаноўлена, што хатні бык паявіўся за 3 тысячы год да хрысьціянскай эры, а гарадзішча адносіцца да першых вякоў гэтае эры, — у эпоху раскладу радовага грамадзтва. Із знойдзеных касьцей маманта для гэолёгічнага музэю Бел. Акадэміі Навук складаецца шкялет маманта, а з касьцей жывёлы адбіраюцца для музэю калекцыі.

═ У выданьні дзяржаўнага выдавецтва БССР вышла з друку ў перакладзе на беларускую мову першая кніга (5—8 тамы) поўнага збору твораў Максіма Горкага. Ахапляе яна творчасьць пісьменьніка за час 1901—1905 гады. Усё выданьне твораў — 25 тамоў — разьлічана на тры гады.

═ Усебеларускі (Сов. Беларусь) радыёфэстываль адбыўся паміж 25. II. і 5. III. Фэстываль арганізаваў радыёкамітэт у Менску. Выступалі лепшыя драматычныя і музычныя выканаўцы радыёкамітэта. Перадачы трансляваліся з работніцкіх клюбаў, фабрык, заводаў, калгасаў і т. д.

═ У Гомелі адкрыўся навукова-дасьледчы трахоматозна-акулістычны інстытут.

═ Народны камісарыят асьветы БССР правёў у раёнах БССР сэмінары з гісторыі народаў СССР, дзеля павышшэньня кваліфікацыі настаўнікаў трэцяе і чацьвёртае клясаў пачатковых школ. Сэмінарамі было ахоплена каля 5000 сельскіх настаўнікаў.

═ У сувязі з XVIII гадаўшчынай чырвонай арміі „Усебеларускі цэнтральны гістарычны музэй" у Менску зарганізаваў выстаўку пад наз. „Чырвоная армія ў выяўленчым мастацтве". На выстаўцы 246 фрагмэнтаў абразоў сав. мастакоў. Падобная выстаўка зарганізавана ў Пэдагогічным Інстытуце (унівэрсытэцкі гарадок).

═ П'еса беларускага сав. пісьменьніка Міхася Чарота „На Купальле" апрацавана музычна кампазытарамі Тэраўскім і Цікоцкім. Ёсьць яна першай беларускай савецкай опэрай, пабудаванай на багатым беларускім народным фольклёры.

═ У Менску адбылася сэсія г. зв. вучонага савету ўсесаюзнага навукова-дасьледчага інстытуту балотнай гаспадаркі.

Выслухана 13-цаць навуковых дакладаў. Сэсія прыняла прапанову інстытуту аб ахваце ў бягучым годзе досьледамі ня менш 100 калгасаў, у тым ліку 50 у БССР, з тым, каб дабіцца ў іх лепшых ураджаяў.

═ У Менску пачала працаваць дзяржаўная капэля БССР. Заданьнем капэлі — знаёміць працоўныя масы з народнай творчасьцю, клясычнай спадчынай, з творчасьцю кампазытараў БССР і іншых савецкіх рэспублік.

*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

*Рэдакцыйная Калегія: М. Шкялёнак, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*



## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Беларуская Борць**, № 7 (12), 1935 і № 1—2, 1936. Вільня.
**Наша Воля**, № 1, 1935, і № 1, 2, 3, 4, 1936. Вільня.
**Новы Шлях**, № 2 (17) 1936. Вільня.
**Записки Наукового Товариства им. Шевченка**, т. CLIII, 1935. Львоў.
**Дзвони**, ч. 12, 1935, ч. 1—2, 1936. Львоў.
**Назустріч**, ч. 4, 5, 1936. Львоў.
**Рідна Мова**, ч. 1, 2, 3, 1936. Варшава
**Наш Світ**, ч. 1, 2, 3, 4, 5, 1935, ч. 1, 1936. Луцк.
**Український Бескид**, ч. 1—8, 1936. Перамышль.
**Центральная Европа**, № 1, 1936. Прага.
**Prehled**, č. 20, 1935. Прага.
**Život**, č. 21, 24. 1935, č. 1—2, 3, 4, 1936. Прага.
**Slovansky Prehled**, č. 10, 1935. Прага.
**Katolik**, č. 2, 1936. Прага.
**Oriens**, сшыток 1, 1936. Кракаў.
**Środy Literackie**, № 1,2,3, 1935. Вільня.
**Włóczęga**, № 5—1, 1935—1936, № 2, 1936. Вільня.
**Poprostu**, № 11, 12, 13, 14.

### Ад Рэдакцыі:

Друкаваньне наступнай (2-й) кніжкі „Калосься" пачнецца 1-га красавіка. У сувязі з гэтым, просім паважаных супрацоўнікаў парупіцца прыслаць матарыялы ў тэрміне.

# КАЛОСЬСЕ

## ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

КНІЖКА 2




ВІЛЬНЯ 1936 ГОД

Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2.
Складка на год—2 зал., на паўгода—1 зал.
Адна кніжка — 50 гр.
Часапіс выходзіць раз у тры месяцы.

## Зьмест кніжкі 2(6) „Калосься“.



Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 2(6)** **1936 г.** **Год II**

МАКСІМ ТАНК *)

## НАРАЧ
### (поэма)

Прадсьпеў.

Прыйдзём яшчэ, вёска, твае песьняры,
ня з торбаю песьняў жабрачых;
бярозавым смыкам, на струнах зары,
з табой заіграем іначай...

І сядзем на прызбу, на новы парог,
як з песьняй, з вясёлым аблічам,
вярнуўшыся з дальных этапных дарог,
хоць шмат каго з нас не далічыш...

Ты зьвесіш чупрыну саломенных стрэх,
пад песьні і шум разгавораў
і выплывуць зоры на сіні начлег,
на мокрую пашу вазёраў, —

закінуць ў глыбокае Нарачы дно
свой невад — запусьцяць у тоні...
А месяц адвострыць сталёвы нарог:
араць неба чорныя гоні...



*) Максім Танк (нататка аўтобіографічная): радзіўся ў 1912 г., у верасьні, у в. Пількаўшчыне, Пастаўскага павету. Вучыўся перш у расейскай гімназіі, пасьля ў беларускай, тады ізноў у расейскай аж да вастрогу ў 1932 г. Пісаць пачаў у 1928 г., будучы ў Радашкаўскай бел. гімназіі. Друкавацца пачаў у „Часапісе для ўсіх”, які выходзіў пад рэд. др. У. Шырана і які з першага нумару быў спынены. Падобны лёс спаткаў і ўсе іншыя часапісы, у каторых пробаваў я сваей поэтыцкай сілы. Вершы, якія сяньня друкуюцца, паходзяць пераважна з 1935 г, які ў маім творстве быў рашучым. У гэтым годзе бліжэй я падыйшоў да жыцьця сялян, з каторымі быў зьвязаны з малых год, а такжа да іх інтарэсаў і да барацьбы за свае правы.

І між польных дарог і глухіх каляін
ноч дымам апусьціцца чорным,
а кволае лісьце бяроз і асін
абвяжыцца хусткай узорнай.

Ды вецер прачнецца, і вугальле зор
пасыпіцца ціха на сёлы;
і ткаць будзе вецер між ніваў і гор
з шаўковага кужалю золак.

Прыйдзём яшчэ, вёска, твае песьняры,
як з сонечнай песьняй гарачай
так з сэрцам пявучым, на струнах зары,
з табой заіграем іначай.

1.

Гэта было ў тую ноч...
як расьцьвілі верасы,
як расьцьвілі у бары
з звонам апаўшай расы.

Сетку Тацяна пляла,
ў хаце так ціха — аж страх!
думы як ніткі ў яе
рваліся моцных руках...

Бацька штось доўга ня йдзе
(скача лучыны агонь) —
шмат каго ў госьці ўзяла
чорная Нарачы тонь...

Гэта было ў тую ноч...
з звонам апаўшай расы
ў цёмным сасновым бары,
як расьцвілі верасы.

Бедная доля мая,
доля дачкі рыбака,
ў хаце надгніўшай крывой
бацькі майго батрака...

Летам у найму ідзеш —
ў панскім багатым двары
крукам сагнуўшыся жнеш
жыта — калосься — зары...

Гэта было ў тую ноч...
як расьцьвілі верасы,
як расьцьвілі у бары
з звонам апаўшай расы.



2.

Ой ды на зары ды на возеры сінім
ціха плакала
бела кагарка, ціха...

Ў грудзі біліся хвалі мокрыя звонка,
крыльля белыя
ды ламаючы з пенай.

Ўспамінала мо сваю моладасьць птушка, —
дні схаваныя
на дне возера цёмным.

Ці згубіла мо шчасьце сіняе ў пене,
у трысьці густым
шэрай восеньню ў буру, —
як часала ноч косы чорныя ветрам
ды над берагам
у сасоньніку медным.

Ой ды на зары ды на возеры сінім
ціха плакала бела кагарка,
ціха...

3.

Нярaз здавалася Тацяне: —
ідзе хтось ціха ля паркану,
нат крокі чуліся ля хаты.
А можа не?..

З вярбой кудлатай
абняўся месяц над затокай
і дзесь за вёскаю далёка
начлежнай песьні блудзіць рэха...

знаёмым шопатам і сьмехам
на шыр палёў васеньніх кліча,
дзе толькі меднае іржышча
і гладзь крыштальная вазёраў,
дзе мые ноч каралі зоры...

Ды ціха, ціха...
толькі думы
васеньні сон цалуе, цешыць,
а сетку новую бяз шуму
вязаць давязвае месяц.
— — — — — — — —

І я няраз ў мурох вастрожных
па шэрым полю сумаваў, —
па тых бярозах прыдарожных,
што на этапах спатыкаў.

Няраз я думаў: як вярнуся,
ізноў шлях пройдзены прайду
з кіём па вёсках Беларусі
і, пад дзяругаю вастрожнай,

шмат вольных песьняў прынясу.
Я іх разсею па дарогах,
ў грудзёх разбуджаных братоў, —
яны ўскалосяць ў сінім полі
у пераразвоне каласоў...

Стальная зрэжа іх машына,
ў стальныя звонкія цапы
падасьць іх весела дзяўчына...
сны — песьні
зжатыя ў снапы.

4.

— І госьця я прывёў, Тацяна, —
сказаў Сымон, —
пераначуе, пойдзе рана
ў дарогу ён.

Перакусіць-бы трохі трэба...
На дно вазёр
расой асыпалася з неба
нямала зор...

Імгла як хусткай абвязала
затоку, тонь...
зблудзіць зблудзілі-бы бяз мала,
каб не агонь...

Ну што-ж глядзіш?.. Давай нам есьці!..
Ну і часы!
Стаіш дзень цэлы, ня прысесьці
каля Касы...

Ня тое, што было калісьці, —
ваду ўзялі,
і сяньня камень будзеш грызьці
з сырой ральлі...

Незнаёмы

Ды што-ж, ці сілы у вас мала? —
склікайце збор!



Ды бараніцца-б уставалі: —
ня даць вазёр!..

Сымон

— Ўсё пачалося гэта летась. —
Садзіся! еш —
я раскажу табе пра гэта,
паслухай лепш.

5.

Як умерзла зямля,
лёдам Нарач як шклом занялася.
Зімы яшчэ ня было,
той год да каляд
цягнулася чорная восень.

У суседа гармонь,
шмат сабралася хлопцаў і дзевак...
Мы — мужчыны — ў кутку
гаворым пра тонь,
гаворым пра хлеб, пра насевак..

Ды з кірмашу прыйшоў
посьле солтыс вясковы Цяцера,
плакаты ў вёску прынёс.
Дзесяткі галоў
схіліліся ўміг над паперай.

„Абарона... ды рыб"...
Ў скулу думалі солтыса ўдарыць.
Ды самі ўзяліся чытаць,
Рыгор і Архіп,
а шум галасоў, нібы Нарач

разшумеўшыся, ў столь
ўдарыў хаты надгніўшай, батрацкай.
Што-ж, хай прыдуць... бяруць...

— — — — — — — — —

Ды пара ужо спаць.
Старасьць, бачыш, і сілы падважыць.
А хочыш — дык слухай яе:
табе расказаць
Тацяна нягорай раскажыць...

6.

Тацяна
А сам з далёку?..

Незнаёмы
Я ня маю сваей хаты...
дзе праца ёсьць, там і начлег.
Хаджу ад вёскі і да вёскі, —
часамі дождж, завея, сьнег...
Нямала ўжо прайшоў дарогаў
і ў дзень і ў ноч пад шопат зор...
часамі скутымі рукамі
абняць хацеў палёў прастор...

Тацяна
Ты вязьнем быў? Ідзеш з вастрогу?..
пачнеш нанова,... ціха жыць...

Незнаёмы
Іду ізноў старой дарогай,
іду ды толькі не спачыць,
а зноў будзіць народ сярмяжны,
каб косы добра адвастрыў,
бо час касьбы ўжо недалёка, —
ды выйсьці трэба да зары
і дзень падняць з пад скібаў грунту;
хай выйдзе нас мазольных рацъ,
каб веснаход і з песьняй бунту
між ніў разбуджаных спаткаць...

7.

І ціха ноч над вёскай дрэміць,
нат вецер сьпіць і не гавора
ды медным лісьцем верба сьцеліць
зямлю ў асеньнія узоры.
А месяц ў чорным павуціньні
злавіўшы зоры нібы злодзей
спусьціўся сьцежкай цёмна-сіняй
і ціха ў трасьнікі заходзіць...
А Нарач сьпіць, не шалахнецца —
не зазьвініць лянівай хваляй...
памалу возерам пляцецца
васеньні дзень з васеньняй далі.

Вільня 1936 г.

*Канец часткі першай.*



# Бель

З іржавай балотнай вады дзе-недзе чарнелі старыя пакрытыя мохам альховыя пні, мяйсцамі паросшыя атожыльлем і зялёным прошлагоднім ягаднікам. На высокіх курганох - „стаўбунох" затлела зялёная курганіца. Зрэдка, быццам ня веручы яшчэ вясеньняму сонцу, павылазіла смычка — ды лянiва на вадзе распраўляў шырокае зялёнае лісьце лопух.

— І сюды ўжо зайшла вясна — думаў Пятрусь — гледзячы на паросшае алешнікам і лазой балота, якое хто ведае, куды цягнулася. Ні Пятрусь ні яго бацька ўсяго не прайшоў.

З крыкам зрываліся з пад ног кнігаўкі, дзесь над зялёным кажухом лазы бляяў чэпік адзін, другі... З шумам праляцела над галавой стада дзікіх качак.

Сонца вышэй паднялося над лазой. Мінула цёмна - зялёны альшэўнік і сінюю паласу бярэзьніку — Бель.

Пятрусь памалу ішоў, мясцамі глыбока западаючы ў раскісшае балота. Падыходзячы бліжэй да Белі, курганоў было больш, хмыразьнік гусьцеў, затое бярэзьнік — больш цяглы і раўнейшы.

— З гэтай бярозкі аглобля была-б — думаў Пятрусь. Затрымаўся і слухаў.. Толькі вецер ды балота гаварылі сотнямі збуджаных галасоў. Толькі вецер цёплы, вясеньні, зялёны. Вясной мала хто заходзе ў Бель, хіба лясьнік на цяцярукі...

Вострае лязо тапара звонка ўрэзалася ў камень бярозы раз, другі...

— Будзе ручка ў барану, аглобля, зьвяно... калёсы — а то зусім няма на чым ехаць..

— Раз, два, тры... — лічыць рэха удары тапара. Сыпяцца мокрыя, бярозавыя трэскі...

Але і стук... — чорт-бы яго пабраў — думае Пятрусь — заходзячы з другога боку.

З балота наляцеў зялёны вецер, мацней закалыхаўся бярэзьнік Белі і быццам ад гэтага п'янага вясеньняга шуму пахілілася падсечаная бяроза, трэснула ў камлі, сьцебанула пазялянеўшым венікам белыя, рабыя пні старых бяроз і аціраючыся аб іх, ламаючы вецьце зялёным суччом, як зялёнай чупрынай зачапілася за сук старой бярозы.

І зноў звонка застукаў тапор. З кожным новым ударам прабягала сударга па белай кары бярозы ды мацней выгінаўся ў дугу зачэплены яе верх.

Дзесь далёка, на другім канцы Белі, зашумеў вецер. Шум прыбліжаўся. І не чакаючы на гэты шум — на раскалыханую сьмерць, аддзеленая ад пня бяроза сарваўшыся высока падкінула камель і з стогнам лягла на мокрую пасьцель балота.

— — — — — — — — — — — — — — — —

Цэлае лета ляжаў Пятрусь хворы.

— Каб хто слабейшы, даўно выцягнуў-бы ногі — гаварылі ў вёсцы. Шрот глыбака пазалазіў. Раны гнаіліся. Перш яго лячыў Мікіта, канавал, нейкім карэньнем, пасьля баба Аўдоцьця загаварвала... Досыць таго, што „вылізаўся“.

— Відаць у бацьку ўдаўся, і таго доўбняй ня прыглушыш— гаварылі на вёсцы...

Зімой, пасьля каляд, Пятрусь пачаў зьбірацца ісьці на службу. Сваей зямлі мала, ды якая і была гаспадарка і тую хвароба зьела.

Куды Пятрусь пайшоў, і сяньня ніхто ня ведае. Праўда, пасьля яго на другі дзень прапаў дзесь і лясьнік Якім. Можа ваўкі, а мо' так дзе прапаў. Зіма той год была сярдзітая.

Гаварылі сяляне, што бачылі сьляды Пятрусёвых ботаў дзесь каля Белі... Ды мала што гаварылі. Бель не малая, а сьвет яшчэ большы...

— — — — — — — — — — — — — — — —

Ціха крадучыся, пераклічкай жаб, звонам камароў напаўзае нац балотам вясеньняя ноч...

Вылазіць яна з пад зачараванай папараці, з трасьнікоў, з пад шырокіх і гладкіх лісьцяў бабоўніку, з пад раськіненых лап дзядзеўніку, з пад курганоў вылазіць чорная балотная ноч з Белі...

А на захадзе доўга тлеюць недагарэўшыя стагі хмараў.

Вільня—Пількаўшчына
Вясна. 1936 г.

## ЖАЎРАНАК

Гэта было рана —
рана,
паласой ішоў вузкой —
вузкой...
Нібы шэрай воўнай даль заткана
мяккаю вясеньняю імглой.

Думкі нібы хмары —
маіх вечных мараў сны
сабраліся на маршчынах твару
у вясеньні, цёплы дзень вясны.

Толькі над вузкім загонам
звонам
зазьвінеўшых сьлёз
з бяроз
жаўранка песьню з пераззвонам
ветру хтось у грудзі ўнёс.



Што вітаеш з песьняй?
Мо' з гары ляпей відаць?
Можа ужо тлее на прадвесьні
новаю зарою неба гладзь?

Шмат раз усхадзілі ў гору
к зорам —
не глядзець-жа век з мяжы,
з мяжы...
Што-ж ты раззвінеўшыся гаворыш, —
сваей песьняй-звонам раскажы!

Пількаўшчына 16-III-35.

## ВЯСНОЙ

Прысьвячаю т. Н.

Здарылася са мной дзіўнае, сьмешнае, —
не расказаў-бы таварышам ў цэлі.
Ў полі і то пэўна-б нівы шырэйшыя,
нівы гусьцейшыя звонка-б шумелі.

Помню як сяньня чорнымі бровамі
сны мае ўзмахам адным абарвала,
быццам-бы рэха барамі сасновымі
песьняй бяз голасу закалыхала...

Ўсё-ж-ткі і я быў нязломкам, падумаю, —
(сам нат ня ведаю, як гэта сталася) —
шмат раз хадзіў і дарогай вастрожнаю
нат з пад эскорты ўцякаць удавалася.

Глянула проста вачамі шалёнымі,
быццам ударыла звонам вясёлак, —
гэтак вясной над палямі, загонамі
толькі глядзіць загараючы золак.

Здарылася са мной дзіўнае, сьмешнае,
не расказаў-бы таварышам ў цэлі,
бо нат калосьсе, ў полі найменшае,
сьмехам сваім каласістым шумела б.

Вільня 9-IV-36 г.

# ДАРОГАЙ

Йдзе батрачка маладая
жыта жаць у панскі двор,
вочы хусткай выцірае, —
хусткай, што купіў Рыгор.

Эх і твар штось невясёлы.
Думы, думы — каласы!
Што-ж ня цешыць вас і золак
расьцьвітаючай расы?..

„Каб кахаў-бы — не пакінуў“
і ў вастрог-бы не пайшоў...
думу думае дзяўчына
ў жоўтым шуме каласоў.

Як адходзіў, дык казаў ей: —
хутка вернецца вясной...
Ўжо няраз маёвай ночкай
асыпаўся цьветабой...

Пакахаў відаць другую —
пра яе няраз ён пеў...
сэрца — скрыпку залатую
ўдарыў збуджаны напеў.

І жывыя пералівы
паліліся у прастор
песьні вольнай і шчасьлівай,
што калісь пяяў Рыгор.

І напеў яе вясёлы
зьліўся з шумам, з звонам ніў,
быццам хтось гарачы золак
серпам ўдарыў, разбудзіў.

Гаварыла гэта песьня,
што парвуцца кайданы
і ў батрацкай хатцы цеснай
ўбачым сьвет другой вясны.

І паверыла дзяўчына,
што шумеў калосься бор,
што з расьцьвіўшаю рабінай
пэўна вернецца Рыгор.

1936 г.





## З ЦЫКЛЮ „ПАДАРОЖЖА“

*(Працяг)*

### XXVI.

Куды цяпер? — Махнём да
„Шляху“,
Паклон Язэпу занясём.
Мы пад яго гасьцінным дахам
Ня раз былі ужо гасьцём.

Прыбаў-жа шагу крыху муза!
Шырок і гладак тратуар.
Набок!.. з дарогі! таўстапузы...
Ідзе тут з музай пролетар.

— Здароў Міхась! — і бачу...
Хведар
Сьмяецца ярка ў вочы мне —
— Здароў братко!.. ах, каб
ты ведаў,
Як я жадаў спаткаць цябе! —

— Ці ты адзін? — А дзе там...
з музай,
— А разагналісь так куды? —
— Ну бачыш, гэта вось
трылуза
Вядзе да „Шляху Маладых“.—

А што чуваць там на
Парнасе?
Ці рушыў „Нёман“?.. Як
„Куток“?
— Кішэнь дзіравы бачыш
ў Стася,
А наш „Куток“ —
Загналі ў самы кут браток.

— Й нічога ў хвалях ня
відацца, —
Як кажуць нашы пэсымісты,
Дык як пяяць? —
І грэх сьмяяцца...
Эх, брат!
Давай — зайдзём, ды выпьем
чыстай.

Бо так жывём!..
Як-бы гарох той прыдарожны,
І сум кругом. —
— Спакінь яго!..
Ня кратай боль.
Прыпомні наш „Парнас“ ва-
строжны.
— Ты харкаў кроў... —
А быў вясёл'!?..

У нас ў грудзёх ёсьць многа
веры
І сілаў знойдзем шмат яшчэ:
І будзень наш — сягоньня
шэры
Хаця ня хоча — расьцьвіце!

### XXVII.

Давай, лепш сьвісьнем на
Пэгасаў,
Ды зноў да крат махнём
туды..
Там часьць душы засталась
нашай
І многа дум — за тры гады.

Мінаем, бачыш, пляц базарны,
А вось і гэты мур закляты,
Грамадзкі сорам нашых дзён!
Стаіць пад сумна-жоўтай
шатай
Нічым няўзрушан і сьцюдзён.

У вокнах краты, краты,
краты —
Худыя твары везьняроў...
О людзі!
Навошта гэткі бой зацяты
І столькі мук... і мук —
братоў?!

XXVIII.

О, ты вастрог!
Ў сьцянах тваіх панурых,
У час даўгой, даўгой начы,
Вучыўся я змагацца з бурай
І крыльлі тут расьціў душы.

Тут рос мой дух... мацнела
вера,
Ў тваіх мурох пазнаў сябе,
І песьню першую нясьмела
Тут прапяяла муза мне...

Вось ён ізноў, сымболь
няволі,
Прыют бунтуючых душой.
Я веру — з мук тваіх і болю
Засьвеціць сьвет душы
людзкой.

Мне сьмешны вы — о людзі,
людзі!
Што ваш вастрог і старажы,
Калі ён вольным вечна будзе—
Ён — Дух!..
І несьмяротны і жывы.

XXIX.

Гэй, гэй! скрылаты наш
Пэгасе,
Яшчэ нам службу заслужы!
Узмах адзін — мы на
Парнасе,
На тым вастрожным, як тады.

Тут пастарому ўсё, як трэба:
Наўкола мур і будкі дзьве,
Кусочак сіні, сіні, неба —
Вартоўнік збройны на сьцяне.

Гарод прыгожых красак...
траўка.
Вузкая сьцежачка кругом.
Наўзбоч алька... Пад ею
лаўка
І тры таполі над муром.

Па два у рад, па сьцежцы
гэтай —
Як мы калісь—адзін за адным
Усьцяж ідуць да нейкай мэты,
Усьцяж тaруюць шлях другім.

XXX.

А вось і кут наш гэны слаўны!
І тая „цэль“ ў канцы муру.
Дзе мы натхненьнем усхваля-
ваны
Ляпілі звонкіх „жаўрукоў“.

І „Веснапесьні“ тут радзіліся
І „Зорны шлях“ сьвяц ў сюды,
Часамі мы тут весяліліся,
Часамі плакалі з нуды.

Далей „Шанхай“ і лёхі тыя,
Дзе спатыкаліся з табой
І думы нашы маладыя
Кармілі песьняй і красой.

Вось на муры, ў самым куце,
Мой верш нясконччаны відаць:
Якая-сь думка аб пакуце, —
Майго пабыту тут пячаць.

XXXI.

Стаім...
А міма, доўгаю чаргою,
Праходзяць дні загінуўшыя тут:
Ціхія, бурныя парою,
З сьлядамі ўздымаў і пакут.

Іх многа, многа з шэрым
зьместам
І нат бяз зьместу ёсьць
зусім, —
Калі вастрог бываў так
цесным,
Што задыхаліся мы у ім...

За днямі поступ'ю нясьмелай,
Начэй з бяззонніцай паход;
За імі: сум, туга, зьнявера
І дум, і мрояў карагод.



Праходзьце цені ў процьму
далі!
Мінулі вы... Ўспамін — маўчы!
Навошта краtаць боль і жалі,
Што ўсьцяж крываваяцца
ў душы.

XXXII.

Але ўжо час далей нам
Бывай вастрог! [рушыць.
Бывай — Парнас!
Істрыць Пэгас ў чаканьні
вушы,
Назад мой пес, вывозь-жа нас!

— Бывай Міхась! — Куды ты
Федзя?
— Выбач, братко, да ўчобы
трэ —
І так з табой, Міхась,
заезьдзіў
Я тут гадзіны пэўне дзьве...

Бывай Пэгас!
Ты волен братка,
Цяпер мы з музай у дваіх
Пайдзём далей па вулцы
гладкай,
Туды — да „Шляху Маладых“.

Адведаць мне прыемна надта
Цябе, Язэпе, дружа мой!
Ў тваім кутку люблю я братка
Спачыць і целам і душой.

Твае трывогі мне знаёмы,
І хворы мы аднэй бядой.
Чакай! — убачым Яе дома —
І незалежнай, і жывой!

XXXIII.

Завальна, — вуліца такая,
Пры гэтай вуліцы ёсьць дом...
Яна гняздо сабе зьвівае,
Вось там —
Пад першым нумаром.

І нат нятолькі ў гэтым доме
Відацца тут Яе сьляды:
Іх знайдзем шмат, па месьце
цэлым
Растуць, як з дожджыку
грыбы.

Хоць мы, наогул, бедны
зьместам,
Але ня формай устаноў
(Калі жадаеце, дык зрэшта,
Іх палічыць я ўжо гатоў):

„Нац-Камітэт“ і „Культ-
Прасьвета“
І „Тэ. Бэ. Ша.“ —
„Крыніца“, „Край“ і „Бел.-
Газэта“
І „Самапомач“, і „Пчала“.

Кнігарні тры (хоць кніжак
мала),
„Шлях Маладых“ і „Інстытут“
І іншых цэлая навала,
Нат' не пералічыш усіх тут.

XXXIV.

Друкарня імені Скарыны, —
Пакой на лева №—3
Станкі... наборы... стук
машыны,
І хварбай пахнуць друкары.

Ня першы раз сюды
прыходжу —
Тут ўсё знаёма крыху мне.
Ізноў цябе, Язэп, знаходжу,
Ў кутку, за працай, пры вакне.

— Здароў Язэп!
— Адкуль ты братка?
— Як бачу, госьць я нечаканы?
— Але жаданы, —
Заўсёды ты, Міхась, між
намі. —
І я, як трэба па парадку,
Вітаюсь ветла з друкарамі. —

Ну што чуваць?
Ці ёсьць навіны?
І як далей ідзе ваш „Шлях“?
— Брыдзём тэй самай
каляінай,
Нялёгка робім кожны шаг.

Але затое саматугам
І незалежны ў працы мы.
— Вяліка ваша брат прыслуга
І Ей — і Маладым.

XXXV.

А дзе-ж рэдакцыя, рэдактар?
Куток мне гэны пакажы,
Дзе часта муз якісь аматар
Нас расьпінае на крыжы.

„Мяцежны“ зьменіць на
„гульлівы“
І ўсё „зігціць“, „блішчыць“ —
уміг
І так паправіць „стыль“,
матывы,
Што не пазнаеш дум сваіх.

— А вось туды, праз тыя
дзьверы,
Калі цікавішся — пайдзем —
Каморка цесна... Сьцены
шэры.
Два крэслы, стол
і кош вялізны пад сталом.

Ах гэты кош... Кош рэдак-
цыйны!
Ён мне знаём,—знаём здаўна.
Страшней за чорта, ён
праціўны
Для маладога песьняра.

А колькі тут надзей схавана,
І думак кінутых мадзець!
І часам, ліра абарвана
Заледзь пачаўшая зьвінець.

XXXVI.

Нясець Язэп мне тэчку з кута,
Вялізна... вагай можа з пуд,—
— А вось браток мая пакута,
Вось колькі вершаў вашых
тут.—
Саджуся я
І разглядаю матар'ялы...
А колькі тут сабрана іх!
Вяршоў, паэмаў, песьняў,
драмаў,
Прыгожых, моцных і слабых.

У кожнай драме, вершу,
прозе
Усьцяж Яна — і для Яе,
Яшчэ хтось кажа, што ня
зможым
Мы нашых бед у барацьбе.

Вось наймалодшы з нас —
Бярозка
І шмат другіх яго гадоў;
Іх песьні — сьветлая дарожка,
Паміж расквечаных палёў.

Далей:
Казлоўшчык, Жук, Улад-
Ініцкі,
Язэп Вількоўшчык і Бартуль.
Ў запале шчыра паэтыцкім,
Кідаюць град скрылатых
куль.

І Хведар часам тут зьмяш-
чаець,
Як ў прыстань „Гмахаў-
Караблі“
І шмат другіх... ўсе апяваюць
Яе разгон і рытм жывы.

XXXVII.

Але разгледзіць папарадку
Язэп ўсяго мне не дае:
— Ты не абедаў пэўна братка?
Дык, калі ласка, да мяне...



У кут ізнова гэту тэчку —
— Абедаць? —добра, я —гатоў!
(Ня варта, бачыш, рабіць
спрэчку,
За пару чарак і бліноў)

Я апяваць абед ня стану,
Хоць не сакрэт, але ляпей
Ня робіць ім гэтай рэклямы:
Не адабʼюцца ад гасьцей!
— — — — — — — — —
І па абедзе, як найлепей
Я на тапчан спачыць саджусь
І доўга гутарым з Язэпам,
Пра працы люд і Беларусь!
— — — — — — — — —

XXXVIII.

Тапчан зялёны — на пружы-
нах —
Сваей выгодай мне знаём.
(Ужо ня раз я спаў на нём),
І рыцар гэны бяз дружыны,
(Што мы Пагоняю завём)
Над тапчаном
Таксама добра мне знаёмы
(Работы жонкі Найдзюковай).

XXXIX.

Спачыць прыемна — кожны
знае,
Хто кончыў працу і зьнямог,
А наш спачынак, нас чакае,
На ўзьбярэжжу перамог.

Дык разьвітаемся з Язэпам
І зноў далей ў вандроўны пуць.
Бяздзейнасьць ёсьць вялікім
грэхам
А за спачынак — асьмяюць.

Далей, ізноў далей мы рушым;
Адведаць трэба і другіх
Мы толькі Ёй — працоўнай
служым;
Ня знаем лепшых і благіх.

Ня знаем мы: —
Нац-дэмаў і хадэкаў,
Ніякіх „філаў“, ані „ізмаў“,
Усьцяж шукаем чалавека,
Што служыць скрыўджаным
і лішнім.

Яму жадаў-бы быць я братам,
На кожнай сьцежцы і шляху
І праз жыцьцё ішоў-бы разам
І па гарэ, і па лагу.

Але далей!
Вось „Тэ. Бэ. А.“ —
Кіруй жа муза, як прасьцей,
Ты там таксама ўжо была,
І знаеш мейсца і людзей.

XL.

Мястовы сад... Нам па дарозе.
Зайсьці?—ну як тут не зайсьці!
Здалёк ён надта ўжо прыгожы
І томна дрэміць май ў лісьці.

Наўкол прыгожай абгародкай
Зялёны сад абняў тынок
І дрэмле ціха і салодка,
Ў лісьці вясьняны вецярок.

Дарогі, сьцежачкі, дарожкі;
У кожны кут, на ўсе бакі
Пясок ірдзіцца ў сонца косках,
І залацісты, і мяккі.

І кожны куст пакрыты бельлю,
На кожнай клюмбе красак рой.
Пад дрэвы сьцеліцца мяцельлю
Каштанаў пышных цьветабой.

Людзей ня шмат: — паненак
крыху,
Два - тры студэнты каля іх.
Адных дзяцей тут ёсьць
бяз ліку:
І з мамкай, з нянькай і самых.

Усе прыбраны надта ладна,
Вясёл іх сьмех і галасы.

І так прыгожы і павабны,
Як краскі гэтыя вясны.

Усе вясёлы і шчасьлівы;
Жыцьцё іх радасьцю зьвініць.
А праз паркан на іх пужліва
Хлапець абарваны глядзіць.

XLI.

Калі зямля, ты станеш садам,
Бяз меж, парканаў і тынкоў
І жыць пачнём мы іншым
ладам,
Без беднаты і багачоў?

Калі заціхне бой заўзяты,
Ў людзкой сям'і, па ўсей зямлі?
І зьнікне зьдзек, прымус
і краты,
І спынім торг сабой — калі?

Калі улягуцца пытаньні:
Навошта, як, калі і што?
І сьцежку праўды і каханьня
Знойдзе жыцьцё?

XLII.

Ўжо сонца нізка... У паветры
Лісткі прахладаю шумяць.
Гадзіньнік звоніць на катэдры—
Гадзіну пятую чуваць.

Далей!
Завернем каля рэчкі,
Праз мост — да „Тэ. Бэ. А." —
туды.
Тут Вільня простае мястэчка,—
Гняздо працоўнай беднаты.

Няройны брук і вузкі вулкі.
Бяз лоску мур... Хаднік —
аршын.
І рух ня той — ціхі, ня гулкі,
А крамкі брудны—бяз вітрын.

Вось паварот і вулка тая.
Лічу парадкам нумары
І шапкай ветліва махаю,
Акну адкрытаму ў гары.

Бягу па сходах... разглядаю,
На дзьверах надпісы здалёк:
— Тут „Тэ. Бэ. А." — далей
чытаю —
І „Родны Край" і „Літ-
Куток". —

XLIII.

Чуваць гамоняць за сьцяною,
Бяз спынку гутарка плыве.
Так ручаёк бруіць вясною
І ў даль ваду сваю нясе.

Скрыпнулі дзьверы — мы
ў пакоі.
Заціхла гутарка на міг
І я ківаю ўсім па волі —
Пераглядаючы усіх.

Якраз, чаргой сваей, паволі,
Як трэ паседжаньне ідзе:
Пытаньні, гутарка, прамовы,
І без чаргі, і па чарзе.

Апошні я ужо пытаю,
(Пытаньні скончаны усе):
— Дзядзькі!
— А як-жа там, у „Родным
Краю",
„Куток" наш рушыце, ці не?

Бо песьняроў мы маем многа,
Ім трэ прытулак дзе нібудзь;
Яны — сьвятляная дарога,
У гушчу цёмную і жуць.

Мне абяцаюць „генералы",
Паправіць лёс „Кутка" і быт.
Ды абяцаюць неяк вяла,
Хоць я таргуюся, як жыд.

Але канчаецца сабраньне,
Дзядзькі гуторучы ўстаюць.
І разьвітаньні — й пажа-
даньні,
Пара і нам далей у пуць.



XLIV.

Далей, далей! — жыцьцё ёсьць
рухам!
І так кароткі нашы дні.
Здаўна вядома, — той быў
зухам,
Хто не праспаў сваей вясны.

Ўжо ноч на вуліцы мястовай,
Брыду з таўпой па хадніку.
Агні рэклямаў каляровых —
Цьвіцяць, як краскі ў
цьвятніку.

Таўпа вясёла і жывая;
Пульсуе бурна рытм жыцьця.
І толькі тут адна чужая,
Мая тужлівая душа...

XLV.

О, муза!
Ты разбадзялася па Вільні,
А нам далей ў дарогу час.
Чакаюць там нас надта пільна;
Ня верыш? — Вось наказ.

На „бачнасьць" хутка, братка,
станем
І рукі выцягнем, як трэ,
І перад маленькім „kapralem"
Нічым пачуем мы сябе.

Пайдзём вучыцца быць
жаўнерам,
Вучыцца — біць і забіваць. —
Так сёньня ёсьць на сьвеце
цэлым,
Хаця Хрыстос вучыў кахаць.

1934 г. Таболы.

*Канец.*

## У 10-я УГОДКІ СЬМЕРЦІ К. СВАЯКА *)
### (замест вянка на магілу)

Я прышоў тут табе пакланіцца,
Рана змоўклы наш слаўны паэт,
Ад ваколіцаў роднай зямліцы
Прынашу табе ціхі прывет.

Многа дзён без цябе пражыта,
Многа пройдзена розных
дарог,
Многа раз каласілася жыта
На табой апяваных палёх.

Многа гора, нядолі, зьняверы
Перанёс наш працоўны народ
І цяжкі, і туманны і шэры
Нашых будняў жыцьцёвых
паход.

Многа раз пакланяліся сонцу,
Таму „Ўзгорнаму сонцу "твайму,
І ішлі па стаптанай старонцы
Праклінаючы долю сваю.

Ды жыве моцны дух у народзе,
З новай верай жыве маладняк,
І далей мы ідзём у паходзе
Без цябе ўжо наш слаўны Сваяк.

Хоць ты змоўк... І хоць ліра
разьбіта,
І хоць новыя страты баляць, —
Над Краінай туманам спавітай
Тваіх песьняў акорды зьвіняць.

Я прышоў тут табе пакланіцца,
Рана змоўклы змагар і паэт, —
Хай табе сон сьвятляны
прысьніцца
І ад роднай краіны прывет.

22. IV. 36. Таболы.

*) Гэты верш і наступныя прысланы песьняром у рэдакцыю запозна, дзеля чаго ня зьмешчаны ў першым аркушы і ў адпаведным месцы часапісу. Рэдакцыя.

* * *

Цябе не пакіну я, вёска,
Растацца з табой не магу, —
На ўзгорках пяшчаных
расплёскаў
У песьнях сьвятляных душу.

І як не талкуй, так звычайна,
Ў дасьледах над ўласнай
душой;
Маё пачуцьцё — гэта тайна
Заручын вясёлых з табой.

Тваім песьняром быць я рады;
І смутак, і радасьць лаўлю;
І хлопцам тваім і дзяўчатам
Пра быль — нябыліцы пяю.

Люблю я ля стрэх саламяных
На варце задумы стаяць
І з вербай вятрам напатканым
І грудзі і твар падстаўляць.

Люблю я туманы і росы,
І шолах лісьця і травы, —
Чаго зразумець мы ня
можам,
Аб чым не раскажуць славы.

Цябе не пакіну я вёска,
Разстацца з табой не магу, —
На ўзгорках пяшчаных
палосак
Спаткаю — разсьвет і зару.

Таболы. 18. IV. 36.

* * *

Ў кашулі бела-палатнянай,
З сяўнёй я выйшаў на ральлю
І над аджыўшымі палямі
Аўсяным золатам званю.

Як цень, брыдзе за мною
сьледам
Буланы конь у баране,
І цёплым, ласкавым прыветам
Чуць, чуць махае грывай мне.

А сонца лезіць без патрэбы
У вочы, твар і валасы
І поле пахне сьвежым хлебам
І хмелем першае расы.

Чужое поле... конь — чужы...
Чужым аўсом кармлю зямлю...
Ды бунт душы маўчы,
маўчы —
Красу вясны я ў верш лаўлю.

Няхай абшарнік таўстапузы
Глядзіць з пагардай на мяне.
Я працы сын... і музай
Служу — і праўдзе, і красе.

Таболы. 29. IV. 36.



НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

* * *

Месяц мокры і срэбны вылазіць з балота...
Расхінаючы гушчу сухога чарота,
Панад чорнай вадою бліскучы й харошы
Лічыць золата жоўтае, золата грошаў
І кідае медзяную рэшту нядбала
У сьлізкую ваду, гдзе ўжо скарбаў нямала...

За балотнай зялёна-рудой палатнінай
Горад дыхае хрыпла, балюча, няўпынна.
Ў вечным грукаце, скрыгаце й стогне каменным
Лічыць грошы — ці грошаў шукае нязьменна.
А бліскучую рэшту ў гарачцы з ахвотай
Гэтак сама кідае ў сьлізкое балота...

1935 г.

## НА ПРАДВЕСЬНІ

Шэры дзень пазірае ў вакно,
Шэры дзень, як той пух на вярбіне.
Пуста, сіне
І туманна ў палёх навакол.

Ручаінамі звоняць равы
Пад лазою, налітаю сокам.
Гэт, высока
Ў даль сівую плывуць журавы.

І хоць сьнег яшчэ ў лесе ляжыць,
Хоць з-за хмар льлецца жаўранка песьня, —
Ўжо прадвесьне
І так хочацца цешыцца й жыць!

1936 г.

АНТОН ХМУРНЫ

Таварышам па працы ў Бабруйшчыне гэтыя радкі прысьвячаю.

# Іх было чатырох

Праз шыбы вакна, закратаванага жалезнымі прутамі, ледзь прабіваўся шэры сьвет. І расплываючыся па сьценах, пакрытых чырвона-зялёнымі плямамі цьвілі, па стаяўшай у куце сьмярдзючай „парашы“ — патрэбніку і сьлізкай падлозе вастрожнае камэры, коўзаўся па тварах і вопратцы чатырох вязьняў.

Зьбіўшыся ля сьцяны ў кучу, яны нейкі час сядзелі моўчкі. Застываўшае цела пасьля перажытых мукаў боязна было кратаць, цяжка было на'т парушыць рукою або адкрыць вочы...

Толькі Язэп Апанасік, барадаты старык, апрануты ў доўгую сярмягу і ў лычаныя лапці абуты, ня могучы болю перанесьці, лежачы стагнаў і скрыгатаў зубамі. А пачуўшы ўводдалі шагі на калідоры, палахліва азіраючыся на дзьверы, прабаваў падымацца. Ды напрасна, бо ня меў сілаў... Але ніхто не зважаў ані на яго, ані на ягоныя стогны — звыкліся з імі, як пачалі звыкацца і зжывацца з думкай, што адтуль ніколі ўжо ня выйдуць і вастрог станецца ім дамавінай.

Думкі плылі неяк нястройна і ўсьцяж блукаліся і чапляліся за нейкія перашкоды. Калі катораму з іх пачаў рысавацца вобраз роднае вёскі або роднае хаты і блізкіх людзей — раптоўна пакрываўся ён туманам, які нязначна зьліваўся з брудам асьлюзшых сьцен і падлогі.

Ужо змрок шэрага дня запанаваць зьбіраўся, як раптоўна, зусім нечакана, праз заслюзшае ад бруду вакно ўварваўся, быццам баючыся і саромячыся, сноп праменьняў і пачаў гуляць па агідных сьценах казамату.

Паявіўся так неспадзеўкі, што сядзеўшыя вязьні паўскаквалі мімавольна і, здумеўшыся, азіраліся няпрытомна.

— А бадай цябе, вось праз восем дзянькоў неспадзеўка! Але што-ж тут дзіўнога — ведама сонца. Мусіла-ж яно паказацца — прагаварыў Апанасік і цяжка на падлогу апусьціўся.

— А мы, як дзеці, — узрадаваліся няведама чаго. Падражніцца крыху, а пасьля ізноў запануе тут цемра — сплюнуўшы адазваўся другі вязень — старык Пахомчык.

— Ціхайце, дзядзькі! Гэта-ж добрая прымета, што сонейка праз восем дзянькоў да нас заглянула. Яшчэ, мабыць, сьмерць з касою недзе далёка, яшчэ жыць доўга будзем, калі яно прывет нам пасылае! — палка загаманілі маладыя вязьні, падбягаючы да вакна, бы' баючыся, каб іхныя таварышы сваей грубасьцю не спалохалі гульлівых касулькаў.

— Паглянь, Паўлючок, як сонейка іграе і як зайчыкі па сьцяне скачуць! — цешыўся, як дзіця, хлапец Антоська, брат Паўлючка.



Але нядоўга цешыліся хлапцы з касулькаў. Праменьні, быццам сярдуючы за грубыя заўвагі і за няпрыхільную сустрач з боку старыкоў, як паказаліся нечакана, так нечакана і шчэзлі, і шэрань ізноў пакрыла сьцены.

Дарэмна хлапцы прыпалі да кратаў. Дарэмна выглядалі праз заскарузлыя шыбы — нічога праз іх не маглі ўбачыць і стаялі бязрадна.

— Ах, каб нейкая сіла найшлася і гэтыя пруты паламала! — прагаварыў з мукай Антоська.

— На нейкую сілу, братка, не спадзейся. Не па тое ў сьцяне гэтае жалязьзё, каб было вырвацца лёгка, — буркнуў злосна Пахомчык.

— Дык ці-ж ты, дзядзька, папаўшыся ў катавы рукі, ужо зусім здаўся і ня маеш на'т і надзеі?..

— Надзея, дзіцятка, дурных матка. Надзея... Трэ' пакладацца на сябе, а не на нешта другое. Шмат, седзячы тут, я перадумаў і пастанавіў... Сам разумееш... А калі ўдасца, дык не забудуся я і пра помсту. Але, помсту. Памшчуся за нявінна загубленых сынкоў маіх, за зьдзекі і ганьбу, што дазналі нявесткі і за сваю старую, што штыкамі ей сэрца прашылі...

— Не гавары так голасна, братка, — пачуюць — зашаптаў Апанасік.

— Пачуюць? Хай, сабачыя сыны, чуюць! Казаў я ўжо ім, што яны злыдні і панаваць хочуць разбоем, і цяпер пра гэта сказаць не пабаюся. Мо' па твойму трэ' плакаць і цалаваць ім ногі? Бачу, баішся і дрыжыш пры адным успаміне пра гэтых зладзеяў. Нешта ў тоўк не зразумеў я, за што ты, братка, папаўся. Можа па абмылцы цябе сюды зацягнулі і ўжо восьмы дзянёк разам з намі голадам марацць?

— Хіба-ж не па добрай волі і я тут апынуўся. Двух жаўнераў згінула ў нашай вёсцы... На мяне данясьлі, хоць я невінаваты. На'т дома тагды мяне ня было. Мо', як разьбяруць дзела, дык апраўдаюць.

— Эх, дзядзька, хоць мы і свае тут людзі, але з гутаркі тваей выглядае, што нас ты быццам баішся. Але нам усёроўна: ці ты загубіў гэных жаўнераў, ці хто іншы. Лабазе і тое, што нехта прыпратаў іх з гэтага сьвету. А што да апраўданьня, дык кінь дзядзька і думаць. Канец можа быць усім нам роўны: — куля ў лоб, а там — шукай праўды.

Праўда, гадаць пра другіх не бярyся, яле мяне з Паўлюком спратаюць з гэтага сьвету напэўна. А шкада, бо ўміраць яшчэ рана...

— Пэўне-ж рана — адазваўся Паўлючок. — Сядзі тут у клетцы і чакай, як вол доўбні, а там хлапцы на волі. Пачаць мы пачалі добра, а ня скончылі справы... Розная погань мабыць яшчэ доўга будзе таптацца па нашай зямельцы... — Вось чаму, братка, балюча.

— Пацешся, Паўлючок, што распачатая справа не памрэ. Ёсьць ужо людзі, што патрэбу барацьбы зразумелі.

— А скажэце, браточкі, ці праўда, што яны мучаюць перад сьмерцьцю? — неспакойна спытаўся Апанасік.

— Ці-ж табе, дзядька, далі мала ў косьці і скуру, што цяпер стогнеш?

Ці-ж ня ведаеш, што ў ката ты рукі папаўся і спадзявацца ад іх усяго можна, — спакойна адказаў Антоська.

— Мабыць жартуе хлапец — думаў Апанасік. Ці-ж можна гаварыць спакойна пра такія страшныя рэчы! Не, пэўна жартуе, скаліць зубы з старога. І каб пераканацца, ці Антоська ўсур'ёз гаварыў, ці толькі палохаў, пачаў у хлапца углядацца. Але нічога ў ім ня ўгледзіў. Хлапец, як хлапец. Высокі, плячысты, спакойныя шэрыя вочы.

Не, мабыць казаў праўду, — думаў стары — і сэрца яго зашчымела ад страху. Раптам пачуў, што нешта няладнае дзеіцца з ім і, сам ня ведаючы чаму, падскочыў да дзьвярэй і пачаў аб іх галавою біцца.

— Адчыніце, душагубнікі! Адчыніце, зладзеі! Бярэце мяне на мукі і зьдзекі! — крычаў Апанасік. Вочы яго дзіка блішчэлі, выгляд меў страшны.

— Зусім звар'яцеў ад страху — прагаварыў Пахомчык і сплюнуў.

— Супакойся, дзядька. Гэтым не паможаш. Варта пачуе, сюды ўварвецца і тады разгоняць нас у вадзіночкі, а там звар'яцець лёгка — разважалі хлапцы.

— Дык што-ж рабіць, дзеткі? Лепей хай адразу прыкончаць, а ня зьдзекваюцца болей — плачучы гаварыў няшчасны.

Буйныя сьлёзы цяклі з вачэй старога. Капалі і мяшаліся з крывёю, што цякла з разьбітай галавы і сплывалі па барадзе на сарочку.

Ізноў запанавала цішыня. Камэру пачала завалакваць густая цемень. Уводдалі нехта закрычаў дзіка, а пасьля чутны быў рогат. Пасьля ізноў цішыня запанавала. Ізноў крыкі і рогат і працяжнае рэха паўтарала а-а-а... ой-ой... і праняслося па вастрожным калідоры.

— Чуеце, чуеце, як крычыць нехта? — дрыжучы спытаўся Пахомчык. Некага пад растрэл павялі, дык закрычаў ад страху, а жаўнеры рагочуць... Чуеце? Во ізноў закрычаў нехта. Во, во... яшчэ раз крыкнуў, мабыць не даецца...

— Дзядька, а дзядзька, — шаптаў да старога Антоська. — А каб гэта нам папрабаваць шчасьця?..— Як? Праз вакно? А мо', як увойдуць, тагды...

Кажаш краты агледзіў... паддаюцца... Паўлючок, ты чуеш?

— Але, чую. Не бяда — дамо раду...

---

Ледзь сшарэла, як яны, выбраўшыся з густых зарасьнікаў, быццам нейкія жудасныя цені, рушылі далей.



Наперадзе адкрывалася небясьпечная дарога. Трэ' было прабрацца праз здрадлівае балота-дрыгву, якое дзе-ня-дзе паросшы было лазьняком і пакрыта куп'ём.

Пахомчык абабраўся за праваднiка. Ён добра знаў гэтую мясьціну і ведаў, куды трэ' было кiравацца, каб не папасьціся у трасуху па пояс або на'т і з галавой, каб болей ужо ніколі ня ўбачыць божага сьвету...

Чапляючыся за кусты, пераскакваючы з купіны на купіну, кіраваўся правадыр у бок лесу, што выглядаў у змроку восенскага вечара, як нейкая таёмная цёмная пляма. А за ім валакліся другія. Аслабеўшага Апанасіка прыйшлося некалькі разоў выцягваць з трасухі, а калі ён ня мог на'т на нагах утрымацца, тагды мусілі ўсе астанавіцца.

— Больш не магу. Ня маю сілы ступіць ані шагу. Кідайце мяне тутка, а ратуйцеся самі — ледзь выгаварыў Апанасік.

— Не, дзядзька, гэтак ня будзе. Цябе тут не пакінем — адазваўся Паўлючок і, не чакаючы доўга, згроб старога на плечы.

Змрок западаў усё болей і болей. Рабілася цёмна. Ногі накоўзаліся і западаліся ў трасусе. Некалькі разоў аддыхалі. Напружваючы апошнія сілы, цяўпліся далей, да чорнае плямы, шукаючы там паратунку.

А вось ззаду разлёгся глухі трэск, пасьля другі.

— На зямлю! — скамандаваў правадыр, — страляюць у нас, мацеры іх трасца. Пранюхалі сьлед наш, як сабакі, але ўжо позна, ня зловяць. Ужо і да лесу блізка, а там, як у роднай хаце.

І зноў як цені папляліся наперад, а посьле зьніклі ў лесе.

---

## М. ВАСІЛЁК

* * *

Будзіўся усход залатою разорай,
Адплакалі буйныя росы;
І сонца умыўшыся імі — над борам
Расчэсвае русыя косы!

Стаю прад табою, працоўна краіна,
Пясьняр тваіх дзён недапетых
І дзеяў — ня сьцёртых жыцьцём — каляіны
Кладуцца у песьнях поэты.

Дарогі змаганьня, шляхі — пуцявіны
Паклалі сьляды на вас, людзі,
Іх сьлед прамяністы ніколі ня згіне —
Патомкі іх злом не асудзяць...

Ўзьляталі над краем арлы маладыя,
Задорна расправіўшы крыльлі,
І сьпевам будзілі гушчары нямыя,
Аб новым жыцьцю гаварылі...

Я відзеў, як ружы, агністыя ружы,
Сьмяяліся сонцу у вочы!
Віхор іх асеньні са сьвістам варожым
Стаптаў, пахаваў сярод ночы.

І плакала шэрае неба дажджамі
Васеньняю познай парою —
І людзі, бывае, заносяцца жалем
Над сьвежай магілай героя...

Ледзь сонца праз хмары сьмяялася моўна:
— Яны не надоўга завялі...
Ізноў абуджу іх — вясною чароўнай
Ўсплывуць яны ў сонечных хвалях!
. . . . . . . . . . . . . . . . .

---

## А. БЯРОЗКА

* * *

Тысячай воч палымяных, распаленых цемрай начною
неба ўпілося ў зямлю; і на цяжкія скібы ральлі
зорныя блескі упалі; і плоймай злавесна-нямою
чорна у чорных барознах цені ліхія ляглі.
Ноч шапталася з ветрам... За полем, шырока ўзгараным
шэрыя хаты, бедныя стрэхі ў зьнямозе паснулі...
Ў стрэхі неба ўпілося зьзяньнем зор палымяных...
Ноч шапталася з ветрам... Так ціха...
Ня чулі
сонныя стрэхі пахілых хат, закарэлыя рукі,
бо цяжкі мазоль тых рук, як цяжкія скібы ральлі,
чорная доля, як чорны хлеб... У ёрмы прынукі
доўгіх вякоў ланцугі волатаў моц упраглі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тысячай зор палымяных неба ўпілося ў барозны,
ў ціхія хаты... ў жорсткія рукі... ў чорны іх хлеб і соль...
Шэрыя хаты, цяжкія рукі — маўклівы і грозны:
гэтак ціха маўчаць умее толькі магутны боль.

19. II. 36.



* * *

Поле, далёка — шырока поле... І неба над полем
сіняе!.. Неба бяздоннае... Шолах вячэрні палёў
ціхі, як песьня з грудзёў набалелых, што з ветру парывам
па струнах вечару ймкне... І слухаюць нівы...
Гэта песьня, што полымем пеніць кроў...
Гэта песьня — аб волі!

Там
магілы дзядоў пад крыжамі пахілымі дрэмлюць —
зьдзірванелая спадчына сівых гадоў; як чорныя раны
ўеліся доўгія цені крыжоў у шэрую зямлю,
упалі на жоўць пяску, ўкрылі траву пад сабою
чорным сумам...

Гэтта, на гэтых курганах
вякамі здабычу дзялілі чужыя багі і цары
і крывавыя іх аўтары
дыміліся доўга —
нашай крывёю.

За полем хаты. На стрэхах мох абвіс зялёны,
зьвісьлі стрэхі над хатамі. Неба вячэрні пажар
палымее на шыбах чырваньню... Сьцелецца цень па загонах,
рабска паўзе па зямлі... Моў халодная сталь,
грудзі зямлі халодны...
Вецер ад родных хат...
разьвее мо' гора?..

Хаты — бедныя — цёмныя... Пад вашымі стрэхамі сонными
сэрца маё!.. Вашай доляй жыве,
вашым болем сумуе...
Вечар пад стрэхамі сьніць сваю думу-тугу веснавую...

З думай-песьняй ад хатаў шырока-разгоннаю
вечар, сэрца, магілы і поле зьліліся ў адзіны псальм —
Крывія!..
І моляцца сонцу разоры,
сонцу, што ўжо дагарае на шэрым попеле хмар.

4. IV. 1936.

I. БЫЛІНА

## ЛІСІЦА І ТХОР

**(з нагоды нядаўных падзеяў)**

З тхаром ды раз пагневалась лісіца,
Дай на тхара узводзіць нябыліцы:
Што ён паганец, крывадушны,
Што стаўся, падла, непаслушны,
Упарты і заўзяты,
Ну, прост', як чорт які рагаты;
Што тхор лісіцы знаць ужо ня хоча
І свой ў нары заводзіць лад,
Што ён пасвоему мармоча
І на'т лісічай гладкай казцы ўжо нярад!
Што тхор мазгоў ня мае ў галаве
І бяз лісіцы ён не пражыве...
Ну хто-б пазнаў цяпер тхара?
А была-ж пара,
Калі у згодзе жыў з лісіцай тхор,
(Аб гэтым ведау увесь бор).
А гнеў пайшоў праз курачку чубату,
Што тхор цягнуў сабе яе у хату.
Якраз у гэтую пару
Лісіца вырвала яе з зубоў тхару.
(На'т на тхара апэтыт мела),
А посьле нарабіла крыку,
Што курачка сама таго хацела.
Тхарок сапраўды раззлаваўся
І у нару сваю схаваўся,
А да лісіцы ані зыку.
Лісіцаў хітранькі народ —
З тхаром ім дружба, — ну, што мёд!
Бо пэўне шмат яшчэ чаго
Дастаць-бы можна ад яго!
Тхару лісіца стала падлізацца:
— Ці ёсьць з чаго табе, браток, злавацца?
Я прад табой нічым не вінавата,
Мы аднае, тхарочак, веры
І пад вясну абое шэры,
Дык адчыні мне, васпан, сваю хату:
Успомнім даўны слаўны час
І зажывём мы разам, як ў раю. —
А тхор ў адказ:
— Аддай мне курачку маю. —
І зноў замоўк, — ані мру-мру.
— Ня дам сама я раданькі тхару:
Пратэст на гэта зробім між зьвяроў.
Сабраўшы кролікаў, мышэй, зайцоў,



Да іх лісіца адазвалась гэтак:
— Пратэст нам трэба агласіць,
Што тхор ня хоча мне служыць
І ад якойсь пары — ў сваей нары
Пасвойму вучыць сваіх дзетак.
Суседзі, вы мне памажэце,
Пратэст вось гэты падпішэце:
Каб больш так тхорык не рабіў
І да сябе ў нару мяне пусьціў —
— А... трэба! — таўпа у голас закрычала,
Пасьля пратэст лісіцы падпісала,
Хоць знали ўсе, хоць знаў і Бог,
Што скрыўдзіць тхор яе ня мог.
Хоць кожны з іх, вяртаючысь дамоў,
Калі па розум хто пайшоў,
То аж патыліцу пачухаў
І вельмі, вельмі пажалеў,
Нашто лісіцы ён паслухаў —
Усім яна далась у знакі...
Ніхто, аднак, пярэчыць ей ня сьмеў.
А каб знайшоўся хтось такі,
То дачакаўся-б гэты госьць
Ад той лісіцы добрае заплаты: —
Бо ў сільнага заўсёды ёсьць
Слабейшы вінаваты.

10. II. 1936 г.

---

Я. ПАЧОПКА

## СЬМЕРЦЬ

У адзеньні белым,
З тварам скамянелым,
Бяз носу і воч,
Як шкілет худая,
Брыдкая такая,
У глухую ноч
Босаю нагою,
З ржаваю касою,
Ня ідзець — паўзець;
Праз шнуры, палоскі
Праз месты і вёскі
Сьлед за сьлед кладзець;
І скрыпіць нагамі
І бражджыць зубамі,
Як галодны зьвер.
Там яе ня ждалі:
Хрэсьбіны скакалі,
Спаць ляглі цяпер.

Нібы к свайму брату,
Лезе ў першу хату
Прост на самы кут.
Шчырыць рот бяззубы
І скрыгочуць зубы, —
Штосьці чуе тут.
Вокны заблішчэлі,
Ўсталі ўсе з пасьцелі
На ўсім немы страх.
І на ўсю на вёску
Паплыў чад ад воску —
Плач і енк і жах.
А пачвара ў белым
З тварам скамянелым
Там далей ідзець.
І ад людзкой згубы
Шчырыць рот бяззубы,
Як заўсёды, — сьмерць.

Яз. БУРАК

# Шчасьце

Аднойчы журналісту аднаго популярнага часапісу захацелася напісаць фэльетон аб шчасьці. І ён пайшоў шукаць адпаведных да гэтага матарыялаў.

Па мармуровых сходах ён падняўся на паверх і пазваніў у парадных дзьвярох міністра. Яму адчыніла прыгожая сакратарка і праз цяг раскошна ўмэбляваных пакояў, падлогі каторых пакрывалі скуры зьвяроў, а са сьцен паглядалі паважныя твары рыцарскіх продкаў (nota-bene купленых у ведамай антыкварні), правяла яго ў пакой міністра.

Журналіст спытаўся:

— Што Вы думаеце аб шчасьці?

— Шчасьце — адказаў міністар — гэта ніколі не асягнуты ідэал. Гэта граніца, да каторай, у сваім поступе да дасканальнасьці, імкнецца чалавек, а каторая з хвілінаю асягненьня яе робіцца далейшай. —

Кар'еру сваю ён пачаў ад перапісываньня актаў у міністэрстве. Цяпер-жа лятуцеў аб утварэньні ўласнага кабінэту. З гэтае прычыны ён нават цярпеў на бязсонніцу і піў валер'янавыя каплі.

— Ці шчасьлівыя Вы цяпер? — кінуў пытаньне журналіст і выцягнуў з кішані запісную кніжку.

— Цяпер у нас зьмена кабінэту — з выразна нездаволенай мінай сказаў міністар. — Калі місыя тварэньня новага кабінэту прыпадзе майму праціўніку — я страчу сваё становішча міністра. Але праз уплывовых пры двары людзей і з помаччу мае прыгожае жонкі я раблю стараньні, каб стварэньне новага кабінэту даручылі мне. —

Праз далікатнасьць журналіст ня спытаўся аб палітычных плянах яго прыгожае жонкі, а ня хочачы сваёй далейшай прысутнасьцю перацягваць струну узаемнага даверра, пакінуў міністра аднаго думаць над магчымымі шансамі яго перамогі. Урэшце ён добра ведаў аб заўсёды аднолькавай палітыцы жанчын.

Ён зайшоў да багатага купца колёніяльных тавараў і спытаўся:

— Як вы сабе прадстаўляеце шчасьце?

Але купец быў знэрваваны. Ён нават раней вярнуўся з свайго магазыну vis a vis катэдры (суседзтва гэта зусім не перашкаджала яму браць падвойныя цэны і глядзець на рукі сваіх работнікаў) і сядзеў цяжка задуманы над апошнімі „Запіскамі Гелды“.

Ён сказаў:

— Гэта апошняе сьвінства перашкаджаць людзям у працы... Я зусім ня маю ахвоты адказваць на недарэчныя пытаньні. Я ня ведаю, што сталася з маімі караблямі, каторыя вязьлі з Бразыліі



каву. Калі яны патанулі, мяне чакае банкруцтва. Прытым акцыі „Indiana electro“ упалі на 15%. Магчыма я павешуся... —

Журналіст ня любіў цягацца па судох і не хацеў быць сьведкам прыкрага зьявішча...

Па брудных, разгойданых, дзеравяных сходках ён спусьціўся ў цесную сутарэну, дзе жыў шавец. Са сьцен сутарэны густымі каплямі сьцякала вільгаць, а праз малыя звонку балотам аблепленыя шыбы відаць былі толькі ногі праходзіўшых.

Шавец сядзеў пры малым стале і моўчкі да старога бота прыбіваў абцас. Строга-паважны твар яго ніколі не раз'ясьняўся бясклопатнай усьмешкай, а задуманыя вочы зналі цану жыцьця. Чэцьвера яго дзяцей, поўзаючы па бруднай падлозе, турзалі адзін другога і забаўляліся чорным заморaным катом. Ціхім нясьмелым голасам скардзіўся крыўджаны зьвярок. На дзеравяных нарах, у бярлозе прагніўшай саломы, атуленая старай вопраткай ляжала хворая жонка шаўца. Яна нярухомымі вачамі сачыла за мокрымі плямамі на сьцяне і час ад часу кратала пабялеўшымі вуснамі. Магчыма яна думала, якім спосабам заўтра ашукае галодных дзяцей.

На запытаньне журналіста аб шчасьці, шавец падняў на яго свае сумна-задуманыя вочы і ціха сказаў:

— Ня ведаю... я ніколі не адчуваў шчасьця. —

— — — — — — — — — — — — — — — — —

У многіх яшчэ мясцох быў журналіст і нідзе не знаходзіў шчасьлівых людзей. Ніхто ня мог выясьніць яму сутнасьці шчасьця. Расчараваны гэтым, ён пакінуў роднае места, дзе вечны рух раслайваў думкі, а людзі, сьціснутыя ў шэрыя рамы штодзеннага жыцьця, ня бачылі сьвету акружаючых зьяў, і ў сьвет гім адзіноцтве сярод дзікай прыроды стараўся знайсьці адказ на пастаўленае пытаньне. Сярод мохам паросшых каменьняў, у скальных распадзінах гор і між гарачых пяскоў пустыні шукаў натхненьня дзеля развязкі мучыўшай яго загадкі.

І раз, калі ўжо ў душу закраўся агонь сумніву, а расчараванае пачуцьцё ўласнай годнасьці кідала яго ў сеці капітуляцыі, у дзікім мейсцы паросшым калючымі кактусамі, у рамах крутых скалаў ён пабачыў чалавека.

Чалавек сядзеў на камені і белымі выліняўшымі вачыма, у каторых ня іграў агонь жыцьцёвае жарсьці, сачыў за ценямі, снуючымі ў цёмных заломах. Рукі і ногі яго пакрывалі разьедзеныя жарам струпы. Такія-ж струпы, цякучыя ліпкім гноем, бруказілі рысы твару, а гніючае цела, адвальваючыся кускамі брунатнага мяса, тварыла адну зіяючую зьніштажэньнем рану. Парваная вопратка яго была набракшая гноем абсьлізлых струпоў і шчыльна прыліпала да худога цела.

Пабачыўшы журналіста, ён спытаўся:

— Чаго ты шукаеш тут?

— Я хачу разьвязаць праблему шчасьця — зьбянтэжаным голасам адказаў журналіст — і спалохана адступіў назад. На яго нэрвовую сыстэму дрэнна дзеіў выгляд гэтага чалавека.

— Я даўно ўжо разьвязаў праблему, каторую ты называеш праблемай шчасьця, — прашаптаў струплявы.

— У моладасьці сваёй я жыў у раскошным замку. Сьцены яго былі з шэрага мармуру, а крышталовыя падлогі засьцілалі дарагія дываны прывезеныя з Тэгэрану. Дванаццаць чорных нявольнікаў насілі надамною беласьнежныя веяры і курылі пахучыя зёлы ў сярэбраных кадзільніках. Чароўныя танцоркі з гібкім як чарот і цьвёрдым як алябастар целам танцавалі перадамною ўсходнія танцы і ігралі на цытры. Прыгожыя жанчыны чакалі ласкі мае і млелі ў маіх абняцьцях. Багі любілі мяне, а людзі падаючы перадамною славілі маё імя. Але сэрца маё было раўнадушнае, а душы заснуўшай у салодкай сьмязе сталага перасыту не хапала жыцьцёвых жаданьняў.

Раз, вечарам, накрыўшыся чорным плашчом, праз таемны праход я выбраўся з замку. У цёмным завулку, сьцены якога ніколі не прапускаюць сонца, я пабачыў двое людзей, абапёртых аб сьлізкі мур. Праз парваную адзежу іх сьвяцілася цела, а ў вачох ламаліся блескі безнадзейнасьці. Яны шапталі пабялеўшымі вуснамі: „мы ня маем дзе спаць... нам холадна“... і шчыльна туліліся да сябе. Я пайшоў далей і пабачыў ляжачага чалавека. Другі моўчкі стаяў над ім і сумнымі вачамі глядзеў у туманную даль цёмнае вуліцы. У руках яго быў закрываўлены нож. Усюды, як цені, снавалі людзі. Твары іх былі шэрыя, а ў вачох з праблыскамі надзеі змагалася роспач.

— Тады ты зразумеў уласнае шчасьце — прабарматаў журналіст.

— Так. І адначасна згубіў яго. Я зразумеў, што няма вечных формаў і ў душу маю закраўся цень сумніву. Дарма блазьнюкі, творачы дзіўныя штукі, качаліся перадамною, а гнуткія танцоркі, з целам як алябастр і стройнай лініяй бёдраў, круціліся ў шалёным рытме ўсходняга танцу. Сум не ўцякаў з майго твару, а ў душы пасяліўся рэзкі страх перад няведамым.

Прышоў дзень і дзіка голасам крыві выючая таўпа збунтаваных людзей, цесным абручом сьмерці, абкружыла мой замак. Узяўшы з сабой золата і жанчыну, каторая мяне кахала, праз таёмны праход я вышаў з замку. За золата я купіў некалькі караблёў і наладаваўшы іх дарагімі тканінамі адправіў у паўночныя парты халоднай Скандынавіі. А жанчыну зрабіў сваёй каханкай. Але і ў гэтых абставінах я ня быў шчасьлівы, бо і тут прасьледавала мяне бязлітасная здань страты. Так мучыўся я, пакуль лёс няўтомным мячом сваім не перацяў струну хваравітай няпэўнасьці. На далёкіх паўночных астравох піраты напалі на мае караблі. Жанчына, каторую больш за ўсё кахаў я, з прыцелем маім пакінула мяне. А цела маё пакрылася струпамі страшнае заразы.



Тады, прышоўшы сюды, я зразумеў, што згубіў ужо ўсё і да мяне вярнуўся спакой будучых дзён. У гэтым і крыецца сутнасьць шчасьця. Цяпер яно з усіх старон акружае мяне, бо я губляць нічога ўжо ня маю.

Аднак струплявы мыляўся. Ён меў яшчэ да згубы жыцьцё і на гэтым ламалася конструкцыя яго шчасьця. Журналіст добра ведаў гэта, але не сказаў нічога. Ён толькі спытаўся:

— Дык цяпер ты шчасьлівы?

— Цяпер мяне не зьядае гарачка вашага жыцьця. Удзень вялікасьць натхнёнае цішы пранікае ў душу, а сонца цёпла ласкае мае плечы. Уночы неба разгартае надамною сваю зорную мудрасьць і месяц залатым колерам малюе скалы майго ўзгалоўя. Зьвяры не чапаюць мяне, а сабакі ліжуць мае раны. Калі хочаш пазнаць сутнасьць шчасьця — астанься са мною. Тут ты забудзеш клопаты будзённага жыцьця і ў душу тваю ясным лучом пранікне прызнаньне няштодзеннае шчаснасьці. Уночы месяц будзе сьвяціць над тваім узгалоўем, а днём сабакі будуць лізаць твае раны. —

Але журналіст адмовіўся. Ён нядаўна купіў новае ложка з сяньнікам на пружынах і ня любіў сабак. У родным месьце чакала яго больш прыцягваючая сутнасьць з сучасным разуменьнем маральнасьці і валасамі a - la garson. З ёю маніўся ён правясьці менш цікавы вечар на прэм'еры „Гамлета“ ў Летнім Тэатры і больш цікавую ноч у прытульным змроку аднаго з кабінэтаў Cafe - Lux.

Прытым, ня гледзячы на новую няўдачу, ён хацеў кончыць фэльетон аб шчасьці.

— — — — — — — — — — — — — — — —

Праз пару дзён у сталічным популярным часапісе, густа нашпікаваным навуковымі тэрмінамі, з фотографіяй здэтронізаванага ўладара ўсходніх танцорак і з пакліканьнем на слаўныя сілы вучоных сьвету паявіўся фэльетон аб шчасьці. Пасьля падрабязнае аналізы духовых працэсаў праз прызму зьменнасьці вонкавых зьявішчаў, ён сынтэтычна канчаўся наступнай аксыёмай, выдрукаванай прыгожым курсывам: „...*сутнасьць шчасьця знаходзіцца ў папярэднім страчаньні ўсяго, каб пасьля ня траціць нічога. Заклікаем шэрыя масы грамадзян актыўна і пасыўна імкнуцца да свайго шчасьця*“.

Журналіст лічыў, што цяпер шавец паверыць у шчасьце.

---

# ВЯСЕНЬНІ МОНТАЖ

Апошні сьнег выпаў учора,
а сяньня
шчыліна вуліцы украла сонца.
На шыбінах дамоў расплыўся
блеск золата,
і плача ваконца
сутарэны,
глытаючы
халоднае
балота.
На тварах радасьці сьпякота
крычыць бунтарны крыві
гымн.
Прачнуўся сакавік і ўлез у
жылы,
пульсуе шалу сьвежы рытм.

І рух, і сьціск, і сьвята
вясны навокал,
а сонца з неба зьнятае
купаецца
ў балоце
рынштокаў.

---

У абняцьцях брамы туліцца
чорны
худы
абарваны
няшчасны.
Мысьлі пры цёмнай труне
ў сутарэне
памёршага сына сухотніка,
заўсёды працоўнага, —
сяньня спакойнага
ў сьне.

Губы штось шэпчуць сіроча-
жалосныя.
Блескі галоднай заразы
ў вачох...
Заўтра жывіцеля сынка
спакуюць на воз.

Філёзофія жыцьця засьмяецца
монэтаю,
кіне ў руку асьлізганы грош.

---

Гора іх выгнала і хворая маці...
— пан купіць для пані кветкі,
пан купіць для пані кветкі,
пан купіць... —
але вочы сьмяюцца Анэткі —
сэрца сонцу ўдарыла гымн,
парка туліцца ў шыбах бліску-
чых вітрын.
— Малы прэч,
прад табою мы кветкі! —

---

Газэтчыку нехта
ў балота рассыпаў газэты;
нехта кінуўся з мосту
[у рэчку, —
сіні твар
вочы ўсьцешыў Анэткі
і фотографная кліша абняла
[выпадак,
і толькі
мэгафон у бульварах распла-
каўся тангам,
а вочы вымоўны прыняўшы
задатак
разсыпаліся сіньню па бруку.

---

І ўсюды сьнег адкрыў балота
і выцягнуў на верх сэнсацыю
дзён,
што спала ў цені душных
сутарэн
пад дахам крыўды, зла —
і getto.
На вуліцы сьціск і сьвята
вясны навокал,
а сонца з неба зьнятае
купаецца
ў балоце
рынштокаў.

Беласток.





ФРАНЦІШАК СКАРЫНА
першы беларускі друкар

Ад. СТАНКЕВІЧ

# Доктар Францішк Скарына і яго культурная праца *)

## З нагоды 450-лецьця яго нараджэньня

## (1486—1936)

### І. Агульныя ўвагі.

Гаварыць аб Фр. Скарыне і яго культурнай працы, — гэта знача пазнацца з жыцьцём вялікага беларускага культурнага дзеяча з XVI ст. і з яго перакладамі Біблії на тагочасную беларускую мову. Прадтым аднак, як аб гэтым гаварыць, мушу зрабіць наступныя агульнага характару ўвагі.

Вучоныя пачалі цікавіцца Скарынай тады, калі сталі ім вядомыя яго перакладаў і яго друкарскіх захадаў кнігі. Зацікаўленьне гэта пачалося ад 1776 году, калі бібліотэкар Расейскай Акадэміі Навук у Пецярбурзе Бакмэйстэр у бібліотэцы тэй-жа Акадэміі знайшоў некалькі скарынаўскіх друкаў. Аб гэтых друках напісаў ён свае ўвагі ў двух кніжках аднаго зьместу: „Essai sur la bibliothéque de l'Acadamie des Sciences à St.-Petérsbourg. 1776“ і „Опыт о библіотеке Императорской Академіи Наук. СПБ. 1779“.

Узноў жа неўзабаве былі знайдзены ў бібліотэцы царскага расейскага Мін. Загр. Спраў іншыя чатыры скарынаўскія кніжкі. Аб гэтых напісаў свае ўвагі Штриттер у зборніку: „Опыт трудов вольного Россійскаго собранія. М. 1783.

Больш грунтоўныя ўрэшце досьледы над Скарынай пачаліся тады, калі чэскі вучоны славіст Добровскі ў 1792 г. адведаў Пецярбург і бліжэй пазнаўся з скарынаўскімі кніжкамі. Пазьней пісаў ён аб іх у выд.: „Slovanka“ (Prag 1814, I і 1815, II) і ў кнізе: „Geschichte der Böhmischen Sprache und ältern Literatur“ (Prag 1818) і ў іншых.

І яшчэ розныя іншыя аўтары пісалі аб Скарыне, але ніхто з іх не пасьвяціў сваей увагі працы Скарыны, як цэласьці. Першы даканаў гэтага П. В. Владимиров у ведамай грунтоўнай кнізе: „Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные изданія і язык. СПБ 1888 г.“. Кніга гэта сталася выходным пунктам для ўсіх тых дасьледчыкаў, якія пазьней працавалі над справай Скарыны. Ёсьць яна гэным пунктам для вучоных Скарынаведаў аж

*) Рэфэрат, чытаны ў Бел. Інст. Гасп. і Культуры ў Вільні 1. III. 1936 г.

да сяньня. І да сяньня ня то што лепшай, але роўнай Владимирова працы не напісаў аб Скарыне ніхто, хоць пісалі даволі многія.

Пасьля Владимирова найбольш заслужвае на ўвагу І. Шляпкін, які знайшоў у Падуі ў унівэрсытэцкім архіве дакуманты, апублікаваныя ў „Чтеніе в Обществе Нестора Летописца“ 1894. VIII, аб тым, што Скарына здабыў доктарат мэдыцыны ў Падуі, а такжа заслужвае на ўвагу А. Миловидов, які гэтак сама важныя дакуманты знайшоў ў Коенігсбэрскім архіве, датычачыя жыцьця Скарыны ў 30-ыя гады XVI ст., апублікаваныя ў „Известія Отделенія Русскаго Языка и Словесности“ 1917, т. XXII, кн. 2, Петроград 1918.

Апрача гэтых аўтараў, пісалі аб Скарыне пасьля Владимирова і розныя іншыя: расейскія, беларускія, польскія і украінскія, аднак усе яны — паўтараю — калі йдзець аб сутнасьць справы, аб фактычны матар'ял, больш ад Владімірова не сказалі бадай нічога.

Гэтым хачу сказаць, што ўсе тыя вучоныя, якія працавалі над Скарынай пасьля працы Владімірова, апрача ўспомненых Шляпкіна і Міловідова, ня далі нам новых аб Скарыне фактаў, новых дакумантаў, новых вестак. І слушна кажа Ул. Пічэта: „Падлічваючы ўсю літаратуру аб Скарыне на працягу 150 г. ад дня выхаду першае працы аб Скарыне Бакмэйстэра, можна сказаць, што літаратура аб Скарыне мае адну орыгінальную працу прафэсара Владімірова. Большасьць аўтараў, якія пісалі пасьля Владімірова, шырока карысталіся яго фактычным матар'ялам, ішлі за яго вывадамі“ *). Але з гэтага зусім не вынікае, што яны агулам аб Скарыне ня далі нам нічога новага. Не. Яны далі нам такжа нямала, - яны ведамыя ўжо аб Скарыне факты, ведамы ўжо матар'ял і весткі прадставілі нам у ясьнейшым сьвятле, яны ведамы аб Скарыне матар'ял лепш апрацавалі, паглыбілі, выясьнілі і парабілі з яго часта сусім новыя выснавы.

Аб Скарыне — паўтараю — пісалі вучоныя расейскія, польскія, украінскія. Усе яны, з малымі выняткамі, Скарыну пераважна прысвойвалі сабе. Бліжэйшая аднак распрацоўка фактычнага аб ім матар'ялу, паданага Владіміровым, нават і праз некаторых чужых навейшых аўтараў, нязьбіта паказвае на тое, што Скарына беларус нацыянальнасьцяй, што мова яго перакладаў беларуская і агулам, што гэта вялікі беларускі культурнік XVI ст..

Але вось гэткае асьвятленьне Скарыны на падставе ўжо ведамых аб ім фактаў ёсьць дзелам прадусім беларускіх вучоных. Дасьледваньне сярод беларусаў Скарыны асабліва ажывілася, пачынаючы ад 1925 году, з нагоды 400-лецьця беларускіх скарынаўскіх друкаў. Беларускія вучоныя праз дзесяць апошніх

*) Ул. Пічэта, 400-лецьце беларускага друку. Менск 1926, бач. 327.



гадоў нямала кінулі на асобу Скарыны сьвятла іменна з пункту гледжаньня беларускага нацыянальнага і беларускага культурнага.

Вось імёны гэтых беларускіх вучоных: Ул. Пічэта, М. Піотуховіч, Янчук, Язэп Воўк-Левановіч, М. Шчакаціхін, Ігнатоўскі, Гарэцкі і інш.

У 1925 годзе, з нагоды ўспомненага 400-лецьця беларускага друку, напісаў і я брашуру: „Доктар Фр. Скарына — першы друкар беларускі“; працу сваю апіраў я на Владімірове, але, у меру сваіх скромных сіл, асьвятленьне ей так-жа даў беларускае.

Вось-жа цяпер, забіраючы аб Скарыне голас з нагоды 450-лецьця яго нараджэньня, я, праўда, ізноў паўтару тое, што тады пісаў. Зраблю аднак гэта яшчэ больш крытычна і вазьму пад увагу ўсё тое, — насколькі гэта мне ведама, — што новае аб Скарыне за апошнія дзесяць гадоў у навуцы паявілася. А гэткімі-ж працамі заслугоўваюць на ўвагу прадусім вышэй прыточаны зборнік менскіх прафэсараў: „400-лецьце беларускага друку“, Менск 1926, бач. 360; рэцэнзія на маю брашуру H. Łowmiański ў „Ateneum Wileńskie“ 1925 г. кн. 9, „Cztery wieki druskaha“ — L. Abramowicz, Wilno, 1925, „Kwartalnik Historyczny“ (XL), 1926 г. — Ул. Талочка: „Да справы веравызнаньня Фр. Скарыны“ („Калосьсе“ 1935, кн. 3).

## II. Час, у якім жыў Фр. Скарына.

Час, у акім жыў Фр. Скарына, у гісторыі Беларусі адзначаецца, як час разьвіцьця беларускага народу, як залатая пара ў жыцьці ягоным.

Падставы, ці лепш сказаць зародкі такога разьвіцьця ў Скарынаўскі час — народ наш вынес з сваей мінуўшчыны. Народ наш за час сваей поўнай самабытнасьці да XIII ст. і за час свайго так-жа цалком вольнага, але супольнага з Літоўцамі жыцьця ў XIII і ў XIV ст. сфармаваўся ўжо ў выразную нацыю, а так-жа набраў палітычнага і культурнага гарту.

Гэткае асьвятленьне часу Скарыны, гэта знача XV і XVI ст., Ловмяньскі ў сваей рэцэнзіі маей брашуры называе памылковым. „Autor — кажа ён — usiłuje nawet naszkicować epokę, w której żył Skoryna, co mu się nieszczególnie udaje. O stanie kulturalnym Rusi litewskiej w owym czasie ma on błędne wyobrażenie: mówi o rozkwicie (str. 19) tam, gdzie panował zupełny zastój i zanik objawów życia duchowego“ *).

Здаецца аднак мне, што хутчэй мыляецца Ловмяньскі Увесь XVI век у беларускай навуцы завецца залатой парой беларускай літаратуры не беспадстаўна. Завядзеньне ў Вял. Кн. Літ. многіх

*) Ateneum 1926, 9, бач. 162.

друкарняў, выданьне аж трох Статутаў у беларускай мове, гэных сапраўды вялікіх падстаў праўнага жыцьця нашай м'нуўшчыны, тлумачэньне Скарынай на беларускую мову кніг сьв. Пісаньня, іх друкаваньне ў Празе і ў Вільні, а пасьля перадрукоўваньне ў іншых мясцох і пашыраньне ў народзе — ўсё гэта хіба-ж ёсьць доказам не застою духовага, аб якім кажа Ловмяньскі, а наадварот — доказам, як на той час, даволі вялікай ступені культуры нашага Краю агулам і культуры беларускага народу.

Пэўне-ж, тагочасная наша культура не магла раўняцца з культурай Зах. Эўропы, аднак яна існавала і памысна расла, карыстаючы з культураў антычных і з культуры тагочаснай Эўропы: сярэднявечнай і гуманізму, разьвіваючыся на самастойных беларускіх карэньнях.

Іншай аднак ад Ловмяньскага думкі аб гэтым усім праф. Ул. Пічэта, які між іншым так піша: „На юбілей Скарыны адгукнуўся ў Вільні і Ад. Станкевіч. Невялічкая памерам праца яго ёсьць вельмі ўдалая спроба навукова-популярнае характэрыстыкі дзейнасьці першага беларускага друкара. Апошняя разглядаецца ў адпаведнай культурна-гістарычнай абстаноўцы“ *).

Іншых так-жа ад Ловмяньскага паглядаў і праф. М. Піотуховіч, які аб гэтым так кажа:

„Старадаўна - беларускае пісьменства ў сваім разьвіцьці ўтварае рэзкую крывую лінію.

У XIV і XV сталецьцях бачым зараджэньне беларускага пісьменства; першыя ўсходы яго; у XVI ст. гэтае пісьменства дасягае ў сваім разьвіцьці кульмінацыйнага пункту і, урэшце ў XVII і XVIII стаг. назіраецца паступовы спад літаратурнае хвалі.

На самым высокім грэбні гэтае паступова ўзрастаўшае і спадаўшае літаратурнае хвалі ў XVI ст. уздымаецца магутная постаць Фр. Скарыны, які мае найвялікшае значэньне як культурна - нацыянальны і літаратурны дзяяч старажытнае Беларусі **).

*(д. б.).*

---

*) 400-лецьце... бач. 319.
**) 400-лецьце... бач. 157.



Ад. САЛАДУХ

# Зацемкі аб повесьці Вінцука Адважнага „Хлапец“

Ужо бадай паўгоду, як вышла ў сьвет пад гэткім назовам беларуская повесьць. Пасьля выхаду гэтай кніжкі давялося мне чытаць і чуць вострую яе крытыку. Вось-жа з некаторым упярэджаньнем узяўся я за чытаньне „Хлапца“, а думкі, што ў мяне пры гэтым паявіліся, выражаю на паперы.

Назоў повесьці ёсьць звычайна больш-менш тым, чым ёсьць рэкляма для якога тавару. Чуў я, што адна нямецкая Handels-akademie мае ўжо адумысловую катэдру рэклямы. Хоць патрэба адпаведнага назову повесьці ёсьць меншай у параўнаньні з патрэбай такога ж назову газэтнага артыкулу і хоць няраз добрыя повесьці, нават выбітных аўтараў, маюць назовы малай вартасьці, — аднак можна і трэба ад маладой яшчэ беларускай повесьці вымагаць, каб яна лёгкадушна да гэтай справы не аднасілася, бо вымоўны фронтавы назоў заўсёды прыдасца. Вось-жа назоў гэтай повесьці „Хлапец“ уважаю за не найгоршы, бо галоўнай у ей асобай усё-ж дыкі зьяўляецца бязсумліву хлапец Вінцук Паўловіч, а не Ганулі, ці ксяндзы, і таму гэтыя назовы ня былі-б тут на мейсцы. Апрача гэтага наррацыя пачынаецца і канчаецца выразна на Вінцуку, а ўсе іншыя асобы настолькі маюць у гэтай повесьці апраўданьне свайго быту, наскольки адыгрываюць там меншую ці большую ролю у Вінцуковым жыцьці.

Ці „Хлапец“ — гэта сапраўды повесьць? Так. Мае яна ў сабе ўсе аснаўныя складовыя элемэнты, якія, як гэта нават відаць з кожнага падручніка літаратуры, даюць падставу назваць яе повесьцяй. Аднак, з прычыны новасьці гэткага роду літаратуры сярод беларусаў у Польшчы, гдзе, паза спробамі М. Гарэцкага і Ст. Грынкевіча, нічога такога не спатыкаем, могбы, ясная рэч, аўтар назваць сваю дэбютовую працу неяк скрамней, напр.: нарысы, абразкі, ці як інакш. Магчыма, што крытыка тады ставіла-б Адважнаму менш вострыя вымаганьні, хоць сама рэч ўсёроўна асталася-б тым, чым яна сапраўды ёсьць, гэта знача — повесьцяй. Сяньня ўжо спрачацца аб родзе гэтага твору няма патрэбы. Як відаць з самага псэўдоніму, аўтару сьвяціла ў працы рымскае: „Sapere aude!“ *).

Адносіны маці ўдавы да свайго адзінага сына, а аўтара да галоўнай дзеючай асобы, ёсьць выбітна чуцьцявыя, аднак ня знача гэта яшчэ, што хлапца можна адразу ўважаць за Wunderkind. Ды-й ня мае права гэтак рабіць ані чытач, ані тымбольш крытык, бо кожны з іх можа праканацца, што хлапец

---

*) Мей адвагу быць мудрым! (прып. рэд.).

больш старанны, як здольны і што заўсёды астаецца дзіцём, міма крыху ранейшага, як у равесьнікаў, развою, што ўзноў не належа да так рэдкіх зьявішчаў, калі справа ідзе аб адзінага сына, які, зразумелая рэч, больш прабывае з маткай ці бацькам, як з таварышамі гульняў.

Фабула сусім няцікавая — кажа адзін крытык. Вось-жа знаў я і знаю людзей, якія не маглі дачытаць да канца „Боскай Камэдыі“ Дантэ, або адзначаных нагародай Нобля „Chłopów“ Рэймонта. Гэтак адноснымі ёсьць паняцьці: цікавае і няцікавае. Калі-ж ідзець аб повесьць, дык сапраўды, ці ня болш у ей знача *як* (id quo), чымся *што* (id quod). Праціўны для вока і смуродлівы сьметнік можа аднак быць адмаляваны на палатне памазком геніяльнага маляра сапраўды памастацку і малюнак гэны будзе творам мастацкім. З повесьцяй бывае так, як з прамовай, у якой аб уражаньні рашае—паводле нямецкага рэцэпту: Vortrag, Vortrag і яшчэ раз—Vortrag, што знача — спосаб, як яна была сказана. Ведама, вялікі пісьменьніцкі талент патрапіўбы фабулу „Хлапца“ змаляваць без параўнаньня больш памастацку, выкарыстаўшы ўсе, якія ў ей знаходзяцца, — Адважным-жа прапушчаныя — магчымасьці, збудаваўбы повесьць лепш архітэктонічнэ, стварыўбы плястычнейшую галерыю тыпаў, даўбы повесьці больш жывую і цікавую акцыю, цікавейшыя дыялёгі, далікатнейшыя паглыбленьні псыхолёгічныя, больш колерныя апісаньні прыроды і стараннейшую мову. Наш-жа Адважны толькі яшчэ дэбютуе ў повесьці, стаўляе першыя крокі, ня маючы бадай ніякіх родных папярэднікаў і ўзораў. І расейская літаратура мела раней Ламаносавых, а толькі пасьля Пушкіна. Няхай-бы хто з крытыкаў повесьці „Хлапца“ папрабаваў выступіць з уласнай, дык і яго праца была-б толькі пэўным этапам на дарозе натугаў, спробаў і нічым больш. Ніякаму народу лёгка ня прыходзяць яго шэдэўры. Патрэба доўгай, нарастаючай працы і да таго многіх калейна людзей.

А ці-ж вінаваціць нам Адважнага за тое, што ён у сваю повесьць увёў элемэнт нацыянальны і рэлігійны? Не забывайма, што ўся акцыя адбываецца ў першых гадох XX ст., калі ўжо ў нас бруняў беларускі рух, а рэлігія нашага сяла мела характар патрыархальны, дык як-жа мог-бы аўтар усё гэта ў повесьці памінуць, якой акцыя адбываецца выключна на сяле, ці — што тады было сусім тое самае — ў малым беларускім мястэчку? Ці мог маўчаць аб уніятах і аб іх падзеях? Нават камуністычны пісьменьнік ня могбы ў такой прадваеннай повесьці замаўчаць аб гэтым. А калі Адважны сусім не падаў у сваей повесьці колёрыту нацыянальнага, дык узноў спаткаў-бы яго закід з нацыяналістычнага лагеру, што не дацэньвае важнасьці гэтай праблемы, пашырае ў гэтай справе роўнадушнасьць або й проста нейкі рымскі космополітызм.

Нуднага маралізатарства ў аўтара повесьці бадай сусім няма, з выняткам таго выпадку, калі ён няміласэрна заўзяўся на курцоў.



З гумарам, а гэта такжа ня лёгкая рэч, удалося Адважнаму раз лепш, а другі раз горш. Сям-там ён занадта прымітыўны і наіўны. Памятаваць аднак трэба, што гэта повесьць мае сваей мэтай хутчэй адтварыць гумар народу, паколькі гэты знашоўся пад абсэрвацыяй аўтара, і такім, якім ён ёсьць, чым стварыць нейкія самастойныя тыпы à la Заглоба, або жартаўлівыя „кавалкі“, якія жылі б далей сілай творчай сугестыі пісьменьніка на чытача.

Акцыя ў повесьці „Хлапца“ спачатку сапраўды крыху сонная і заўсёды занадта палітая сьлязьмі („безконечныя слёзы!“), у дальшым аднак цягу ажыўляецца і асягае ў канцы твору тэмп цалком нармальны. Мала інтрыгі, мала руху — можа нехта сказаць, хто хацеў-бы, каб повесьць чыталася лёгка і хутка. Вось-жа, хто чытае повесьць толькі каб заспакоіць даволі прымітыўную сваю цікавасьць, можа тут сапраўды дазнаць свайго роду расчараваньня. Трудна! Кожны пісьменьнік мае сваю пісьменьніцкую індывідуальнасьць і сваю мэтоду працы. Іншую Крашэўскі, іншую Арэшчыха і яшчэ іншую Кожэнёвскі (Conrad). De gustibus non est disputandum... Нават Сэрвантэс, Юго, Хашэк і інш. ужывалі нявраз ліцэнцыяў і „трікаў“, як наш Адважны, калі піша напр.: „Ну, але аб гэтым скажу другім разам“; дык і гэты закід хутчэй трэба залічыць да прычэпкі крытыкаў.

З пункту псыхолёгічнага повесьць вытрымана і, як на першую пробу, здаваляюча. Папяровых людзей аўтар сусім не паказаў. Усе тыпы — гэта жывыя асобы, добра падгледжаныя і адтвораныя, часамі з дакладнасьцяй люстра. Такой, ня іншай была прадваенная беларуская вёска ў нашым краю. Зналі мы гэткіх Гануляў і Тамашоў, а таксама Вінцукоў і яго таварышаў. Расейскія школы з іх вучыцелямі, клябаніі з ксяндзамі эндэкамі, беларусамі, літоўцамі, вясковыя расейскія ўстановы і інш. таксама адтварыў Адважны дасканальна і праўдзіва. Толькі чалавек, які не памятуе добра — або і сусім — часаў з прад 30—40 гадоў таму, толькі праваслаўны, які ніколі ў жыцьні ня быў у лацінскай клябаніі, у кватэры вікарага, арганістага, у касьцельным „шпіталі“ і дзеля таго ня знае іх жыхароў, можа рызыкаваць проста недарэчнае цьверджаньне, што гэта ўсё тыпы... з фантазіі. Ахвотна згаджаюся, што Адважнаму горш удаліся тыпы благачыннага, сэмінарыстаў і дзяка, хоць і тут стараўся ён сьвятло і цень разлажыць роўнамерна і, як гэта відаць з усей повесьці, сусім не ідэалізуе духавенства каталіцкага, што сьцьвярджаецца на прыкладзе несымпатычнага ксяндза Марціноўскага.

Аднаго крытыка повесьці дужа так-жа зьдзівіла тое, што аўтар повесьці ўсю трагэдыю старога Марцука зьвёў быццам да... нястачы тытуну. Адкажу і на гэта: бываюць такія глядзельнікі ў тэатры, якіх прыводзіць да вясёласьці сцэна, калі шэкспіроўскі маўр Отэльлё, у найбольш патэтычным мамэнце ўспомненай трагэдыі таго-ж назову, у пачуцьці шалёнай зайздрасьці з прычыны падазрэньня ў нявернасьці сваей жонкі Дэсдэмоны,

дамагаецца... насаткі, якую яна згубіла, а якая мела быць доказам яе здрады. Тымчасам, як там тытун, так тут насатка не зьяўляюцца яшчэ галоўнай прычынай усей трагэдыі. Няма наіўных! Рэальнасьць яшчэ ня выключае таго, што, наперакор лацінскай пагаворцы, часта іменна мыш гару родзіць. Чытаў я нядаўна, што аўто, едучы праз афрыканскую пустыню, раптам затрымалася дзеля таго, што іголка ад грамафону, якую нехта вытрас на пясок, пракалола гумовае кола. Гэткім ёсьць жыцьцё і гэткія бываюць яго дзівосы.

Здалося так-жа некаторым крытыкам непраўдападобным тое, што разважная Ганула няраз пыталася рады ў справе сына ў ворага школьнай асьветы старога Матусэвіча. Але-ж гэты закід адразу упадае, як толькі мы сабе ўпрытомнім, што ўся справа дзееца ў патрыархальнай сялянскай сям'і, дзе гутарлівыя старычкі ахвотна і многа гавораць дарэчы і адрэчы. Сяло так-жа мае сваіх рэзанэраў і дзівакоў.

Яшчэ дзіўней выглядае прэтэнсія крытыка, чаму слабы і хваравіты Вінцусь астаўся пры жыцьці, як-бы такі развой здарэньняў ужо згары быў непраўдападобны.

Моднай ёсьць сяньня „уплыволёгія” ці шуканьне ў кожным літаратурным творы чужых уплываў і залежнасьці ад чужых. Такім чынам лірычныя адступленьні Адважнага могуць быць насьледаваньнем Т. Гушчы, апісаньне расейскай школы — насьледаваньнем „Сызыфовых працаў“ Жэромскага, зьверхняе прадстаўленьне жанчыны носіць на сабе ўплыў Каз. Сваяка.

Адчуваюцца ў повесьці ноткі аўтобіографічныя і спатыкаюцца рэальныя асобы, як біскуп высланы пад Урал (Зьвяровіч), рэктар віленскай сэмінарыі (Ушыла), кс. дзекан Кішкеліс (літовец кс. Бурба, што часам гаварыў беларускія казаньні) і інш.

Не бяз іроніі прабавала неспагадная крытыка падсунуць думку, як разьвязку ўжо паза граніцамі повесьці, што Вінцусь напэўна станецца ксяндзом, уступіць у партыю БХД і можа будзе лаіць беларускую санацыю... Вось-жа ў беларускім жыцьці хватае прыкладаў і адваротных: што Вінцусі траплялі спачатку ў Грамаду, а пасьля і ў Скарынію...

А як вышла ў повесьці Адважнага прырода? Некаторыя кажуць, што павярхоўна і слаба. Я так-жа далёкі ад захопленьня. Аднак у вымаганьні глыбіні і сілы трэба так-жа мець нейкую меру. Скольки-ж напрыклад лекцыяў мае апісаць аўтар, каб яго не спаткаў закід павярхоўнасьці пры адтварэньні расейскай пачаткавай і гарадзкой школы?! Ці ж повесьць толькі тады дасьць дакладнае апісаньне беларускага мястэчка ў нас, калі аўтар намалюе ў ей адначасна сыльвэты: ксяндза, бацюшкі, рабіна, настаўніка, лекара, вэтэрынара, аптэкара, фэльчэра і г.д., нікога ня мінаючы?! Геніяльная якая повесьць можа і змагла-б даць іменна такі абраз, такую візію мейсца і людзей, але не пачынаючы пісьменьнік, які яшчэ як-бы вучыцца пісьменьніцкага рамясла.



Закіды дыдактызму і тэндэнцыі былі больш актуальнымі прад вайной, а сяньня яны ўжо сталіся звычайным анахронізмам, бо дыдактызм і тэндэнцыя, хоць троха ў адменнай форме, уліліся сяньня магутным руч'ём у сусьветную літаратуру і знайшлі многа староньнікаў, як справа (фашызм), так і злева (камунізм). Гдзе-ж сяньня літаратура вольная ад дыдактызму і тэндэнцыі?! Дарэмна мы шукалі-б яе.

Апісаньні прыроды ў Адважнага сапраўды маглі-б быць лепшыя, стараньнейшыя і больш выканчаныя. Аднак недахопу адчуцьця і прыязьні з красой прыроды Беларусі я не адважыўся-б яму закінуць. Аўтар разумее яе пасвойму і любіць сапраўды, але, як той земляроб, не забаўляецца ў захопленьні і ў апісаньні. Прырода з усей сваей красой, гэта нешта так для яго зразумелае, што шкода яму слоў на гэта траціць.

Душы беларускага земляроба даволі нявыказаных скарочаньняў яго ўнутраных перажываньняў. Апісаньняў прыроды даў Адважны ў сваей повесьці сусім даволі, іншая толькі рэч, што яны маюць няраз характар іменна гэтых скарочаньняў. Смакуны літаратуры і дэкляматары, зразумелая рэч, ня будуць з іх здаволены.

Мова Адважнага мала мае ў сабе поэзіі і ня носіць на сабе сьлядоў большай мастацкай абробкі. Некаторыя вобразныя звароты, як анёла мэханіка, віленскага каралевіча (сьв. Казімера) і інш. зьвіняць даволі дзівосна.

Часамі здараюцца непатрэбныя і дражнячыя паўтараньні прозьвішчаў (бабскі стараста, Бугава і інш.). Спатыкаюцца так-жа выражэньні чужыя, як квадратура, распаложаны і інш.

Урэшце некаторыя сытуацыі ў повесьці выглядаюць непраўдападобнымі: тлумачэньне вершаў і баек ксяндзом Галузам падчас разьвітаньня з моладзяй, высыланьне тэлеграмы так-жа ксяндзом і сьвяшчэньнікам да губэрнатара, сумнівы ксяндза Марціноўскага, ці вольна хаваць таго чалавека, што прыпадкам утануў, спатыканьне бацькі свайго адным папай з рэлігійнай працэсіяй...

Канчаючы гэтыя ўвагі для характэрыстыкі Адважнага, як аўтара повесьці, скарыстаю з наступнага параўнаньня: Вінцук Адважны сяньня яшчэ гэта пачаткавуючы фотограф - аматар, які здраджае даволі прыгожыя мастацкія магчымасьці. Дык няхай застасуе ў сваей працы новую тэхніку, як зрабіў гэта Ян Булгак у фотографіцы, а тады зможа стацца праўдзівым мастаком-пісьменьнікам повесьці.

Гэтага сардэчна яму жадаю.

Др. Ст. ГРЫНКЕВІЧ

# Паны „Жолондзі"

У мінулым годзе паявілася ў Вільні у польскай мове повесьць пад назоваю „Zwycięstwo Żołądzia". Варта над ею крыху спыніцца. Кніжка гэтая між іншым была нагароджана віленскім Таварыствам Філёматаў і агулам выклікала даволі жывую дыскусію, рэха якой пайшло даволі далёка за Вільню. Цікавая гэта кніжка і з беларускага боку гледжаньня. Зьмест коратка повесьці гэтае такі. На тэрыторыі беларускай працуе адна са шматлікіх арганізацыяў, якая завецца Стражаю. Мэта арганізацыі падрыхтаваць кадры будучых змагароў за цэласьць граніцаў польскіх на ўсходзе. Камэндантам Стражы ў адным з паветаў зьяўляецца нейкі Жолондзь, адзін з культуртрэгераў, наехаўшых пашыраць культуру да нас з Галіччыны. У свабодных часінах паміж папойкамі, рамансамі з вучыцелькамі, паненкамі з маёнткаў, займаецца ён замацоўваньнем польскасьці сярод гушчаў сялянскіх. У вадным з аддзелаў арганізацыі паявіўся бальшавіцкі дух. Павадыр гэнае работы бальшавіцкае ўцякае з некалькімі са сваіх спагаднікаў у лес. Стараста, паліцыя, ня маючы даверу сярод насельніцтва і адначасна дзякуючы таму, што паліцыя ўся чужая, якая ня ведае зусім тэрыторыі, дзе хаваюцца гэныя бальшавікі, ня ўмеюць правесьці ліквідацыі гэнае жменькі людзей. Жолондзь выкарыстаў сытуацыю, каб падчыркнуць патрэбу свае арганізацыі, амаль што не правакуе аружны напад гэных бальшавікоў на маёнтак буйнага землеўласьніка і зьяўляецца ў апошні мамэнт, ратуючы старасту і ўсіх гасьцей ад нападу. Дзякуючы гэтаму, забываюцца аб „недалікатных" адносінах Жолондзя да арганізацыйных грошаў. Жолондзь выходзіць героем, у нагароду ён, здаецца, ажэніцца з паненкаю, дачкой землеўласьніка і будзе далей больш радыкальна працаваць над замацаваньнем усходніх граніцаў польскае дзяржавы.

У повесьці, як у крывым люстры, можна бачыць польскую адміністрацыю, грамадзкіх працаўнікоў польскіх арганізацыяў. Гэта ўсё да пэўнае меры рэвэляцыі і можам верыць аўтарцы на слова, што яна лепш за нас ведае ўсе ўзаемаадносіны ў сфэрах землеўласьнікаў, польскага настаўніцтва, урадоўцаў, старараства, паліцыі і г. д. Пакінем зусім на старане тое, што аўтарка піша аб нашым народзе. Народу гэтага яна ня ведае, як ня ведае ягонае мовы, не разумее абычаяў, душы народнае. Цікаўна адзначыць мо' толькі, што ў повесьці праводзіцца думка, што беларус і сяньня такі пацыфіст, так баіцца крыві, што гатоў на'т выдаць сваіх сяброў у рукі паліцыі, каб толькі суседу ягонаму, хаця ён і пан-абшарнік, як кажуць — волас ня спаў з галавы. Дужа сумлеваюся, ці такая адрысоўка характару беларуса правільная.



За тое, як кажу, паверым на слова аўтарцы, што ўсенька тое, што яна кажа аб сваіх людзях — гэта сапраўднасьць. Пачнем ад старасты. Гэта тутэйшы землеўласьнік, якога няведама дзеля чаго трымаюць пакульшто на пасадзе. Чалавек гэны ў повесьці некалькі разоў трымае тэлефон у руках, курачы пры гэтым шмат папяросаў. Іншым разам ён іграе ў карты, іншым разам з агідаю адварочваецца ад Улькі, жонкі аднаго з сяброў Стражы, які падпаў пад уплывы бальшавіцкія і якога за гэта пасадзілі ў вязьніцу. Жонка, між іншым, у цяжку, праўдамі і няпраўдамі стараецца адведаць мужа і вось нараілі ёй зьвярнуцца да старасты. Стараста, гледзячы з агідаю на яе, пачуўшы, хто яна такая, уцякае. Бачым некалькі разоў гэнага старасту ў гутарках з Волловічам, старшынёю Стражы, на тэму Жолондзя.

Ня выходзячы са Старавства, знаёмімся яшчэ з Огуркевічам, рэфэрэнтам бясьпечнасьці. Гэта чалавек з Галіччыны. Ня ўмее ён аніяк схапіць настрою душы селяніна беларускага. Калі-ж нешта ад яго і пачуем, дык гэта будуць такія словы: ...„яны ўсе аднолькавыя (значыцца сяляне)... я-б з іх скуру дзёр... праваслаўнае гэта, чужое, паганае..." У іншым месцы зноў ён не шкадуе моцных словаў, каб адмаляваць аутохтонаў... „дзікарства і дурнота, што валасы на галаве падымаюцца". Зразумела, што лінія ягонае палітыкі даволі простая. Калі нехта пытаецца ў яго, як ён са сваімі паглядамі можа дагаварыцца з народам, дык ён адказвае: „я-ж і не хачу з ім дагаварывацца, а хачу іх толькі акелзаць". Што азначае „акелзаць" у рэфэрэнта бясьпечнасьці, ведаем даволі добра, дык і паясьняць ня трэба.

Паглянем на іншых урадоўцаў, у гэным Старастве. Вельмі часта гэныя людзі „ждуць". Ждуць, каб хутчэй трэцяя, канец іх працы. Каб ня надта доўжылася, адведываюць карчму жыдка Ротмана, таму, што яна пасуседзку. Огуркевіч дык прынамся ведае меру. Ён афіцыяльна ўпарадку, пап'яному не зьяўляецца ў Старастве. Другі важны рэфэрэнт, дык хістаючыся на нагах, прыходзіць каля трэцяе пачынаць працу. Кумпанія, калі яна часамі і вясёлая, дык казаць ня можна, каб была сымпатычная, ці прынамся салідная.

Прадстаўнікі абшарнікаў, якіх даволі шмат выводзіць аўтарка, розныя па масьці. Ёсьць такі Волловіч, старшыня Стражы, арганізацыі, якая мае ў сфэрах абшарнікаў фірму, напалову бальшавіцкай. Ня ведаем, што загнала Волловіча да старшынства. Чалавек ён даволі асабіста сымпатычны, розумам не далёкі, усёж-такі ня п'е, грашэй не раскідае на лішнія роскашы. Ня бачым яго нідзе ў рэальнай рабоце, так што яно даволі цяжкавата сказаць, якім ён быў-бы ў адносінах да людзей жывых.

Усе іншыя землеўласьнікі аджыўшыя людзі. Умеюць адно толькі — стагнаць на падаткі, што іх Варшава ня хоча падтрымліваць, што хутка скончыцца іхняя эра, што і зямлю ў іх адбяруць, як яны кажуць „галіцыякі", а што там крыху астанецца,

дык і тое аддадуць сялянам беларускім, каб прысвоіць іх да польшчыны. Хаця яны ўсе яшчэ жывуць, аднак, можна сказаць аб іх, што яны людзі „быўшыя“. Ня маюць яны нічога сказаць, ня ўмеюць нічога рабіць. Маюць культуру, толькі і тае культуры ня ўмеюць ніяк выкарыстаць, яна ў іх баласт. На'т і маладзейшыя з іх ня ўмеюць быць добрымі працаўнікамі, калі і лучаюць на пасаду, дзякуючы знаёмасьцям са старастаю і г. д.

Жонкі абшарнікаў, агулам жанчыны гэнае сфэры, выходзяць даволі бледна. Некаторыя традыцыйна ўмеюць добра варыць, ці на'т лепш сказаць — пячы. Бяда, што найчасьцей ня маюць з чаго, дык нічога не астаецца ім, як плёткі рабіць. Маладыя з іх, як маладыя, і да таго памоднаму ўзгадованыя, ловяць жыцьцё, кахаюцца.

Побач пана абшарніка, у повесьці польскай бачым, ды ня толькі ў повесьці, але і ў нашай практыцы жыцьцёвай, ксяндза. Ёсьць ён тутака. Ксёндз дзекан зусім традыцыйны. Старэнькі, ахвотнік добра зьесьці і выпіць. Больш аб ём нічога ня можна сказаць.

Ёсьць і настаўнік, ці лепш настаўніца. Бедная дзяўчына, нейкая заморaная, ня мае на'т прызваітага абутку на нагах. Вучыць дзяцей чытаць і пісаць, пакідае іх у пару вучобы на... гадзінку, каб ісьці пакахацца з Жолондзем.

Маркотнасьць нейкая абхоплівае чалавека, гледлячы на гэных людзей і міжвольна накідываецца думка, дзе-ж тая пружына, на якой трымаецца ўсё жыцьцё польскае сапраўднасьці сярод беларускага насельніцтва? Бязумоўна, што ёсьць паліцыя, аб ёй часта гаворыцца ў повесьці, выступае яна на сцэну, аднак як орган выканаўчы. Ня відаць за тое ў сфэрах, аб якіх была дагэтуль гутарка, ніякае ідэолёгіі, ніякае думкі, якая магла-б апраўдаць існаваньне такога грамадзянства.

Ёсьць той элемэнт, які паводле аўтаркі рыхтуе будучыну польскую, які зьяўляецца найбольш бадзёрым, да якога бязумоўна належыць гэнае заўтра. Элемэнт бадзёрасьці, элемэнт заўтра ўяўляе Жолондзь, цэнтральная асоба повесьці. Цікава будзе прыглядзецца да гэтага чалавека Гаворыць ён сам аб сабе шмат. Гавораць аб ім іншыя асобы, гаворыць аб ім тое, што ён робіць. Аб мінуўшчыне героя ведаем мала. Малым хлапцом уцёк ён з хаты і пашоў ваяваць. Бадзяўся па розных фронтах. Сын шаўца, да якога неахвотна прызнаецца, кончыў 6 клясаў гімназіі і вось ён адказны грамадзкі працаўнік. На ім трымаецца акцыя Стражы. Калі старшыня Стражы хоча яго выкінуць за кражу грамадзкіх грошаў, дык староста бароніць, кажучы, што такіх працаўнікоў мала дзе можна сустрэнуць.

Жолондзь, камэндант Стражы, едзе на паседжаньне ўраду аднаго з аддзелаў і думае: „ці надта доўгія і скучныя будуць нарады і ці сапраўды прыедзе Зоня“ (Зоня — гэта дачка старшыні Стражы). Да Зоні ён узяўся вельмі шчыра. Яна не падабаецца яму зусім. За тое яна дачка і спадкаберніца Волловіча. Бацька



ейны мае маёнтак, на які мае вялікую ахвоту сам Жолондзь. А вось што сам аб сабе кажа гэны герой: „ах, каб мець іх усіх (жанчын) на кожны кліч! кожную іншую, патрэбную думкам, сэрцу, крыві! Каб мець шмат грошаў, каб раскідаць іх прыгоршчамі, бяз думкі аб заўтрашні дзень! Каб мець грамадзкую чэсьць такую вялікую, каб ніхто ня сьмеў прыступіцца з крытыкаю. Каб таптаць нагамі масы...“

І гэны вось панок на сходках Стражы навучае аб працы на карысьць дзяржавы, агулам польшчыны. Рэзультаты працы такіх людзей — загадзя можна казаць — будуць надта сумніўныя. Няма на грош веры, шчырасьці, усё, што гаворыць такі чалавек — гэта пустаслоўе. Нядзіўна таму, калі пачуем на паседжаньні ўраду аддзелу Стражы пры абгаворываньні справы большае актывізацыі працы: — „ніколі ня можна дачакацца, каб яны (сяляне) плацілі за прадстаўленьне, добра што дарма прыходзяць!“... Бачым у Стражы элемэнт, які цікуе на карысьць з арганізацыі пры падатках, цікуе на палёгкі пры адбыўцы службы вайсковае і г. д.

Сумныя рэфлексыі агортываюць чалавека, глянуўшы на такую галерыю тыпаў. Хто-ж тады трымае ў сваіх руках нашага селяніна?

Выглядае з повесьці, што паны Жолондзі зусім бяскарна гаспадараць ня толькі над нашымі грашмі, што ідуць у падатках, ці розных ахвярах, яны-ж адначасна трымаюць, прынамся фармальна, уладу над душамі нашае моладзі, заганяючы яе ў свае арганізацыі, рыхтуючы яе да будучага жыцьця!

Наканец адна заўвага: добра, што гэнае крывое люстра нашае сапраўднасьці ўзяла ў рукі аўтарка з прозьвішчам Добачэвска, інакш гэнае сапраўднасьці ніколі мы і не пабачылі-б з тае прычыны, што ў беларускай вопратцы не прапусьціла-б яе цэнзура.

---

Мгр. С. АЛЕНЬЧУК

# Крытычныя ўвагі

## да артыкулу „Цені і Блескі“ Ад. Станкевіча ў 4-ай кніжцы „Калосься“ 1935 г. *)

Пытаньні, высоўваныя ў вышэй успамянутым артыкуле Ад. Станкевіча, заслугоўваюць на ўвагу нашай народнай інтэлігенцыі, як і наагул усей грамадзкай думкі.

*) Трымаючыся прынцыпу audiatur et altera pars, друкуем артыкул гр. м-гра Аленьчука, у якім ён, як чытачы пераканаюцца, з гледзішча дыялектычнага матар'ялізму, у сувязі з артыкулам нашага рэдакцыйнага сябры, асьвятляе пытаньні культуры і лёзунгу „Культура — нацыянальная формай, соцыялістычная зьместам“. Рэдакцыя.

Жывём у часы, калі пытаньні культуры і яе кірунку разьвіцьця — зьяўляюцца як ніколі пробным камянём усяго кампleksу соцыяльна-палітычных зьявішчаў у сучасным грамадзкім жыцьці.

Гаворучы гэта мы маем на ўвазе, паўтараем, нашую ўласную інтэлігенцыю, якая ўжо даўно выйшла з дзіцячага веку абмяжованасьці ў граніцах самабытнасьці, замкнутасьці ў сабе. Вялікія хвалі бурнага жыцьця б'юцца і аб нашыя берагі і наш правільны пагляд на праблему культуры зьяўляецца прадумовай для развою нашага культурнага жыцьця.

Ад. Станкевіч, праўда, сьцьвярджае факт, што сяньнешняя зах.-эўропэйская культура, апёртая пераважна на філёзофічным ідэалізьме, перажывае крызыс, аднак, крытыкуючы новую культуру, што сяньня творыцца на падставах філёзофічнага матар'ялізму, робіць, здаецца, паварот узноў у бок таго-ж ідэалізму.

Вось-жа калі ідэалістычная філёзофія зьяўляецца ў руках Ад. Станкевіча тым ліхтаром, які мае выявіць цені ў новай чалавечай культуры, якая сяньня будуецца на філёзофіі дыялектычнага матар'ялізму, скажам прадусім некалькі слоў аб аднэй і другой філёзофіі, бо паводле нас прадстаўляе ён іх ня сусім верна, а нават і памылкова. Паводле Ад. Станкевіча выходзіць, што матар'ялізм „апрача матэрыі на сьвеце ня бачыць нічога". Гэта проста няпраўда. Марксіцкі матар'ялізм разьвіўся і акрэп імённа ў барацьбе супроць гэткага вульгарнага матар'ялізму. „Галоўны недахоп папярэдняга матар'ялізму — уключаючы і фэербахаўскі — заключаецца ў тым, што прадмет, сапраўднасьць, пачуцьцёвасьць бярэцца толькі ў форме а б' е к т а, ці ў форме с у з і р а н ь н я, а не як ч а л а в е ч а я п а ч у ц ь ц ё в а я д з е й н а с ь ц ь, п р а к т ы к а, не суб'ектыўна". (Энгельс, „Тэзысы аб Фэербаху"). Досыць успомніць хоцьбы барацьбу Маркса і Энгельса супроць францускіх матар'ялістаў. А ўжо навука Маркса самым рэзкім чынам змагалася супроць мэханістаў і ўсякіх іншых вульгарызатараў філёзофіі дыялектычнага матар'ялізму (гл. Леніна „Матэр'ялізм і эмпірокрытыцызм"). У сапраўднасьці дыялектычны матар'ялізм апрача матэрыі бачыць таксама ідэі і пачуцці, што называюць дух. Монізм гэтай філёзофіі ня ў тым, што яна не прызнае нічога апрача матэрыі, а ў тым, што прызнае ўсе духовыя зьявішчы, якія вынікаюць з матэрыі, як рэзультат матар'яльнага існаваньня.

Як бачым — гэта сусім ня тое, за што выдае матар'ялізм Ад. Станкевіч.

Нязгодным з праўдай зьяўляецца такжа тлумачэньне Ад. Станкевіча сутнасьці ідэалізму, якая быццам зьяўляецца ў тым, што ён (ідэалізм) „апрача матэрыі прызнае на сьвеце сілы духовыя". Справа ў тым, што галоўнай рысай ідэалістычнай філёзофіі зьяўляецца прызнаньне самастойнага, унезалежненага ад матэрыі, існаваньня духа, а пэўныя разнавіднасьці гэтай філёзофіі, наагул нічога ня бачаць апрача духа (соліпсысты—Бэрклі, Авенарыус, Мах), або галоўнае значэньне духа ў нашым існаваньні



(Дэкартаўскае „Cogito ergo sum"). Дуалізм гэтай філёзофіі імённа ў гэтым, што яна бачыць матэрыю і дух, як паасобныя зьявішчы.

Мы лічылі неабходным зрабіць гэтыя заўвагі таму, што пры дапамозе неправідловага тлумачэньня сутнасьці двух кірункаў філёзофіі і галоўным чынам пры дапамозе папулярызацыі не адпавядаючай сапраўднай сутнасьці матар'ялізму, аўтар будуе далейшыя, ужо сусім актуальныя вывады аб „ценях і блесках" новай чалавечай культуры.

Будучы ў палоне ідэалістычнай філёзофіі, крызыс якой сам яе абаронца прызнае, Ад. Станкевіч праз яе прызму падглядае (імённа падглядае, а не аналізуе) тыя працэсы, якія адбываюцца ў жывым, творчым арганізьме новай чалавечай культуры.

* * *

Ёсьць такая хвароба, якая палягае на тым, што чалавек перастае адрожніваць колеры: — чырвонае здаецца яму зялёным — і наадварот. Ад. Станкевіч, паводле нашай думкі, церпіць на, свайго роду, соцыяльны дальтанізм. Праменьні новай чалавечай культуры дапамаглі нават у крызыснай Заходняй Эўропе вырасьці вялікаму руху супроць барбарызму — у абарону культуры — а Ад. Станкевіч не праменьні бачыць, а цені. Гэта новая чалавечая культура, паводле Ад. Станкевіча, і аднабокая і выключае быццам „элемэнт нацыянальны, выключае паняцьце народу, як грамадзкай групы" і тое, што гэта культура анэмічная, бедная і што яна „спыняе этычнае разьвіцьцё чалавека, грамадзкіх груп народу" і што яна даводзіць да грубага утылітарызму — адным словам: гэта ўжо ня цені, а поўнае зацьменьне...

І ўсё гэта толькі выключна таму, што новая культура ня носіць на сабе „адбіцьця ідэалістычнай ідэолёгіі" — ідэолёгіі, якая асабліва пануе ўва ўсіх краінах перамогі культурнага вандалізму.

Тымчасам з гэтым усім справа выглядае інакш.

Культура новай чалавечай грамадзкасьці абапёрта на матар'ялістычнай філёзофіі, якая ўсе зьявішчы духовага парадку разглядае ў іх залежнасьці (не мэханічнай, а дыялектычнай) ад матар'ялістычнага сьвету. У нутры старога грамадзтва ўва ўсім сьвеце паступовая частка людзкасьці тварыла і творыць сваю міжнародную культуру, якую даўно прыгатавалі „прапаведнікі свабоды і ворагі насільля". Гэта зеленеючая рунь сапраўднай культуры поступу людзкасьці, скутая ледзяной карой рэакцыі старога ладу, з новай вясной народаў дала нябывалы ў гісторыі колькасны і якасны ўзрост, адгортваючы новую старонку ў гісторыі сусьветнай культуры. Грунтоўныя зьмены, якія зайшлі ў адносінах паміж чалавекам і чалавекам, а таксама чалавекам і прыродай унясьлі адпаведныя зьмены ў псыхіку людзей у галіне іх духовай творчасьці. Грамадзкасьць, якая сваімі ўласнымі рукамі да караня перабудавала ўсё сваё жыцьцё, ставячы сабе за мэту

дайсьці да стану социяльна-эканамічнай роўнасьці людзей, незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасьці, сваю культурную творчасьць, вырасшую на гэтым грунце, скіравала ў гэтым самым кірунку. Старому сьвету нацыянальнага ўціску, нацыянальнай грызьні, нацыянальнага сэпаратызму, тварцы новай культуры проціставілі новы сьвет еднасьці працоўнага народу ўсіх нацыяў, сьвет, у якім няма мейсца ніякім прывілеям для ўціску чалавека над чалавекам. Вось гэтаму культурна-творчаму працэсу адпавядае яе кліч — „культура нацыянальная формай, социялістычная зьместам“ — як непарушная запарука сапраўднай паступовай культуры людзкасьці. Што азначае гэты кліч? Ён азначае, што працэс культурнае творчасьці не зьяўляецца самастойным, адарваным ад эканамічна-культурных умоваў існаваньня грамадзкіх клясаў, якія яе твораць. Гэтыя умовы: нацыянальнае асяродзьдзе данай грамады і соцыяльныя варункі. Прычым гэтыя ўмовы не пярэчаць адна другой, а наадварот — дапаўняюць сябе і твораць еднасьць формы і зьместу.

Нацыянальнае асяродзьдзе ў варунках, калі ніякія нацыянальныя агранічэньні і прыгнёт ня існуюць, стваряюць спэцыфічную форму культуры (мова, прыродны псыхічны склад), прычым усё лепшае, не консэрватыўнае, з цэннасьцяў мінуўшчыны, адпавядаючае творчаму духу новай эпохі становіцца арганічнай часткай сучаснай культуры.

Соцыяльныя ўмовы, у варунках соцыяльнага вызваленьня, нічым ня розьняцца для беларуса, як і для рускага, ці ўкраінца. Крыніца іх творчасьці ёсьць адна — гэта радаснае, шчасьлівае жыцьцё, сьвядомае сваіх імкненьняў і пэўнасьць іх дасягненьня— пэўнасьць дайсьці да соцыялістычнай грамадзкасьці. Гэта і ёсьць соцыялістычны зьмест новай культуры. Каб гэта яшчэ ясьней выглядала, дамо аскравы прыклад. У тэй-жа кніжцы „Калосься“ надрукаваны некалькі вершаў нашага клясыка народнага паэта Янкі Купалы.

Наш пясьняр пяе аб нашым беларускім лёне:

„Ой лянок, лянок мой чысты,
валакністы, залацісты“...

Прыпеў—клясыка народу—беларускі, прыпамінаючы лепшы фольклёр. І ня толькі прыпеў—увесь верш формай такі народна-беларускі, што проста не ўяўляю сабе, як-бы ён выглядаў у тлумачэньні на іншую мову, без таго, каб не затраціў гэтай беларускай спэцыфічнасьці.

Аднак — прачытаеш тэты верш і чуеш: гэта нешта новае, няведамае старой беларускай літаратуры. Тут справа ўжо праз зьмест, які ў народнай форме дасканальна ўлажыўся. Гэта зьмест аб радасьці — пэўнай беларускай дзяўчыны з прычыны залацістага лёну — грамадзкага дабра, з прычыны вялікага каханьня да свайго брыгадзіра, з прычыны пэрспэктывы блізкага сумеснага шчасьлівага жыцьця. Прадставім сабе на хвіліну, як-бы ў буржуазнай краіне аб гэтым лёне запяялі? Ці-ж ня вырас-бы адразу перад нашымі вачамі... падаткавы экзэкутар!

Ці возьмем наступны верш аб Алесі, пра каторую „кукавала зязюля... гадавала матуля“, што вырасьце дзяўчына гэтак, як расьлі дзяўчаты за дзеда і прадзеда, а Алеся—

...„паляцела дзяўчына
Самалётам гонкім
Над шчасьлівай краінай,
Над роднай старонкай“...

Вось і клясычны ўзор народнага беларускага вершу з новым соцыялістычным зьместам. Гэты палёт беларускай дзяўчыны „над шчасьлівай краінай“ вырастае да ўзроўня сымболю кірунку і разьвіцьця беларускай культуры. І супроць гэтай культуры пусьціўся ў паход з „тэлескопам“ ідэалістычна-крызыснай ідэалёгіі Ад. Станкевіч, каб знайсьці цені.

Дык дзе-ж тыя цені?

Ад. Станкевіч піша: „...як бачым з гэтага лёзунгу („Культура— нацыянальная формай, соцыялістычная зьместам“) культуры паставлены даволі вузкія рамкі“.

Каб устанавіць, ці культуры паставлены „вузкія рамкі“, трэба параўнаць яе з іншай культурай, якой такіх рамак, паводле Ад. Станкевіча, не ўстаноўлена. Вось маем перад сабой культуру, якая служыць хіба прыхільнікам ідэалістычнага сьветапагляду, як прыклад, — культуру краіны філёзофаў і паэтаў, вынаходнікаў вышэйшай тэхнікі — Нямеччыны. У якім стане яна знаходзіцца? Ці шырокія яе рамкі разьвіцьця? Што сталася з гэтымі паэтамі і філёзофамі? Варта толькі гэта параўнаньне паставіць — і перад аб'ектыўным чытачом выплывае вобраз шырыні гэтых рамак. Замест культуры — культ чалавека-бэстыі, культ *не*навісьці да іншых народаў (і да нашага беларускага ў тым ліку) толькі таму, што ня маюць нордыцкай крыві.

Скажуць: выбралі вы дрэннае параўнаньне—„цывілізацыю“ фашызма. Але-ж гэта „цывілізацыя“ абыймае сваім уплывам аграмадныя часткі Эўропы. Фашыстоўскія рамкі сягаюць і культуры такіх краін, дзе фашызм не зьяўляецца пануючым. Досыць запазнацца з навукай гэткіх філёзофаў з „неагранічанай“ культуры, як Шпэнглер і інш., каб дагледзець гэту варожую дэгэнэрацыю панаваньня спірытуалізму замест навукі. Вось і рамкі гэтае навукі. Ці возьмем г. зв. „дакладную навуку“. Так, „працьвітае“ яна, але ў адным толькі кірунку: прыгатаўленьне сродкаў зьнішчэньня людзькасьці, сродкаў вайны. Паза гэтым пануе страшэнная цемра і хаос. Гэта і ёсьць яе рамкі.

А цяпер — дзе-ж тыя рамкі агранічваючыя ўзрост новай культуры? Іх не дагледзіш, як ня ўбачыш берагу з сярэдзіны мора. Гэтыя рамкі — гэта граніца дасягаемасьці сучаснай чалавечай думкі ўва ўсіх кірунках навукі — г. зн. гуманістычнай і дакладнай. Вялікае разьвіцьцё сваё новая культура, апрача палітычна-соцыяльных пры-

чынаў, заўдзячае таксама і таму, што **яе шлях асьвятляе адзіны сапраўдна-навуковы мэтад — матарыялістычны.**

Ад. Станкевіч сярод „ценяў“ разглядзеў, што новая культура „выключае элемэнт нацыянальны, выключае паняцьце народу, як грамадзкай групы, сьведамай сваей асобай нацыянальнасьці“.

Ужо той факт, што лёзунг „культура — нацыянальная формай, соцыялістычная зьместам“ зьяўляецца арганічнай еднасьцю двух элемэнтаў, гаворыць аб тым, што няма праўды ў гэтым цьверджаньні аб выключэньні нацыянальных элемэнтаў. А што сказаць ужо аб тым, што новая культура быццам „выключае паняцьце народу“, у той час, калі іменна марксізм і яго клясыкі, навукова і ўсебакова разглядзелі нацыянальную праблему, — навукова акрэсьлілі паняцьце нацыі і шлях і рашэньні нацыянальнай праблемы. Можна гэта сьцьвердзіць, маючы прад сабой прыклад адраджэньня народаў, як нацый, нават у выпадках, калі пры капіталізьме яны гэтым ня былі.

Але ці існуе нацыя як цэлае, як монолітнасьць? У кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі. У кожнай нацыянальнай культуры існуюць—хаця і не разьвітыя—зародкі дэмократычнай і соцыялістычнай культуры, таму, што ў кожнай нацыі існуе працоўная і эксплёатаваная маса, абставіны жыцьця якой ствараюць абавязкава дэмократычную і соцыялістычную ідэолёгію. Але ў кожнай нацыі ёсьць таксама буржуазная культура, пры чым яна не знаходзіцца ў становішчы зародкаў, а зьяўляецца пануючай культурай, адпаведна пануючай клясе.

Адно толькі тут зьяўляецца праўдай, што ў кожнай нацыі „поруч з убогімі людзкімі будынкамі уперліся ў неба высокія палацы, поруч з галітою ходзіць роскаш і багацьце, разам з людзкімі сьлязамі льюцца вясёлыя галасы песень, грыміць музыка з раскошнага саду“ (Як. Колас).

У чым-жа „вузкія рамкі“, аднабокасьць?

Ці ў тым, што да творчага працэсу міліённых масаў не дапусьцілі прапаведнікаў старой культуры і гэтым парушылі шырыню нацыянальных рамак і нацыянальнай усебаковасьці? Але Ад. Станкевічу, як хрысьціяніну, даўна вядома прыповесьць аб пшаніцы і плевах. Там, дзе расьце пшаніца новай чалавечай культуры — не павінна быць мейсца плевам, старой нацыяналістычнай культуры, як культуры буржуазіі.

А што-ж сказаць аб гэткім аргуманце, як „анэмічнасьць і бледнасьць“ новай культуры? Ці-ж толькі тое, што цьвердзіў Спіноза аб квадраце, які ў выпадку, калі-бы ён меў дар слова, сказаў-бы, што ўвесь сьвет... квадратны. Як можна гаварыць аб анэмічнасьці культуры, у якой прыймаюць удзел тысячы — міліёны, якая прамянее над усім сьветам і запладняе думкі ўсіх, хто бачыць асуджонасьць „бязрамачнай“ навукі?



Ці-ж можна параўнаць гэтую „анэмічную“ культуру з „поўнакроўнай“, не абмяжованай вялікімі рамкамі хаця-бы ў галіне літаратуры? Чым-жа можна запярэчыць Радку, які кажа: Сотні тысяч расейскіх капіталістаў, абшарнікаў, урадоўцаў, афіцэраў, пісьменьнікаў змытых хвалямі рэволюцыі з роднай зямлі, раскіданых па ўсім сьвеце, ня здолелі на працягу 15 год даць аніводнае повесьці, аніводнае драмы, аніводнага зборнічку поэзіі, якія-бы да глыбіны ўстрасянулі людзкой душой, якія-бы расказалі сьвету, прынамсі тым, хто дорыць іх сапраўднай сымпатыяй, аб тым, што перажыла, перанесла, перадумала расейская эміграцыя. Праўдападобна, што за сто год гісторык, пішучы аб іх, успомніць аб узварушваючай песьні, поэта кабарэтаў, Вярцінскага „Сумасшедший шарманщик“.

Вось што сучасная расейская эміграцыя здолела „уратаваць“ са спадчыны Пушкіна, Гогаля, Талстога. (Партрэты і памфлеты. Том II. Варшава 1936 г.).

„Яна (гэта новая культура) спыняе этычнае разьвіцьцё чалавека, грамадзкіх груп народу... этычнае пачуцьцё зводзіць да грубага утылітарызму“.

Гэта ўсё — пра культуру, дзе галоўным лёзунгам стаў новы гуманітарызм, чуткасьць да чалавека, да яго патрэбаў — духовых і матар'яльных.

У новай культуры пачалася і новая эра новай этыкі, вышэйшы закон якой зьяўляецца **дабро грамадзкасьці, дабро ўсіх працоўных**, салідарнасьць з усімі, якія імкнуцца да лепшага жыцьця.

Гэта этыка, абапёртая на грунце зьмяніўшыхся соцыяльных адносінаў, на грунце зьнішчэньня грамадзкіх паразітаў, перавыхоўвае чалавека, выкарчоўвае гэты грубы, эгоістычны нарост — пазасталасьць часоў капіталізму. Імпэратыўным наказам гэтай этыкі зьяўляецца — ўсе сілы у карысьць працоўных братоў — усёроўна, да якой нацыі ці расы належаць, усёроўна, на якім пункце зямной кулі жывуць.

Але будзьма справядлівымі, пісаў жа Ад. Станкевіч ня толькі аб ценях, але так-жа і аб блесках.

Ня мог-жа ня прызнаць Ад. Станкевіч аб шырокім карыстаньні там, дзе творыцца новая культура, беларускай мовай, аб пачатку дзяржаўнасьці (як вельмі скромна і цяжка гэта выходзіць з пад пяра аўтара) беларускага народу, аб калектыўнай гаспадарцы, аб саюзе народаў.

На заканчэньне трэба адцеміць, што глыбака памыліўся-б той, хто ў парушаных справах дагледзіў-бы якінебудзь акадэмічны адарваны ад нашага сяньняшняга дня спор.

Гэтак ня ёсьць!

Усе тыя сілы ў нашым народзе, якія душой і целам адданы справе сапраўднага нашага адраджэньня, а ў тым ліку і ўзросту культурна-творчага жыцьця беларускіх масаў, імкнуцца, каб злучана для гэтай мэты бараніць нашыя правы

на беларускую школу коштам дзяржавы, на беларускі унівэрсытэт у Вільні, на магчымасьць пашырацъ асьветную дзейнасьць мас усімі сродкамі, якія да гэтага служаць.

Справа новай беларускай культуры гэта бязумоўна адно з найважнейшых пытаньняў сучаснасьці беларускага народу.

---

П. СЯРГІЕВІЧ

# Зацемкі аб мастацтве

Прыходзяць і мінаюць стагодзьдзі і кожнае з іх інакш трывожыць душу чалавека і кожнае з іх мае новыя кірункі ўва ўсіх галінах людзкога творства.

Пасьля доўгага занепаду паўстае Беларускі народ да выяўленьня сваіх духовых сілаў, шукаючы старадаўных традыцыяў, а такжа новых дарог ува ўсіх галінах народнага творства.

Адна з найбольш яскравых галін — гэта мастацтва. Занадта грамаднае зроблена разрушэньне помнікаў нашага старадаўняга мастацтва, каб убачыць яго даўнейшы твар, шмат патрэба часу на досьледы, каб улавіць яго дух, бо — як ведама — былі ўплывы з усходу і з заходу. Гэту вялізарную працу павядуць людзі да гэтага прызваныя.

Я тут затрымаюся над выяўленьнем душы ў індывідуальным творстве побач з агульным беларускім адраджэнскім рухам.

Бязумоўна, адраджэнскі ўздым адбіваецца ў творах мастакоў. З гісторыі нам вядома, дзе паўставала разьвіцьцё культуры, там і мастацтва вылівалася ў як найпрыгажэйшых формах. І сягоньня ў беларусаў паўстае пытаньне, як выявіць думку ў пластычнай форме і дзе нам шукаць крыніц, каб узбагаціць сваю душу.

Кожнаму вядома, што перадусім трэба здабыць мастацкую культуру і тэхнічную падгатоўку, інакш кажучы „граматыку“, каб лягчэй выразіць форму.

Але гэтага яшчэ мала: ідзецъ нам аб твор, у душы напяяны, ідзець аб мастацкі сум да вялікай лініі, каторая адкрывае шырэйшы кругазор будняму дню жыцьця чалавека.

Сучасны рух у галіне тэхнікі вялікімі шагамі ідзе ўперад, стварылася адпаведная да яе і псыхалёгія сягоньняшняга чалавека, каб рабілі ўсё як найхутчэй, каб як найменш затрачваць часу і энэргіі. У значнай меры адбілася гэта і на мастаках. — Учора пачаў абраз маляваць, сягоньня кончыў, асадзіў у рамы і панёс на выстаўку неданошаны свой твор. Можна часта прыраўнаваць цяперашняга мастака да кухара, каторы паказывае сваю кухню і як варыць, але не падае яшчэ сапраўды добрае і сусім гатовае стравы.



Трэба ведаць, што праца, якая ёсьць пладом творча настроенай душы, ня так хутка падаецца. Трэба нам вялікае цярплівасьці даўнейшых майстроў, каторыя працавалі над сваімі творамі цэлымі гадамі, як напр. разьбяры з часу готыку, якія самі сябе лічылі скромнымі каменшчыкамі, а на якіх разьбаваныя фігуры на фасадах готыцкіх сьвятыняў глядзім сяньня, як на нешта вялікае і сапраўды цэннае ў мастацтве.

Праўда, сягоньня жывём у іншых абставінах — падупалі мэцэнаты, што зьяўляліся пераважна падпорай для разьвіцьця мастацтва; прышоў такжа новы лад грамадзкі, прышлі „дэмократычныя“ часы і мастак-маляр ня шукае ўжо падтрыманьня ў адзінкі багатага эстэты, а шукае падпоры ў шырэйшых кругох грамадзянства.

Монумэнтальнае малярства сашло са сьцен на варштат, шырокія малятуры сьвятынь і палацаў звузіліся да цэнтымэтравых велічынь абраза.

Дзеля гэтага першым мастом паміж маляром і грамадзянствам зьяўляецца сяньня выстаўка, іначай кажучы — рынак, дзе маляр чэрпае маральную і матар'яльную сабе падмогу ад грамадзянства.

Выстаўка адначасна зьяўляецца тэрмомэтрам кірункаў, якія праходзяць праз працоўні маляроў, што так часта сяньня сталі браць прыклад са старых прымітываў і дзіцячых рысункаў, або, выкідываючы ўсялякі зьмест абраза, кінуліся ў скрайні футурызм, супрыматызм, конструктывізм, формізм.

Але так як народ, які адраджаецца, ня можа паўтараць старых форм будовы гаспадарства, але мусіць дастасавацца да сучасных праяваў грамадзкага жыцьця, так і ў мастацтве ня можна паўтараць таго, што зроблена ў мінулых стагодзьдзях. Паўстае група за групай мастакоў, каторыя ўсімі сіламі стараюцца разьвязаць сакрэт, якой дарогай хадзілі мастакі клясыкі старой Грэцыі, або рэнэсансу, і ствараецца такім чынам кірунак псэўдоклясычны. Добра ацаніць як сьлед значэньне гэтых вялікіх помнікаў старадаўнай культуры, але, паўтараем, іх немагчыма і ня ёсьць гэта заданьнем мастака. Трэба пазнаць іх, але трэба ў творстве сваім адбіць сынтэзу сучасных ідэй грамадзянства, каторыя праходзяць праз прызму душы мастака.

Разумеецца, не аб тое тут ідзе, каб ставіць маляру гатовыя тэмы, над каторымі ён мае працаваць, бо тэму дыктуе яму самае жыцьцё і вонкавыя абставіны, што праходзяць праз яго мастацкую чуткую духовую арганізацыю. — Тут ідзе аб тое, каб парушыць самы глыбокі, жывы і актуальны настрой душы чалавека і адбіць яго вялікай сілай, выражанай у пластычнай форме лініі і колеру.

Паволі Беларускі народ пачынае працу ў што раз то шырэйшых галінах культурнага жыцьця; прыходзяць так-жа людзі, каторыя выяўляюць свой творчы дух і ў пластычнай форме. Сягоньня аднак яшчэ гэта замаладыя сілы, каб можна было выра-

зіць аб іх аканчальны суд. Беларусы, што праходзяць навуку ў чужых школах — усходняй ці то заходняй часьці нашага Краю,— адно павінны памятаць, каб не парваць сувязі са сваім народам і тэй крыніцай, дзе б'е нясьведамае яшчэ жыцьцё, але здаровае і незмэханізаванае цывілізацыяй. І каб ня згубіцца ў ар'ентацыях усходняй ці заходняй школы, у тым ці іншым кірунку — трэба пазнаць самога сябе.

Нам трэба йсьці ў народ, як ішоў Грыг, каторы стварыў найпрыгажэйшыя сымфоніі на падставе норвэскіх народных песень і саг, як расейскія маляры, што слаўна запісалі карту народнага мастацтва, ствараючы абразы на падставе былін і легэнд народных.

Чэсьць тым мастакам, каторыя здолелі сваей песьняй парушыць сонныя душы і змусілі іх імкнуцца да сьвятлейшых берагоў чалавечага шляху і сардэчна па іх сумуюць!

---

Р. ШЫРМА

# Беларускія валачобныя песьні
## і іх распаўсюджаньне на гэтым баку савецка-польскай граніцы

Вялікае багацьце абрадавых песень мае беларускі народ.

Сярод іх асаблівае мейсца займаюць песьні валачобныя, або як іх называюць Вялікодныя. Як і большасьць беларускіх абрадавых песень, валачобныя таксама бяруць свой пачатак недзе ў сівой старадаўнасьці і некалі былі цесна зьвязаны са сьвятам Вясны і земляробскай працы беларуса-славяніна. Трэба думаць, што гэта былі песьні-малітвы нейкаму паганскаму богу Вясны, або земляробскай працы.

З боку гэнэзы мэлёдыі і тэкстаў, як неразлучнага цэлага, гэтыя песьні зусім не дасьледаваны. А не дасьледаваны таму, што не праведзена па належнаму ў нас на Захадзе пляновая і сыстэматычная фольклёрызацыя гэтага матар'ялу. Самыя цікавыя і старажытныя з гэтых песень гінуць назаўсёды разам са старэйшым пакаленьнем, якое яшчэ памятуе другую палавіну мінулага сталецьця, але выміраючы нясе ў магілу і гэтыя скарбы.

Самы старажытны від валачобных песень па нашаму будуць песьні „лалоўныя“. Прысьпеўкі — „Эй лолам!“, або „Ой лоло!“ напэўна былі некалі зваротам да паганскага бога, так сама як „Лель“, „Лялі“ і „Лада“. З часам гэтыя словы свой паганска-рэлігійны зьмест згубілі і асталіся па традыцыі, як прысьпеў да валачобных песень.

Пасеяла лешку лёну, эй, лолам.
Пасеяла лешку лёну.
Лешка лёну не ўрадзіла, „



Падарачкі ўкарнаціла эй, лолам.
Пасеяла руту-мяту, — „
Наляцелі шугі-лугі, „
Шугі-лугі, чорныя каўкі. „
— Не дзярэце руту-мяту,
Бо мне руты многа трэбы „
А чашнічкам да шапачкі, „
А мне млодай вянок зьвіці, „
Вянок зьвіці замуж выйсьці „
(В. Бераставічаны, Горадзенскага пав.).

Прысьпеў „эй, лолам“, які спатыкаецца на Віленшчыне і Горадзеншчыне, ёсьць сапсуты пад уплывам часу; панашаму „ой, лоло“, які захаваўся ў Беласточчыне (в. Пяшчанікі) болей старажытны і адпавядае паганскай сапраўднасьці.

Тонка, тонка ў саду канапелька, ой, лоло.
Яшчэ танчэйша красная паненка „
Ой наляцелі марскія пташэнства, „
Селі на ерыну, росу атранулі
Паванька хадзіла пер'ечка раніла, „
Паненка хадзіла пер'ечка зьбірала,
Пер'ечка зьбірала ў падушачку клала, „
Ў падушачку клала, бела ложа слала, „
Бела ложа слала, да ложа гадала: „
— Ой, ложо, ложо, хто на табе ляжа? „
— Ой ляжа, ляжа месячык з зарою,
Месячык з зарою, паніч з паненкою, „

Як бачым, у гэтых песьнях, хаця-ж яны і прытарнаваны да Вялікодных сьвятаў, няма ніякага зьместу хрысьціянскага Вялікадня. Нашую думку, што гэтыя песьні сягаюць сваім нараджэньнем значна далей хрысьціянскай эпохі, пацьвярджаюць такжа валачобныя песьні, так званыя „віно“.

На балоці, на кракоці,
Дый віно-ж маё зеляное. *)

Ляжаў камень бялюсенькі
На тым камені сядзела зьмейка.
Дзесь узяўся красны панічык.
Красны панічык, малады Андрэйка.
Хацеў зьмейку бічэм цяці.
Бічэм цяці, ёй галоўку зьняці.
Яна стала прасіціся:
— Мой панічу, мой красавічу.
Не сячы мяне, не рубай мяне.
Як ты будзеш жаніціся,
Пушчу сынка за чашнічка,
А донечку за сванечку,
Сама прыду за кухарачку.
Як прышло да таго, то няма нічога:
Не пусьціла сынка за чашнічка,
А донечку за сванечку,
Сама не прышла за кухарачку.
(В. Вялікае Сяло, Пружанскага пав.).

*) Гэты радок — рэфрэн (прысьпеў) трэба паўтараць пасьля кожнага наступнага радка.

Доказам таго, што валачобныя песьні вынесьлі вобразы і звароты яшчэ з праславянскай мітолёгіі, можа служыць тэкст песьні, у якой справа пачынаецца аж „на сінім Дунаі".

Ой на моры, на сінім Дунаі,
Дый віно-ж, віно зеляное *)

Ляжыць кладка брусаваная.
А масточкі ўсё каваныя.
Тудой ішло 700 коней,
Усе кладачкі пагібаліся
А масточкі паламаліся.
Скуль узяўся красны панічык,
Красны панічык малады Сымонка,
Ляціць бяжыць гукаючы,
Свайго каня шукаючы:
— Вот ня жаль-жа мне 700 коней,
Вот жаль-жа мне аднаго каня:
З яго рота цякло злота,
Ён капыцікам камень разьбівае,
Ён хвосьцікам вулку падмятае,
Ён вушкамі неба падпірае,
Ён вочкамі зорачкі шчытае,
Ён Сымонку паненку шукае.

(В. Яцкава, Валожынскага павету).

Тут ужо зусім выразны астатак паганскага культу, таго адухаўленьня і абогаўленьня прыроды, з якім ведама-ж мусела вясьці жорсткую барацьбу духавенства. У гэтай барацьбе ад „лалымак" праз „віно", „зялён явар кудравы", „вярба", „бяроза", валачобныя песьні ў сваім разьвіцьці дайшлі да таго, што дзеючымі асобамі сталі сьвятыя, а прысьпевам да гэтых песень сталі словы: „Хрыстос ускрос, Сын Божы".

Праўда, усе сьвятыя, паводле валачобных песень, ня маюць характару тых сьвятых, аб якіх кажа нам сьвятое пісьмо. Нідзе не напаткаеш у гэтых песьнях, каб яны маліліся, наадварот усе яны заняты сялянскімі працамі: Юр'я „выпускае росу", ходзячы па межах „родзіць жыта", Мікола на кані ў полі, Пятро таксама даглядае жыта, каб ведзьмы каласоў ня зрывалі, а Ільля памагае зьбіраць з поля. Нават не абходзіцца без таго, каб яны не паспрачаліся паміж сабой („шахаваліся-рахаваліся", каму першаму ісьці ў поле). А Божая Маці

жыта зажынала,
жыта зажынала, ў тры радочкі клала..."

Такім чынам селянін-беларус робіць сваю корэктуру да навукі з гісторыі царквы-касьцёла—усіх сьвятых надзяляе характэрнымі рысамі, якімі сам адзначаецца: практычнасьцю, працавітасьцю, замілаваньнем да роднага поля, ветлівасьцю. Хрысьціянства зрабіла свой уплыў на гэтую галіну нашай народнай твор-

*) Рэфрэн паўтараецца пасьля кожнага наступнага радка.



часьці, але толькі ўплыў, калі можна так сказаць, вонкавы, фармальны, — зьмест-жа астаўся той самы беларускі, землябробскі і з вельмі значнымі адзнакамі паганскай мітолёгіі. Праўда, спатыкаюцца валачобныя песьні, дзе можна бачыць сьляды хрысьціянскага містыцызму. Але і там усё гэта прадстаўляецца неяк па-беларуску.

За прастолам сам Бог сядзіць,
Хрыстос ускрос. *)
Сам Бог сядзіць — лісты пішаць,
Лісты пішаць, Пётру клічаць,
Пётру клічаць, цяжка дышаць:
— Падай ключы пякельныя,
Выбаў душы няверныя... (Іжа, Вялейскага п.).

У розных паветах валачобныя песьні маюць свае назовы. У Беласточчыне, напрыклад, валачобнікаў называюць „валкоўнікамі". Можа таму, што яны ўмеюць добра „валкаваць", гутарыць прыказкамі да гаспадара і гаспадыні, хлапца, дзяўчыны, у залежнасьці ад патрэбы. У Слонімшчыне называюць іх „ралешнікамі".

Звычаі пры ўсіх акалічнасьцях, зьвязаных з гэтымі песьнямі, амаль тыя самыя ў кожнай вёсцы ці мястэчку: песьні гэтыя пяюць на першы дзень Вялікодных сьвят, і толькі прыгаворкі ды зьмест гэтых песень розьніцца сваімі варыянтамі. Хлапцу і дзяўчыне, якім пяюць песьню:

Проці лета, проці цёплага,
Проці цёплага, Вялікоднага,

заўсёды першаму даецца „параданька ажаніцца", а другой, каб

...узрасла, ўскрасла
да Зялёных Сьвят замуж пайшла," —

а гаспадару пяюць:

Дай-жа, Божа, жыці, быці,
Жыці, быці, жыта звазіці,
Жыта звазіці ў гумно злажыці.

Адсюль характэрная філёзофія гэтых песень: рэлігія сялянскай эканомікі —

З аднаго каласочка — жыта бочка,
А з другога ўдвое таго.

Па характару сваіх мэлёдый валачобныя песьні заўсёды пабудаваны ў мажорным ладзе. Звычайна беларуская песьня ведае болей мяккі мінорны лад, або нешта сярэдняе між тым і другім. Да валачобных гэтых асаблівасьцяў застасаваць нельга. Тут ясна і выразна адчуваецца танальнасьць мажорная, цьвёрдая, заўсёды бадзёрая і вясёлая. Магчыма, што векавая няволя на працягу ўсёй гісторыі народу недзе ў падсьведамасьці ад мінулых пакаленьняў захавала імкненьне да лепшага жыцьця, да сва-

*) Рэфрэн паўтараецца пасьля кожнага радка.

боды. Можа гэта сымбаль ускрасеньня народнага, — бо песьні гэтыя толькі ў беларусаў ёсьць.

Які абшар тут у нас на Захадзе займаюць песьні валачобныя?

Нас цікавяць найболей рубяжы этнографічныя. Бо там, дзе этнічная маса насельніцтва беларуская, там песьні гэтыя прадстаўлены вельмі багата; там-жа, дзе маса беларуская сутыкаецца з іншымі народамі, дзе крыжуюцца дарогі розных культур, можна спадзявацца чужых уплываў і нават поўнага выміраньня гэтага віду народнай творчасьці.

Поўнасьцю і дакладна даць адказ на пастаўленае пытаньне даволі цяжка, бо, як было зазначана, этнографія народнай творчасьці ў нас ня вычарпала. Апрача таго бязумоўна ад'емна ўплывае на аб'ектыўнае вывучэньне характарных асаблівасьцяў беларускай народнай культуры і тое, што на нашых абшарах гэтым займаюцца найчасьцей людзі, якім ідэя пазнаваньня беларускай нацыі чужая і вельмі далёкая, — і кожды такі дасьледчык шукае наперад карысьці для тэй нацыі, да якой сам належыць. Але ня гледзячы на гэта, усё-ж такі на падставе ўжо сабраных матар'ялаў можна зрабіць вывад, што песельная творчасьць нашага народу мае такое багацьце па колькасьці і па якасьці, што нават мацнейшы культурна — польскі народ пераймае нашыя беларускія лалымкі і валачобныя.

Каб накрэсьліць мапу распаўсюджаньня гэтых песень, то, пачынаючы з поўначы, трэба заняць усю Віленшчыну і далей паветы: Горадзенскі, Ваўкавыскі, Сакольскі і Беластоцкі. Апошні пункт Беластоцкага павету — в. Тапілец над ракою Наравам — зьяўляецца этнографічным рубяжом паміж беларусамі і польскімі мазурамі. У Пружанскім павеце, хаця слова „валачобнікі" і мае поўныя грамадзкія правы, аднак песьні гэтыя пакуль што запісаны толькі ў Сухапольскай воласьці, у в. Вялікае Сяло, а праз 4 кілямэтры, у в. Ялова, той-жа воласьці, запісана адна валачобная мэлёдыя і да яе адзін куплет тэксту. Песьня вымірае і вымірае таму, што тут скрыжаваліся дарогі культуры расейскай, польскай і ўкраінскай. Праўда, досьледы над гэтым абшарам ня ёсьць поўныя. Магчыма валачобныя яшчэ недзе захаваліся ў Пружаншчыне, асабліва ў лясных раёнах, але на гэта патрэбна спэцыяльных досьледаў.

Па-за ваяводзтвамі Віленскім, Беластоцкім і Палескім валачобныя песьні яшчэ багата захаваліся на ўсім абшары ваяводзтва Наваградзкага.

Валачобная песьня — самая дакладная этнографічная граніца паміж абшарамі з беларускім і польскім насельніцтвам.



# Ходзіць пава па вуліцы

## Валачобная, (в. Драглі, Сакольскага пав.)

Запісь Р. Шырмы
Муз. апрац. К. Галкоўскага

*Allegro moderato*

1. Хо-дзіць па-ва па ву-лі-цы, гэй ві-но,
1. Хо-дзіць
5. Зьвіў-шы вя-нок пайшла ў та-нок, гэй ві-но,
5. Зьвіў-шы
9. Ах ма-е-ж вы ма-лой-чы-кі, гэй ві-но,
9. Ах вы

1 Хо-дзіць па-ва гэй ві-но,
1. Хо-дзіць
5. Зьвіў-шы вя-нок „ „
5. Зьвіў-шы
9 Ма-лой-чы-кі. „ „
9. Ах вы

хо-дзіць па-ва па ву-лі-цы, ві-но
зьвіў-шы вя-нок пай-шла ў та-нок, ві-но
Вы зла-ві-це па-він ве-нец, ві-но

Гэй! ——

Гэй! —— па му-раў-цы, гэй ві-но.
„ —— буй-ны ве-цер „ „
„ —— за дар да-сі, „ „

2. Сьце-ле пё-ра па му-раў-цы, гэй ві-но,
6. Скуль-жа ўзяў-ся буй-ны ве-цер „ „
11. Штож нам панна за дар да-сі „ „




М. ПЯЦЮКЕВІЧ

# Беларуская мэлёграфія

## (бібліографічны нарыс)

Беларуская народная песьня належыць да тае галіны беларускай этнографіі, якая вельмі мала дасьледавана, мала распрацаваная. Беларуская народная песьня запісывалася прыпадкова, несыстэматычна і бяз жаднай пляновасьці. Запісы роблены пераважна народнымі вучыцелямі, сельскімі псаломшчыкамі і іншымі аматарамі.

Каб правільна запісаць мэлёдыю, трэба быць добрым музыколёгам і пры тым трэба мець адпаведны інструмант — фонограф, пры помачы якога мэлёдыі безпасрэдна ад сьпевака наігрываюцца на валкі. І сусім правільна сказаў польскі музыколёг Церняк, дырэктар народных тэатраў, што народную песьню, народную музыку найлепшы фаховец ня здолее правільна запісаць, бо, паўтараючы тую самую мэлёдыю голасам ці на інструманце, так дакладна не запяе ці не заграе, як першы раз; у кожным наступным паўтарэньні будуць недакладнасьці ў адносінах да першага выкананьня. Значыцца, трэба лічыць за даволі дакладна запісаную песьню ці мэлёдыю музычную толькі тую, якая будзе наіграна фонографам. Гэты інструмант ня так даўна сканструаваны ў Нямеччыне. Цяпер амаль усюды, дзе толькі пляннова вядуцца запісы народнай песьні, выконываюцца яны пры помачы фонографа *).

У чым безпляновасьць запісаў беларускіх народных песьняў?

Іменна ў тым, што ніводны павет, ніводная воласьць не зьяўляюцца дакладна дасьледаваны і не запісаны ўсе віды беларускай народнай песьні. Калі запісаны вясельныя мэлёдыі, то не запісаны іншыя і г. д. Калі-б мы хацелі напісаць монографію, дапусьцім, купальскіх песень, то можам знайсьці ў друках матар'ялы з пару паветаў, а з іншых будуць іншыя, а толькі не купальскія.

Вось гэтая безпляновасьць і несыстэматычнасьць у дасюлешніх работах пераканае нас, што мы ня маем яшчэ комплетных матар'ялаў дзеля напісаньня мэлёграфічнай монографіі, абымаючай усе землі Беларусі.

Нятолькі з беларускай мэлёграфіяй справа блага прадстаўляецца, ня ў лепшым стане знаходзіцца і польская мэлёграфія, аднак польскія мэлёграфы ў апошнія годы забраліся солідна да

*) У нашым краю фонографам запісывала народныя мэлёдыі Літоўскае Навуковое Таварыства ў Вільні. Праца гэта дала вынікі позытыўныя. Фонограф ёсьць у Вільні (Этнографічны Музэй Унівэрсытэту С. Батуры); з яго карысталі Літоўцы. Думаю, што і Бел. Інст. Гасп. і Культуры і Бел. Навук. Таварыства маглі-б скарыстаць з гэтага інструманту.

гэтай работы. Пляновая і сыстэматычная работа над беларускай мэлёдыяй яшчэ і сяньня ня зрушыла з месца ані тут ані ў Савецкай Беларусі.

Праўда, Катэдра Беларускай Этнографіі пры Беларускай Акадэміі Навук (за часоў нацдэмаўшчыны) нешта ў гэтым кірунку рабіла, але як гэта работа вялася — дзеля недахопу дадзеных — трудна сказаць, ведама тое, што выйшаў толькі адзін зборнік беларускіх народных песьняў з мэлёдыямі ў 1928 г., апрацаваны Гарэцкім і Ягоравым.

Як паведамляе беларуская савецкая прэса, матар'ялаў мэлёграфічных у архівах Акадэміі ёсьць шмат, але яны „засьмечаны нацдэмаўскімі установкамі і антысэміцкім элемэнтам"; дзеля гэтага імянна матар'ялы пасьля „чысткі" Акадэміі не маглі ўбачыць сьвету і магчыма не пабачуць.

У гэтым годзе фольклёрная камісія БАН пад кіраўніцтвам народнага поэта Я. Коласа быццам пачынае аджываць, прабуджацца з доўгага летаргу. Ужо намечаны праекты пляну працы. Але што яна, гэта камісія, зробіць, і як выканае свае пляны, сягоньня ня знаючы вынікаў ейнай працы трудна сказаць. Можна толькі адно заўважыць, што камісія будзе звaрачываць увагу перадусім на сучасны пасьлярэвалюцыйны фольклёр, пасьлярэвалюцыйную народную песьню. Адкінуць стары фольклёр — гэта значыць схаваць усе асаблівасьці культурныя і нацыянальныя дадзенага народу, асабліва нацыянальныя.

Сучасны беларускі савецкі фольклёр ня робіць уражаньня агулам чагось беларускага. Ня мае ён ані характарных рысаў географічна-топографічных, ані псыхічных, ані ўрэшце формальных. Сучасная беларуская народная песьня і розныя „частушкі" амаль нічога ня маюць у сабе народнага беларускага. Тэматыка іх — гэта гымны Леніну, Сталіну, Варашылаву і Кагановічу „за шчасьлівае, радаснае і заможнае жыцьцё". Мова—трудна сказаць якая, толькі не беларуская.

Зьбіраньне, запісываньне і гарманізаваньне беларускіх песень пачалося больш-менш у 40-х гадох мінулага стагодзьдзя, хоць першыя „ластаўкі" паявіліся крыху раней — як напр. Чарноўска М. (1817 г.) і Шыдлоўскі І. (1819 г.). У сьлед за Ант. Абрамовічам, які запісываў беларускія народныя песьні у 40-х гадох XIX ст., ідзе цэлы рад зьбіральнікаў беларускай народнай песьні. З. Радчэнко, Э. Романов, Р. Шэйн, Р. Бессонов і інш. Сярод зьбіральнікаў беларускай народнай песьні пачатку XX ст. выдатнае месца займае Ант. Грыневіч, які сабраў да 1000 народных песень. У гэтую пару бачым цэлы рад больш падгатаваных зьбіральнікаў, як напр.: Янчука, Тэраўскага, Равенскага, Прохарава і інш. Над гармонізацыяй працуюць Сокальскі, Танееў, Грэчанінаў, праф. Галкоўскі і інш. Цяпер разгледзім друкаваныя матар'ялы, аб якіх ведаем з тых ці іншых жаролаў. — Спэцыяльнай бібліографіі аб беларускай мэлёграфіі, друкаванай, яшчэ нажаль ня маем. Наш артыкул таксама не зьяўляецца поўнай бібліографіяй беларускай



мэлёграфіі, аднак важнейшыя пазыцыі бібліографічныя з белар. мэлёграфіі чытальнік напэўна знайдзе. Тыя бібліографічныя жаролы, з якіх прышлося карыстаць, не зьяўляюцца дакладнымі; напр. праца Д. Зеленіна „Библиографическій указатель русской этнографической литературы" 1913 г. падае вельмі мала бібліографічных пазыцый аб беларускай народнай песьні, хоць яны існуюць. Тое самае бачым і ў бібліографіі Фр. Гавэлка і інш.

Праўда, Беларуская Акадэмія Навук у Менску выдала бібліографію этнографіі: „Матарыялы да беларускай бібліографіі. Т. IV. Этнографія". Менск 1927. 4-о S. XL, 90, 2 nlb., дзе ёсьць спэцыяльны разьдзел аб беларускай народнай песьні (5. Мэлёдыі, музычныя прылады, народнае мастацтва, стр. 76—78, № 1834—1877). Гэтая бібліографія паводле слоў выдаўцоў абымае ўсе матар'ялы вышаўшыя друкам да 1926 г. Праца гэта вельмі цэнная, але як зазначае праф. К. Мошыньскі: „nie wyczerpuje on (разьдзел аб музыцы, М. П.) jednak przedmiotu, aczkolwiek zawiera wiele cennych wskazówek" *). А калі возьмем пад увагу час ад 1926 г. да апошніх дзён, як у нас так і ў Савецкай Беларусі, то зноў знойдзем шмат пустых мясцоў. Аднак гэтыя пустыя месцы ў меру магчымасьці пастараемся выраўняць тымі пазыцыямі, якія падае „Летапіс беларускага друку" за 1926—35 гады. Адносна выданьняў віленскіх, то нятрудна будзе падаць цалком дакладныя інформацыі.

Бібліографічны перагляд песенных матар'ялаў распачнём перш ад заходняй часьці Беларусі. Да песень, сабраных тут, належаць: 25 песень беларускіх і польска - беларускіх, запісаных у Сакольскім пав. ведамым філёлёгам праф. І. Бодуэн - дэ - Куртэнэ. Гэтыя песьні выдрукаваны ў „Zbiór wiadomości do antropologji krajowej", Кракаў. Т. 16. 1892 і Т. 18. 1895.

З беларуска - польскага этнографічнага пагранічча (каля Нарвы, вёска Трасьцяніца) Раманаў запісаў 5 белар. нар. песень (зьмешчаны ў зборніку: „Бѣлорусскій сборникъ" ч. VII. 1910 г.).

Адну мэлёдыю з павету Ваўкавыскага знаходзім у зборніку Шэйна „Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края" Т. І. ч. 1. 1897 г.

Як паведамляе М. Федароўскі ў уступе да першага тому свайго „Ludu Białoruskiego..." мэлёдыі да яго зборнікаў запісаў Ян Карловіч. Гэтыя мэлёдыі знаходзяцца ў Варшаве пад апекай праф. Панятоўскага і Пяткевіча. Мэлёдыяў да тэкстаў беларускіх ёсьць 727 і 201 да польскіх, запісаных на Беларусі. Усе ноты гэтых песень перапісаныя на чыставік і падсыгнаваныя літарамі J.K. (=Ян Карловіч); частка песень мае літары Tr. (=Трачык, студэнт львоўскай політэхнікі і аднačасна вучань Карловіча).

Над песьнямі ў гэтай часьці Беларусі працуе сучасны беларускі мэлёграф Рыгор Шырма, які ў 1929 г. сабраў і выдаў: „Беларускія народныя песьні" Вып. 1. Вільня. У зборніку зьмешчаны

*) Lud Słowiański. T. III, zesz. 1.

34 песьні. Апрача гэтага Р. Шырма ў рукапісах мае каля 1000 народных песень, запісаных пераважна ў паўдзённай частцы Краю. Даволі многа працаваў над беларускай народнай песьняй сьв. памяці Альбін Стэповіч. Ён ня толькі зьбіраў песьні, але і гарманізаваў для беларускіх хораў.

Далей, хоць не сыстэматычна, працуе тут над бел. народнай песьняй праф. К. Галкоўскі (ён толькі гарманізуе), а таксама ад часу да часу пасьвячае ня мала ўвагі бел. песьні камп. Грэчанінаў, які цяпер пражывае ў Францыі. У прошлым годзе на маё імя прыслаў больш 20 ці народных песень з тэкстам і нотамі з Браслаўскага павету самавук-мэлёграф Алякс. Мілевіч з засьц. Карчы; гэтыя песьні я перадаў Таварыству Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. Вельмі ўмела і інтэнсыўна працуе над зьбіраньнем і апрацовываньнем бел. нар. песьні малады і вельмі здольны беларускі камп. Валынчык, б. вучыцель сьпеву ў Наваградзкай Беларускай Гімназіі. Наскольні ведама, Валынчык мае шмат запісаных песень з Навагрудчыны і Палесься. У Сьвянцянскім пав. з ваколіц м-ка Камаяў зьбіраў бел. нар. песьні праф. Бр. Руткоўскі. З гэтых песень, запісаных праф. Руткоўскім, 8 зьмешчана ў зборнічку: „Pieśni ludowe ziemi Wileńskiej i Nowogródzkiej — zebrała Br. Gawrońska. Wilno 1935".

З павету Лідзкага запісаў і апрацаваў некалькі нар. песень сьв. памяці сьвяшчэньнік Т. Уладзімерскі; рукапісы гэтых песень знаходзяцца ў гр. Шырмы.

Апошнімі часамі наглядаецца вялікае зацікаўленьне белар. народнай песьняй. Як самыя беларусы, так і чужынцы працуюць у гэтым кірунку. Напрыклад, у мінулым годзе, летам, з даручэньня праф. Віленскай Музычнай Школы, Шэлігоўскага, у паветах Дзісьненскім і Браслаўскім запісываў бел. народныя песьні вучань успомненай школы Г. Цытовіч — з паходжаньня беларус.

З папярэдніх часоў існуюць яшчэ такія зборнікі белар. нар. песень з заходняй часткі Беларусі: А. Грыневіч і Зязюля „Беларускія песьні з нотамі" т. І. 1910 і томік 2. 1912 г.; песьні пераважна запісаны ў Дзісьненьскім і Ашмянскім паветах; з ваколіц возера Сьвір запісаў некалькі бел. нар. песень ведамы беларускі рэвалюцыянер, пісьменьнік і адначасна этнограф-аматар Ад. Гурыновіч,—зьмешчаны ў „Zbiór wiad. do antrop. krajowej". Кракаў 1893. Т. XVII, бач. 136. Трэба таксама адзначыць і песьні з Дзісьненшчыны, якія запісаў чех А. Чэрны ў ліку 22 і выдрукаваў у „Zbiór wiad. do antrop. krajowej". Т. 18. 1895 г. З гэтага-ж павету дае нам 36 мэлёдыяў абрадавых і інш. Э. Раманаў—„Бѣлорусскій Сборникъ" ч. 1.

Беларускі сьпеўнік. Сшыток 1. Вільня 1929.

Рагоўскага Л.: Беларускі песеньнік з нотамі для народных і школьных хораў. Кн. 1. Вільня 1911. — Беларускі песеньнік з нотамі для народных і школьных хораў. Выд. 2. Вільня 1918.

*(д. б.).*



# ХРОНІКА

═ 10-ці годзьдзе Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Сёлета Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, адна з найбольш заслужаных і дзейных беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў, будзе сьвяткаваць дзесятую гадаўшчыну свайго існаваньня. Згодна з пастановай Цэнтральнага Ураду Інстытуту, урачыстае сьвяткаваньне гэтага юбілею адбудзецца ўвосень.

═ Сёлетнім беларускім юбілярам зьяўляецца і Беларуская Друкарня імяні Францішка Скарыны ў Вільні. 1-га траўня мінула дзесяць год ад заснаваньня друкарні. Друкарня, хоць зьяўляецца ўласнасьцю прыватнай супалкі, дзеля ідэовага накіраваньня сяброў супалкі і такога-ж накіраваньня працаўнікоў друкарні, шмат прычынілася да развою беларускай адраджэнскай думкі і сталася аднэй з заслужаных беларускіх установаў.

═ Віленскі Аддзел Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў бягучым квартале, як і ў папярэднім, зарганізаваў ужо некалькі лекцыяў з цыклю гісторыі Беларусі. Прэлегентамі выступалі: а. В. Гадлеўскі, старшыня Інстытуту, і інж. А. Клімовіч, старшыня Віленскага Аддзелу. У гэтым-жа часе адбыўся адзін канцэрт беларускай народнай песьні, арганізаваны Аддзелам Інстытуту. Выступаў Хор Інстытуту.

═ 8. III. адбылося ўрачыстае паседжаньне Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні, у чэсьць 450-тых угодкаў нарадзінаў першага беларускага друкара д-ра Францішка Скарыны. Былі прачытаны два рэфэраты аб Скарыне і яго друках, і пастаноўлена дамагацца ад комунальных уладаў м. Вільні перайменаваць Вялікую вуліцу на вуліцу імяні Фр. Скарыны.

═ 15 сакавіка ў салі Сьнядэцкіх віленскага Унівэрсытэту адбыўся вечар беларускай паэзіі і песьні. У прагаму ўходзілі аўторэцытацыі і рэцытацыі твораў передавых зах.-беларускіх паэтаў Міхася Машары, Максіма Танка, Натальлі Арсеньневай, Міхася Васількa, А. Бярозкі і Хв. Ільляшэвіча, — рэфэрат м-гра Ст. Станкевіча аб маладой беларускай паэзіі, і канцэрт беларускай песьні, выкананы хорам гр. Р. Шырмы і салісткамі.— Вечар удаўся. Усе пералічаныя паэты, апроч Арсеньневай, на вечары былі прысутнымі.

═ „Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej" — гэта дысэртацыйная праца б. сябры рэд. калегіі нашага часапісу, м-гра Ст. Станкевіча. Вышла нядаўна з друку частка першая. Аўтар разгледзіў пару польскай романтычнай літаратуры да 1830 году і ўдачна выявіў беларускі фольклёр, як асноўны элемэнт у польскай романтычнай літаратуры разглядаемай пары.

═ Беларускі пісьменьнік і наш супрацоўнік Вінцук Адважны па доўгім прабываньні на чужыне прыяжджае на Бацькаўшчыну. Мае намер у канцы траўня быць у Вільні.

* * *

═ Група навуковых працаўнікоў Інстытуту Гісторыі БелАН. пад кіраўніцтвам акад. Шчарбакова закончыла працу „Гісторыя Беларусі ў дакумантах і матарыялах" у двух томах. Першы том, што ўжо друкуецца, мае 40 аркушоў. Ён абымае пэрыяд з старажытных часоў да канца XVIII-га стагодзьдзя. Публікуецца рад арыгінальных дакумантаў і матарыялаў з гісторыі Беларусі з літоўскай мэтрыкі а таксама знайдзеных у архівах Масквы, Ленінграду, Кіева, Днепрапятроўска і БССР. Другі том абымае пару з XVIII стаг. да 1917 г.

═ Інстытут Геолёгіі Беларускай Акадэміі Навук працуе над утварэньнем геолёгічнай карты БССР у маштабе 1 : 200,000. Дзеля гэтага

ўжо выканана геолёгічнае фатаграфаваньне на плошчы да 50 тысяч квад. кілёмэтраў. Сёлета мае быць сфатаграфавана яшчэ 9 тысяч кв. кілёмэтраў тэрыторыі. Цалком карта будзе гатовай у 1940 годзе.

═ Беларуская Акадэмія Навук працуе над зьбіраньнем і вывучэньнем фольклёру народаў БССР. Ужо гатовы да друку зборнік „Беларускі савецкі фольклёр“. Адначасна рыхтуецца кніжка „Прыгон у фольклёры“. Дзеля гэтага ўжо сыстэматызавана 1000 казак, песень, расказаў, якія адносяцца да жыцьця беларускай вёскі ў першай і другой палавіне XIX веку.

═ Акадэмік Беларускай Акадэміі Навук Нікольскі сабраў багаты фольклёрны матарыял — казкі. Ён сыстэматызаваў больш 100 казак, значная частка якіх ня была дагэтуль апублікавана. Адначасна Нікольскі падрыхтаваў да друку працу аб беларускіх народных прыказках.

═ Сёлета прыпадае 15-я гадаўшчына існаваньня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску і стагодзьдзе існаваньня горацкага сельска-гаспадарчага інстытуту. Улады Савецкай Беларусі дзеля падрыхтаваньня і правядзеньня гэтых юбілеяў паклікалі спэцыяльныя камісіі.

═ У мінулым годзе прэзыдыюм БелАН. абвесьціў конкурс на лепшую навукова-дасьледчую працу. На конкурс прыслана 16 прац. Нагароджаны 5. Сярод іх праца праф. Дарожкіна — „Вынікі сямігадовага вывучэньня парошыстай паршы бульбы ў БССР“, праф. Ламцёва — „Беларуская граматыка“. Дзеля правядзеньня такога-ж конкурсу сёлета, прэзыдыюм БелАН. утварыў камісію ў складзе Шчарбакова, Бурстына, Матулайціса, Коласа, Вальфсона, Афанасьева і праф. Шпенцэра.

═ 17 — 19 лютага адбылася ў Менску першая ўсебеларуская (Сав. Беларусь) алімпіяда мастацкай самадзейнасьці работнікаў сьвінагадоўчых саўгасаў. У алімпіядзе прыймалі ўдзел лепшыя ўчасьнікі саўгасных і міжсаўгасных алімпіяд у ліку 160 чалавек. Выступалі хоры, джазы, аркестры, выступалі цымбалістыя, гарманістыя, скрыпачы, дэкляматары, пачынаючыя пісьменьнікі. Беларускі, рускі, украінскі фольклёр займаў значнае месца ў выступленьнях учасьнікаў.

═ У конкурсе на лепшую песьню, абвешчаным цэнтральным органам ВКП(б)—часапісам „Праўда“, прымалі ўдзел паэты ўсіх рэспублік СССР, у тым ліку і паэты БССР. Народнаму паэту Янку Купале конкурсны суд прызнаў 2-ю нагароду — за песьню „Выпраўляла маці сына“. Трэцяя прэмія прысуджана беларускаму савецкаму паэту Андрэю Александровічу — за песьню „Серго Орджанікідзе“ (!).

═ Працаўнік геолёгічнага інстытуту БелАН. Цэйтлін напісаў навукова-дасьледчую працу, цікавую для характарыстыкі прыродных багацьцяў БССР.

═ Беларускі савецкі кампазытар Туранкоў апошнім часам згарманізаваў дзьве беларускія народныя песьні: „Ой зелена, зелена“ і „Пайшла баба па сялу“, а кампазытар Равенскі—песьню „Ой загуду“ і напісаў музыку на верш Купалы „Лянок“.

═ У сувязі з артыкуламі „Праўды“ супроць фармалізму і натуралізму ў розных галінах мастацтва, як па ўсім СССР, так і ў БССР адбыліся і адбываюцца дыскусыйныя вечары, на якіх працаўнікі паасобных галін мастацтва (літаратуры, тэатру, архітэктуры, музыкі, жывапісі і т. д.) разважалі пытаньні барацьбы за добрую якасьць у мастацтве.


*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*




## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Др. Я. Станкевіч,** Зьмена граматыкі беларускага языка ў БССР. Вільня, 1936.
**Ст. Станкевіч,** Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej, ч. 1. Вільня, 1936.
**Праф. д-р І. Огієнко,** Сучасна українська літературна мова, 1935.
„ Складня української мови, 1935.
**Д. Донцов,** Патріотизм. Львоў, 1936.
**Маладая Беларусь,** кн. 1. Вільня, 1936.
**Летапіс Таварыства Беларускае Школы,** № 1—3. Вільня, 1936.
**Беларуская Борць,** № 3. Вільня, 1936.
**Вістнік,** кн. 4, Львоў, 1936.
**Шлях Нацыі,** ч. 3—4. Львоў, 1936.
**Обрії,** ч. 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14. Львоў, 1936.
**Рідна Мова,** ч. 4, 5. Варшава, 1936.
**Життя і Знання,** ч. 1, 2, 3, 4. Львоў, 1936.
**Назустріч,** ч. 9. Львоў, 1936.
**Наш Світ,** ч. 3, Луцк, 1936.
**Богословія,** кн. 1. Львоў, 1936.
**Нова Хата,** Львоў, 1936.
**Slovansky Prehled,** č. 3. Прага, 1936.
**Katolik,** č. 3, 4, 6. Прага, 1936.
**Život,** č. 5, 6. Прага, 1936.
**Sprawy Narodowościowe,** № 5, 1935.
**Oriens,** сшытак 2. Кракаў, 1936.
**Pax,** № 4, 5, 6, 7—8. Вільня, 1936.
**Włóczęga,** № 3, 5. Вільня, 1936.

### Ад Рэдакцыі:

Друкаваньне наступнай (3-й) кніжкі „Калосься“ пачнецца 1-га чэрвеня. Просім дзеля гэтага паважаных супрацоўнікаў паруліцца прыслаць да друку матарыялы ў тэрміне.

# КАЛОСЬСЕ

## ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

КНІЖКА 3






ВІЛЬНЯ 1936 ГОД

**Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2.**

Складка на год—2 зал., на паўгода—1 зал.
Адна кніжка — 50 гр.

**Часапіс выходзіць раз у тры месяцы.**

## Зьмест кніжкі 3(7) „Калосься“.



Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 3(7)** **1936 г.** **Год II**

МІХАСЬ МАШАРА

## МАМЧЫНА ГОРКА

То ня струны зьвіняць,
Галасістыя,
Зашумела жыццо,
Каласістае.

Вецярок да яго,
Заляцаецца
І жартуе, пяе —
Абнімаецца.

Адшуміць, адцьвіце
Жыцьцё хмельнае,
Застанецца па ім,
Казка сьпеўная.

Што прайшло, прабыло, —
Не вяртаецца —
Гэдак казка мая
Пачынаецца,

Што па дзеду дастаў
Яе спадчынай;
Ахрысьціў яе ён
— Горкай мамчынай.

### Частка I.

I

Жыў граф,
Магутны граф Лапата,
Ўладар Залешчыны усей
І ганаровы і заўзяты;
З усей магнацкай пыхай тэй.

Абшар палёў яго шырокіх
Сягаў на колькі міль наўкол.
І сьцежкі ўсе, і ўсе дарогі
Вялі у графскі пышны двор.

Палац-замчышча пад гарою
Ў люстэрка возера глядзеў,
А бор сасновы над вадою
Напеў таёмны свой шумеў.

Палац пануры і высокі,
Кругом абведзены муром,
А пад палацам лёх глыбокі —
Пастрах нявольнікам — рабом.

„Залесьсем“ зваўся двор Лапаты; —
Навокал лес сьцяной стаяў
І узьбярэжжаў пышнай шатай
Палац і горку абнімаў.

І разсьцілаўся ў даль далёка;
На колькі вёрст цягнуўся бор
І ў гушчары яго глыбокім
Не пачынаў зьвінець тапор.

Адзін мядзьведзь, ўладар бязьмежны,
Тут непадзельна панаваў,
Ды чалавек з душой мяцежнай
Часамі праўды тут шукаў.

І бор прымаў усіх ласкава,
Ў каго бруіла бунтам кроў;
Тут панавала волі права
І кпілі ўсе з людзкіх правоў.

А лішніх многа тут бывала, —
Навокал быў тады прыгон.
У лес рабоў нядоля гнала;
І беззаконьне, і закон.

Разбоем часта прамышлялі
У цёмных нетрах удальцы
І з пераможцамі гулялі
Па ўсіх дарожаньках хлапцы.



Пастрах наводзілі часамі
На ўсю ваколіцу яны
І уміралі сьмела самі
Разгульля вольнага сыны.

Эх, гулялі хлопцы
Ды на вольнай волі!
Паміналі помстай
Яны — лёс бяздольны;

Па бары, па нетрах,
Па шляхох — дарогах
Эх, гулялі з ветрам,
Хлопцы ў перамогу.

А па ўсей Краіне,
Белай — Беларусі,
Люд працоўны гінуў
Скотам у прымусе.

Хто хацеў над імі,
Той зьдзекваўся ў волю
І па ўсей Краіне
Стогны йшлі ад болю.

Ад прыгону — гора,
Ад паноў — ад катаў
Сьлёз стаяла мора,
Што мужык наплакаў.

Панавала крыўда
Над Краінай сіняй,
Веяла ад вёсак
Жудасьцю магільнай.

Бор адзін прытулкам
Быў хлапцом мяцежным
І крынічыў гулка
Волі безбярэжжам.

Тут зьвінелі песьні
Поўныя разгулу
І плылі прадвесьняй
Гэнь да сэрцаў чулых!

II.

Магутны надта быў Лапата.
Яго зямель — багаты плён,
Яго уладныя загады —
Усім навокала — закон.

Палац быў поўны слуг пакорных, —
Рабоў бязвольных і нямых
І соткі душ сялян прыгонных:
Старых, малых і маладых.

Усе яны гібелі марна,
Усе былі яны ў ярме,
Усе бяз протасту ахвярна,
Усё жыцьцё нясьлі яму.

А ён, як той павук пачварны,
Усю ваколіцу смактаў.
І з крыўд людзей жывых бязкарна
Сваё багацьце ўсьцяж зьбіраў.

Але ня цешыла багацьце,
Старога графа-багача;
Панурым смуткам, як пракляцьцем,
Спавіта гордая душа.

Ў палацы змрочным адзінока,
Як зданьне, бродзіць граф стары
І нейкі боль мігціць глыбока
Ў вачох патухшых без пары.

Усе дрыжэлі напаткаўшы
Яго сьцюдзёна-шэры ўзрок,
А хто мінаў яго — жагнаўся, —
Як ад бяды ўцякаў на бок.

Казалі, быццам ад пагляду
Нядобра-вострага яго
Ніхто ня быў ніколі рады
І уракалась — дзіцянё.

А ўсё-ж і радасьць зацьвітала,
Цямнелі воч гэтых зрачкі,
Калі часамі, як бывала,
Спаткае погляд ён дачкі.



III.

Адна, адзіная ў Лапаты
Была насьледніца дачка —
Зямлі, палацаў і дукатаў
І мітры графскай багача.

Стары кахаў яе бяз меры,
Яго пацехаю была
І ў адзіноце яго шэрай
Палоскай сьветлай залягла.

Яна адна зьмірала сьмела
Яго разгневаны парыў,
Пры ей душа яго сьвятлела
І смутак сэрца не марыў.

Яна адна глядзела ветла
У вочы страшныя яго
І пад паглядам яе сьветлым
Цьвіло жыцьцёвае цяпло.

І уціхала гневу бура,
Таёмны боль ў грудзёх сьціхаў
І твар старога самадура
Лагодны выраз прынімаў.

Дачку кахаў, відаць, гарача,
Бо толькі з ей ласкавым быў.
Затое колькі крыўд і плачу
Наўкол Лапата прынасіў.

IV.

Дарутай звалася графянка.
Ей год дваццаты ўжо ішоў.
Была прыгожа, як — вясьнянка,
Красой хвалюючая кроў.

Ў вачох іскрыліся вясёлкі,
І сінь, і сьвежасьць васількоў.
Была страйнейшай за сасонку,
Чысьцей — за сьлёзы мужыкоў.

Яна ня знала роднай маткі
Ад самых першых дзён жыцьця,
Яе ўскармілі грудзі мамкі,
Ў палац пакліканай з сяла.

Ішлі гады... Расла Дарута...
Служыла верна мамка ей.

І граф абходзіўся ня крута
З старой слугой дачкі сваей.

Дарута вельмі шанавала
Пястунку верную сваю,
Як маці родную, кахала
Старую мамку па найму.

Але яна усіх кахала,
Кахала кожны сьлед жыцьця,
Яе душа была саткана
З валокан сьветлых пачуцьця.

І вочы сінія красуні,
Яе ружова-белы твар
Не адбівалі яшчэ суму,
Ні сэрца мук, ні цяжкіх мар.

V.

У мамкі — найміткі прыгоннай, —
Графянцы вернай ўсей душой,
Апроч Даруты — быў сын родны,
Які рос з графскаю дачкой.

Старэйшы, праўда, за графянку
На пару нейкіх год ён быў.
Прыстойны надта... Зваўся Янкам.
І сам ня ведаў, кім тут жыў.

У слуг лічыўся чуць ня панам.
У пана, часам, — горш слугі.
Ў задуме нейкай, закаханы,
З сьлядамі суму і тугі.

Аб чым тужыў? — Аб гэтым ведаў
Напэўна толькі бор адзін:
Яму ён толькі шчыра верыў, —
Яму ён быў, як родны сын.

З ружжом набітым за плячамі,
Шмат часу тут праводзіў ён;
Шукаў адказу на пытаньні
І вывучаў жыцьця закон.

Таёмны бор яго ня страшыў, —
Прымаў, як роднага ў сям'ю,
І днём, і ноччу — кожным часам
Ён роднай хатай быў яму.

Сюды ён нёс сваю нядолю
І боль хвалюючых трывог



А бор шаптаў яму пра волю,
Пра хмель жыцьцёвых перамог.

Тут спатыкаў, казалі людзі,
Бунтарных хлопцаў, — ён падчас
У іх сям'і любіў марудзіць,
Гуторыў доўга штось ня раз.

Аб чым гутарылі, — вядома,
Ніхто падслухаць іх ня мог.
Іх вартаваў сасьняк сустромы
На скрыжаваньню ўсіх дарог.

Кахаў ён бор, яшчэ за гэта,
Што тут пад горкай Янка наш
(Шапталі слугі пад сакрэтам)
З Дарутай бачыўся ня раз.

Але нашто рабіць загадку,
Скакаць наперад без пары?
Пачнём лепш дзеі па парадку,
Як расказаў мне дзед стары.

— — — — — — — —

Ёсьць на сьвеце Краіна адна,
Ўся душа яе ў казках жыла,
Вылівалася ў песьнях стагодзьдзі.
Яе скарбы — працоўны народ, —
Быў закінуты гінуць пад плот
І як скот ён гібеў у балоце.
Тут была — і цямра, і бяда,
Тут віла сабе гнёзды жуда,
Панаваў поўнаўладна прымус.
Тут ніколі вясны ня было,
Над ей кпілі — і Бог, і жыцьцё —
Тэй Краінай была — Беларусь.

Эх, Краіна родная —
Беларусь мая,
Вельмі ўжо гаротная
Долечка твая!

Ўсё жыцьцё запраўднае
Абмінала нас,
Груганы крывавыя
Мелі тут папас.

Мы карміліс мроямі,
Духам — жабракі,
І ляжалі гноем мы
Цэлыя вякі.

Толькі падарожнікі —
Лірнікі — дзяды —
Апявалі кожнаму
Вольнасьці сьляды,

Ды складалі казкамі
Дзеі чорных дзён,
Што дарыў няласкавы
Навакол прыгон.

VI.

Ў палацу графскім па пакоях
Снуе таўпа праворных слуг.
Відаць трывожныя настрої
І нябывалы нейкі рух.

Палац прыбраны, як у сьвята,
Вартуе стража на сьцянах
І вецер гойдае заўзята
Панад палацам графскі сьцяг.

Так пышна! Думны граф Лапата
Гасьцей чакае дарагіх: —
Прыедзе сёньнека у сваты
Даруце выбраны жаніх.

Хоць тры разы старэй Даруты, —
Ён гэрбаваны і багат,
І сваявольны і магутны,
З усіх бакоў, як трэ магнат.

Даўно Лапата мроіў скрыта
Аб зяцю гэтакім сабе;
То не які шляхтун - найміта,
А пан, вяльможны пан, як трэ!

Калі ўжо трэ, па волі неба,
Каб род Лапатаў згас на ім,
Ён ўсё аддасьць дачцэ, як трэба,
Дачку-ж аддасьць, як сам, — такім.

І хутка зьдзейсьніцца жаданьне, —
Да мэты надта блізка ён.
Затое пышна так спатканьне
І урачыст гасьцей прыём.

Вяльможны Жаба — рыцар сьмелы —
(Яго шануюць ўсе кругом),
Сягоньня сам з дружынай цэлай
Сюды прыедзе жаніхом.



Хаця Даруты ён ня бачыў
І не знаёмы нават ей,
Ды што дачкі там воля значыць,
Дзе між магнатаў рэч ідзе.

Даўно згадзіўся сам Лапата
Аддаць руку дачкі яму,
А сэрца служыць у магнатаў
Загаду, сіле і найму.

VII.

Пад брамай рог зьвініць прызывам,
(Бягуць да брамы ключары)
І скачыць рэха пералівам
Ў лясным заснуўшым гушчары.

З ласкотам браму адчыняе
Таўпа азброеных людзей,
З паклонам нізкім спатыкаюць
Даўно чаканых тут гасьцей.

І да палацу урачыста
Вядуць дружыну ўсю яны.
На сонцы зброя залаціцца
І зьяе шоўк і галуны.

Зьлязаюць з сёдлаў каля ганку,
Трымаюць коні канюхі.
Рыхтуе дружба для графянкі
Гасьцінцаў многа дарагіх.

Гасьцям дастойным на спатканьне
На ганак сам Лапата йдзе.
Ў пакої з ветлым прывітаньнем
Іх запрашае і вядзе.

Вясёлы гул... Брэнчаньне зброі...
Шумяць пушыстыя каўры
І скачыць водклік па пакоях,
Кіпіць жыцьцём палац стары.

Наўкол абслугі рой рухлівы,
Гасьцей таўпа ідзе далей,
Вядзе Лапата іх шчасьлівы
З вяльможным Жабам на чале.

Але вось заля сталавая...
Чакае ўжо прыбраны стол
І граф з паклонам запрашае
Гасьцей, — садзяцца навакол.

Садзяцца госьці каля столу,
За крэслам кожнага слуга
І пачынаюць баль вясёлы
На чэсьць сватоў і жаніха.

VIII.

Пры кожным чара залатая
Да краю поўная віна.
Віно, як быццам кроў жывая,
Мяцеліць іскрамі са дна.

Ідзе бяседа каля столу,
І сьмех, і гул, і чарак звон
І нястрыманы і вясёлы
Разгулу панскага разгон.

П'юць за здароўе, па парадку,
Усіх прысутных за сталом,
А графу лёсткі сьцеляць гладка
І славяць чуць не каралём.

Усё пахлебства граф прымае,
Ён задаволен і вясёл,
А чашнік чары налівае
Усей дружыне навакол.

Але вось госьці графа просяць —
Пазваць да іх дачку сюды,
Яе здароўе выпіць хочаць, —
Уся дружына і сваты.

Здароўе выпіць, — заручыцца,
Злажыць у ног яе дары,
А потым знова весяліцца,
Як кажа ім звычай стары.

І даў загад слугам Лапата —
Дачку паклікаць да гасьцей.
Дружына рада... — Сьмех... Віваты.
Віно запенілась быстрэй.

Але прыбег слуга праворны
І графу так адказ дае:
— Даруй, ўладар, слугам пакорным,
— Ў палацы тут — няма яе.

Вясёлы твар пакрыла хмара,
Уладны гнеў бліснуў з вачэй;
Дрыжыць слуга сагнуўшы карак
І ціха стала між гасьцей.



— Ідзі, шукай! шукай усюды!
— Пакліч з палацу слуг сабе,
— І не вяртайся без Даруты,
— О, марны раб, — на вочы мне!

IX.

Заходзіць сонца... Цень лажыцца.
Паўзе ў лагчыны летні змрок.
Чырвонай кроўю залаціцца
Вада люстраная, заток.

Заснула возера ў спакою,
Ад бору цень папоўз даўгі.
І хвалі ціха пад гарою
Заледзь цалуюць берагі.

Ляніва шэпчуцца чароты,
Заледзь калышыцца лазьняк
І нейкай ціхаю пяшчотай
Шуміць задумлівы сасьняк.

Заснула возера... Навокал
Стаіць таёмны бор стары,
Ды залацяцца адзінока
Палацу графскага муры.

Сядзіць над возерам графянка,
Наўзбоч палацу пад гарой.
Над ей сасьняк, а збоку Янка
Гутораць ціха між сабой.

Гутарылі яны
І журчалі славы
Ласкі поўныя,
Хаця думкі плылі,
Як вясеньнія дні
Невясёлыя.

Дарута.

О, ня сумуй, ты мой харошы!
І ня тужы адзіны мой.
Глядзі, які заход прыгожы,
Якая ціш! — Які спакой!..

Заўсёды будзем мы з табою,
Заўсёды будзеш ты маім!
Ніхто, ніякаю цаною
Ня змусіць жыць мяне з другім.

Пацяшала яна,
Хоць была і сама
Смутна — смутная,

Бо у сэрцы жыла
І у вочах цьвіла
Боль магутная.

Моцна верыў ён ей,
Але ніткі надзей
Усе парваліся,

Рвалась сэрца з грудзей
І мацней, і мацней
Бунтавалася.

Янка.

О, не бажыся, дарагая,
Кахаеш — веру, ты мане,
Але ў палацы заручае
Цябе другі ужо сабе.

Ён рыцар знатны і багаты,
Ён — служыць толькі каралю,
Ён, як і ты, — з сям'і магнатаў
І граф цябе аддасьць яму.

Дарута.

Аддаць мяне, — о, мой каханы! —
Аддаць ня зможыць татка мой,
Бо ты мой любы і жаданы
І я мой лёс злучу з табой.

А я адна ў яго на сьвеце,
Адна, — як ты ў мяне адзін, —
І хто-б ня быў там на прымеце,
А будзеш ты Лапаты сын!

Янка.

Дарма ты будзеш паніжацца,
Яны ня ўзрушацца нічым.
Прыдзецца мне з табой растацца:
Ня я, а будзе ён — тваім.

Я раб бяз меньня і аблічча,
А ён вяльможны і багат.
Ня мне з Лапатай парадніцца:
Адзін намер... — чакае кат...



Дарута.

Павер, як татка мой дазнае,
Што ты мне люб, што дараг мне,
Што ты гарача так кахаеш,
То ўся бяда, як сон міне.

Янка.

Надзеяй злуднай і манлівай
Мяне й сябе не спакушай.
Наш лёс няпэўны і здрадлівы
Ты мне у рукі лепш аддай!

Ня можам быць мы тут шчасьлівы,
Тут перамогуць нас яны,
І нат' змагацца мы бязсільны;
Нявольнік — я, яны-ж — паны!

Дарута.

А што ўзамен надзей туманных,
О, любы мой! што маеш ты?
Сваей Даруце, мой каханы,
Адкры замеры і пляны.

Янка.

Што маю я? — Ня надта многа: —
Агонь у сэрцы маладым,
Душу бяз страху і трывогі
І сіл, юнацкіх сіл уздым.

Я ўсё прадумаў і разважыў,
Даўно уцечкі плян гатоў;
Даўно з'яднаў сабе адважных,
Разбойных хлопцаў-бунтароў.

Яны нам выпаўніць памогуць
Усе замеры і пляны,
А там — на новую дарогу —
Да нашай радаснай вясны!

Дарута.

Пакінуць ўсё! Навек растацца,
Што так кахала ўсей душой,
Ісьці у сьвет, ісьці блукацца —
Занадта цяжка, любы мой!

Але, павер, калі ня будзе
Нам выйсьця іншай пуціной,
Тады на ўсё з табой згаджуся:
Пайду усюды за табой.

Янка.

Закрыты сьцежкі ўсе другія
Да шчасьця нашага, павер.
На нашы сілы маладыя
Адна надзея нам цяпер.

Але ідуць сюды вун слугі,
Шукаюць, родная, цябе,
А сэрца, поўна нейкай мукі,
Балюча зноў трывогу б'е.

Эх, чуе сэрца штось благое!
Дарута, любая, — пакуль
Яшчэ мы вольныя абое,
Бяжым хутчэй наўцёк адсюль.

Бажуся, — будзем мы шчасьлівы!
На варце шчасьця стану я.
Усе гарачыя парывы
Ўкладу ў полымя пачуцьця.

Зьбяру з пад ног тваіх каменьня,
Наўю прыгожых мрояў сон.
Бяз мук, бяз суму і цярпеньня
Пайдзём ў краіну сьветлых дзён.

Дарута.

Пакінь, о, любы, разважаньне,
Ўцячы заўсёды будзе час.
Пакуль растанемся, Іване,
Вун слугі ўжо чакаюць нас.

---

Яна пайшла...
А ён астаўся,
З бязсільным бунтам у душы.
Адзін чарот усьцяж шаптаўся
Ў цішы надходзячай начы.

Заходзіла сонца,
Сонца залатое.
Залаціла сосны
Чырвень над гарою.



Адыйшла Дарута,
Да муроў палацу.
Дзесь лунала смутна
Песьня цяжкай працы.

То сьпявалі жнеі,
Ідучы да хаты;
Праклінালі долю
І прыгон праклятых.

Калыхаліся гукі
Ціха ў летнім змроку,
Боль жывы і муку
Гэнь нясьлі далёка.

Сказ людзкога гора
Слухалі прасторы,
А над цёмным борам
Загараліся зоры.

І глядзелі ярка
З цемнаты высотаў.
Пад гарою Янка
Слухаў шум чаротаў.

Слухаў шум чаротаў,
Слухаў песьні жнеяў
І паўзла маркотна
Ў ціхім задуменьню.

А над ім высока
Сосны баравыя
Ўсьцяж шапталі ў змроку
Шопаты ціхія.

Шопаты і шумы
І напевы гора
Навявалі думы
Чарней хмары чорнай.

*(д. б.).*

---

# НАРАЧ

## (частка другая)

1.

Нямала зор
апала ў Нарач
шэрай восеньню,
шмат згасла іх начамі цёмнымі, глыбокімі...
часамі вецер цёмна-сінім невадам,
часамі ловіць іх
густымі падвалокамі.

Ды позна паплывуць ляніва хмары сьнежныя
і на азёры,
на затокі
і на сажалкі
апусьцяцца, як з выраю вярнуўшыся,
сьняжынкі — з сінім шумам ветру —
белы кагаркі...

— — — — — — — — — — — —

Нямала песьняў
адцьвітае шэрай восеньню
і топчаць ветры іх з васеньнімі марозамі; —
шмат іх разсеялі
рукамі скутымі,
у даль йдучы шляхамі доўгімі, вастрожнымі...

Але на нівы нашы
песьні яшчэ вернуцца;
зазвоняць чорнымі барознамі,
разорамі,
і зашумяць прасторамі бязьмежнымі,
і засінеюць
васількамі
і вазёрамі.



2.

Думы шэрыя мяцеліца нявесела
на бярозах прыдарожных
дзесь разьвесіла...

„...у людзей палосы доўгія, шырокія
і ляны растуць густыя і высокія;

ткуць дзяўчаты з іх палотны і настольнікі
разшываючы ды ў краскі, ў ясны зоранькі...

У мяне, батрачкі, зрэб'е ды анучанькі
і ад працы, ад мазольнай, баляць ручанькі.

Толькі, кажуць людзі, вочы маю чорныя...
Ў ноч вясеньнюю, у ночку неспакойную

помніць месяц над далёкім ціхім берагам
і як зоры гаварылі з ціхім верасам...

Ды як верас адцьвіла і ночка цёмная, —
асталіся толькі вочы незнаёмага...

Дзе цяпер ён з тымі думамі шалёнымі?..
Мо завеенымі цягнецца дарогамі?..“

А за вокнамі кудлатая мяцеліца
лёнам белым расчасаным
звонка
сьцеліцца.

3.

Сымон

Тацяна!..

Тацяна

Што?..

Сымон

Іванаў бацька
пытаўся, бачыш, як жывецца...
часы няроўныя насталі —
ўсё больш людзей благіх на сьвеце...
Казаў — жаніць, задумаў, сына: —
без гаспадыні, бачыш, блага, —
каб толькі дзе знайсьці дзяўчыну, —
няхай была-б і без пасагу...

Тацяна

Дзяўчат нямала, сьвет вялікі...

Сымон

Яно то праўда... толькі хата
надгніла, наша, пастарэла...
Ды мы і самі небагаты:
вясло з старой падзёртай сеткай,
рызман стары, старая лодка...
Капу гадоў на плечах маю;
жыць, бачыш, гэтак несалодка...
Пайшла... і слухаць нат ня хоча...
Ў суседа, недзе, вечарына.
Ды і мароз усё крапчэе
і вецер ходзе
сіні, сіні...

4.

Заіграла скрыпка
п'яным пералівам, —
так вясна іграе ды пяе жняя;
толькі гэтак ў полі каласістай грывай
зашуміць гаротна, часам сіратліва
паласа стаптаная мая.

Ды шырокім ўзмахам
падхапіў гармонік,
загулі чмялямі тэнары, басы.
Быццам разьвярнуў хтось вышыты настольнік,
ўдарылі ў падлогу, ў печ, у падаконьнік
сьнежнаю завеяй галасы.

Бы сявец зярняты,
пад гарачы золак,
сыпануў на струны звонка музыкант.
І ў адказ цымбалам, на іх шум вясёлы,
віхрам закруціўся збуджаны пасёлак,
ўдарыў у падлогу звонкі град.

5.

Іван

Ну што-ж, Тацяна, пойдзем ў скокі!
Сказаць мо' польку заіграць?
Глядзі, як сяньня закіпела, —
ня могуць ногі устаяць!



Тацяна

Ты п'яны, як кацёл гарэлкі,
Ды адчапіся і ня лезь.
Прапалі сяньня твае дзеўкі, —
ў запечку выспаўся-бы дзесь...

„...Ходзіць вецер ашалелы
і калыша трасьнікі.
Досыць Нарач ўжо цярпела,
галадалі рыбакі!

Быццам хвалі зашумелі
між кудлатых лазьнякоў:
Нарачанскія арцелі
выплывалі на палоў...

Ня шумяць старыя сосны,
ня шуміць зялёны бор;
звонка — сіне рэжуць вёслы
ветрам ўспенены простор.

Ух — ух, ух — ух!
ух — ля — ух — ля!..“ —
— — — — — —
заліваецца гармонік
падсыпаючы вугля.

Іван

Мяне ня ведаеш, Тацяна, —
ня так ўжо лёгка упаіць.
Па тым, што выпіў і да рана
гатоў нагамі малаціць...

Тацяна

Ідзі, ўжо досыць, не хваліўся-б,
ото-ж наклікала бяду!..

Іван

Пастой, Тацяна, заўтра рана
к' табе у сваты я прыйду...

„...Вось прыйшлі і . . . . . .
. . . . . . . грамадой.
за вазёры, за вазёры
пастаім мы галавой!

Пастаім і за палеткі
— — — — — —
ёсьць у нас густыя сеткі, —
долю вылавім сваю!

Ды і сілы ў нас нямала
— — — — — — “
разшумеліся цымбалы,
быццам Нарач ў крыгалом.

З тлуму

Ды ты, Іван, ужо спазьніўся.
Яшчэ як верасы цьвілі
ў Сымона ноч усю, да ўсходу,
сваты гулялі і пілі...

Тацяна

Ты бачыў мо'? Ці піў мо' разам?
Гулялі разам мо' з табой?..

З тлуму

А на Кабыльніцкі гасьцінец
ня йшла з ім полем раніцой?

„...Грамадой пайдзём наперад,
возьмем за грудзі бяду,
і густы закінем невад,
падвалокі пад ваду.

Ціта—ціта, ціта—ціта
Нарач — сіняя вада“...
— — — — — — —
Скрыпка кнігаўкай падбітай
плакаць плакала адна...

6.

Сіратліва, пад дзень апусьцела і хата.
Ноч сінюю — скомканы вехаць
кудлаты —
рэзаў падковай адвостраны месяц.

Неспакойна і вецер пужліва, балюча
шумеў. І зусім без патрэбы
калючай
белай мятлой замятаў даль і неба.
— — — — — — — — — —



Іван

Я адвяду цябе дамоў...

Тацяна

Зайду сама, тут недалёка.

Іван

Ну што-ж, каб ведаў толькі хто,
узяў-бы я яго на вока.
З далёку ён?..

Тацяна

Злаві, спытай!

Іван

А што-ж, злаўлю... Яшчэ пачуеш.
І ён мо' з тых, што рыбакоў
над Мястрам, Нарачу бунтуюць?..

Тацяна

Ты мо' сінегаловы крук? —
Бунтуюць ўсе, бо есьці хочаць.
Не аддадуць вазёр – само
вясной успомніць Занарочча...

7.

Вазёры, вазёры, вазёры
ў далі забялелі...
І думы кладуцца узорам
па сьнежнай кудзелі.

Далёка, узгоркамі поля
акопы, траншэі, драты —
магілы сусьветнай нядолі
пад сьнегам густым...

Мо вецер з над Рэйну, Дунаю
так плача напевам даўгім,
ці бура ад краю да краю
галосіць з далёкай тайгі...

Вазёры, вазёры, вазёры,
шум бору сасновы;
вузкіх палазінаў узоры
і кій ялянцовы!

Старыя рыбацкія хаты —
пад вокнамі гурбіцца сьнег, —
а вокны з пад броваў кудлатых
глядзяць з пад асьнежаных стрэх.

А ў хатах сьцюдзёных і цесных
гавораць, як выйсьці з бяды...
і з доўгай вазёрнаю песьняй
плятуць невады.

Вазёры, вазёры, вазёры
імглой забялелі;
калышыцца сьнежнае мора
на крыльлях мяцелі.

Да вас я прыплёўся дарогай
працерці занесены сьлед;
з-за кратаў жалезных, з вастрогаў
прынёс вам прывет. —

Ад тых, што вас болей ня ўбачаць,
ад тых, што прыйдуць грамадой
у час буралому гарачы —
вазёры, вазёры — вясной!

Вільня 9. V. 1936 г.

*Канец часткі другой.*



# Веялі ветры...

Далёка над полем, з кажным неасьцярожным шолахам ветру сіняй імглой расьцьвітала жыта.

Хтось пяяў... Абвеяная залатым жытнім цьветабоем песьня то калыхалася на жоўта-зялёных каласістых пералівах, то разам з ветрам каціласяя жывымі зялёнымі хвалямі ў даль да цёмнага бору і адбіўшыся ад смалістых пнёў старак зноў плыла туды, адкуль прыйшла, — за Крывы Перавал, а мо' і далей...

...Веялі ветры, веялі ветры...
ды ўжо перасталі...

Прыпамінаецца ўчарашні дзень. Прыпамінаю Міколу... рэвізыю... ліцытацыю Яззпавай гаспадаркі... Міколу ўзялі. Закінуў на плечы торбу з кавалкам хлеба, пару новых лапцей і пайшоў.

— Бунтаваць захацелася! — вечарам, на сяле, гаварыў солтыс Астапчук. — Уладаў не шануюць. Я ўжо ня раз яго перасьцерагаў!

Зноў варочаецца мінулы дзень і прад вачыма ўстае высокая трохі сутулістая постаць Міколы ў шэрай, зрэбнай кашулі, з падарожнай торбай на плячах. Куды яго пагналі?..

Роўнай струной цягнецца праз вёску, праз вузкія шнуры гасьцінец... Шмат хлопцаў, дзяўчат з вёскі пайшло гэтым гасьцінцам у сьвет, ды мала хто з іх вярнуўся! Вось і Даніла ўжо чацьвёрты год, Грышка — сёмы год, як нічога ня піша, Бронька...

Чакае катарага маці. Чакае месяц... год... Часамі далёка выходзе на гасьцінец, доўга глядзіць з пад рукі, аж пакуль не пацямнее ў вачох ці на полі... Не даюць заснуць ім гарачыя сьлёзы на'т у кароткія летнія ночы... А ўсё-ж не аднэй хацелася-б ведаць хоць-бы магілу сына!..

Высака над галавой з крыкам калясяць груглы.

...Веялі ветры, веялі ветры...
ды ўжо перасталі...

Іду на спатканьне песьні а вецер сьмяецца ў калосьсі, наганяе шэра-зялёныя хвалі, якія далёка зьліваюцца з белымі заснуўшымі на небасхіле хмарамі.

...Глядзелі вочы, глядзелі вочы
ды ўжо плакаць сталі...

М. ВАСІЛЁК.

* * *

Сьмейся месяц з над палянаў,
што я сяньня маем п'яны —
сьмейся ў вочы!

Стаў душою злодзей нейкі, —
краду песьні ў салавейкі
сярод ночы.

Б'е ў цымбалы вечар чулы,
душа кудрамі трахнула —
ў грудзёх цесна!

Па чаромсе лісьцях кволых
май расплёскаў хмельны солад
у бель — песьню.

Сьпіць працоўная краіна —
дрэме зьвісшы бэз галінамі
панад рэчкай.

З лесу, з гаю на лагчыну
пасьвіць беленькія выгнаў
май — авечкі...

ХоцьТы сьпіш—твой,чую,горды
з майскім гімнам зьліў акорды
дух — старонка!

То вартуе дух народу,
каб спаткаць зару усходу
маршам звонкім.

Баброўня — май — 1936 г.

* * *

(Прысьвячаю Толі)

Пахавалі з папом і . . . . . . .
Без апекі і тут ня было —
Ды прыкрыўшы сырою зямліцаю
Разышлося панура сяло...

Ў хворым целе душа была сільная,
Яе выжыла сьмерць без пары...
— Прычытала сястра надмагільную —
Нешта вецер шумеў у бары...

Як хавалі, на захадзе сонейка
Хтось чырвонаю кроўю заліў...
Цяжка дыхала роднае гонейка,
Руні подзьмухам з вузенькіх ніў.

Сьпі, дружок! Над магілаю цеснаю
Ўзыйдуць краскі з пралітых тут сьлёз...
Прыдзе моладзь ня раз к' табе з песьняю,
Кіне буйны у даль адгалос!..



Ад. СТАНКЕВІЧ

# Доктар Францішк Скарына і яго культурная праца

## З нагоды 450-лецьця яго нараджэньня

## (1486—1936)

*(Працяг, гл. кн. 2(6) „Калосься")*

### III. Жыцьцё і асоба Фр. Скарыны.

Паводле досьледаў Владзімірова Скарына радзіўся больш-менш каля 1490 г.

Гэтага прыблізнага часу нараджэньня Скарыны трымаліся ўсе вучоныя. Тымчасам у 1925 г. беларускі вучоны М. Шчакаціхін, дасьледжваючы гэту справу, выявіў гіпотэзу, што Скарына радзіўся ў 1486 г. *). Шчакаціхін такім чынам ужо не аб прыблізнай даце нараджэньня Скарыны гавора, але робіць спробу дату гэту усталіць дакладна. Свой пагляд Шчакаціхін апірае на падставе гэрбу Скарыны, якім было прамяністае сонца чалавечага вобліку, спалучанае з месяцам, так-жа маючае выгляд твару чалавека. Беларускі дасьледчык уважае, што значэньне гэтага гэрбу Скарыны трэба тлумачыць згодна з тагочаснай астролёгічнай ведай, з тагочасным разуменьнем розных сфэрычных зьяваў. Шчакаціхін лічыць, што Скарына радзіўся ў той год, калі было зацьменьне сонца, якое было відаць у Полацку і выабражэньне якога сталася ягоным гэрбам. Такое зацьменьне было там 6. III. 1486 г. Такім чынам гэты дзень і трэба лічыць днём нараджэньня Скарыны.

Нажаль бліжэй пазнацца з доказамі і выясьненьнямі гіпотэзы Шчакаціхіна ня можам, бо не ўдалося мне раздабыць таго нумару менскага „Полымя" з 1925 году, у якім аб гэтым гаворыцца. Падаю гэтыя весткі на падставе Ул. Пічэты **), які аб гіпотэзе гэтай, а ў зьвязку з ёй і аб часе нараджэньня Скарыны так піша: ... „Гіпотэза Шчакаціхіна вельмі цікавая і заслугоўвае пэўнае ўвагі. Калі яна нават, бязумоўна, і вельмі спрэчная, — дык усё-ж бяспрэчна правільнае прыпушчэньне, што Скарына нарадзіўся некалькі раней, чымся гэта вызначыў Уладзіміраў. Калі прыняць датай 1486 год, дык Скарыне ў момант паступленьня ў Кракаўскі Ўнівэрсытэт было 18 год".

Але ёсьць урэшце весткі — нажаль не праверанаыя, — што апошнім часам і сам Шчакаціхін пачынае траціць веру ў сваю гіпотэзу аб часе нараджэньня Скарыны.

*) М. Шчакаціхін. — Калі радзіўся Фр. Скарына („Полымя" 1925, № 5, бач. 148—152).

**) Ул. Пічэта, 400-лецьце беларускага друку, бач. 317—318. Менск 1926

І так час нараджэньня Скарыны і далей астаецца толькі прыблізным, хоць магчыма бліжэй ён да праўды паводле Шчакаціхіна, як паводле Владіміpова.

Затое пэўнай ёсьць яго народнасьць і месца паходжаньня. Па народнасьці Скарына — Беларус, родам з Полацку: *„Із славнаго града Полоцка“*, часта кажа ён аб сабе ў сваіх выданьнях. *„Аз... нарожэныі в руском языку“*, так-жа аб сабе выражаецца Скарына ў уступным слове да кнігі Данііеля. У іншых падобных уступных словах завецьён гэтую *„рускую“* мову сваей прыроднай: *„пірожэныі язык“*. А ў прадслоўі да сваей першай друкаванай кнігі (Псалтыр 1517 году) Скарына аб'ясьняе сваю дзейнасьць на карысьць Беларускага народу: *„своей братіі Русі“*, дзеля беларускага пісьменства, *„наболей с тое прычыны, іжэ мя мілостівый Бог с того языка на свет пусьтіл“*.

А калі возьмем пад увагу пэўнасьць філёлёгіі і гісторыі, што і гэная мова *„руская“* і гэна „братія Русі“, аб якіх кажа Скарына, гэта ёсьць тая-ж сяньняшняя ў сваей аснове беларуская мова і той-жа сяньняшні Беларускі народ, дык ня можа быць у нас сумляваньня аб тым, што сапраўды Скарына вядзе сваю гутарку аб беларускай мове, аб Беларускім народзе і што ён сам Беларус „прірожэный“.

Якой быў веры Фр. Скарына, — праваслаўнай, ці каталіцкай, — напэўна такжа няведама.

Яго першае імя Юры (Георгі), знанае пераважна (хоць ня выключна) сярод праваслаўных, далей той факт, што, як кажа Владіміров у сваей монографіі аб Скарыне, у канцы XV стаг. у Полацку ня было яшчэ ніводнага каталіцкага касьцёла, а ўсе Палачане былі Беларусы праваслаўныя, а так-жа ўрэшце ўся літаратурная дзеяльнасьць Скарыны і прыгатаваньне да яе — прамаўляюць за праваслаўную веру Скарыны.

З другога-ж боку, яго другое (пазьнейшае) імя: Францішак, імя пераважна каталіцкае, яго пастаянная лучнасьць з Вільняй і ўзгадаваньне ў каталіцкім Кракаве і каталіцкай заграніцай, а так-жа той факт, што ў XV і XVI стаг. на Беларусі былі старонькі уніі Каталіцкага Касьцёла з Праваслаўнай Царквой, якую (унію) пашыраў у нас вядомы маскоўскі ўцякач мітрапаліт Ізыдор, — прамаўляюць у некаторай меры і за веру каталіцкую Фр. Скарыны.

Былі і такія ўрэшце дасьледчыкі, якія ўважалі Скарыну за протэстанта, а гэта на тэй падставе, што ў ягоны час у Заходняй Эўропе а так-жа і Беларусі шырылася, як ведама, рознага роду протэстанцтва: гусытызм, лютэранізм, кальвінізм, соцыянізм. Доказам, між іншым, яго протэстанцтва было і тое, што ён іменна тлумачыў Біблію на жывую мову Беларускага народу, што сапраўды ў тым часе рабілі протэстанты для розных народаў.

Владіміров выказаўся за тое, што Скарына быў праваслаўны. За ім і большасьць вучоных трымалася гэтых паглядаў. Пагляд гэты аднак быў нанова заквэстыянаваны ў 1925 г., калі



навуковы рух аб Скарыне значна ажывіўся з нагоды 400-лецьця беларускага скарынаўскага друку. На гэты раз у справе веры Скарыны выразны і рашучы забраў голас успомнены Г. Ловмяньскі, крытык маей аб Скарыне брашуры. Вучоны гэты рашуча выказаўся за каталіцтвам Скарыны *). Галоўныя яго доказы гэткія: культ сьв. Юрага, пашыраны прадусім на Усходзе, ня быў чужым на Захадзе і ў Польшчы. Скарына, імем Юры (вобак з імем Францішак) названы толькі раз у прывілеі караля Зыгмунта І, выданым яму 25. XI. 1532. Скарына, называны колькі разоў па імі і прозьвішчу ў актах унівэрсытэцкіх у Кракаве і ў Падуі, у мэтрыцы Кароннай і Літоўскай, а прадусім у сваіх уласных выдавецтвах, нігдзе Юрым не завецца, а толькі Францішак. Справу гэту Ловмяньскі рашае наступным домыслам: „O rozwiązanie zagadki nie trudno. Zestawiając wzmiankę z innym przywilejem króla Zygmunta I, o cztery dni wcześniejszym, spostrzegamy, że przy wymienieniu po raz pierwszy nazwiska Skoryny dodaje on tytuł: „egregium et famatum Franciscum Skorina de Poloczko medicinae doctorem“, w przywileju natomiast z dnia 25. XI. razi brak słówek grzecznościowych, mówi on wprost: „Georgii Franciscii Skorina de Poloczko artium et medicinae doctoris“. Z porównania łatwo się domyśleć — канчае свае вывады Ловмяньскі — iż w ostatnim dokumencie pisarz przekręcił słówko „egregii“ na Georgii“...

Вышла, праўда, даволі зручна і дасьціпна, але каб навукова праконваюча, то не скажу.

Далей той-жа Ловмяньскі, а ў 1933 годзе і кс. др. К. Кантак **) Скарыну залічаюць у каталікі на тэй падставе, што каталіцтва лацінскае было ў Полацку ўжо ў канцы XV стаг. Кантак аб гэтым кажа катэгарычна, нажаль не падаючы ніякіх довадаў: „Między nawróconymi znalazła się także rodzina Skorynów, jak o tem świadczy imię znakomitego wydawcy“.

Найнавейшы доказ за каталіцкасьць Скарыны знаходзім у рэцэнзіі М. Войцехоўскай на кніжку Л. Абрамовіча „Cztery wieki drukarstwa w Wilnie“ ***). Доказам гэтым мае быць факт, што Скарына, пасьля таго як кінуў друкарскую справу, быў сакратаром і лекарам віленскага каталіцкага біскупа. Весткі гэтыя М. Войцехоўская знайшла ў пазнанскім меставым архіве.

Кс. Ул. Талочка зьвярнуўся ў гэтай справе да ведамага дасьледчыка гісторыі нашага краю кс. праф. др. Я. Фіялка ў Кракаве. Адказ быў наступны: ...„Mam zaszczyt donieść, iż wywód prof. H. Łowmiańskiego w Ateneum Wileńskiem z 1925 r. jest aż nadto przekonywujący. Stwierdzono też w r. 1926 (Kwartalnik Historyczny XL), iż pan dr. Franciszek Skoryna jest sekretarzem i lekarzem biskupa wileńskiego w r. 1532“.

---

*) „Ateneum“... бач. 163—164.

**) Ks. dr. K. Kantak — Bernardyni Polscy, паводле: Ул. Талочка—Да справы веравызнаньня Фр. Скарыны („Калосьсе“ 1935, кн. 3).

***) „Kwartalnik Historyczny“, XL, 1926.

Пэўне-ж, факт, што Скарына быў у каталіцкага біскупа сакратаром і лекарам прамаўляе за ягоным каталіцтвам, але ня так узноў рашуча і безапэляцыйна, як гэта робяць польскія гісторыкі. Мог Скарына быць праваслаўным і разам мець працу напр. у канцэлярыі біскупа і лячыць яго. Быў гэта час, палавіна XVI ст., калі вобак з рэлігійным фанатызмам у нашым краі спатыкаліся лібэральныя і толеранцыйныя адносіны.

Ведамым ёсьць далей, што ў аднэй з праваслаўных кансысторыяў на заходне беларускіх землях сяньня працуе як урадовец каталік (з паходжаньня беларус, з перакананьня паляк). Калі-б зайшла патрэба ў будучыне, гісторык гэтага каталіка на падставе ягонай працы ў праваслаўнай кансысторыі мог-бы ўважаць за праваслаўнага, але, як бачым, цалком мыляўся-б.

Аб гэтым маглі-б вырашыць: мэтрыка і аўтэнтычныя словы ці чыны самога Скарыны, або яго сучасьнікаў. Пакуль гэтага няма — справа веры Скарыны астаецца далей нявырашаная.

Вырашэньне гэтай справы, пэўне-ж, мела б важнае значэньне: яно дало-б навуцы новае аб Скарыне сьвятло. Але гэта, памойму, справа другарадная. Гэтым польскім вучоным, якія так цікавяцца верай Скарыны і якія даволі з лёгкай рукі залічаюць яго ў каталікі, робяць гэта ў пераважнай меры з матываў не навуковых, а палітычных. Яны трымаюцца старога прынцыпу: калі хто каталік, дык той і паляк. Паляком (і каталіком) Скарыну даўней лічыў Ліндэ, Лелевэль, Вішнеўскі, Крашэўскі *), паляком яго ліча сяньня Ловмяньскі, Кантак і Фіялак, які кажа: „nasz dr. Franciszek Skoryna"...

Для нас-жа беларусаў вера Скарыны прынцыповага значэньня ня мае. Ці ён быў праваслаўным, ці каталіком, ці протэстантам, ці нават уніятам, што, на мой пагляд, найменш праўдападобна, ён не перастае быць агульна-беларускім вялікім культурнікам, які найважнейшую на той час крыніцу прасьветы, Біблію, пераклаў на тагочасную жывую літаратурную беларускую мову.

Аб бацькох Фр. Скарыны і аб яго жыцьцёвых варунках бадай што няведама нічога. З актаў XVI ст. ведама, што сям'я Скарынаў мела ў Полацку нярухомую маемасьць і была ў зносінах з Вільняй, Чэхіяй і з Нямеччынай.

Зносіны гэтыя мелі вялікае значэньне ў жыцьці Скарыны. Праз іх сям'я Скарыны мела пастаянны стык з культурай Заходняй Эўропы, а прадусім з культурным цэнтрам краёвым, Вільняй. З Вільні ў той час, як ужо ведаем, многія Беларусы і Літоўцы езьдзілі на навуку заграніцу агулам, а найбольш у польскі Кракаў.

Дык вось-жа і Фр. Скарына, атрымаўшы пачатковую навуку дома, маючы якіх гадоў 16—18, апынуўся там-жа.

У рукапісных актах Кракаўскага унівэрсытэту 1504 г. гаворыцца „*Franciscus Luce de Ploczko, solvit 2 gr.*", што пабеларуску

*) 400-лецьце... бач. 287.



знача: Францішак сын Лукаша з Полацка заплаціў 2 грошы. Гэтыя два грошы заплаціў ён, як уступную плату за унівэрсытэт.

Пасьля двух гадоў навукі ў Кракаве ў 1506 г. Фр. Скарына дастаў там першую вучоную ступень бакалара філёзофіі. Аб гэтым здарэньні ў жыцьці Фр. Скарыны ўспамінаецца ў тых-жа актах унівэрсытэту, у якіх гаворыцца, што ў 1506 г. між іншымі атрымаў успомненую ступень „*Franciscus de Poloczko, Litbuanus*".

У 1506 г. Фр. Скарына пакінуў Кракаў і праз шэсьць гадоў негдзе вучыўся заграніцай багаслоўя і мэдыцыны. Але гдзе — няведама. Тут недзе Скарына здабыў новую вучоную ступень — доктара „eximiarum artium" *). Апрача навукі, Скарына прыглядаўся да культурнага жыцьця Эўропы і пазнаваўся бліжэй з друкарскай штукай.

Да слаўнай у той час вучэльні залічаўся ўнівэрсытэт у Італіі, у месьце Падуі. Найбольш ён славіўся мэдыцынай. Вось-жа наш Скарына ў 1512 годзе і прыбыў сюды, дзе і здабыў — першы на Усходзе Эўропы — доктарат мэдыцыны. Пасьля гэтага Скарына зваў сябе: „в лекарскіх науках доктор" або „в науках вызволеных і лекарскіх доктор".

Пасьля гэтага ўзноў заціраецца сьлед Скарыны. Малады доктар пашоў, пэўна, пехатой дамой, да Полацка, і тут пачаў шукаць грашовых спосабаў, каб распачаць друкаваньне так патрэбных Беларускаму народу кніжак. Пабываў ён так-жа і ў Вільні, сталіцы Беларуска-Літоўскай дзяржавы, і пазнаёміўся з многімі віленскімі мяшчанамі і братчыкамі, на кошт каторых пасьля і друкаваў свае кніжкі.

І вось, Скарына задумаў вялікую думку — перакласьці ўсю Біблію на тагочасную беларускую літаратурную мову і надрукаваць яе.

Дабыў сабе Скарына патрэбныя рукапісы і каля 1516 году паехаў у Чэхію, да Прагі. Кракаў абмінуў Скарына, успамінаючы, відаць, сумны канец Фіёля.

У 1517 г. Скарына ўжо знаходзіцца ў Празе, дзе працуе над перакладам біблейскіх кніг і над іх надрукаваньнем. Знайшліся асобы, што памагалі Скарыне, чым маглі. Прадусім былі яму памоцны, як грашмі, так, магчыма, і рукапісамі і маральнай парадай, віленскія мяшчане: Богдан Онькаў, Якуб Бабіч і інш.

Скарына залажыў у Празе ўласную друкарню і ў найлепшых нямецкіх майстроў заказаў зрабіць чаранкі (літары) і патрэбныя друкарскія прылады.

Кнігі выпускае Скарына ў сьвет адна за аднэй. Першым паявіўся найбольш патрэбны ў практыцы Псалтыр 6-га жніўня 1517 г., за ім усе іншыя. Ад 1517 да 1519 гг. — значыць за два гады — Скарына ў Празе выпусьціў 22 кніжкі.

*) Гэта знача — сямі свабодных навук.

Аднак, праца Скарыны ў Празе — па выданьні ўспомненых кніжак — у 1519 г. спынілася. Відаць, не сядзелася яму там, цягнула яго на бацькаўшчыну. *„Люді, — кажа Скарына, — ігдіе зроділіся і ускормлены суць, по бозе, к тому месту велікую ласку імають“.* Закласьці друкарства на роднай зямлі, відаць, было галоўнай мэтай Скарыны.

Дык пакідае наш друкар Прагу, забірае з сабой кніжкі, чаранкі, друкарскія прылады і перабіраецца ў Вільню і тут у доме бурмістра Якуба Бабіча закладае друкарню, у якой друкуе ў 1525 г. *„Апостола“* і *„Малую Подорожную Кніжыцу“*.

І вось, на гэтых дзьвох кніжках нажаль і спынілася ў Вільні друкарска - выдавецкая і літаратурная дзеяльнасьць Скарыны. Што за прычыны? Напэўна няведама, але мусіла іх быць многа і рознага роду.

Між іншым ня спрыялі працы Скарыны яго асабістыя варункі. Ён абяднеў у Вільні цалком. Брат Скарыны, Іван, з якім Францішак меў супольную маемасьць, заблутаў свае справы, а гэтым самым і матар'яльнае палажэньне свайго брата. Пачаліся судовыя працэсы, якія мала таго, што адрывалі Скарыну ад культурнай працы, але давялі да таго, што маемасьць яго была сканфіскавана. Судовая цяжба цягнулася ад 1529 да 1532 г.

З успомненай рэцэнзіі М. Войцехоўскай у „Kwartalniku Historycznym“ даведваемся яшчэ, што брат Францішка Скарыны, Іван, гандляваў у Пазнані скурамі. У 1529 г., калі Іван памёр, Францішак прыбыў у Пазнань. Пасьля брата асталося шмат скураў і даўгоў. Францішак узяў з іх сабе 2.500 за доўг (11 коп літоўскіх грошаў), які яму быў вінен Іван.

У сакавіку 1532 г. Фр. Скарына апынуўся ў пазнанскім вастрозе за даўгі брата Івана, які быў вінават двум жыдом 412 зл. польскіх. Каралеўскі загад арышту Скарыны падпісаны 15. II. 1532 г.

Аб гэтым здарэньні даведаўся Раман Скарына, які быў у той час у Гданску. Ён у красавіку прыбыў у Пазнань і стараўся аб звальненьні Францішка. Звальненьне наступае ў палавіне чэрвеня.

30-я гады XVI ст. самы цёмны пэрыяд у жыцьці Фр. Скарыны. Крыху яго асьвятляюць дакумэнты Коенігсбэрскага архіву, апублікаваныя Мілавідавым *). Гэтыя дакумэнты, пісаныя ў лацінскай мове, ад прускага караля Альбрэхта.

Першы дакумэнт з 16. V. 1530. У ім Альбрэхт паведамляе віленскага ваяводу Гаштольда, што Скарына перасяліўся ў Коенігсбэрг, але што розныя прыватныя справы, жонка і дзеці, пакінутыя ў Вільні, прымушаюць яго зноў вярнуцца сюды. З гэтай прычыны кароль просіць ваяводу дапамагчы Скарыне ў яго справах. Другі дакумэнт, з тэй-жа датай, ёсьць прапускны ліст, або пашпарт для бесперашкоднага пераезду Скарыны. Трэці

*) Известія Отд. Р. Яз. и Слов. Р. Ак. Н. 1917, кн. 2, 221—226.



дакумэнт з датай 18. V. 1530 г. — гэта ліст Альбрэхта да Віленскага Сэнату. Кароль, адпускаючы Скарыну назад у Вільню з прычын сямейных, просіць Сэнат быць справядлівым у адносінах да яго і зьвярнуць яму сканфіскаваную ў яго маемасьць. Чацьвёрты дакумэнт з 26. V. 1530 г. гэта ўжо абвінавачваньне каралём Скарыны. У гэтым дакумэнце кароль зварачваецца да Ваяводы Гаштольда са скаргай на Скарыну, што ён забраў аднаго жыда, які быў у Альбрэхта доктарам і адначасна друкаром, і што гэтым Скарына зрабіў яму, каралю, вялікую шкоду.

Можна дагадвацца, што Скарына забраў з сабой гэнага жыда - друкара, каб прадоўжваць сваю выдавецкую працу і пасьля 1525 г., гэта знача пасьля выданьня ў Вільні „Апостала“ *).

А вось апошнія найнавейшыя весткі аб Скарыне, якія здабыў праф. Флоровскій у Празе. У Вільні Скарына прабываў ад 1530 да 1534 г. У 1534 г. Вільню пакінуў і прыбыў у Прагу. Быў тут надворным лекарам караля (Фэрдынанд I Габсбурскі — 1527 — 1564). У Празе заставаўся аж да сьмерці. Памёр там-жа ў 1551 г.

Астаецца аднак нявыясьненым, як Скарына, прабываючы паводле праф. Флароўскага ў Вільні ад 1530 да 1534 г., у 1532 г., паводле вестак М. Войцехоўскай, апынуўся ў пазнанскім вастрозе. Але гэтая няяснасьць, на мой пагляд, хутчэй характару праўнага, як фактычнага. Паехаў Скарына ў 1532 г. у Пазнань у справах даўгоў брата і там быў прыарыштаваны.

І так бачым, што за апошнія дзесяць гадоў навука здабыла аб Скарыне некаторыя новыя і дужа цэнныя весткі. Аднак шмат што і далей з жыцьця Вялікага гэтага Беларуса астаецца няведамым. Але ідэі яго нам добра ведамы. Пасьля доўгіх ліхалецьцяў Беларускага народу, пасьля доўгай яго сьпячкі, ідэі Скарыны ўваскрэсьлі да жыцьця нанова і жывуць сяньня сярод нас.

Астаткі друкарні Фр. Скарыны ў 1575 г. перайшлі да Мамонічаў у тэй-жа Вільні, каторыя далей друкавалі беларускія кніжкі. І сяньняшняе друкаваньне беларускіх кніжак — далейшы этап магутнай ідэі Скарыны, ідэі служэньня Беларускаму народу.

## IV. Ідэовасьць працы Фр. Скарыны.

Фр. Скарына, як беларускі патрыёт і чалавек усестаронна асьвечаны, гараваў горам свайго народу і цешыўся яго радасьцяй і шчасьцем. Ён заўсёды ясна бачыў усе недастаткі культурнага жыцьця Беларускага народу, а бачыў іх яшчэ ясьней, калі раўнаваў сучаснае яму жыцьцё Беларусі з жыцьцём заходняй Эўропы.

Ідэовы аднак бок культурнай працы нашага вялікага Скарыны, з прычын палітычных той-жа Ловмяньскі асьвятляе тэн-

*) М. Піотуховіч — Фр. Скарына (400-лецьце... 169—170).

дэнцыйна і старонна. „Przypisywanie Skorynie patrjotyzmu ruskiego — кажа ён — czy zamiłowania do ruskiego języka, opiera się na nieporozumieniu. Przecież Psałterz, który Skoryna przeznaczał do nauki czytania i dobrego „mówienia“ został wydany w c-słow. języku, również Małaja podorożnaja knižica, której tytuł wskazuje, że miała służyć podróżnym, jako modlitewnik. Nie ruski wobec tego ale c-słow. język popularyzował Skoryna! Dlaczego jednak tak często wspominał on o ruskim języku, dlaczego mówił, że jednym z powodów wydania Biblii po rusku było to, że się „w ruskim języku urodził“? Złożyły się na to dwie przyczyny.

Drukarnia Skoryny, jak przeważnie tego rodzaju zakłady, jeżeli była w intencjach przedsiębiorców placówką kulturalną, to na drugim albo na trzecim planie. Przedewszystkiem zaś była ona przedsiębiorstwem dochodowem. Skoryna poza działalnością wydawniczą niczem się nie zaznaczył na polu życia umysłowego, nie mamy powodów do uważania go za świadomego szermierza oświaty na ziemiach ruskich, wstępy i zakmnięcia do wydawnictw nie zawierają ani śladu myśli oryginalnej, są naracją a częściej plagjatem z pism średniowiecznych autorów chrześcijańskich. Nie z pobudek cywilizacyjnych założył on drukarnię, lecz dla zdobycia majątku, chociaż miał zupełne prawo pochlebiać sobie, że się trudzi dla „dobra pospolitego“. Również nie dla idealnych, lecz dla materjalnych względów finansował nakład praski mieszczanin wileński Bohdan Onkowicz. Trzeba też przyznać, że przedsiębiorstwo było zakrojone na szeroką skalę, skoro po tranzlokacji do Wilna założono tam nawet papiernię. Warunkiem powodzenia wydawnictwa było uprzystępnienie go dla ludzi pospolitych, jak się sam wyraża Skoryna. Usiłował on dopiąć celu, wprowadzając ruskie zwroty, tłumacząc wyrazy ciemne i niezrozumiałe, poprzedzając księgi wstępami, mającemi zainteresować i zachęcić do lektury czytelnika. Nie dość na tem, zdobywa się on na sui generis reklamę i nazywa swe wydawnictwa „ruskiemi“, chociaż tylko nieprzyjaznym warunkom zawdzięczać należy, że były one ruskiemi faktycznie nie z imienia. Tę „ruskość“ przeznaczoną dla społeczeństwa, nie znającego języka c-słow., podkreśla dobitniej, niż wypada, sądząc, że zdobędzie tą drogą czytelników, zachęconych popularnością wykładu. Mieliśmy już dosyć dowodów, że sam on dbał bardzo mało o ruski charakter swych wydawnictw.

Z drugiej strony, będąc katolikiem, uważał za stosowne wskazać na powody wydania Pisma św. „w ruskim języku“, co mogło grozić przykremi konsekwencjami, jeśli nie w Pradze, to po powrocie do kraju, z którym stosunków nie zerwał. Tłumaczy więc, że jest rusinem, że język ruski jest jego rodowitym, że chęć zaznajomienia swej braci — Rusi z Pismem św. skłania go do podjęcia wydawnictwa w jej języku“ *).

Вось на якіх падставах Ловмяньскі адмаўляе нашаму Скарыне ідэовасьці. Адмаўляе ён яе на падставе чыстых суб'ектыўных вымыслаў, якія яўна стаяць у супярэчнасьці з фактамі вялікай культурнай ідэовай працы Скарыны, у супярэчнасьці з славамі самога Скарыны аб гэтай працы і ўрэшце ў супярэчнасьці з самымі сабою. Тое ўсё, што Ловмяньскі вышэй сказаў проціў ідэовасьці і патрыотызму Скарыны, фактычна больш прамаўляе за, як проціў. Гэнае ягонае „проціў“ ярка тэндэнцыйнае і беспадстаўнае. Калі-б Скарына зрабіў тое, што ён зрабіў, для польскай культуры, дык быў-бы дужа ідэовы і патрыот, а затым, што ён гэта рабіў для беларускай культуры, дык ён гандлёвы дзялец і толькі.

Разважаючы так, як Ловмяньскі аб Скарыне, можна было-б ня ўбачыць ідэовай, высока патрыотычнай старыны ані ў слаўных літоўскіх нашэльнікаў кніг („knygnešai“), што друкавалі літоўскія кніжкі ў Літве Пpускай і разносілі іх па ўсей Літве іншай, ані так-жа ў ва ўсіх тых нашых сучасных і мінулых выдавецтвах, якія нясьлі і нясуць асьвету, беларускую нацыянальную сьведамасьць і беларускі патрыотызм. Сказаць, што гэта ўсё было роблена даўней і робіцца цяпер для матар'яльнага зыску, было-б яўнай недарэчнасьцяй.

*) Ateneum... 175—176.



## V. Мова Скарынаўскіх друкаў.

У якой меры можна лічыць мову Скарыны беларускай, шмат дае сьвятла Язэп Воўк-Левановіч *). Вось ягоныя думкі. „Школьная асьвета ў Скарынаўскую эпоху насіла чыста царкоўны характар: ў школах Беларусі і Украіны вучылі мовы не беларускай і не ўкраінскай, але царкоўна-славянскай. Для гэтай мэты ўжывалі пераважна Псалтыр і іншыя біблейныя і агулам набожныя кніжкі. У выніку гэтага царкоўна-славянская вымова і словы як у гутарцы людзей, так і ў пісьме мяшаліся з жывой народнай мовай. Але і жывая мова ў людзей граматы, у людзей адукаваных так-жа рожнілася ад мовы народу, ад мовы масаў, як гэта бывае і цяпер. Жывая мова людзей адукаваных мусіла быць перасыпана славамі царкоўна-славянскімі, якія ў народзе былі мала ведамы, або і сусім няведамы. У гэткай жывой беларускай ці ўкраінскай мове, у мове людзей граматы, і пісаліся розныя грамадзкія акты і граматы.

Сусім не такая мова кніг тае-ж самае эпохі, але царкоўна-рэлігійнага зьместу. Гэтыя кнігі напісаны або сусім у чыста царкоўна-славянскай мове, або ў царк.-слав. мове з большай ці меншай дыялектычнай ахварбоўкай — беларускай ці ўкраінскай — у залежнасьці ад месца напісаньня.

Такая самая мова і ў выданьнях Фр. Скарыны; як паказвае аналіз, гэта ў большасьці царкоўна-славянская мова з моцным элемэнтам жывой беларускай мовы і з сьлядамі літаратурнага ўплыву чэскай і польскай мовы“ **).

*) Я. Воўк-Левановіч — Мова выданьняў Фр. Скарыны (400-лецьце...).
**) Там-жа, бач. 263.

Далей чытаем у Воўк-Левановіча: „Маючы на ўвазе даць праваслаўнай беларускай царкве і народу мала вядомыя ім кнігі сьв. пісаньня ў богаслужбовай мове, Скарына блізка цалкам пакісьнуў нязьменнымі тэксты Апостала 1525 г. і Псалтыру 1517 г., бо меў іх пад рукою ў царкоўна-славянскай мове, а адрыўкі з старазаконных кніг з царк.-слав. парэмейніка (выпісы, Ад. Ст.) толькі паправіў з чэскім тэкстам біблії 1506 г., г. знач., пераклаў з чэскай мовы толькі тое, чаго ня меў пад рукамі ў царк.-слав. мове... *).

„Выложил" — кажа Скарына. „Нам здаецца, што ён хутчэй, па сутнасьці справы, меў мэтай не пераклад цалкам, а толькі пераклад няясных і незразумелых слоў і выразаў царк.-славянскіх і грэцкіх...

„Повелел есми Псалтырю тиснути рускими словами а словенским языком". „Сэнс гэтых слоў мы можам, у вагульным, пашырыць і на ўсе выданьні Скарыны...

„Гэтак мы можам быць пракананымі, што Скарына, выдаючы свае кнігі „людзям посполитым к доброму научению", клапаціўся толькі аб тым, каб, не зьмяняючы царкоўна-славянскай асновы тае мовы, якая была пашырана ў рэлігійным ужытку праваслаўных беларусаў, даць рэдакцыю багаслужэбных і рэлігійных кніг, зразумелую для сваіх чытачоў" **).

З гэтага якраз і вынікае той беларускі патрыотызм і тая ідэовасьць Скарыны, аб якой гаварылі мы ў папярэднім разьдзеле, а якой пярэча Ловмяньскі.

Урэшце, кончыўшы свой агляд мовы Скарыны, Воўк-Левановіч так кажа: „Такім чынам, пазнаёміўшыся з асаблівасьцямі фонэтыкі і морфолёгіі Скарынавай мовы (што я для нястачы месца прапускаю, Ад. Ст.), мы бачым, што царкоўна-славянская аснова яе пад напорам жывога моўнага мышленьня — можа самога Скарыны, як рэдактара, а можа й друкароў — прарываецца і паказвае нам такія гукі і формы, якія мы чуем у беларускай мове ў нашы дні...

„Жывая беларуская мова эпохі Скарыны ў большасьці сваіх характэрных рыс — фонэтычных, морфолёгіі і слоўніка — была такою, якою мы яе ведаем цяпер" ***).

## VI. Значэньне працы Фр. Скарыны.

Значэньне Фр. Скарыны для беларускага народу вялізарнае.

Скарына — прадвесьнік беларускага сучаснага адраджэньня. Праўда, па ўздойме падышоў занепад і толькі аж у XIX ст. узноў аджыла беларуская нацыянальная думка. Але тут былі прычыны палітычнага вонкавага характару.

„Здаецца, што цяпер ужо ня прыходзіцца даводзіць таго вядомага факту, што галоўная роля ў адмоўным уплыве на асьвету і мову Беларусі належыць тым гістарычным падзеям, што зьявіліся вынікам унутраных палітычных і нацыянальна-рэлігійных узаемаадносін на соцыяльна-экономічным грунце ў Літоўска-Беларускай дзяржаве; гэныя падзеі прывялі да таго, што Літоўска-Беларуская дзяржава страціла спачатку сваю сувэрэннасьць, а пасьля і культурна-нацыянальную самастойнасьць, падпарадкаваўшыся й палітычна й культурна Польшчы. Ня будзь гэтых палітычных падзей, не падлягае ніякаму сумненьню, што афіцыяльная і кніжная беларуская мова дачакалася-б сваіх рэформаў, якія давяршылі-б справу, пачатую Скарынай, — справу зблiжэньня кніжнай мовы з жывою беларускай моваю. Толькі палітычныя падзеі былі прычынай таго трагічнага здарэньня, што беларуская літаратурная мова, замест таго, каб рэфармавацца на здаровых асновах minimum 200 год таму назад, стала на гэты шлях толькі ў нашыя дні" *).

Сапраўды меў Скарына пачуцьцё нацыянальнае. „У сярэдніх вяках панавала адзіная космопалітычная культура; гуманістыя выяўляюць вялікую цікавасьць да нацыянальных адзнак. Ужо Дантэ, які стаіць на рубяжы сярэднявечча і рэнэсансу, у сваім трактаце „de volgari eloquio" даводзіць, што жывая італьянская мова вышэй за мёртвую лацінскую. Па яго сьлядох ідуць Пэтрарка, Боккачыо і іншыя; не пакідаючы мовы лацінскай, яны шырока карыстаюцца жывой народнай гутаркай. Падобна ім і Францішак Скарына ў сваім перакладзе сынтэзуе элемэнты мёртвае царкоўна-славянскае мовы і жывое беларускае гутаркі. У нашага дзеяча мы знаходзім выразы нацыянальнае сьвядомасьці" **).

І так, Скарына — гэта прадвесьнік беларускага сучаснага адраджэньня, гэта лучнік беларускай мінуўшчыны з сучасным беларускім нацыянальным жыцьцём.

Словам, Фр. Скарына, як вялікі культурнік, даў Беларускаму народу ўсё, што мог, а мог дужа многа, бо паклаў асновы і зрубы пад народны беларускі дом, будаваньне якога сяньня Беларускі народ, паводле ўзораў свайго вялікага сына, і вядзець далей.

---

*) Там-жа, бач. 267.
**) Там-жа, бач. 268.
***) Там-жа, бач. 282, 283.

*) Яз. Воўк-Левановіч — там-жа, бач. 264.
**) М. Піотуховіч — Фр. Скарына (400-лецьце, 178—179).

Др. Ст. ГРЫНКЕВІЧ

# Псыхааналіза і праблемы — літаратурныя і грамадзкія

Псыхааналіза зьяўляецца сяньня асобным дзеля самое сябе сьветам, як кажа адзін з аўтараў. Ды сапраўды, няма ніводнае з галінаў праяваў псыхічнага жыцьця, якая-б ня мела большага ці меншага кантакту з навукаю **Фрэуда**. Замінаю найбольшаю дзеля прыйма ці прадстаўленьня псыхааналітычнае тэорыі ня будзе аднак вялікі абойм яе, а нашыя да яе адносіны. Навука Фрэуда, калі і спыніцца толькі на адной старане ейнай, а мяноўна на *мэтодзе досьледаў,* дык і тутка яна адрозьніваецца ад кожнае іншае тэорыі ці мэтоды, што закранае ў нас асаблівыя староны асабовасьці. Выклікае яна ў нас цэлы камплекс настрояў пачуцьцёвых, дзякуючы чаму прападае ў нас аб'ектыўны падыход да зьявішчаў і сытуацыяў. Пачынаем ацэніваць факты абстрактныя, аб'ектыўныя, з гледзішча маралі, рэлігіі, якасьці грамадзкае і г. д. У першую-ж чаргу тэорыя псыхааналітычная закранае ў нас той вельмі зложаны сьцяг працэсаў, які абхопліваем аканчальна паймом жыцьця *сэксуальнага.* Дык дзеля таго гаварыць аб псыхааналізе, нат' з гледзішча навуковага, гэта нешта іншае, як прыкладам гутарка аб тэорыі пазнаньня ці зноў аб вельмі заблытанай тэорыі аканамічнай.

Я вельмі добра гэта ўсенька разумею і дзеля гэтага прымаю загадзя шматлікія закіды, якія могуць мяне сустрэнуць са стараны чытача, калі ніжэй буду гаварыць аб некаторых старонах псыхааналізы.

Навука Фрэуда гэта сяньня сыстэма, сыстэма суцэльная, якая базуецца ў першую чаргу на гэніяльным уяўленьні, сапраўднасьць каторага пацьвярджала і пацьвярджае далей жыцьцё ў сфэры паталёгіі адзінкі і грамады, найбольш ярка ў *нэурозах,* а далей амаль што не ва ўсіх галінах праяваў псыхічнага жыцьця агулам.

Маючы наўвеце прадставіць адносіны і ўплыў псыхааналізы на літаратуру і на зьявішча грамадзкага жыцьця, немагчыма абмінуць, прынамся ў кароткім нарысе, гістарычнага разьвіцьця навукі Фрэуда і тых ейных найважнейшых асноваў, якія сяньня зьяўляюцца магутнаю здабычаю думкі чалавецкае. Інакш можна было-б баяцца, што апынімся бяз фундаманту, на якім, як заўсёды, стаіць кожная будыніна.

*Псыхааналіза,* інакш як кажуць *навука Фрэуда,* або яшчэ прасьцей — *фрэудызм,* злучана вельмі стульна з асобаю тварца, з Фрэудам як чалавекам, з ягонаю расаю, паходжаньнем, грамадзкім становішчам і г. д. Паказываюць, як пачынальнікаў псыхааналізы Нітшага, Шопэнгаўэра, Гэрбарта, аднак ня зусім правільна. І назоў псыхааналізы нікаторыя хацелі-б спалучыць з прозьвішчам Жанэта, францускага псыхолёга, і Юнга. Юнг аднак быў хутчэй вучнем Фрэуда, а калі з Жанэтам мае Фрэуд некаторыя мамэнты супольныя, дык усёж-такі псыхааналізу, як мэтоду лекаваньня а далей як асобны род псыхолёгіі ці нат філёзофіі жыцьця, дала школа Фрэуда.



Асяродзішча жыдоўскае Фрэуда, у якім ён радзіўся, вельмі характэрнае дзеля разьвіцьця падзеяў ягонае навукі. Ад самае раньняе моладасьці, будучы жыдом, бачыў ён сваю нейкую апрычонасьць, тую іншасьць, аб якой калі ў заходняй Эўропе і не гаворыцца, дык аднак якую ўсе ня гледзячы на ўсенька вельмі добра чуюць. Гэныя вось расавыя свомасьці, побач магчыма са свомасьцямі свайго характару, далі маладому Фрэудаві тую *незалежнасьць унутраную* на пагляды, настроі, валадаючыя грамадзянствамі ці навуковымі тэорыямі. Ад вельмі раньніх гадоў цікавіцца псыхолёгіяю. Будучы маладым лекарам знаёміцца ў Францыі з найбольш тады моднымі і шырока вядомымі вогнішчамі досьледаў псыхолёгічных у клініках Шаркота і Бэрнгэйма. Вярнуўшыся ў Вену наладжывае блізка супрацоўніцтва з Брэўэрам, адным з лекараў-нэўролёгаў. З гэным Брэўэрам даглядалі супольна за адною хвораю, папулярнаю ў літаратуры ў сувязі з тым, што якга гэная хворая пачала ў пэўным сэнсе эру прыхааналізы.

Хворая мела праявы нэўрозы, вядомае пад назовою гістэрыі. Не магла яна між іншым хадзіць, зусім абнядужаная ляжала ў ложку, не магла нічога есьці, хаця ўсе органы цела былі быццам здаровыя, значыцца нармальнае абсьледаваньне цела не магло паказаць на тое, каб нейкі з органаў быў пашкоджаны ў сваёй дзейнасьці. Вось Фрэуд з Брэўэрам спрактыкавалі на хворай новы спосаб лекаваньня, а мяноўна выклікалі ў яе гыпнозу і ў сьне гыпнотычным давалі магчымасьць *рэагаваць* на ўспаміны, калі асабліва ўспаміны былі афарбованыя пачуцьцёва ад'емна. І цікава, што шмат якія з праяваў хворасьці пасьля такое неабмяжованае нічым рэакцыі прападалі бяз сьледу, а знача хворая здаравела, прападала абнядужаньне, заміны пры глытаньні і г. д.

На асноведзі ўжо гэнае аднае хворае паявілася новае разуменьне нэурозаў у Фрэуда. Кожнае неадрэгаваньне зьявішча, якое было нямілым з тых ці іншых прычынаў, не прападае бязсьледна, а толькі хаваецца для нашае *сьведамасьці,* загнанае ў нясьведамасьць ці падсьведамасьць, залежна ад сілы ад'емнага афэкту, выкліканага ў дадзенага чалавека. І вось гэныя *выціснутыя* ў „падполье" перажываньні не сядзяць спакойна ў нясьведамасьці, а стараюцца прашмыгнуць у актуальную, значыцца сьведамую, плошчу працэсаў псыхічных пад нейкаю іншаю формаю. Дзеля гэтага яны будуць часта зусім незразумелыя.

Жыцьцё поўніцца такімі прыкладамі. Кожны з нас могбы часта бачыць на сабе гэткае зьявішча. Дзеля ілюстрацыі дам такое здарэньне.

Малады чалавек ідзе ў манастыр. Рупіцца ён аб сваю душу, спадзяецца ў духоўным стане знайсьці магчымасьць працаваць для свайго народу. У манастыры бачыць ён ад першых дзён вялікае разыходжаньне паміж ідэалам, аб якім лятуцеў так доўга, а сапраўднасьцю. Замест справаў боскіх, сустрэнуў ён штодзенных людзей, занятых, як усюды, штодзеннымі патрэбамі, клапотамі. Да таго разыходжаньне паміж моральлю афіцыяльнаю а сапраднасьцю. Хацеў-бы пратэставаць, крычаць, што ўсё гэта ня так, як ён сабе ўяўляў, ня тое, чаго ён спадзяваўся. Пратэст мог-бы ён выказаць між іншым такім спосабам, што пакінуў-бы манастыр і вярнуўся-б да жыцьця нармальнага. Ня так зноў гэта лёгка зьдзейсьніць. Што скажуць на гэта маці, сваякі, знаёмыя, — падумаюць, што ён уцёк дзеля нейкіх мяркаваньняў няпрыгожых! Да таго-ж ён сапраўды хоча астацца манахам, бачыць тутака свой поклік жыцьцёвы. Не дапускае дзеля гэтага да свае сьведамасьці на'т і думкі аб выхадзе з манастыра.

Доўга ня ждучы, наглядаем у гэнага чалавека нейкія незразумелыя праявы, якія аканчальна даводзяць маладога манаха да лекара. Калі апыніцца ён толькі ў царкве, значыцца на месцы, дзе сьвядома хоча працаваць і дзе маніцца паводле сваіх плянаў і мяркаваньняў спагнаць усё жыцьцё, дык вось на тым месцы пачынае ў яго моцна біцца сэрца, круціцца ў галаве і кожны раз трэба яму пакінуць сьвятыню. За парогам сьвятыні ён зноў здаровы чалавек.

Сытуацыя такая вельмі цяжкая псыхічна і на пагляд незразумелая. Сам хворы не разумее нічога, што з ім робіцца. Ведаючы ўсё тое, аб чым было гаворана вышэй, ды помнячы аб існаваньні нясьведамасьці з яе праявамі і незалежным ладам, лёгка можам усё сабе паясьніць. Чалавек гэны дзякуючы сваёй хваробе зьдзейсьняе тое, чаго зрабіць ня мог, зьвязаны сваімі плянамі жыцьцёвымі, мяркаваньнямі нацыянальнымі, сямейнымі і г. д. Кандыдат у манахі, разачараваўшыся ў сваім покліку, рэалізуе ў сваёй хваробе тое, чаго ня мог зрабіць сьведама. Ягоная ж хвароба робіць абсалютна немагчымым далей аставацца ў манастыры!..

Крыху даўжэй я спыніўся над прыкладам дзеля ягонае прасьціні і адначасна паўніні мэханізмаў вельмі характэрных дзеля зразуменьня псыхоаналізы. Бачым на ім, як ня трэба лепш, аснаўны факт у псыхоаналізе, а мяноўна прысутнасьць у нас *нясьведамасьці* і амаль што неперамоўны ейны *ўплыў* на ўсё жыцьцё. Бязумоўна, шмат якіх са здабычаў Фрэуда сяньня ня выклікаюць у нікога сумліваў, дык і пацьвярджэньне існаваньня ў нас нясьведамасьці ня толькі нас ня дзівіць, а гэта нешта зусім дзеля ўсіх зразумелае. Сорак гадоў таму назад гэта была рэвэляцыя і не малая рэвалюцыя ў псыхолёгіі.



Фрэуд паставіў пытаньне, чаму гэта шмат якіх перажываньняў вельмі цяжка прыпомніць. Паясьняе ён, як лёгка з вышэйпададзенага прыкладу зразумець, што прыпомніць цяжка тыя факты, якія дзеля тых ці іншых прычынаў маюць нямілую дзеля нас ахварбоўку. Найчасьцей гэныя перажываньні далёкія і хаваюцца ў *дзіцячых* гадох. Хаця мо' крыху і дзіўна чуючы такі сказ, аднак гэта факт.

Новым этапам у разбудове тэорыі псыхоаналітычнае была спасьцярога, што большасьць выціснутых у нясьведамасьць перажываньняў мае характар *сэксуальны*. Зразумела, што такая пастаноўка справы выклікала вельмі гарачы пратэст, у першую чаргу, у сфэрах лекарскіх, з якімі Фрэуд падзяліўся сваімі спасьцярогамі. Як сам Фрэуд расказвае ў сваіх успамінах пасьля першае лекцыі на гэную тэму пачуў ён амаль што не ў даслоўным сэнсе, як паміж ім і слухачамі вырасла пропасьць, усе адхінуліся ад яго, ніхто не хацеў з ім гаварыць, ніхто аб нішто ня пытаў. Глядзелі ўсе на яго быццам на каналію...

Трэба сказаць, што такія адносіны да псыхоаналізы можам сустрэнуць часта і сяньня. Фрэуд аднак ведаў такую атмосфэру ўжо раней, калі чалавек пакрыўджаны несправядліва абсьмейваецца сваімі ворагамі, — дык цяпер ён не паддаўся прыгнечанасьці. Бадзёра працуе далей. Пакрысе знаходзіць прыхільнікаў. Далучаюцца да яго людзі старэйшыя, людзі з вялікаю практыкаю жыцьцёваю і ведаю клінічнаю, якім новае насьвятленьне зьявішчаў у псыхіцы чалавека рабіла зразумелымі шматлікія праявы ў галіне хворасьці. Далучаюцца да яго швайцарскія псыхіятры Блеўлер і Юнг. Вучні ягоныя наладжываюць саюз, выдавецтва псыхоаналітычнае, якое мае наўвеце распаўсюджываньне здабычаў новае навукі. У далейшых гадах наглядаем паміж вучнямі разыходжаньні, разломы (Адлер, Юнг), аднак тэорыя з Вены разыходзіцца па сьвеце і псыхоаналіза мае спагаднікаў на міжнародным грунце на некалькі ўжо гадоў перад вайною. З пачатнае мэтоды лекаваньня вырастае навука, абхопліваючая ўсе праявы культурнага жыцьця. Трэба сказаць, што нат' сымпатыкі і прыхільнікі фрэудызму бачаць заняпад навукі Фрэуда ў апошніх некалькінаццаці гадах ягонае дзейнасьці. Кажуць, што сыстэма заялавела, зрабілася вельмі аўторытатыўнаю, што з тэорыі навуковае вырасла нешта быццам сэкта рэлігійная і г. д. Не ўваходзячы бліжэй у ацэнку апошніх мамэнтаў, трэба сказаць, што бязумоўна цэлы сьцяг фактаў падчыркнутых Фрэудам зьяўляецца аснаўною здабычаю сучаснае культуры.

Жыцьцё ў насьвятленьні псыхоаналізы мае асаблівы зьмест. Жыцьцё будзе ігрою *імпульсаў* і ў першую чаргу імпульсаў сэксуальных. Імпульсы гэныя паводле Фрэуда маюць дзеці ўжо ад найменшых гадоў свайго жыцьця. Першы пэрыяд гэных імпульсаў праяўляецца ў *аўтоэротызьме*, хутка аднак яны перахо-дзяць на людзей з найбліжэйшага асяродзішча, значыцца на бацькоў, і выклікаюць даволі хутка *камплекс Эдыпа*. Паймо камплексу

Эдыпа вельмі важнае дзеля далейшага разьвіцьця тэорыі псыхоаналітычнае і зьяўляецца свомасьцю дзеля яе вельмі характэрнаю. Прыняць за аснаўны закон існаваньне камплексу Эдыпа на нармальным шляху разьвіцьця адзінкі было вялізарнаю рэвалюцыяю ў тагочасным ды на'т і сяньняшнім нашым сьветапаглядзе. Нешта, што было даўней ненармальным, праява хворасьці, сяньня пачынае быць неабходным этапам. Камплекс Эдыпа азначае ня больш ня менш, як сэксуальныя спробы (хутчэй у сымбалічным чымся даслоўным сэнсе слова) ў адносінах да бацькоў, у сына да роднае маткі, у дачкі да бацькі. У пару дасьпяваньня частковыя імпульсы сэксуальныя накіроўваюцца на падтрыманьне роду. Вельмі важны пераход з пары поліморфічна-пэрвэрсыйнага сэксуалізму да імпульсаў частковых сэксуальных (інакш можна казаць да нармальнага плоцьнага жыцьця дарослага чалавека). Калі пераход гэны насустрэне на сваім шляху нейкія заміны, у далейшым жыцьці праявяцца яны ў шматлікіх н э у р о з а х ці на'т хваробах псыхічных. Першая пара жыцьця сэксуальнага (ў дзіцячых гадох) не пакідае быццам па сабе ніякіх сьледамкаў, так што ня можам аніяк уявіць іх пазьней. Супакой гэны толькі спадумны аднак, а паказальнікам таго і будуць праявы хваробаў рознаякіх, з якімі часта сустракаецца лекар.

Ці сапраўды жыцьцё — гэта выключна ігра сэксуальнага інстынкту? Фрэуд не пярэчыць прысутнасьці і вялікага значэньня іншых імпульсаў. Процілежным да імпульсу сэксуальнага ў чалавека будзе тое, што Фрэуд называе *Ichtriebe*. Калі імпульсы сэксуальныя былі імкненьнем да *роскашы,* гэнага аснаўнога мотару жыцьцёвага, дык у процілежнасьць да гэтага прынцыпу роскашы жыцьцё накідае сапраўднасьць з ейнымі вымогамі. Бязумоўна, што і ў Ichtriebe імкнемся да роскашы, толькі тае іншае, пабудаванае на досьледзе, што не заўсёды найкарацейшая дарога найлепшая, што вельмі часта трэба зрачыся, прынамся часова, з прынцыпу роскашы, каб дастаць эквівалент мо на'т большы ў будучыне.

Як была ўжо гутарка, аснаўным мамэнтам дла Фрэуда будзе той націск, які ён робіць на значэньне нясьведамых працэсаў псыхічных. Імкненьне да роскашы незаўсёды будзе згоднае з вымогамі моралі, апініі грамадзкае, узгадаваньнем, традыцыямі. Імкненьні нязгодныя з тымі ці іншымі вымогамі сустракаюць цэнзуру, якая не дапускае іх да сьведамасьці, выціскае іх, выпірае. Фрэуд вельмі абразна паказывае на розьніцу паміж сьведамасьцю і нясьведамасьцю. Сьведамасьць — гэта быццам салён, а нясьведамасьць — уваход да будыніны нашае душы. Паміж уваходам і салёнам, на нейкім быццам карыдоры паміж імі, сядзіць сторож (цэнзура), які не дапускае ўсяго, што будзе нязгоднае з традыцыямі ці абычаямі салёну. Няпрошанае імкненьне, як той назойлівы госьць, хоча пралезьці ў салён пераміўшы вонкавы выгляд. Калі і ня здолее пралезьці, дык усётакі наробіць гоману ў карыдоры і выкліча непарадак, не даючы



спакойна жыць. Той гоман, непарадак практычна праяўляецца ў жыцьці ў розных нэурозах, хваробах. Усе мы аб'ектамі памяньёных падзеяў. Ня ўсе мы хварэем, прынамся ня ўсе мы бачым у сябе хворасьць. Жыцьцё само праводзіць ліквідацыю цяжкіх сытуацыяў. Даволі бывае шчырае гутаркі з сымпатычным нам чалавекам, каб канфлікт ня лішне цяжкі быў зьліквідаваны. Споведзь шырока практыкаваная ў каталіцкім касьцеле — адзін з доказаў, як лёгка можна зьліквідаваць даволі цяжкія канфлікты дзякуючы аднэй шчырай гутарцы з духоўнікам, да якога ідзём з даверрам.

На гэтым спыніўся я ў абгаворываньні тэорыі псыхоаналізы. Нажаль не магу абгаварыць шырэй дзеля нястачы месца цэлага сьцягу мэханізмаў, якія лягчэй памагаюць зразумець навуку Фрэуда. Між іншым нічога я не казаў аб псыхопаталогіі штодзеннага жыцьця, аб тэорыі сну і г. д. Агульна трэба сказаць, што няма нічога ў жыцьці, што ня мела-б свайго с э н с у. Кожная памылка, кожная падзея, кожны на'т сон, на які мы прывыклі заглядацца быццам на нейкую брэднюшку, усё гэта мае свой сэнс, сваю прычыну.

Ясна, што зьявішчы літаратурныя, праблемы ўзгадаваньня, праблемы рэлігійныя, праблемы моралі, агулам цэласьць працэсаў грамадзкага жыцьця паясьняецца псыхоаналізаю часта зусім інакш, чымся мы да гэтага прывыклі ў нашым жыцьці. Як ужо некалькі разоў я казаў, прынцыповае значэньне мае тутака камплекс Эдыпа, ці лепш казаць той спосаб, якім камплекс гэны быў зьліквідаваны. З гэнага камплексу вырастае, можна сказаць, уся нашая культура на шляху сублімацыі, перамены і абмену прымітыўных імпульсаў сэксуальных. Абнова гэная рэалізуецца ў нас нясьведама.

Вартасьць літаратуры, падыходзячы да яе найбольш глыбока, хаваецца ў тым, што аўтар у сувязі з канкрэтным прыкладам ці шматлікімі прыкладамі, пасьля аналізы прыведзеных фактаў дае нейкае абагульненьне. У сувязі з такім паймом літаратуры стульна злучана праца, творчы працэс. Пераказываньне толькі фактаў з вельмі цікаваю на'т фабулаю яшчэ ня будзе літаратураю, будзе гэта хроніка, можа быць адчасьці гісторыя. Бязумоўна, я ня думаю тутака зузім аб ніякай канкрэтнай форме літаратуры. Форма ня мае пры нашым падыходзе да літаратуры нейкага асаблівага значэньня. Пры такім падыходзе да пісьменства трэба сказаць, што сапраўднаю літаратураю ня будзе літаратура факту, нараджэньне якое мы наглядалі пасьля вайны, а сяньня бачым, можна сказаць, поўны яе заняпад. Прыклад канкрэтны гэнае кароткае гісторыі літаратуры факту бачым у пісьменстве савецкім.

Літаратура належыць да праяваў інтэлекту. Аднак межы, якія яна абхоплівае, шмат шырэйшыя, чымся сам інтэлект. У гэным творчым працэсе, як у кожным іншым, трэба зачапіць аб старану, якая ў першую чаргу рашае аб вартасьці і характары

адзінкі, значыцца сфэру пачуцьцёвую. Мусіць яна закрануць інстынкты, мусіць абхапіць нясьведамасьць. Бязумоўна, што літаратура спаўняла гэныя задачы шмат раней, чымся Фрэуд апрацаваў свае тэзы, чымся укупіў у законы факты, абгаворываныя і паясьняныя ў літаратуры.

Калі мы гаворым аб суадносінах паміж псыхаанялізаю і літаратураю, дык да гэтае тэмы можна падыходзіць з *дзьвёх* старон. Маглі-б мы прадусім прабаваць паясьніць літаратурныя зьявішчы з *гледзішча* псыхааналітычнага а далей спыніцца над *уплывам* фрэудызму на актуальную творчасьць у літаратуры. Мы спынімся толькі над першаю з памянёных старон.

Нельга не прамаўчаць таго, колькі месца ў літаратуры займае *каханьне*. Доўга раман быў амаль што не адзінаю прызнанаю формаю творства літаратурнага. Кажу аб той пары культуры чалавецкае, калі пісьменства пачынае іграць незалежную ролю ў „сьвецкім“ грамадзянстве. Праблемы каханьня амаль што ня ў 100 проц. бачым у паэзіі і творстве народным. Ціж ня будзе тутака поўнае згоды з Фрэўдам, калі той нам кажа, што найважнейшым мотарам жыцьцёвым будуць інстынкты, і то якга інстынкты сэксуальныя?!

Калі ў пару дасьпяваньня наглядаем амаль што не агульны поклік да званьня паэты, дык зноў дзеля таго, што дзякуючы паэтычнай форме можам выказаць усё недасказанае і схаванае ў нясьведамасьці. Творства паэтыцкае, як бліжэй здаецца і немагчыма, працуе аднолькаваю мэтодаю з псыхаанялізаю (ня будзем спрачацца, калі нехта скажа наадварот, што псыхааналіза карыстаецца мэтодаю паэтыцкаю). Гэткае разуменьне мае сваю вартасьць агулам для паэзіі. У пару дасьпяваньня некаторыя мамэнты псыхолёгічныя творства бачым у больш яркім насьвятленьні. Пара дасьпяваньня мае столькі сумляваньняў, загадак, канфліктаў, а што яшчэ горш, канфліктаў няўяўленых, недагавораных. У сьведамасьці ня бачым прычын, цяжка паясьніць тыя сытуацыі, якія выклікаюць няясныя, унутраныя зрухі, тугу па нечым, да нечага. І вось у творстве адкідаем спадумнага гаспадара адзінкі — інтэлект — і кідаемся на хвалі фантазіі. Карысьць суб'ектыўная з такое паэзіі бязсумліўная. Вартасьць больш шырокая, агульная будзе большая ці меншая, залежна ад таго, што прадстаўляе з сябе гэтая адзінка, акі ейны талент і г. д. Часта ніколі ня вернецца да пяра. Бываюць іншыя, больш шчасьлівыя, ці мо' зусім наадварот, якія назаўсёды астануцца ў палоне пяра і пры кожнай нагодзе канфлікту ці патрэбы сказаць нешта шчыра, гарача, ад сэрца, могуць толькі ў паэтыцкай форме выказаць усё, што накіпела і набалела ў душы. Дык гэнае творства зьяўляецца патрэбаю ўнутранаю, гэта будзе да пэўнае меры акт самалячэньня.

Ці хачу гэтым сказаць, што сапраўдныя паэты людзі хворыя? І так і не. Што гэта патрэба натуральная — паказвае найлепш народная паэзія, дзе няма іншых імпульсаў да творства,



як толькі імкненьне да ліквідацыі ўнутраных канфліктаў. Ясна, што ўмовы шырэйшага грамадзкага жыцьця выклікаюць новыя аспэкты ў творстве, робяць да пэўнае меры адумыслоўцаў з паэтаў. Калі аднак гутарка аб сутнасьці справы, дык прадстаўляецца яна так, як я кажу.

Усё, што было гаворана аб паэзіі, цалком тарнуецца да іншых формаў літаратуры. Усюды бачым імпровізацыю, калі зьяўляецца пытаньне дакапацца да глыбейшых слаёў душы. Імпровізацыя і будзе актам, у якім найбольш патайныя думкі паказываюцца ў гатовай ужо форме, быццам неспадзеўкі. І форма і зьмест часта вельмі далёкія ад вартасьці чалавека - тварца, якога мы ведаем на штодзень. У імпровізацыі чалавек прадстаўляецца нам няпоўны, няма тутака інтэлекту, прынамся таго інтэлекту, што да ўсяго крытычна прыглядаецца. Незалежна ад гэнае аднабокасьці такога акту, імпровізацыя мае значэньне ня толькі суб'ектыўнае для адзінкі. Гэная апошняя ў такіх нагодах у спосаб, хаця яно на здаровы розум можа і незразумела, будзе ўцелаішчэньнем дадзенае групы, грамады, народу. У такіх імправізаваных актах зьмест пачатна бывае незразумелы, ня бачым у ім лёгікі і толькі далейшае жыцьцё паказывае, што сапраўды тварэц быў *вяшчуном*. Паэзія і творства кожнага народу дае ў розных галінах прыкладаў бяз ліку. Нашая беларуская літаратура ня розьніцца ад іншых. Дык мерыць тварца ня можна ягонаю вопраткаю, формамі хатняга жыцьця, на'т стойкасьцю ягоных паглядаў нацыянальных ці іншых. Вартасьць ягоных імпровізацыяў ляжыць зусім у іншых плошчах!..

Аб гэтым усім ведама было і да эры Фрэуда. Дзякуючы аднак яму, мы навучыліся разумець і ацэніваць, чаму імпровізацыі маюць гэткае значэньне грамадзкае і індывідуальнае. Тутака, як ня трэба лепш, наглядаем, што якга пры ацэне кожнага зьявішча найтрудней бывае знайсьці цэнтральны пункт, а знайшоўшы яго — ўсё ўжо робіцца ясным.

Людзі бачылі, як кажу, даўно, што сам інтэлект, які ўсеўладна валадае быццам намі, не вырашае ўсяго, не паясьняе нам усіх тайніцаў і зьявішчаў на'т і штодзенных. Бачым аднак ужо ў даваеенай повесьці (Буржэт) пагляды даволі блізкія, да якіх і мы даходзім. Апошні аўтар даслоўна гаворыць: „душа нашая — гэта быццам зямля або цэлы сьцяг востраваў, вярхі якіх вока бачыць над вадою. Вярхі гэныя гавораць аб існаваньні таго фундаманту, з якога вярхі вырастаюць. Фундаманты тыя толькі могуць паясьніць характар скалаў, што паказываюцца над вадою. Усе нашыя клопаты, нашыя сумляваньні вырастаюць з фундаманту псыхічнага, які аднак зусім незразумелы ані нам ані нашым блізкім“. У гэтым сказе бачым прыймо становішча Фрэуда аб існаваньні нясьведамасьці і магутнай ролі гэнае часьці нашае душы ўва ўсім жыцьці. Прыглядаючыся бліжэй да падзеяў роду чалавецкага, убачым усюды, як тэза нясьведамасьці і ўсіх консэквэнцый, выплываючых з гэткага становішча,

уецца чырвонаю істужкаю. Інакш ня можна разумець дабра і зла, праблемы аснаўное кожнае з рэлігіяў. „Зло“ і будзе прызнаньнем у плошчы рэлігіі факту існаваньня нясьведамасьці. „Мы ахвяры — кажа Гэйсманс — тых памірсных думак і нахілаў, якія дрэмлюць у кожным, на'т найлепшым з нас. Яны (гэныя думкі) крыніцаю таго, што найлепшы сын лятуціць, не ўяўляючы нічога благога, аб сьмерці бацькоў“. Дзеля паясьненьня дадам толькі, што гэны калісь вельмі популярны аўтар ня быў ані камуністым ані анархістым, а шырока вядомым канвэртытам каталіцкім. Буржэт-жа зноў—гэта прадстаўнік кансэрватыўнае з нахілам рэлігійным групы францускага грамадзянства.

Артыст нездаволены з сапраўднасьці, адчувае ў сабе ўнутраны непакой, шукае палёгкі ў іншай плошчы. Ён, паводле Фрэуда, адварочываецца ад рэчаіснасьці, сусярэджывае свае зацікаўленьні на libido, на лятуценьнях. Гэны адхіл ад сапраўднасьці, гэны аўтызм, як кажуць псыхіятры, можа давясьці да хваробы. Прысутнасьць аднак таленту дае пэрлы літаратурныя, як і агулам мастацкія. Толькі ў насьвятленьні псыхааналітычнае тэорыі можам уявіць творства ў ягоных асновах і адначасна розныя праявы творства розных народаў, расаў. Разумеем, чаму Дантэ і Боккачыо тварылі над цёплым паўдзённым небам, чаму нашая паэзія нашаніўская была іншаю, чымся паэзія пролетарская сучасных савецкіх пісьменьнікаў, ці на'т і нашых тутака маладых паэтаў. Розная асноведзь жыцьця імпульсыўнага дае нам адказ паясьняючы ў сумлівах з плошчы літаратурнае.

Фрэудызм заўсёды стаяў блізка практыкі жыцьцёвае. Не прайшоў ён моўчкі і над праблемамі *грамадзкімі*. Формы жыцьця грамадзкага, разьвіцьцё гэных формаў мо лепш, як пры ўсіх іншых паясьненьнях, робяцца зразумелымі ў Фрэуда. Існуе вельмі блізкая аналёгія паміж суадносінамі сяброў і розных грамадаў у грамадзянствах з найдаўнейшых эпохаў, а тым, што бачым у снах, у хворых псыхічна і ў дзяцей. І хаця сказ гэны гучыць быццам фалшыва для вуха—практыка жыцьцёвая, досьледы над аналізаю сонных мрыяў, практыка са штодзеннага нагляданьня за хворымі і дзяцьмі дае нам магчымасьць уявіць тыя шляхі, прынамся ў аснаўных нарысах, якімі йшло чалавецтва ў сваіх дасюлешніх падзеях.

Дзеля ілюстрацыі пакажу хаця-б на такі мамэнт, як адмова ад прынцыпу роскашы і ўмеласьць адмовіцца ад роскашы мамэнтальнае на карысьць тае-ж роскашы собскае, толькі зьдзейсьненае ў пазьнейшую пару, адным словам тое, што завецца ў Фрэуда змаганьнем паміж *Lustprinzip* і *Realitätsprinzip*. Колькі трагэдыяў, колькі няшчасьцяў можам наглядаць якга ў гэную пару, найчасьцей у пару дасьпяваньня псыхічнага і фізычнага адзінак! Вузкія, эгоістычныя адносіны маладое адзінкі да ясяродзішча, ня гледзячы на спадумны ідэалізм гэнае пары ў жыцьці даводзяць да пратэстаў, рэвалюцыяў, вострых канфліктаў у адносінах да бацькоў, хаты, сяброў, грамадзянства. Яшчэ больш трагічна прадстаўляецца



гэнае разьвязаньне ўзаемаадносінаў абодвых прынцыпаў у плошчы сужыцьця грамадаў, пляменьняў, народаў. Сяньняшняя заблытанасьць палітычных адносінаў у міжнародным маштабе, права „малых“ і „вялікіх“, як ня трэ лепш паказвае, як вельмі цяжка знайсьці тую залатую сярэдзіну, дзе добра было-б і мне і майму суседу.

Кампплекс Эдыпа, які ў культурных грамадзянствах лёгка ліквідуецца і пры належных умовах робіцца магутным жаралом потэнцыяльных магчымасьцяў адзінкі, гэны кампплекс у больш прымітыўных формах суадносінаў быў прычынаю забойстваў, сьмерці бацькоў, старшых родаў, начальнікаў пляменьняў. Гэны-ж кампплекс на'т на вышэйшым роўні разьвіцьця праходзячы цераз пэрыяд Totem і Tabu грамадзянстваў прымітыўных будзе крыніцаю нашае моралі, этыкі.

Псыхааналіза ня толькі ў адносінах да гісторыі цывілізацыі паясьняе пярройдзеныя ўжо шляхі. Можам у ёй знайсьці паясьненьні адносна падзеяў гістарычных, ці нат тых, якія наглядаем сваімі собскімі вачыма. У насьвятленьні псыхааналізы штораз меншая колькасьць таёмных загадак, зьявішчаў, непавязаных у адну цэласьць. Бязумоўна, што падзеі чалавецкія не прызнаюць ніякіх пераскокаў. Усё тутака аднолькава з жыцьцём паасобнае адзінкі ляжыць у рамах лёгікі. Магчыма, што мы толькі ў дадзены мамэнт ня бачым законаў гэнае лёгікі. У гэнай плошчы ўплыў продкаў дзеіць на нас, быццам сьвятло тых зорак, якія даўно ўжо пагаслі, хаця сьвятло іх і сяньня мы бачым. Чым паясьняецца факт, што бачу лепшае а раблю горшае (video meliora, deteriora sequor). Дзе прычына, што павадыры грамадзянстваў паказываюць на мэты прыгожыя, адначасна паказываючы і на шляхі, якія да іх вядуць, з другое стараны і некаторыя слаі грамадзянства выказываюць шчырую ахвоту да зьдзейсьненьня паказаных мэтаў, а ня гледзячы на гэныя ўсе ўмовы самое зьдзейсьненьне астаецца пустым гукам?!

І толькі помнячы, што ў абедзьвюх сытуацыях побач з мэтамі сьвядомымі рэалізуем адначасна і тыя, над якімі няма ніякае кантролі, якіх нат прысутнасьці не падазраваем, дзеля таго, што разыгрываецца ўсё змаганьне ў плошчы нясьведамасьці, лёгка зразумеем разыходжаньні паміж ідэалам і сапраўднасьцю. Часта рэалізуем ня тое, што хочам, а тое, што можна, ці йнакш кажучы тое, на што пазволіла цэнзура.

У гэтым бачым аграмаднае значэньне ролі інстынктаў, калі інстынктам назавём свомасьць выконываньня мэтных актаў без таго, каб мы бачылі самую мэту ды адначасна бяз ніякага напрактыкаваньня ў выконываньні. Разважаючы вышэй сказанае, прыйдзём да вываду, што *інстынкт* — гэта аснаўная пружына поступу. Розум — гэта толькі завяршэньне, найвышэйшы пункт працы сьвядомае над сабою адзінкі. Інтэлект сам астанецца сухім і бяздзейным, калі ня меціме падтрыманьня ў інстынктах.

Гэткім чынам мы дайшлі да вельмі важнае, магчыма найважнейшае стараны практычнае псыхааналітычнага падыходу

да жыцьця. Маю наўвеце *ўзгадаваньне* маладога пакаленьня. Сяньня валадае прынцып, да якога мо лішне позна прыйшлі ўзгадаваўцы, што ня толькі трэба вучыць, а трэба ўзгадоўваць характар чалавека. У імкненьні да ўзгадаваньня нельга абмінуць інстынктаў. Хочучы дзеяць на інстынкты, трэба іх добра ведаць. Трэба адкінуць той вялізарны баляст ілжы, што ляжыць на кожным з нас, калі хочам закрануць самастойна якую колечы з галінаў жыцьця. Афіцыяльная мараль прымушае нас да пашаны кожнага аўтарытэту, незалежна, ці аўтарытэт гэны абаснаваны ці не. А такая мараль, як слушна кажа францускі псыхолёг Марі, хаця зьяўляецца вялікім волатам, аднак гэны волат вельмі небясьпечны,—дзякуючы гэткай маралі мы сьведкамі трагэдыяў грамадзкіх ды індывідуальных.

---

П. КАНТРЫБА

# Новае з гісторыі беларускай мовы ў XIX стаг. ў Каталіцкім Касьцеле

Нядаўна вышаў у сьвет грубы том кніжкі біскупа-суфрагана Сандомерскага, Паўла Кубіцкага, пад назовам: „Bojownicy kapłani za sprawę kościoła i Ojczyzny w latach 1861—1915 (cz. 2, t. I).

Кніжка гэная абгаварвае падзеі прасьледу Касьцёла „na dawnej (?!) Litwie i Białorusi“, апіраючыся на ўрадавых дакумэнтах расейскіх уладаў, кансісторскіх архіваў, манастырскіх і прыватных асоб. Напачатку аўтар дае прадмову і паказвае крыніцы і працы, а так-жа спыняючыя свабоду Касьцёля распараджэньні расейскага ўраду. Што датыча гістарычнай навуковай мэтоды, дык праца біскупа Кубіцкага далёкая ад дасканальнасьці, затое мае яна не малую вартасьць, як проба адшуканьня і сабраньня дужа расьцярушаных матар'ялаў у вадну цэласьць, якая аблягчыць досьледы далейшыя.

Сусім ня дзівімся, што бадай усю заслугу барацьбы за справу Касьцёла аўтар, як Паляк эндэцкага псыхічнага складу, прыпісвае польскаму клеру, успамінаючы толькі „obok niego niekiedy kapłana Litwina i Żmudzina“ (Wstęp VI). Звычайная гэта ў іх рэч ня памятаць, што ксяндзы палякі ў Літве і Беларусі былі і ёсьць у вялікай большасьці *gente Lithuani* або *Alboruthenі*. Але няхай сабе гэныя „bojownicy“ астаюцца і далей у польскім пантэоне: ня думаем рабіць ніякае рэвіндыкацыі. Горш тое, што біскуп Кубіцкі бяз хістаньня ўжывае гэткіх выражэньняў, як: „w kościołach naród polski (sic!) na Litwie i Białorusi“..., замест згоднага тут з праўдай: польскія абшарнікі, спольшчанае мяшчанства, а так-жа дробная шляхта і інш.



Перадусім пададзём тут крыху статыстыкі з прадваеннай Беларусі. Вось-жа віленскі губэрнатар Любімов 5. II. 1906 году за № 1498 пісаў да тагочаснага віленскага генэрал-губэрнатара Кржывіцкага аб віленскай губэрні, што „Беларусаў ёсьць тут 1,000.100 (57 проц.), з якіх — праваслаўных 350.000, каталікоў 650.000; блізу 65 проц. беларусаў належа да Каталіцкага Касьцёла, у каторым, як ведама, дадатковае набажэнства адпраўляецца папольску, а так-жа папольску гаворацца і казаньні. У гэтай мове Беларус гавора (вярней — мусіць гаварыць) свае штодзенныя пацеры, вучыцца пачаткаў веры, гавора з сваім пробаршчам, арганістым і слугой касьцельным... Рымска-каталіцкае духавенства заўсёды самым гарачым спосабам старалася аберагаць гэткае палажэньне, спыняючы найменшыя спробы замены польскай мовы мовай беларускай ня толькі ў дадатковых набажэнствах па сьвятынях, але так-жа й у адносінах з парафіянамі паза касьцёлам, падчас адведваньня парафіі, каб спраўдзіць парафіяльныя сьпіскі і ў іншых здарэньнях“ *(бач. 285—6).*

Ці гэткі высокі працэнт Беларусаў у быўшай віленскай губэрні быў толькі выдумкай царскай бюрократыі? Не. Трэба-ж ведаць, што ўжо ў гадох 1868—9 была ўзьняўшыся аб гэтым вострая і цікавая дыскусія між віленскім генэрал-губэрнатарам Потаповым і рымска-каталіцкай духоўнай Калегіяй у Пецярбурзе. Калі гэтая Калегія зарызыкавала цьвердзіць, што быццам „каталікі парафіяне ў вітэбскай і магілёўскай губэрніях пераважна ўжываюць польскай мовы (*sic!*), а толькі маленькая частка (*sic!*) з простага народу гавора пабеларуску“ *(бач.334),* генэрал-губэрнатар Потапов на гэта адпісаў: „Няпраўда гэтых цьверджаньняў ёсьць яснай, бо напэўна ведама, што значная большасьць сталага насельніцтва магілёўскай і вітэбскай губ., за выняткам паветаў інфлянцкіх, гавора пабеларуску, а вышэйшыя сфэры тых-жа ваколіц, хоць не гавораць пабеларуску, але гэтую мову разумеюць“ *(там-жа).* Ня глядзячы на тое, што ген.-губ. Потапов добрага беларускаму народу нічога не зрабіў, у прыточваных славах бліжэйшы ён да праўды, як гэная Дух. ў Пецярбурзе Калегія, што заўсёды, хоць паціху, спрыяла ідэі полёнізацыі Беларусі. Такім чынам назоў *беларускія каталіцкія парафіі* (*passim*) ёсьць даўнейшы, а не які вынаход беларускага адраджэнскага руху, што прабудзіўся на пачатку XX ст. Над анармальным рэлігійным палажэньнем гэтых беларускіх парафіяў прызадумваліся нятолькі ўлады краёвыя, але было яно так-жа прадметам студыяў у кабінэце міністра ўнутраных справаў, каторы аднак гатоў быў лішне не сьцясьняць уладаў мясцовых. Генэрал-губэрнатар Потапов бачыў практычны выхад у тым, каб у губэрскіх і паветавых местах — без параўнаньня больш спольшчаных ад вёскі — была ўжывана ў дадатковых набажэнствах бязумоўна мова расейская, а ў касьцёлах вясковых мова большасьці *(бач. 348).* Было гэта рашэньне, калі йдзе аб месты й мястэчкі, выразна крыўдзячае, а калі йдзе аб вясковыя беларускія парафіі, чыста тэорэтычнае і дужа сумніўнай шчырасьці, а іменна справа

беларускай мовы ў дадатковым набажэнстве каталікоў ёсьць *par excellence* практычнай і вымагаючай шчырага да сябе падходу.

Вось жа нічога дзіўнага, што ў гэтым часе ведамы толькі адзін факт беларускага казаньня з касьцельнай амбоны. Біскуп Кубіцкі гэтак аб ім піша: „Кс. Ян Баркоўскі, вікары парафіі Тургельскай, Віленскага пав., за згодай свайго пробаршча, 23 мінулага лістапада 1869 г. сказаў казаньне пабеларуску" *(бач. 357)*. Ці зрабіў гэны вікары гэта з праканаңьня, ці толькі з волі свайго пробаршча, ці пачуваўся да беларускасьці, ці можа, як-бы выглядала з прозьвішча, быў шляхціцам і паляком і ўважаў беларускую мову за меншае зло, як расейскую, — трудна сяньня вырашыць. Фактам аднак ёсьць, што ксёндз гэны сваім казаньнем, як гэта можна было й спадзявацца, лішняга захопленьня ў расейскіх уладаў ня выклікаў, бо калі іншыя за запачаткаваньне мовы расейскай у касьцеле атрымалі ордэры сьв. Станіслава 2 ці 3 ступені, крыжы на грудзі, лепшыя парафіі, або былі прадстаўлены да ўрадавай нагароды, — аб Баркоўскім гісторык толькі натуе: „ёсьць праект унесьці яго ў агульны сьпісок з тымі, каторых урад мае адрожніць" *(там-жа)*. Здабыча такім чынам для кар'еры ксяндза Баркоўскага дужа малая, або й проста ніякая. Аб самай асобе гэтага ксяндза знаходзім жменьку вестак, першы раз у віленскім „Ordo divini Officii... 1865". Меў ён тады 46 гадоў жыцьця і 22 сьвяшчэнства. Належыў да манахаў Канонікаў Рэгулярных Лятэранэнскіх (CC. RR. LL.), якія мелі свае манастыры ў Вільні ў сьв. Пятра і Паўла на Антаколю, у Краменіцы Ваўкавыскай... Займаў тады пасаду вікарага ў Слабодцы, у 1871 годзе быў пробаршчам у Лаварышках (Ordo... 1871), у 1873 г. пробаршчам у Відзенішках (Ordo... 1873). З тых-жа крыніц можам устанавіць, што тагочасным (быў ім ужо ў 1869 г.) пробаршчам у Тургелях, із згоды якога, а найхутчэй загаду, сказаў кс. Баркоўскі беларускае казаньне, быў кс. Язэп Вельжэўскі, што меў тады 57 г. жыцьця і 33 гады сьвяшчэнства. Паводле Ordo... 1850, быў ён у гэтым годзе пробаршчам у Ракішках (дэканату Абэльскага), Ordo... 1862 — вікарым у Алькеніках (дэк. Мэрэцкага), Ordo... 1863 і 1864 пробаршчам у Чабішках і віцэ-дзеканам Віленскім. Ordo... 1865 і 1866 падае яго, як пробаршча ў Немонайцях (дэк. Мэрэцкага). У 1873 г. пробаршчам у Дзявенішках (Ordo... 1873).

Далей цікавай ёсьць для нас у працы біскупа Кубіцкага паданая ў скарочаньні справаздача (на 22 бачынах друку in 8⁰) генэрал-губэрнатара Міх. графа Мураўёва цару Аляксандру II з урадаваньня свайго ў Вільні. Даў у ім Мураўёў доказ неабыякіх сваіх здольнасьцяў. Ведама, быў гэта тыран і дэспот, але таленавіты. Вось-жа ў гэтым рэтроспэкцыйным паглядзе на прошласьць краю прад паўстаньнем 1863 году, Мураўёў гэтак піша: „Найбольш уплывовым быў біскуп жмудзкі Валанчэўскі, каторы ў 40-вых гадох, а знача прад тым, як стаўся біскупам, заахвочваў да думкі аб уласнай бацькаўшчыне, вучыў дзяцей папольску ***(NB.** напэўна ня толькі папольску!)* і пісаў розныя падбураючыя адозвы. Далей у гадох 50-х пад яго ўплывам паказаўся лемантар жмудзкі *і беларускі ў польскай мове,* а ксяндзы пераадзяваліся за прыставаў (?) і праводзілі пропаганду друкаў" *(бач. 387)*. Гэты ўступ із справаздачы пазваляе нам разагнаць цемру, якая засланяла дагэтуль выданую 100 гадоў таму (у 1835 г.) першую каталіцкую беларускую катахізмоўку, уложаную разам з лемантaром польскім. Бп. Казімер-Мацей Волончэўскі (1850—1875) спаткаўся бліжэй і даўжэй з праблемай беларускай мовы ў Вільні два разы: раз, калі ў 1824—1828 г.г. студыяваў багаслоўе ў тагочасным віленскім унівэрсытэце, а другі раз, калі ў 1839 г. запрошаны быў у Віленскую Духоўную Акадэмію, як ад'юнкт катэдры пасторальнага багаслоўя і біблійнай архэолёгіі. Тут ён і доктарызаваўся 29. VII. 1842. У гэтым часе працаваў ён у Вільні аж пакуль гэтай акадэміі не перанесьлі ў Пецярбург. Бязсумніву, і апрача гэтага бываў ён яшчэ ў Вільні — раз карацей, другі раз даўжэй. Пры тым час студыяў Волончэўскага ў Вільні зьбягаецца з датай павароту маладога прафэсара М. Баброўскага з заграніцы, калі прозьвішча гэта прыцягвала да сябе думкі моладзі агулам, а духоўнай прадусім, бо-ж прывёз ён з сабой з Зах. Эўропы сьветлы і адраджэнчы павеў.

Сярод прафэсараў тагочаснага віленскага ўнівэрсытэту быў так-жа ведамы Ігнат Даніловіч, каторага праца і зацікаўленьне з галіны навукі права зьбліжыла яго да праблемы беларускай, ці да праблемы народу, каторы выдаў з сябе так цікавы памятнік краёвага права, як Літоўскі Статут. Ня трэба было тады шукаць сярод тагочасных віленскіх студэнтаў людзей, што вышлі з асяродзьдзя шчыра беларускага або былі першым толькі пакаленьнем, каторае толькі што рвалася, каб асымілявацца з палякамі. (Тагочасныя палякі ў працівенстве да сучасных мелі глыбокі і нефалшаваны сэнтымэнт да беларускасьці, хоць рэгіяналізм ня быў ім ведамы нават з назову).

Усё гэта разам узятае мусіла надаць псыхіцы Волончэўскага пэўны кірунак, які выліўся ў дасканальна згарманізаваную дваістасьць яго прац і заслугаў у гісторыі Касьцёла й Краю. У гісторыі Касьцёла запісаўся ён, як цьвёрды і мудры баяўнік яго правоў і вольнасьці, а ў гісторыі Літвы, а як сяньня ўжо бачым і Беларусі, астанецца яго прозьвішча зьвязана з пачаткамі адраджэньня беларускага народу, праз сьцьверджаньне аснаўных яго правоў на ўжываньне ў касьцеле роднай мовы.

Толькі гэткае, як сказана вышэй, спрыяньне справе беларускай мовы ў Касьцеле ў Беларусі мае непадробленую для Беларусаў вартасьць, а іншае, якое выяўляў царскі ўрад, было заўсёды небясьпечным. Дзеля гэтага натуем вылучна па хронікарску, што так-жа, як піша біскуп Кубіцкі, „дырэктар дэпартаманту спраў духоўных чужых вызнаньняў 23. IX. 1906 г. за № 5090 прысылае генэрал-губэрнатару (Кржывіцкаму) поўафіцыяльны ліст, у якім паведамляе яго, што рэфэраваў міністру ўнутраных спраў аб імкненьні прадстаўнікоў Каталіцкага Касьцёла паляні-

заваць Літоўцаў і Беларусаў, а так-жа, што казаў тады аб двух спосабах, каторыя маюць праціўдзеіць гэтай рабоце: 1) назначыць біскупам біскупа-суфрагана літоўца і 2) увясьці расейскую мову (*sic*) і беларускую ў дадатковае каталіцкае набажэнства“ *(бач. 257)*.

Належыла-б для паўнаты абраза дасьледзіць Дѣло Канц. Віленск. Ген.-Губерн. з 1906 г. пад загалоўкам „Бѣлоруссы, Литвины и польское католическое вліяніе“.

---

М. ПЯЦЮКЕВІЧ

# Беларуская мэлёграфія

**(бібліографічны нарыс)**

(*Даканчэньне*).

У Усходняй Беларусі з ранейшых гадоў надрукаваны: Кашын В. „Белорускіе мотивы для смешанного хора“. Выпуск I. Бабруйск [1918].

Аб выданьнях мэлёграфічных за апошнія 10—15 гадоў у Савецкай Беларусі даведываемся з наступных жаролаў: „Матар'ялы да беларускай бібліографіі. Т. 4. Этнографія. Менск. 1927 г.“, часапіс „Літаратура і Мастацтва“, які выходзіць у Менску — гэты апошні маем да дыспозыцыі толькі за 1934/5 г. і бягучыя гады і „Звязда“ 1931—1935 гг. і бягучы.

З перадваенных запісаў мы ў жаролах знаходзім наступныя: некалькі вясельных мэлёдыяў, запісаў Шыдлоўскі і выдрукаваў у „Tygodniku Wileńskim“ з 1819 г., а такжа некалькі мэлёдыяў з Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ. зап. М. Чарноўская і выдрукавала ў „Dzienniku Wileńskim“ з 1817 г., А. Абрамовіч — „Rocznik Literacki“ з 1843 г. і М. Анцаў — „Баянъ“, з 1904 г.

У зборніку Н. Кленоўскага: „Этнографическій Концертъ. Сборникъ народныхъ песѣнь русскихъ и инородческихъ“. Масква 1894(?) ёсьць таксама некалькі беларускіх песень.

О. Гулак-Артемовскій „Народні укр. пісні з голосом (выд. 2 з 1883 г.) — тут таксама зьмешчаны 3 беларускія народныя песьні з нотамі; 35 белар. нар. песень зьмяшчае П. Сокальскій: „Малорусскія и бѣлорусскія пѣсні“ (1903 г.). Л. Куба (Beloruská národ. písen. Uwahy z hudební cesty“. Slov. Sbornik t. 6. з 1887 h.; „Slovanstvo v svych zpewech“, t. 6, z 1885—1888 h.) — у гэтай даведцы Куба ўспамінае аб зборніку 50 белар. народн. песень запісаных Корошчэнкам, аднак гэтага зборніка не паказывае ніводная з бібліографіяў.

У гадох 1883/4 шмат сабраў бел. нар. песень з Палесься ведамы польскі этнограф Ч. Пяткевіч, але рукапісы гэтых песень згінулі.



Маем таксаме некалькі твораў музычных і песень запісаных Шэйнам (глядзі: Матеріалы... Т. 1, ч. 1 і ч. 2).

Янчук падае ў сваей працы: „По Минской губерніі“ 1889 г. 39 бел. нар. мэлёдыяў.

Ведамы беларускі этнограф Віцебшчыны Н. Нікіфароўскі напісаў працу аб жабраках і музыках вясковых, дзе між іншым кажа аб замілаваньні беларускага народу да музыкі („Этнографическое Обозрѣніе“ Т. 4. 1892 г.); да аднэй з прац ён далучыў 3 жабрацкія песьні.

Успомнены вышэй Шэйн з Віцебшчыны запісаў толькі адну нар. мэл., а з Смаленшчыны—23 мэлёдыі (Матеріалы... Т I. ч. 1 і 2).

Шэйн друкуе ў сваім зборніку 5 нар. мэл. з Магілёўшчыны, Раманаў—12 мэл. (у 1912 г.) і Зінаіда Радчэнко 180 бел. нар. мэл. (Сборникъ малорусскихъ і бѣлорусскихъ народных песенъ Могілевской губ. Гомельскаго уѣзда, Дятловицкой волости 1911 г.).

У 1928 г. Інбелкульт у Менску выдаў вельмі цэнны зборнік бел. нар. песень з Магілёўшчыны (М. Гарэцкі і А. Ягораў: „Народныя песьні з мэлёдыямі“). Гэты зборнік зьмяшчае ў сабе 318 песень з мэлёдыямі, запісанымі ад 60-цігадовай старушкі — маткі Максіма Гарэцкага—з в. Багацькаўка (Магілёўшчына). Як падае праф. К. Мошыньскі (Lud Słowiański T. III. z. 1, 1932) на пагранічч Магілёўшчыны ў Чарнігаўшчыне і зах. частцы Палесься запісаў шмат бел. нар. песень украінскі музыколёг-этнограф Кл. Квітка, з друку гэтыя песьні яшчэ ня вышлі.

З Меншчыны, як пабачым, няшмат выдрукавана бел. нар. песень.

У ранейшую пару першы приступіў да эксплёатацыі мэлёграфічных матар'ялаў у Меншчыне Н. Янчук, які зьмясьціў народн. песьні ў кніжцы „По Минской губерніі“, 1889 г., — падаў ён 39 песень. Таксама Шэйн зьмясьціў 5 песень з Меншчыны (Матеріалы... Т. 1, ч. 1).

Сербаў у сваім зборніку „Бѣлоруссы — Сакуны“, 1915 г., падае 23 песьні з б. Меншчыны.

Апрача гэтага на ўсей тэрыторыі Беларусі за выняткам Гарадзеншчыны зьбіраў бел. нар. песьні ведамы А. Грыневіч. Праф. Ст. Казура таксама друкаваў бел. нар. песьні. У Вільні (перад выездам у Менск) меў ён каля 500 песень.

Калі разглядзім беларускае Палесьсе, то справа мэлёграфічная горш прадстаўляецца ад іншых беларускіх земляў. Апрача некалькіх мэлёдыяў, выдрукаваных у розных выдавецтвах, ніводнай паважнейшай працы ня маем.

Затое ёсьць добры матар'ял і даволі багаты, які, нажаль, яшчэ недрукаваны. Матар'ялы Р. Шырмы, сабраныя з пав. Пружанскага, маюць вялікую вартасьць. У 1932 г. у пав. Лунінецкім і Столінскім фонографам запісываў нар. песьні праф. Колэсса пры супрацоўніцтве праф. К. Мошыньскага; запісалі яны агулам мэлёдыяў сьпеўных і музычных 236.

Гэтыя песьні, як бачым, запісаныя на этнографічных землях беларускага Палесься, ад беларускага насельніцтва. Аднак, ча-

мусьці, ня можа іх прызнаць беларускімі прафэсар Колэсса. Ён кажа: „песьні палескія (лунінецкія і столінскія) адзначаюцца пэўнай афарбоўкай лёкальнай, але агулам маюць яны характар выразна ўкраінскі“ (L. S. T. III. 1). Нажаль і праф. Мошыньскі ў гэтай справе не заняў здэцыдаванага становішча, а пазбыўся такім сказам: „Naturalnie, trzebaby jeszcze porównać je z rdzennie białoruskiemi, bo kto wie, czy cała wogóle muzyka ludowa Białorusi, za wyjątkiem północnych i północno-wschodnich części tego kraju nie okaże się bardzo blizką ukraińskiej. A priori wydaje mi się to dość prawdopodobne“.

Як справа прадстаўляецца з мэлёграфічнай працай на Палесьсі Савецкай Беларусі, сказаць ня можам, бо бібліографічныя жаролы не паказываюць ніякіх новых пазыцыяў. Адно можна дапушчаць, што матар'ялы сабраныя дзеколечы знаходзяцца ў рукапісах. І, паўторым тут за Дрэйзіным, беларускім кампазытарам, што каля 1927 году Музычная Падсэкцыя Інстытуту Беларускай Культуры ў Менску „мела багаты матар'ял, які складаўся з некалькі тысячаў беларускіх народных песьняў - прымітываў“. Магчыма ёсьць там і з Палесься. А таксама нейкія рукапісныя матар'ялы нотаў бел. нар. музыкі павінны знаходзіцца ў Расеі — гэта няма сумніву, — бо каля 1908 г. быў прыехаўшы ў Беларусь у справах музычна - этнографічных ведамы расейскі дасьледчык А. Л. Маслов з Масквы.

На падставе тых жаролаў, якія мы маем аб мэлёграфічнай працы ў Савецкай Беларусі, — можна сказаць, што там праца пакрысе пасуваецца наперад. І нічога дзіўнага, бо Сав. Беларусь ужо выкваліфікавала кадры спэцыялістаў на гэтаў ніве і мае сродкі на экспэдыцыі і выдавецтвы.

Пералічым тыя зборнікі беларускіх народных песень і паадзіночныя песьні згарманізаваныя і незгарманізаваныя, якія вышлі ў Савецкай Беларусі ад 1925 г. да апошніх часоў, а мною яшчэ няўспомненыя.

*1925 год:*

Мацісон, М.: Сьпеўнік для дзіцячых хораў. Масква. 1925 г. (зьмешчаны тут і народныя песьні).

*1926 год:*

Тэраўскі, У.: Сьпеўнік. Менск. 1926 г. Д. В. Б. стр. 49.
Здановіч, И. К.: Белорусские народные песни Гродненской губ. м. Селец. Вып. 1. Москва 1926.
Прохараў, Я.: Зялёны дубочак. Народны раманс. Менск 1926. Б. Д. В.

*1928 год:*

Луцэвіч Уладыслава і Савёнак, А.: Дашкольны сьпеўнік для дзіцячых садоў і мал. груп пач. школ. Пад рэд. М. Мацісона. Менск 1928. Д. В. Б.



Беларускія народныя песьні солёвыя і харавыя ў апрацаваньні Аладава М., Іпалітава - Іванава М. і Прохарава Я. Менск 1928. Б. Д. В.

Гарэцкі М. і Ягораў Я. (Глядзі вышэй).

*1929 год:*

(ня вышла з друку ніводная вялікшая праца, а толькі паадзіночныя песьні).

Прохараў Я.: Ах, ты зорка мая. Народная. Менск 1929. Б.Д.В.
„ Ой рана, рана ды на зары. Вясельная са Смаленшчыны. Менск 1929.
Нікольскі А.: А ў лесе. Валачобная. Менск 1929. Б. Д. В.

*1930 год:*

Анцаў Мік.: Го-го-го — каза. (Калядная). Менск 1930.
Аладаў Мік.: Мужык жыта прадае. Менск 1930.
„ Дажынаю жыта. Менск 1930.
Равенскі М.: Як стаяла белая бяроза. Менск 1930.
„ Прыляцелі гусі. Менск 1930.
„ Ня стой каліна. Менск 1930.
Нікольскі А.: Дзе ты, хмелю зімаваў. Менск. 1930.
Туранкоў А.: Ой, з пад лесу, лесу цёмнага. Менск 1930 г.
Іпалітаў-Іванаў: Ой, ты бела бяроза. Вясьнянка. Менск 1930.
Грэчанінаў А.: А ды ня пыл па дарожцы. Менск 1930.
„ Цяпер Купала. Купальская. Менск 1930.
„ Ляцела зязюля. Вясельная — з Лепельшчыны. Менск 1930.

Адносна далейшых выдавецтваў беларускай народнай песьні за гады 1931—1935 ня маем амаль ніякіх вестак. „Летапіс Беларускага Друку БССР“ ня выказывае.

У апошнія часы ў Савецкай Беларусі працуе над беларускай нар. песьняй 66-гадовы, але энэргічны старац, кампазытар Н. Н. Чуркін, беларус. Ён мае запісаных каля 1000 нар. белар. песень, пераважна з Магілёўшчыны. — Як кажа Ю. Лявонны: „Чуркін вёў вялікую барацьбу з упартасьцю старых рэнэгатаў, настроеных супроць беларускай народнай песьні“. („Літаратура і Мастацтва“ № 44. 1935 г.).

Найздальнейшы і найбольш выдатны кампазытар Аўген Цікоцкі глыбока разумее бел. нар. песьні і свае кампазыцыі абасноўвае пераважна на матывах нар. песьні, а таксама гармані зуе і распрацоўвае нар. песьні для хораў і менскага радыя і Тэатру Опэры і Балета.

Кампазытар Н. Самохін апошнім часам напісаў сюіту на беларускія народныя тэмы. Кампазытар Дрэйзін працаваў у радыё, у Тэатры Опэры і Балета і ў Кансэрваторыі. Яго кампазыцыі апіраюцца на матывах бел. нар. песьні. Песьню беларускую ён добра знае, бо над ёй шмат працаваў. За „нацдэмаўшчыну“ зьняты з займаных становішчаў.

На гарызонце беларускага музычнага творства паказаўся малады і здольны кампазытар Рыгор Пукст. Цяпер ён працуе выкладчыкам у Гомельскім музычным тэхнікуме. Любан піша ў „Звяздзе“ № 219 з 1935 г. аб Пуксце так: „Рад рамансаў, камэрных твораў, некалькі гармонізацый народных песень, музычнае афармленьне тэатральных п'ес, нарэшце сымфонія ў чатырох частках на тэму беларускіх народных песень — вось творчы багаж кампазытара за параўнальна невялікі час яго работы ў БССР“.

У апошнія гады праявіў вялікі майстэрскі размах і творчую плоднасьць кампазытар А. Туранкоў. Аб ім у „Літаратуры і Мастацтве“ № 1, 1935 г. пішыцца так: „Туранкоў, як кампазытар, нясупынна расьце, прычым вялікае месца займае ў яго творчасьці народная песьня, якая распрацовываецца ім у розных выглядах пісаньня“.

Да наймалодшых, найбольш здольных і працавітых кампазытараў залічаецца Ісак Любан. Ён, як і пісьменьнік Бядуля, моцна ўросься ў глебу беларускай народнай культуры, добра яе знае і цалком ей пасьвяціўся, пасьвяціўся іменна на ніве музычнай. Аб Любане „Звязда“ № 217 з 1935 г. гэтак піша: „Гэта імкненьне кампазытара да песеннай творчасьці перанесена ім на беларускую народную песьню. Наўрад ці ёсьць яшчэ адзін такі музыка ў Беларусі, які так добра ведаў-бы беларускі песенны фальклёр, як Любан. Ім гарманізавана шмат народных песень“.

Ёсьць яшчэ цэлы рад кампазытараў у БССР, якія даволі многа прысьвячаюць увагі беларускай народнай песьні, напр. Аладаў, Палонскі, Падкавыраў, Багатыроў, Іпалітаў-Іванаў, Іваноў, а таксама „нацдэмы“: Анцаў, Прохараў, Шепелеўскі, Дрэйзін, Мацісон і Бэргельсон (гэты „трацкісты“), Казакоў і Панаева, якія працавалі на ніве беларускай народнай песьні.

Паміма аднак усяго, калі возьмем пад увагу кадры цяперашніх працаўнікоў на ніве беларускай народнай музыкі, то можам быць аптымістымі і верыць у тое, што беларуская народная песьня ў Савецкай Беларусі не памрэ разам са старым пакаленьнем, якое яе пяяла. Горшая справа ў нас, тут: мы ня маем ані кваліфікаваных работнікаў ані сродкаў на выдрукаваньне нават тых матар'ялаў, якія ёсьць сабраныя.

---

Жаролы, з якіх аўтар карыстаў пры пісаньні артыкулу:

1. Большая Советская Энциклопедия. Т. 5. Москва. 1930.
2. Д. Зеленин: Библіографіческій указатель русской этнографической литературы. С.-Петербург. 1913.
3. Fr. Gawełek: Bibljografja ludoznawstwa litewskiego. Wilno 1914.
4. J. St. Bystroń: Bibljografja etnografji polskiej. T. 1. Kraków. 1929.
5. Матар'ялы да беларускае бібліографіі. Т. IV. Этнографія. Менск. 1927. Інстытут Беларускае Культуры.



6. K. Moszyński: Stan obecny melografji rdzennej Białorusi i Polesia. Lud Słowiański. T. III. zesz. 1. Dział B.: Etnografja. Kraków 1932.
7. K. Moszyński: O badaniach muzyczno-etnograficznych na Polesiu w r. 1932. Lud słowiański. T. III. zesz. 1... 1932.
8. „Літаратура і Мастацтва“ (Часапіс літаратуры і крытыкі). Орган Аб'еднаньня Пралетар. Пісьменьнікаў Беларусі. Менск. 1934—1935.
9. „Звязда“. Орган ЦК і МК КП(б) Б, ЦВК і СНК БССР. Менск. 1935.
10. Вусныя інфармацыі асоб працуючых над беларускай народнай песьняй.

# КНІГАПІС

*Stanisław Stankiewicz* — **Pierwiastki Białoruskie w Polskiej Poezji Romantycznej.** Część I (Do roku 1830). Wyd. T-wa Pomocy Naukowej im. E. E. Wróblewskich. Wilno, 1936, 25 × 16 cm. str. 301.

Ёсьць гэта праца аўтара на доктарскі дыплём. Як відаць з загалоўку, мэта яе — выказаць у польскай романтычнай паэзіі беларускі элемэнт, як уплывы беларускай мовы і беларускага народнага творства — як песьні, байкі і інш. Абымае яна першы пэрыяд польскай романтычнай літаратуры, гэта знача: ад пачатку да 1830 г. Над наступным пэрыядам, ад 1830 да 1863 аўтар, як зазначае ў прадмове першай часьці, працуе далей.

Яшчэ ў 1911 г. на падобную тэму, шукаючы ў польскай романтычнай літаратуры элемэнтаў літоўскіх, напісаў працу Фр. Аугустайтіс, пад наз.: „Pierwiastki litewskie we wczesnym romantyzmie polskim“. Цяпер-жа, дасьледжваючы ў гэнай літаратуры элемэнт беларускі, выступае з больш шырокай і грунтоўнай працай Ст. Станкевіч.

Перагледзіўшы з большага гэну працу, можна зрабіць аб ёй наступныя, прадусім дадатныя ўвагі. Кніжка гэта грунтоўная, паважная. Шмат у яе аўтар улажыў працы і веды, выказваючы сусім саліднае навуковае прыгатаваньне як што да самай справы, так і навуковай мэтоды.

Беларускія элемэнты Ст. Ст. дасьледжваў у Зана, Чэчата, Петрашкевіча, Лазінскага, Міцкевіча, Адынца, Ходзькі і іншых. Вось-жа аўтар, напаткаўшы ў іх твораў дасьледжаны беларускі элемэнт, даказвае яго „аўтэнтычнасьць“ славамі і тэкстамі з беларускага фольклёру, зачэрпнутага з беларускіх этнографічных зборнікаў, або з беларускай песьні, беспасрэдна ўзятай ад народу. Дзеля гэтай мэты Ст. Ст. нятолькі праструдыяваў многа беларускіх этнографічных зборнікаў, але так-жа пабываў у Наваградчыне, ходзячы як-бы па сьлядох Міцкевіча, дзе шмат што патрэбнае для пацьверджаньня сваей тэзы здабыў беспасрэдна ад народу.

Далей праца Ст. Ст. ёсьць наглядным і вымоўным сьведкам, як многа духовага багацьця мае наш беларускі народ і як многа з яго скарыстаў ня ён сам, але ягоны сусед. Над гэтым усім як-жа паважна павінны прызадумацца нашы паэты, пісьменьнікі, культурныя дзеячы, палітыкі!

Нямала ўрэшце праца Ст. Ст. можа прычыніцца і дзеля вывучэньня беларускай мовы. Справа ў тым, што многія беларусы на гэты бок савецка-польскай граніцы, асабліва адарваныя ад вёскі інтэлігэнты, у свой беларускі слоўнік, а нават у адмену слоў і ў будову сказаў часта дапускаюць проста крычачыя полёнізмы. Вось-жа ўважнае прасьледжаньне працы Ст. Станкевіча, тых іменна мясцоў, дзе аўтар выказвае беларусыцызмы, асабліва дзе калі разглядае творчасьць Міцкевіча, сапраўды можа шмат у чым і шмат каго навучыць беларускай мовы, якой ня брыдзіліся й польскія пісьменьнікі.

Але хоць і павярхоўна разглядаючы працу Ст. Станкевіча, кідаюцца ў вочы яе так-жа і заганы. Прадусім недахват гістарычна-соцыялёгічнага тла, на якім адбывалася на землях бышага Вял. Княства Літоўскага польскае літаратурнае романтычнае творства, што так багата скарыстала з беларускага фольклёру.

Праўда, аўтар на пачатку сваей працы памяшчае першы разьдзел „U źródeł regjonalizmu białoruskiego“, у якім малюе як-бы тло для сваіх досьледаў. Робіць аднак гэта ён бадай выключна толькі з пункту гледжаньня польскага літаратурнага романтызму. А гістарычна-соцыяльнае тло дало-б нам нямала сьвятла на тую праблему, чаму так багата польскія романтычныя пісьменьнікі ў сваё творства ўводзілі беларускі элемэнт. Гэткае тло выказала-б, што гэта было ў іхнай псыхіцы, у іхным пераважна беларускім паходжаньні, у іхных беларускіх традыцыях.

Калі-б на гэта Ст. Станкевіч зьвярнуў большую ўвагу ў сваей працы, дык праца яго ня мела-б таго польскага рэгіоналізму, пад кутом гледжаньня каторага яна ўся збудавана, а што, на наш пагляд, ёсьць заганай яго працы. Зразумела, што Ст. Станкевіч апрацоўваючы тэму з галіны польскай літаратуры, лёгічна рэчы разважаючы, з пункту польскага гледжаньня мог і ня сходзіць, але калі-б хоць крыху да сваей працы даліў ён сосу гісторыязофічнага, праца яго была-б яшчэ больш паважнай, больш аб'ектыўнай адносна да беларускай праблемы і больш гармонійнай да беларускага нацыянальнага пачуцьця самога аўтара.

Агулам, здаецца нам, што студэнты беларусы гэткіх „трэфных“ і „небясьпечных“ тэмаў не павінны браць, а калі дзеля тых ці іншых прычын бяруць іх, дык усё-ж павінны яны іх апрацоўваць так, каб праца іх ні ў чым ня была супярэчнай і з беларускай праўдай. Але калі гэта ўсё ад нашых студэнтаў незалежна, дык на гэта ўжо сапраўды няма рады.

Ня шкодзіла-б так-жа, каб аўтар „Pierwiastków Białoruskich w Polskiej Poezji Romantycznej“ у працы сваей даў сьпісак тых крыніц і тэй літаратуры, з якой так багата карыстаўся. Спадзяёмся, што зробіць ён гэта ў наступным томе, якога нецярпліва чакаем.

*Ад. Ст.*

---

# Мэтад буквара „Першыя Зернняткі“ *)

## (увагі аўтара)

Буквар празначаны перадусім для хатняга навучаньня ці самаадукацыі.

Гэтым абумоўліваюцца яго мэтадычныя асаблівасьці.

Аўтар абраў мэтад **сынтэтычны**, як найпрасьцейшы і найбольш у даным выпадку адпаведны: ад азнаямленьня з буквамі вучань — мінаючы звычайнае чытаньне па складах — пераходзіць адразу да чытаньня зложаных з гэтых букваў **цэлых** слоў, на пачатку адна- і — двускладовых, а пасьля больш складаных, і наканец цэлых сказаў.

Каб палягчыць, па магчымасьці, вывучэньне граматы, аўтар, кладучы ў васнову першае і кардынальнае вымаганьне пэдагогікі — йсьці заўсёды ад лёгкага і простага да больш цяжкога і складанага — карыстаецца і некаторымі асаблівымі прыёмамі ў распалажэньні букварнага матар'ялу, іменна:

I) прыёмам г. зв. „сугучнасьці і падобнасьці“, напр.:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *каса* | *жук* | *зуб* | *гарод* | *дом* | *стол* | *коска* | *чарот* |
| *кара* | *жур* | *дуб* | *гарох* | *дым* | *столь* | *коськa* | *чарапок* |

II) прыёмам „нарастаньня“, асабліва для вывучэньня злучэньняў некалькіх зычных, напр.:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *лапа* | *нара* | *шашок* | *рама* | *раса* | *хутка* | *трава* | *роў* |
| *лапка* | *норка* | *шышка* | *крама* | *краса* | *хустка* | *страва* | *кроў* |
| | | | | *краска* | *пастка* | | |

III) як дапаможны сродак, буквар зьмяшчае на кожнае першае слова з новай буквай малюнак прадмету, які азначаецца гэтым словам;

IV) усе прыклады — словы бяруцца з навакольнага жыцьця і ёсьць азначэньнем знаёмых і нагляданых на кожным кроку прадметаў;

V) праз кожныя 7—8 бачын ідуць паўторныя бачыны, для лепшага замацаваньня набытых ужо навыкаў у чытаньні.

---

Навучаньне граматы заўсёды было і астанецца дзелам нялёгкім, асабліва ў сем'ях, дзе граматнасьць не прывілася, дзе дзеці зусім не падгатаваны да кніжкі. Таму і пры навучаньні з буквара „Першыя Зерняткі“, як вучыцялі, так і вучні спаткаюцца з некаторымі труднасьцямі. Каб па магчымасьці зьменшыць гэтыя труднасьці, аўтар у практычных парадах, зьмешчаных на вокладцы, пад загалоўкам „Як вучыць чытаць і пісаць“, рэкамэндуе некаторыя важнейшыя правілы, на якія трэба зьвярнуць увагу, так: —

I) **чытай як гаворыш,** г. ё. цэлымі славамі і сказамі, а не складамі;

II) **чытай, што бачыш** (па буквах) **і ў якім парадку бачыш;**

III) падчас чытаньня не адрывайся вачыма ад чытанага слова ці слоў;

IV) **чытай не сьпяшаючыся:** лепш марудна (гэта зусім натуральна), і правільна, чым хутка і няправільна, бо пасьля ўсёроўна прыдзецца затраціць нямала часу, каб перарабіць няправільныя навыкі;

V) **заўсёды думай, калі чытаеш і пішаш,** г. ё. прадстаўляй сабе прадмет, які адпавядае чытанаму слову; вучыцель час ад часу пытае: пакажы той прадмет, аб якім чытаеш і г. д. Калі няма перад вачыма гэтага прадмету, хай скажа, дзе яго можна бачыць, які ён і г. д;

VI) **хай вучань выяўляе як найбольш самадзейнасьці падчас чытаньня,** да ўсяго даходзіць сам, бяз помачы вучыцеля; вучыцель толькі кіруе, зварочвае ўвагу...

VII) пісьмо трэба так вясьці, каб вучань ніколі не памыляўся... І зноў-жа: лепш марудна і правільна, — чым хутка і няправільна...

VIII) першыя лекцыі вымагаюць ад вучыцеля асаблівае ўважлівасьці і нагляданьня, бо тут закладаюцца навыкі, ад якіх будзе залежаць пасьпех усяго далейшага навучаньня.

---

Буквар надрукаваны чатырма шрыфтамі, пачынаючы вялікімі і канчаючы звычайнымі. Увесь буквар надрукаваны гражданкай, але даецца азнаямленьне і з лацінкаю. Узоры пісьма зьмешчаны на чатырох старонках. Зьмест пасьля ўласнабукварнай часьці складаюць кароткія апавяданьні і вершы нашых паэтаў-клясыкаў і паэтаў заходне-беларускіх. Ёсьць даволі загадак, прыказак, народных прымет, казкі, жарты, скарагаворкі і т. пад. **Характар буквара — чыста беларускі, народны.** У ім усё беларускае.

У буквары 137 малюнкаў.

„Першыя Зерняткі“ — гэта першы беларускі буквар для хатняга навучаньня.

Пэўне-ж, ёсьць у ім пэўныя заганы, недакладнасьці. Аўтар будзе толькі ўдзячны, калі крытыка зьверне на іх увагу.

Патрэба такой кніжкі адчувалася даўно. Аўтар падрыхтоўваў свой буквар у працягу 5 — 6 год.

*Сяргей Паўловіч.*

*) „Першыя Зерняткі“, беларуская граматка для хатняга навучаньня. Фармат 8-⁰. Бач. 96. Вільня, 1936.

# ХРОНІКА

═ 6-га чэрвеня сёлета адбылося ў Вільні ўрачыстае **сьвяткаваньне 10-тых угодкаў сьмерці беларускага пісьменьніка і паэта Казімера Сваяка** (кс. Кастантага Стэповіча). Сьвяткаваньне зарганізаваў адумысловы камітэт, у складзе паэта Міхася Машары, кс. Ад. Станкевіча, брата Сваяка — гр. Я. Стэповіча, інж. Л. Дубейкаўскага і інж. Ад. Клімовіча. У праграму сьвяткаваньня ўходзілі: адкрыцьце помніка на магілцы паэта (магільнік Росса) і акадэмія. Помнік Сваяку ўфундаваны з ахвяр беларускага грамадзянства, сабраных успомненым камітэтам.

Пры прысутнасьці некалькі соцен Беларусаў, так з вёскі, як і з Вільні, а гадзіне 6-й вечарам таварыш і апякун Сваяка кс. Адам Станкевіч адкрыў помнік і сказаў прамову, у якой прадставіў заслугі прадчасна памёршага паэта перад беларускім народам, ягоным адраджэньнем і культурай. Другі прамоўца, кс. В. Гадлеўскі, падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі аб Сваяку. Урачыстае адкрыцьце закончылася адсьпяваньнем беларускіх рэлігійных песень.

Акадэмія ў чэсьць Сваяка адбылася ў залі Бел. Інстытуту Гаспад. і Культуры, зараз па адкрыцьці помніка. Пры перапоўненай аўдыторыі, кс. Адам Станкевіч прачытаў рэфэрат аб жыцьці і творстве Каз. Сваяка, а Хор Інстытуту прапяяў жалобны марш. Рэфэрат кс. Станкевіча будзе надрукаваны ў наступнай кніжцы „Калосься“.

═ У Беларускім Музэі Ів. Луцкевіча ў Вільні сёлета значна ўзрасла лічба адведываючых асоб і экскурсіяў. За першыя 6 месяцаў 1936 г. было ў Музэі 819 асоб—супраць 371 за той-жа час у 1935 г.

У сувязі з гэтым, у траўні і чэрвені Дырэкцыя Музэю наладзіла курс выкладаў для праваднікоў па Музэю, у якім прыймала ўчасьце беларуская студэнцкая моладзь.

У Музэй паступілі цікаўныя ахвяры ў пастаці архіўных матарыялаў, кніжак і розных экспонатаў.

Дзеля таго, што лішне цеснае памяшчэньне Музэю не дае магчымасьці выставіць дзеля агляду ўсіх сабраных рэчаў, Дырэкцыя Музэю дбае аб павялічэньні Музэйнага памяшчэньня.

═ Яшчэ ў красавіку Урад Беларускага Навуковага Т-ва, выпаўняючы пастанову Агульнага Сходу Т-ва, паслаў дэлегацыю да прэзыдэнта места Вільні з мэморыялам, у каторым прасіў назваць адну з віленскіх вуліц імем д-ра Францішка Скарыны, закладчыка першае (беларускае) друкарні ў Вільні, у сувязі з 450-лецьцем ягоных нарадзінаў, якое беларускае грамадзянства сёлета абходзіла. Ня гледзячы на абяцаньне прэзыдэнта места, што справа гэтая пойдзе на разгляд мястовае рады, — дагэтуль нічога ў кірунку рэалізацыі гэтага мястовы самаўрад не зрабіў.

═ На адбыты ў Варшаве 31-га траўня, 1 і 2 чэрвеня Зьезд Бібліатэкараў з усяе Польшчы, ад Бібліатэкі Беларускага Навуковага Т-ва езьдзілі: бібліатэкар Ул. Самойла і працаўніца Б-кі М. Мілючанка.

На адбытым аднача сна ў Варшаве ўрачыстым абходзе 30-лецьця культурна-навуковае працы украінскага дзеяча праф. Огіенка прамаўлялі беларускія дэлегаты: грам. Самойла — ад імя Белар. Навук. Т-ва і гр. Мілючанка — ад імя моладзі.

═ Беларускі пісьменьнік і паэт Вінцук Адважны, вярнуўшыся з далёкай чужыны на бацькаўшчыну, у пачатку ліпня адведаў нашую рэдакцыю. Паэт у гутарцы з сябрамі рэдакцыі выражаў сваё задаваленьне з нашага часапісу і дзяліўся намерамі сваей творчай працы.

═ Вышлі з друку: „**Лёгкі хлеб**“ М. Машары — драма ў трох актах з жыцьця вясковай моладзі, фармат 8-⁰, бач. 64, і зборнік вершаў другога заходне-беларускага песьняра Максіма Танка. Зборнік завецца „**На этапах**“. Фармат 8-⁰, бач. 144.

* * *

═ Сэсія Беларускай Акадэміі Навук адбылася ў Менску дня 20—24 траўня. Сэсія выслухала справаздачныя даклады з дзейнасьці Акадэміі ў 1935 г., зацьвердзіла плян працы Акадэміі на 1936 год і прыняла новы Статут Акадэміі.

Шчарбакоў у сваей справаздачы з дзейнасьці Акадэміі за 1935 г. адзначыў, што Акадэмія была „засьмечана“ значным лікам клясава—чужых, варожых элемэнтаў. Былое кіраўніцтва Акадэміі праяўляла „гніла-лібэральныя адносіны да клясава-чужых, нацыяналістычных, трацкісцкіх, бундаўскіх і іншых варожых элемэнтаў“. У Акадэміі „недастаткова яшчэ разгорнута работа па выяўленьню, уцягненьню і выхаваньню кадраў вучоных з моладзі і ў асаблівасьці нацыянальных беларускіх кадраў“.

За апошнія 4—5 год колькасьць навуковых працаўнікоў Акадэміі вырасла з 142 да 253, але кваліфікацыя іх далёка яшчэ нездавальняючая. Плян тэматычны Акадэміі выкананы ня поўнасьцю. Акадэмія ў 1935 г. выпусьціла друкам 122 назовы прац, абоймам 738 друкаваных аркушаў.

А ў другім сваім дакладзе, аб дзейнасьці Інстытуту Гісторыі, Шчарбакоў падчыркнуў нездавальняючае становішча з падрыхтоўкай кадраў гісторыкаў-марксыстаў у БССР, далёка нездавальняючае становішча Інстытуту Гісторыі ў выданьні навуковых працаў; Інстытут Гісторыі правёў вялікую барацьбу з нацдэмаўшчынай, нацдэмамі і інш. элемэнтамі (1929 — 1933 г.). Даклад аб дзейнасьці Інстытуту Аграглебазнаўства і ўгнаеньняў зрабіў Афанасьеў. Інстытут найбольш працаваў над праблемамі ўрадлівасьці глеб БССР. Шмат зроблена Інстытутам у кірунку картаграфіі, клясыфікацыі і гэнэзы глебы БССР. Дана гэнэтычная клясыфікацыя глеб, складзены глебавыя карты ўсей БССР, 70 раённых карт, устаноўлены і картаграфаваны асноўныя глебавыя раёны БССР.

Прэзыдэнт Акадэміі Сурта зрабіў даклад аб пляне працы Акадэміі на 1936 год.

Сэсія, прыняўшы рэзолюцыі ў сувязі з справаздачымі дакладамі, і зацьвердзіўшы плян працы на 1936 г., аднагалосна зацьвердзіла новы Статут Акадэміі. Новы Статут мяняе назоў Акадэміі. Згодна з гэтым Статутам **няма Беларускай Акадэміі Навук, ёсьць Акадэмія Навук БССР**.

Новая Акадэмія складаецца з трох аддзяленьняў—грамадзкіх навук, матэматычных і прыродазнаўчых навук і тэхнічных навук. Аддзяленьні яднаюць інстытуты, габінэты, камісіі. Сэсія зацьвердзіла прэзыдыюм Акадэміі Навук БССР, у складзе: Сурта — прэзыдэнт, Колас — віцэпрэзыдэнт, Шчарбакоў — сакратар, Вольфсон — сакратар аддзяленьня грамадзкіх навук, Бурстын — сакратар аддзяленьня матэматычных і прыродазнаўчых навук, Панкевіч — сябра прэзыдыюму.

═ Усебеларуская (Сав.Беларусь) **гэолёгічная конфэрэнцыя** адбылася ў Менску. Конфэрэнцыя сьцьвердзіла, што ў БССР выканана значная праца ў кірунку вывучэньня прыродных багацьцяў БССР і гэолёгічнай будовы яе глеб. З агульнага ліку 126 тысяч квадратных кілёмэтраў тэрыторыі БССР, пакрыта гэолёгічнай здымкай розных маштабаў 103 тысячы квадратных кілёмэтраў; на тэрыторыі БССР знойдзена вялікая колькасьць шкляных пяскоў, агнетрывалых глін, фасфарытаў, даламітаў, што адкрывае пэрспэктывы дзеля разбудовы адпаведных промыслаў.

═ Сёлета спаўняецца **30-годзьдзе творчай дзейнасьці народнага паэта Якуба Коласа**. Саюз Пісьменьнікаў Савецкай Беларусі паклікаў камісію, якая займецца падрыхтаваньнем да ўрачыстага адсьвяткаваньня юбілею. У склад камісіі ўвайшлі: Купала, Клімковіч, Лынькоў, Александровіч, Галавач і інш.

═ Кампазытар Туранкоў апрацаваў для Дзяржаўнай Капэлі БССР **пяць народных песень**: „Ой, зялёненькі мой дубочак“, „Ты, чырвоная каліна“, „Забалела ты

мая галованька" і інш., а для ансамбля народных інструмэнтаў напісаў музыку „Беларуская фантазія".

═ Беларускія савецкія пісьменьнікі перакладаюць на беларускі язык творы Пушкіна. Алесь Дудар пералажыў ужо дзьве часткі „Аўгенія Анегіна". Пятрусь Глебка працуе над перакладам „Барыса Гадунова". Аркадзь Куляшоў перакладае паэму „Цыганы". М. Хведаровіч перакладае „Каўказкі пленьнік". Уся праца мае быць скончана ў лістападзе месяцы сёлета.

═ Фольклёрная камісія пры Прэзыдыюме Бел. Акадэміі Навук абвесьціла конкурс зьбіральнікаў народнай творчасьці БССР. Зьбіраньню і запісываньню падлягаюць усе віды савецкага і дарэвалюцыйнага фольклёру: песьні, казкі, расказы, частушкі, прыказкі, пагаворкі і т. п. — Запісываць фольклёр можна на ўсіх мовах БССР. У конкурсе могуць браць удзел як паасобныя зьбіральнікі, так і калектывы. Удзельнікі конкурсу, што прышлюць найбольшую колькасьць высокавартасных фольклёрных твораў, найбольш дакладна запісаных, будуць прэміраваны і залічаны сталымі карэспандэнтамі-зьбіральнікамі фольклёрнай камісіі Бел. А. Н. Тэрмін конкурсу ад 1-га красавіка да 1-га лістапада 1936 г. Да палавіны чэрвеня да конкурсу прыступіла 140 асоб. Найбольшая колькасьць запісаў паступае з цэнтральных раёнаў — Магілеўшчыны, Гомельшчыны і Віцебшчыны. — За два першыя месяцы конкурсу прыслана больш 5.000 запісаў фольклёру (у гэтым ліку больш 3.000 тэкстаў частушак, потым ідуць загадкі, прыказкі і пагаворкі, песьні, казкі і інш).

═ 12-га чэрвеня ў Бабруйскім Гарадзкім тэатры Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр адыграў прэм'еру „Вечару водэвіляў". Праграма вечару — „Пінская шляхта" Дунін-Марцінкевіча, „Паўлінка" і „Прымакі" Купалы. На спэктаклі былі прысутныя Я. Купала, Я. Колас і М. Зарэцкі. Ім наладзіла публіка бурную авацыю.

═ Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выдае ў перакладзе на беларускую мову поўны збор твораў вялікага расейскага пісьменьніка Максіма Горкага. Ужо вышлі з друку чатыры тамы, падрыхтаваны да друку XX том., знаходзяцца ў друку VIII, XIX і IX тамы. Апошнім часам выйшлі з друку: апавяданьне для школьнікаў „Дзед Архіп і Лёнька", аповесьць „Маці", кніжка „Жыцьцё і прыгоды Максіма Горнага".

---

═ Памёрлі Чэстэртон і Максім Горкі. Сёлетняй вясной памёр слаўны ангіліцкі пісьменьнік Чэстэртон. Пісьменьнік рэпрэзэнтаваў каталіцкую радыкальную думку. — 18-га чэрвеня памёр Максім Горкі, вялікі расейскі пролетарскі пісьменьнік.

Максім Горкі быў ганаровым сябрам Бел. Акадэміі Навук. У 1906 г. М. Г. пераклаў на расейскую мову верш Я. Купалы „А хто там ідзе".

У паховінах Горкага, якія адбыліся ў Маскве, бралі ўчасьце дзьве беларускія дэлегацыі: — ад Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР і ад Беларускай Акадэміі Навук.

═ 31 траўня і 1-га чэрвеня сёлета ў Варшаве адбыўся языкаведны зьезд дасьледавальнікаў нерасейскіх моваў СССР. Выступаючыя на зьезьдзе рэфэрэнты і ўчасьнікі дыскусіі сьцьвярджалі, што пачынаючы ад 1929 г. расейская бальшавіцкая партыя праз свае органы русыфікуе мовы нерасейскіх народаў СССР. У працах зьезду браў учасьце і прачытаў рэфэрат дасьледчык беларускай мовы др. Я. Станкевіч.

*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*



## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Abram Melezin**, Ze studjów nad demogeografją Wilna. 1. Gęstość zaludnienia. Вільня, 1936.
**Вістник**, кн. 5, Львоў, 1936.
**Дзвони**, кн. 1—5, Львоў 1936.
**Наша культура**, кн. 5 (14). Львоў 1936.
**Назустріч**, ч. 10—12. Львоў, 1936.
**Обрії**, ч. 15—20. Львоў, 1936.
**Рідна Мова**, ч. 6, 7. Варшава, 1936.
**Наш Світ**, ч. 4, Луцк, 1936.
**Життя і Знання**, ч. 4, 5, 6, 7—8. Львоў, 1936.
**Нова Хата**, ч. 10, 11—12, Львоў, 1936.
**Перемога**, ч. 2. Львоў 1936.
**Sprawy Narodowościowe, № 6.** Варшава 1936.
**Pax**, № 10. Вільня 1936.
**Katolik**, č. 7, 8, 9, 10. Прага, 1936.
**Život**, č 7—13. Прага, 1936.
**Der christliche orient** in Vergangenheit u. gegenvart. Мюнхэн. 1936.

---

### Ад Рэдакцыі:

Рэдакцыя просіць ПТ сваіх супрацоўнікаў найхутчэй прыслаць літаратурны і навуковы матарыял да друку ў наступныя кніжкі „Калосься".

# КАЛОСЬСЕ

## ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

**КНІЖКА 4** (8)






ВІЛЬНЯ 1936 ГОД

**Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2.**

Складка на год—2 зал., на паўгода—1 зал.
Адна кніжка — 50 гр.

Часапіс выходзіць раз у тры месяцы.

## Зьмест кніжкі 4(8) „Калосься“.





Белар. Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 4(8)** **1936 г.** **Год II**



МАКСІМ ТАНК

## ПРАЙДУЦЬ ГАДЫ

Прайдуць гады разорамі, шляхамі,
сатруць няволі чорныя сьляды
і можа казку-быль над курганамі
раскажуць ветры соснам маладым.

Таксама ў вырай пранясуцца гусі
крыклівым шнурам між васеньніх ніў...
А шлях маей лапцюжнай Беларусі
другі ўскалыша песьні пераліў.

Задрэміць вечар казкай старой маткі
ў расе сьцюдзёнай на лістох бяроз;
на небе сінім, безканечным, гладкім
разсее ночка жменю зорных сьлёз.

Ды зноў з дарог і я другім вярнуся,
хоць не сагнуць панурыя гады.
І песьні ўсе аддам я Беларусі
і прыдарожным соснам маладым.

Вільня, 2-IX-36 г.

МІХАСЬ МАШАРА

# МАМЧЫНА ГОРКА

## Частка II.

### I.

Слуга пайшоў...
Заціх вясёлы гул бяседы,
Ня звоняць чаркі за сталом;
І ад суседа, да суседа
Дружына шэпчыцца кругом.

Сівыя бровы, быццам скрылы,
Нахмурыў срога граф стары.
Вяльможны Жаба стаў маўклівы —
Вясёласьць зьнікла без пары.

Дарэмна граф пазваў музыкаў,
Дарма стараюцца яны,
Як птушка, раптам радасьць зьнікла, —
Сядзяць насупіўшысь паны.

Таемна кожнага цікавіць
Адно пытаньне толькі іх:
Чаму графянка уцякае,
Калі прыбыў такі жаніх?

Як быццам ціша перад бурай
Ў бяседзе панскай залягла
І, каб парваць настрой пануры,
Ўстае Лапата з-за стала.

Бо сваявольны дух магната
Зьнясьці ня можа ўжо далей
Нямую гутарку паглядаў
І кпіны ціхія гасьцей.

Агнём нядобрым і сьцюдзёным
Бліснуў пагляд яго вачэй
І гневам ўсьпененыя словы
Прасілісь вырвацца з грудзей.

Але вось дзьверы адчыніліс, —
Сама Дарута у дзьвярах,
Як дух красы, — яна зьявілась
З вязанкай красак у руках.



Адна вясёлая усьмешка
Парвала жудасны настрой,
Дружына ветла і пасьпешна
Яе вітае грамадой.

Адзін Лапата толькі хмурны, —
Ня быць вясёлым яму, — не;
Ён столькі кпін сьцярпеў ахвярна
І першы раз зьмірыў свой гнеў.

І нават вочы — вочы зоры —
Дачкі стаячай перад ім
Яго ня ўзрушылі пакорай,
Ні сумам сьветлым і ціхім.

Пытае ён дачку сьцюдзёна:
Дзе позна так была яна?
Куды яна, амаль штодзенна,
Бяжыць увечары адна?

### II.

Ой, нашто калiначка
Рана распусьцілася.
Ой, нашто дзяўчыначка
Ты такой радзілася.

Не прастой сялянкаю,
Ня мужычкай чорнаю,
У мурох — графянкаю
З безбярэжнай воляю.

Ой, нашто любіла ты
Горачку высокую?
Ой, яна згубіла,
Цябе сінявокую.

Каб ня тая горачка,
Што глядзіцца ў возера,
Каб ня тыя зорачкі,
Што сьвяцілі позьненька —

Ня было-б мо' горачка,
Гэтага — дзявочага,
Ой нашто вы, зорачкі,
Іншае прарочылі!

Каб ня тыя вочанькі,
Вочы Янкі — чорныя,
Што сьвяцілі ночанькай
Ярчэй неба зорнага,

Не тапталі-б ножачкі,
Гэнь да гэнай горачкі,
Сьцежачак — дарожачак,
На бяду, на горачка.

Каб не прызнавалася
Ды татульку роднаму,
Што там спатыкалася
З хлопцам чорнабровым.

Ой пад гэнай горкаю,
На бяду, на горкую,
Спатыкаліся,
Пакахаліся,
Заручаліся.
Ой пад горкай гэнаю,
Ды пад шумы сьпеўныя,
Што сьпявалі воляй ім
Сосны баравыя,
Заручалі іх —
Зоры залатыя.

Ой, нашто аб тым
Ты тут гутарыла,
Пачуцьцём сваім
Гасьцей насьмяшыла;

Разгнявіла татку,
Моцна угнявіла,
На сябе і Янку
Бяду заварыла...

---

Але, прызналася графянка,
Старому графу пры гасьцёх,
Што ўжо даўно кахае Янку,
Што заручыла іх жыцьцё!

Прызнаньне шчырае Даруты
Гасьцей абразіла усіх;
Магнацкай пыхаю надуты
Ўстае абураны жаніх.

За ім ўстае уся дружына, —
Занадта ўзражаны паны! —
І гнеўны хмель... і сьмех... і кпіны;
Ідуць да выхаду яны.



Яшчэ мінута — і зьнікае
Жаніх з дружынай у бары;
Паціху рэха замірае
Далёка ў цёмным гушчары.

III.

Як здань, панура - адзінокі
Сядзіць Лапата за сталом,
І боль цяжкі, і гнеў глыбокі
Гараць ў вачох яго агнём.

Хто стаў яму перак дарогі?
Хто змог пляны пакрыжаваць?
Ягоны раб — слуга убогі —
Пасьмеў дачку яго кахаць?!

І так запляміў чэсьць магната, —
Крывёй раба ня змыць яе;
Абразу гэту род Лапаты
Нічым, ніколі не сатрэ!

Бо род свой пышны і магутны
Асуджан ён закончыць сам.
Адну надзею меў — Дарута, —
Яе украсьці хоча хам.

І ён яго ў сваім палацы,
З дачкой, як сына, гадаваў,
Але цяпер за ўсё заплаціць,
І час расплаты ўжо настаў.

Няхай нікому не здаецца,
Што ён, стары, ужо зьнямог, —
Яшчэ ён граф — ўладар Залесься,
Яшчэ ён тут і пан, і Бог.

Гневам вочы яго
Загарэліся.
— Эх вы, слугі мае, —
Дзе падзеліся! —
Прывядзіце сюды
Сына мамчына,
Я яму перадам
Маю спадчыну.
Абдару я яго
Маей ласкаю,
Навучу, як кахаць
Дачку панскую. —

Зьнікаюць слугі паслухмяна
Загад выконываць хутчэй,
Бо ім законам воля пана,
А сам за чорта ён страшней.

IV.

Ой знайшлі Івана слугі,
У задум'і пад гарой,
І трымаючы за рукі
Павялі яго з сабой.

Ой вядуць, вядуць Івана,
Слугі ў графскія муры.
Там абдарыць нечакана
Яго ласкай граф стары.

Ён шчасьлівы і каханы, —
Чамуж ножанькі ня йдуць?
Хоць яго з такой пашанай
Слугі графскія вядуць.

Быццам рыбіна у сетцы,
Б'ецца сэрца у грудзёх.
І ня страх у ім ціецца, —
Прачуваньня успалох.

А наўкола так маўкліва
Сьпяць і дрэўцы і кусты,
Толькі бор адзін ляніва
Чуць калышыць шум густы.

І віраццa роем думы,
Думы-птушкі ў галаве,
— Янка, Янка, што-ж ты сумны?
— Ці-ж ня верыш больш сабе?

— Ці мо' сіл ужо ня стала?
— Жах-зьнямогу проч адкінь!
— Будзь і сьмелым і трывалым,
— Ты-ж заўсёды быў адзін.

У пакой размаляваны,
Па пушыстым, па каўры,
Слугі, роем паслухмяным,
Графу Янку прывялі.

І стаіць Янук між імі,
Як загнаны ў пастку зьвер.



Што-ж, Лапата, ты маўклівы,
Ну чыні свой суд цяпер?!

Ну чыні, чыні расправу,
Яшчэ болей катаў кліч!
Загадай пытаць ахвяру, —
Што-ж ты, думны граф, маўчыш?

Чаму воч падняць ня можаш,
Гэтых страшных воч, — чаму?
Ой, над чым яшчэ варожыш?
Страхам глянь яму ў душу!

Паглядзі, якім ён сьмелым
Між рабоў тваіх стаіць,
І якая моц бяз меры
У вачох яго гарыць?

Не спужаецца удалы
Ні вяроўкі, ні кручка,
Ой, нядарма пакахала
Яго графская дачка!

І глянуў срога граф на Янку,
Як толькі ён глядзець умеў,
І самі каркі ніжэй гнуцца,
І страху дрож прайшла ў таўпе.

Адзін Янук спаткаў спакойна
Пагляд нялюдзкіх воч яго,
Ў цямру сьцюдзёнага бяздоньня
Зірнуў адважна, — аж на дно.

Стаялі доўга без адрыву
У вочы гледзячы сабе;
І першы раз мо' граф ня выйграў
У гэтай страшнай барацьбе.

Ён першы раз убачыў сілу
На дне бунтуючай душы,
І першы раз, мо' дрож жахліва
Кранула сэрца у цішы.

Але ён — пан, сымболь улады,
Страсе спалох, як сон які;
За ім закон, рабы і каты,
Пакоры сонныя вякі.

І гневам зноў усхваляваны
(Яго палохаць сьмее хам?)
І больш ня гледзячы на Йвана, —
Кідае грозна ён слугам:

Ой вы слугі мае
Паслухмяныя,
Ці ўжо болей мо' вам
Стаў ня панам я?!

Паміж вамі вось той,
Вораг люты мой,
Што запляміў мой род, —
Пакахаўся з дачкой.

Пакуль толкам усё
Я абдумаю,
Як закончыць жыцьцё
Яго шумнае,

Адвядзіце яго
Ў лёху цёмную —
Там гатовы ужо
Кут бяздомнаму.

Выбірайце хады
Найдалейшыя,
Замыкайце замкі
Наймацнейшыя.

І пільнуйце, як воч,
Яго — ўпартага,
Хай стаіць дзень і ноч
Там хтось вартаю.

Пакуль толкам усё
Я абдумаю,
Як закончыць жыцьцё
Неразумнаму.

V.

Ў зямлі, глыбока пад палацам,
Было ў Лапаты многа лёх —
Прытулак тым, хто панскай працы
І крыўды больш зьнясьці ня мог.

Навокал воля пана-ката;
Гуляў прыслужнік і цівун,



Прымус і зьдзек вісеў над хатай,
А ў хаце — голад і калтун.

Была пара — цямней за ночку
Душа працоўнага была,
Усе пуці і ўсе дарожкі
Вялі да панскага ярма.

І толькі дзьве былі дарогі,
Хто бунт душы згасіць ня мог:
Адна — у бор — шукаць падмогі,
Другая — гніць у цёмны лёх.

І людзі гінулі бяз рады,
Як лісьце кінутае гніць,
Каб сокам іх маглі магнаты,
Усякай масьці, пышна жыць.

Хоць крыху іншыя прычыны
У лёхі Янку прывялі,
Ды толькі тут паняў хлапчына,
Што ён з мужыцкае сям'і;

Што лёс з праўдзівай каляіны
На жарты выкінуў яго;
Ён — раб! і быць хацеў шчасьлівым, —
Мог сьніць пра сьветлае жыцьцё!

І дні яго, яго абмылкі,
Дакорам сталі перад ім. —
Мо' ён радзіўся быць асілкам,
А лёс зрабіў яго сьляпым?

І думы, думы зашапталі
Пад жаль пякучы у грудзёх,
І бунтам сэрца хвалявалі
Ў цішы магільнай цёмных лёх.

Дзе падзелась наша доля,
Эх, Іван — Іване!?
Наша доля ў чыстым полі,
Блудзіць у тумане.

У няволі лёс працоўны,
У руках у пана;
Мы усе ярмо прыгону
Цягнім паслухмяна.

Нашу волю ў цёмных лёхах
Расьпінаюць каты,
Дзе шукаць нам перамогу —
Мы — народ пракляты.

Толькі ў боры, ў цёмных нетрах —
Нам правы пісаны,
Ды нам болей з буйным ветрам
Ня гуляць Іване!

З гэтых лёх ніхто ніколі
Жыў яшчэ ня выйшаў,
Толькі вецер ў чыстым полі
Успамін калышыць.

Згінеж марна ты, Іване,
Як лісток сарваны,
Хоць так пышна сьнілась раньне
Радасьці вясьнянай.

За віну якую, Янка,
Трэ жыцьцё аддаці?
Эх, нашто было графянку
Моцна так кахаці?!

VI.

І дзень і ноч у лёху цёмна,
І дзень і ноч глухі спакой,
І дзень і ноч ў цішы таёмнай
Ідзе нязьменнай чарадой.

Гадзіна гіне за гадзінай,
Штось ціха рвецца у душы.
Памалу, грозна і няспынна
Штось набліжаецца ў цішы.

Прыняць Янук усё гатовы,
Патухлі ўжо надзеі ўсе;
Сюды, у лёх, яму з падмогай
Ніхто, ніколі ня прыйдзе.

Ціха ночка плыла,
Ноч вясьняная,
І падмога прыйшла —
Нечаканая.

Адамкнула замкі,
Замкі моцныя! —
Пэўна спала тады
Варта ночная.

Ня дрыжала рука,
Рука белая,



Як вяла Янука —
Яна сьмелая.

Як вяла з пад зямлі
Лёху цёмнага
Гэнь да бору, туды —
Бору вольнага.

Толькі зоры адны
Любаваліся,
Як пад горкай яны
Разставаліся.

Разсталіся яны
Невясёлыя,
І пайшлі, хто куды,
Засмучоныя:

Да палацу яна
Надвазёрнага,
А яго павяла
Сьцежка зорная.

З вецярком асака
Мела клопаты,
Ўсё пра лёс Янука
Вялі шопаты.

Бор стары над вадой,
Поўны ўсполахаў,
Варажыў сам з сабой
Ціхім шолахам;

Варажыў, напяваў
Штось з трывогаю,
Ён ў сям'ю прынімаў —
Сына новага.

VII.

Можа чары хто кінуў на іх,
Апаілі мо' зельлем благім?
Гэты лёх вартавалі ў траіх
І заснулі адзін за другім.

Можа дух які з бору прыйшоў
Па душу яго грэшную сам,
Адчыніў ўсе замкі бяз ключоў
І нябачна украў яго нам?

Але хто-б яму там не памог,
Ці варожая сіла, ці Бог,
Тут — як хочыш — судзі, варажы: —
Вінаваты-ж у тым — старажы.

Самі ў лёху цяпер яны тым —
На вяльможны чакаюць прысуд,
І пагонь разаслана за тым, —
Пэўна хутка ён зьявіцца тут.

Пакорна, страхам ўсхваляваны
Цівун закончыў свой даклад,
І карак нізка, паслухмяна,
Сагнуў адходзячы назад.

Зьдзіўлёны граф вушам ня верыў:
Ці-ж гэта быць калі магло,
Каб хтось-ці з лёху выйшаў цэлы,—
Такіх выпадкаў ня было!

Ключы учора сам ад лёху
На ноч ў шуфляду ён паклаў, —
Ключоў зусім ня трэба Богу, —
І чорт з шуфляды іх ня браў.

Тут здрада чорная з парога
Ўпаўзла ў пакой яго сюды.
Ключы узяў, хто знаў дарогу, —
Ды недалёкі, і ня чужы.

З людзей адна толькі асоба
Адсюль ключы дастаць магла,
Яна харомы знала добра,
Дваццаты год у іх жыла.

І зельлем сонным напаіла
Яшчэ да варты старажоў.
І з лёху выпусьціла сына, —
Каб вольным ён у бор ішоў.

Ах, нашто такі
На душу лёг сум!
Граф! пакінь, пакінь
Кросны чорных дум.

Тая моц мацней
На'т за слуг тваіх,
Што вядзе людзей
Гінуць за другіх.



Ня будзі бяды,
Пакуль сьпіць яна,
На душу сваю
Не бяры граха.

Не жартуй агнём,—
Апячэшся сам,
Бо ня вечным сном
Сьпіць прыгоньнік-хам.

Бо за гэты чын,
Што задумаў ты,
Што адкажыш ім,
Як прыдуць сюды?

Не дарма такі
На душу лёг сум, —
Лепш пакінь, пакінь,
Кросны чорных дум!

VIII.

Рана, рана, раніцай,
Толькі згасьлі зоркі,
Ад палацу цягнецца
Слуг таўпа да горкі.

Узышлі на горачку,
Сталі нярухома,
Ціха штось гуторачы,
Штось трымаюць ў колу.

На гары глыбокая
Раскапана яма.
Ў падарож далёкую
Хтось ідзе ад пана.

Граф сягоньня смачнаю
Помстай сэрца цешыць,
За заслугі мамчыны
На'т ня будзе вешаць.

Як у графа водзіцца,
За заслугу тую
Загадаў на горачцы
Закапаць жывую.

Рана, рана, раніцай,
Да усходу сонца,

Той загад спаўняецца
Пры бары на горца.

Рэха хвалявалася
Крыкам прадсьмяротным.
Пад гарой шапталася
Асака з чаротам.

Сталі страхам скутыя
Людзі навакола,
Пакацілась смутнае
Рэха ў даль па бору.

Помрукам, пагрозаю
Задрыжэла пушча,
І пашлі па возеры
Хвалі густа, густа.

## IX.

Ў палацы графскім, як ў магілцы, —
На душы лёг нялюдзкі страх,
Слуга слугу спаткаць баіцца, —
Ўсім сьніцца мука, сьмерць і граф.

А граф стары ў сваім пакоі
Тры дні бяз выхаду сядзіць,
Рабоў маўчаньне непакоіць, —
Уся ваколіца дрыжыць.

Душа абурана графянкі,
І бунт за страх ў грудзёх мацней.
Страшная сьмерць любімай мамкі,
Як камень, давіць сэрца ей.

І графу праўду ўсю адважна
Прызнаньнем кінула яна,
Што мамка згінула напрасна,
Што тут уся яе віна.

І граф ад злосьці азьвярэлы
Замкнуў у лёх дачку сваю —
За чын яе бунтарна-сьмелы,
За непакорную душу.



## X.

Ой ня лебядзі ды сплываліся
На прастор, на шыр—гладзь вазёрную.
То разбойнікі ды зьбіраліся
У старым бары ночкай цёмнаю.

У старым бары, на паляначцы,
Разьвялі агні ды начлежныя.
Ой з усіх бакоў да іх цягнуцца
Бунтары-хлапцы — ой мяцежныя.

Ой ішлі сюды бунтам грэшныя,
Дзень і ноч каго думкі поркалі,
Каму сьцежкі ўсе сталі цесныя,
Як палын-трава, — жыцьцё горкае.

Разставаліся з вёскай — сёламі,
Разставаліся з сваей долячкай,
Ды нясьлі сюды крыўды з болямі,
Заручаліся з вольнай волячкай.

І гараць агні —
на паляначца,
На агнях — катлы:
Каша варыцца.
Навакол хлапцы
забаўляюцца,
Над сваей бядой
насьмяхаюцца;
Удальствам сваім
пахваляюцца,
На шалёны чын
ды зьбіраюцца.
Ой дайшлі сюды,
дакаціліся
Пра той страшны чын
весткі чорныя.
Падняліся ўсе,
абурыліся
Бунтары-хлапцы
непакорныя.
Кожны графам быў
чымсь пакрыўджаны, —
Усе крыўдачкі
тут падлічаны.

Закрынічыў гнеў
помстай лютаю,
За сваю, за ўсіх
долю смутную.
Ой ня лебядзі
ды сплываюцца
На прастор, на шыр —
гладзь вазёрную.
Не разбой, а бунт
разгараецца
У старым бары
ночкай цёмнаю.
Атаман сядзіць —
бровы хмурныя,
Ў цёмны бор глядзіць,
думы думае:
— Бор стары, скажы,
ці я здужаю,
Скалыхнуць усю
моц лапцюжную? —
Не на цёмны грэх —
чын разбойніка —
На сьмяротны бой
за нявольніка!

XI.

Няма, няма яму адказу, —
Маўчыць таёмны бор стары,
І толькі вецер недасказам
Шуміць: — Я з вамі — бунтары!

А з боку тут ля атамана
Сядзіць засмучаны Янук,
На твары сьвежа маляваны
Узор цяжкіх духовых мук.

Сярод разбойнікаў ён — братам,
З ім дружбу водзіць атаман,
Але чамусь зусім ня рады
Ад гэтай чэсьці наш Іван.

Ён лёс паставіў свой на карту,
Усю душу уклаў у бунт,
І справа стала ўжо ня жартам —
Ня сёньня, — заўтра запяюць.



Бор стары сьцяной,
Цёмны бор стаіць,
Пад палацам бой
Цэлы дзень кіпіць.

Скалыхнуўся люд,
Паднялася раць, —
На вялікі суд
Прыйшлі пана зваць.

Аб касу касой
Зазьвінеў мужык,
Пад муром-сьцяной
Гул і грозны крык.

— Мы прыйшлі усе,
— Адчыняйся пан!
— За ўсе крыўды трэ
— Палічыцца нам!

— Годзі, граф, бядзе,
— Сокі з нас смактаць,
— Мы прыйшлі табе
— Гэта тут сказаць!

— Больш ня страшна моц
— Страшных слуг тваіх,
— Будзе плакаць ноч
— Над касьцямі іх.

— Ўсё дабро тваё —
— Плёны нашых рук,
— Мы вазьмём сваё,
— Рукі прэч, павук!

Бор ды бор сьцяной,
Ў тым бары старым
Аж да хмар стаўбом
Над палацам дым.

XII.

Ня год, ня тры і не чатыры
З тае пары прайшлі вякі;
Жыцьцё крынічыць далі вірам,
Мяняе форму і шляхі.

Дзе бор сівы стаяў стагодзьдзі, —
Сягоньня там прастор палёў,

І толькі вецер з песьняй бродзіць
Па сьцежках хлопцаў - бунтароў.

Дзе быў палац — гняздо Лапаты —
Цяпер разваліна адна;
Там чарнабыль расьце касматы,
Дзяды, асот і лебяда.

На горцы сёньня — сосны - садам,
Магілка мамкі зарасла,
Але спытайся ў вёсцы радам, —
Завецца Мамчынай яна.

І кажуць людзі, што часамі,
Як месяц ў поўні над затокай,
Жанчына ў белі над саснамі
Сядзіць і думае глыбока.

А ў буры час, на горцы гэтай,
Як ветры з соснамі гудуць,
Хтось горка плача там... і сьпевы
Жальбы сумуючай плывуць.

— — — — — — — —

Яшчэ легенда ўспамінае,
Што зьгінуў граф у бойцы тэй,
Аб' ім дасюль слава благая
Жыве у памяці людзей.

А бунт далей пайшоў па краю: —
Рабы ў пажарах і крыві,
У помсьце лютай і адчаю
Шукалі новы лад зямлі.

— — — — — — — —

Даруту вызваліўшы з лёху
Янук зноў кінуўся у бой, —
Шукаць ў змаганьню перамогі,
Ці заплаціць за ўсё сабой.

Калі-ж паўстаньне патушылі,
Хто жыў — у бор вяртаўся зноў,
Івана тут не далічылі,
Ў сям'і разьбітых бунтароў.



Адны казалі, што загінуў,
Другія — што з Дарутай
Кудысь за мора лёс закінуў
Шукаць сьвятляных сноў сваіх.

* * *

Легенды, легенды сівыя, —
Мінулае нашай зямлі, —
Курганы, магілкі старыя
Вам сховам вякамі былі.

Прыгожымі снамі сягоньня,
З далёкай, таёмнай цішы;
Вы з ветрам ціхім ў перазвоне,
Вы ў шолаху траў на мяжы.

Вы вечарам сінім у змроку,
Як зоры дрыжаць над зямлёй,
Аднекуль здалёку, здалёку,
Зьлятаюць у мроі ціхой.

І шэпчаце чарамі байкі
Пра праўду калісьці жывых;
Пра тайны жыцьця бяз утайкі,
Пра дзеі адных і другіх.

Адны толькі вы непадкупны;
Бяз страху, трывог і маны,
І толькі у вас не патухлі
Вялікае праўды агні.

*Канец.*

МАКСІМ ТАНК

# Па дарогах і вёсках

Сонна ў жыце трашчалі конікі. Дакучліва ад аваднёў зьвінела паветра. А з сонца, як з пераверненай патэльні, лілася на ацяжэўшае калосьсе, і на людзей, і на вёску Гарыдаўку жоўтая, летняя гарачыня.

Часам дзьмуў з Нізкіх Дуброў вецер, дзьмуў асьцярожна ў кіпучае паветра і тады яно на міг астывала, каб зноў яшчэ гарачэй апаліць твар і кудлатыя грудзі Мікалая.

Ён, як смаляк, сядзеў сярод вуліцы, роўна калыхаўся ў такт нейкай падзёртай, як яго кашуля, мэлёдыі.

Голас яго быў востры, няпрыемны. І пеў, часамі, песьні, ад якіх старыкі доўга жагнаючыся аглядаліся.

— Ты, вось, Мікалай, не сядзіш на месцы. А гаспадарка твая што? Ішоў-бы служыць...

Неяк неспакойна варушыўся Мікалай. Часамі моўчкі адыходзіў, часамі ўхмыліўшыся спакойна гаварыў.

— У Сьвіры давалі пятнаццаць пудоў... Служыў у аднаго, у Падбродзьдзі, асадніка. Кінуў...

— Мне трэба парабка... Ідзі да мяне... — гавора Язэп — і хітра прыжмурыўшы вочы глядзіць нясьпелымі чарніцамі на рабы скляваны воспай твар Мікалая. Ты зусім ня рыжы, а чаму цябе завуць Рыжым?.. Арцель кажыш? Хэ-хэ! Відаць яна мацней за пана цябе ахрысьціла... А я даў-бы пятнаццаць пудоў. Ну, пару пудоў бульбы... кашулю...

— І да цябе я не пайду... Ты вось за пятнаццаць пудоў хочыш купіць цэлы год майго жыцьця. А ты ведаеш яму цану? Гэта яно і ёсьць, што ня ведаеш; самі — малая цана і другім даеш мала... Быў я летась у Будзе на кірмашы. Народу шмат, як калосься на полі... Ды адзін сьляпы іграў на скрыпцы. Сьляпы ад калыскі, а як іграў! Быццам пяць разоў пражыў жыцьцё і ўсё бачыў...

На загуменьні чуўся сьмех дзяцей ды суха пераклікаючыся заскрыпелі асьверы: гэта канюхі паілі коняй.

— А што з гэтага за толк, што другі шмат бачыў. Я далей мястэчка і не выяжджаў. Ведаю, што я Язэп — з кароткімі нагамі — не абыйду ўсяго сьвету. Хапіла-б на гэта поля і дабра! — Раптам абарваў, як і пачаў неспадзявана гутарку Язэп.

— А мне здаецца: гоніш баразну, а на канцы ня хочаш заварачвацца, так і пагнаў-бы яе проста, пакуль хапіла-б сілы.



Недалёка, у грамадзе, пачуўся рогат. Нізкі, прысадзістым, з птушыным тварам, шырокаплечы батурынскі парабак Грышка расказваў, як у яго суседа ліцытавалі зямлю. Расказваў ён весела, шырака гледзячы, як кавалкамі неба, вачыма на слухачоў.

—...Прыйшлі гэтыя госьці. Купец быў нібы амэрыканец. Ну баба, ведама, як баба! Адразу ў голас. А яны ўзьлезьлі на хату, тапаром па казлох. Падсеклі. Выгнулася маціца, зьехалі ключы, шаламя распаўзлося. А тут дзеці з хаты праз дзьверы з плачам сыпяцца, як гарох праз падзёртае рэшата. Дзяцей было шмат, а ўсе голыя. А як пачалі раськідаць бярвеньне, тут ужо і схапіліся за грудзі. Мо і ня было-б нічога, каб не знайшліся пад рукамі вілы. Так і падчапіў на ўсе чатыры зубы амэрыканца.

Здалёку вецер прынёс ці то шум калосься, ці адгалосак далёкай песьні.

Усе раптам змоўклі.

— Ці то з Нізкіх Дуброў, ці то з-за Пераналу, і чорт не разбярэ адкуль...

— Пэўне дзяўчаты пайшлі ў жыта...

Як чаўны плывуць цені хмараў па каласістым моры і як чаўны тонуць разьбіўшыся аб далёкую, чорную гару лесу.

— Летась я неяк бадзяўся каля Докшыц і каля Кабыльніку, — быццам прыслухваючыся да далёкіх успамінаў — загаварыў Мікалай. —

Сядзеў я тады ў арышце. Ехаў бяз білету ну і пасадзілі. Памятую, прывялі з Даўгінава нейкага пераводчыка, кантрабандай усё жыцьцё займаўся. Чалавек, відаць, бывалы, не якая небудзь шушла.

— Колькі я — кажа — перавёў праз граніцу людзей, не адну вёску засеяў-бы імі. Пераводзіў ня дзеля грошай. Дзеля грошай, нічога, брат, ня варта рабіць. Усіх не пазьбіраеш, а жыцьцё яны табе горш як вяроўкай завяжаць. Вось адзін палец згубіў каля Пагоста ў балоце. Стралялі, ну і адцяпалі чорту на соску... —

А дзе згубіў яшчэ два, так і ня было мне часу ў яго папытацца. Хутка яго забралі з маей цэлі...

На другі дзень прывялі палітычнага... Дробнай косьці, чорненькі, невялікі. Адна толькі бяда... Цэлую ноч прыкладаў я яму да плечаў і да грудзей і да ног — прыкладаў кампрэс.

— Я — кажа — ўжо пэўне ня выйду, ня выпусьцяць мяне хутка. Бяры мае боты, ты іх яшчэ паношываеш. —

Была тады вясна, одцепель, а мае лапці зусім растапталіся. Абуў я яго боты. Праўда, трохі за цесныя.

— Можа што дамоў, бацьком перадаць? — пытаюся...

Адвярнуўся. Доўга глядзеў ён мне ў вочы.

— Скажы — гавора, — хоць я бацькоў ужо даўна ня маю, скажы на вёсцы, каб па мне не бядавалі. Хай працуюць, не пакладаючы рук. Яшчэ збудуем шмат лепшае жыцьцё. Скажыш?..

Тут я і зразумеў, што толькі тыя баяцца сьмерці, хто ўсё сваё жыцьцё пражыў для сябе. Дзеля таго мо' і страшна ім так у апошнія часы. Аглянуцца назад — пуста, толькі пакінуў гару сьмяцьця на сваёй дарозе...

Ноччу яму быццам палепшала. Думаю: мо паправішся? Табе відаць яшчэ шмат больш трэба прайсьці вёсак, сьцежак і дарог, — шмат больш, як мне... Так я і ня ўзяў, і пакінуў яму боты. Праўда што былі яны ўжо палатаныя, але яшчэ добрыя. Міль дваццаць адмахаў-бы! Пад дзень заснуў ён, я яго і ня будзіў... Выпусьцілі мяне, тады я і пачаў служыць парабкам у Забалоцьці, посьле кінуў — пайшоў пад Вялейку, пад Маладэчна.

А вёску, пра якую ён гаварыў, ці мо' ён ня так сказаў, ведама хворы, ці мо' я забыўся, як яна называлася.

Шмат я посьле хадзіў, распытываўся: ці ні з вашай вёскі ўзялі чалавека?.. Але шмат было такіх вёсак, а яшчэ больш такіх людзей.

Шмат дзе расказваў. Слухалі,ківалі галовамі, часам паказываліся на вачох сьлёзы, часам мацней заціскалі далоні... Усякія ёсьць людзі!

Праўда, шмат дзе і мне за гэта дасталося. Посьле аб гэтым зусім гаварыць забаранілі...

Але ці ты патрапіш пагасіць сонца, устрымаць буру, ці злавіць і стаптаць тую песьню, якую толькі-што прапелі ў жыцe дзяўчаты? Так і жыцьцё!..

Дрэміць вёска загараючы саламянымі стрэхамі, дрэміць пад гарачым сонцам прытуліўшыся да перавалу...

Часам вецер смалістым пахам старога бору абвеіць хаты і прыгнуўшыся за вёскай папаўзе па межах шырока расхінаючы калосьсе...

А сонца, як залаты павук, падымаецца па сіне-залатым павуціньні неба вышэй і вышэй над полем, над калосьсямі, над вёскай.

Вільня, 10-VII-1936 г.



# НАРАЧ

## (Частка трэцяя)

1.

Іду, а дарога далёка, далёка
        струною парванай няроўна лягла.
        І сумна на сэрцы, хоць ногі так лёгка
        ідуць ад сяла
                да сяла.

Кудлатыя сосны расьцьвілі марозам,
        пад небам шырокім, сьцюдзёным стаяць,
        і шопатам ціхім плакучых бярозаў
        гавора
            Краіна мая.

— — — — — — — — — — — — —

— А ты, брат, здалёку?
                — Здалёку, таварыш,...
здаецца ужо спатыкаліся мы,
а дзе? — не прыпамінаю... Махоркі ня маеш?...
ўсё-ж лепей цягнуцца дваім...
— І я цябе бачыў... мо' дзесь... на Лукішках...
Эх, краты, як хутка зьмяняюць людзей!
А я ледзь пазнаў! Прыглядаюся — Грышка!
Нат ў цэлі сядзелі аднэй...
Што-ж, даўна ты выйшаў?

                — Вясною год будзе.
Вярнуўся дамоў — ні двара, ні кала;
сястра з меншым братам, вясковыя людзі
казалі, на службу пайшла...
Прыйшлі прывітацца суседзі-сяляне;
„што-ж — кажуць, — дакуль яшчэ будзем чакаць?
Варушацца, чуем, ўжо наднарачане, —
ня нам-жа ад іх адставаць!“
Пачаўся, жнівом, у нас штрэйк сэзановы,
ды... сіл было мала,
і мусіў я ноччу глухой верасьнёвай
зноў вёску пакінуць сваю...
Прыплёўся, як бачыш, і ў гэту старонку, —
да гэтых галодных вазёр, рыбакоў...
Эх! ты раскажы лепш пра Горадзень, Вронкі,
пра Вільню і таварышоў...

Грышка

Вас шмат,
ды толькі навальніцай чорнай
вас топчыць, косіць, як трасьнік вазёрны,
як човен бурай крыша на атмелі.
Пара, рыбацкія арцелі,
супольнай сілай ўскалыхнуць дзень шэры,
абняўшы ...... надвазёрны бераг!.. —

Так толькі гаварыць маглі вазёры,
вазёры: Нарач,
Мястра
і Баторын...

Іван

Ды радзіць людзі языкамі будуць.
Паслухай толькі кожную прыблуду!
Ўжо шмат нам гаварылі і гавораць, —
хутчэй тапіцца пойдзем у вазёры.

З тлуму

Ты лепш накрыўся-б падалом сярмягі,
ці лепш паслухаў! Радзіць ён ня блага.

Сымон

Хоць малады, але, відаць, бывалы.
І кажа праўду: чорную навалу
супольнай сілай з плеч рыбацкіх скінем!
Усіх ня зломяць, ў грамадзе ня згінем!
Свой профсаюз каб залажылі ў восень, —
як радзіў нам, — дык сяньня ня прышлося-б
сядзець ў паўголад, ўсю зіму бяз солі. —
Вясной сьлязамі не засееш поля!.. —

Так білі ў бераг дзень і ноч вазёры,
вазёры: Нарач,
Мястра
і Баторын.



4.

Ёсьць на прадвесьні чароўныя раніцы,
ясныя раніцы, дні, —
ў сонцы срабрыста сьнягі загараюцца,
топяцца ў белым агні.

Часам з прыдаўленых, сумам ахопленых
вырвецца песьня з грудзей: —
ёсьць у жыцьці нашым зрэбным і стоптаным
шмат яшчэ ясных надзей.

Хутка падымуцца хвалі крынічныя, —
прыйдзе другая вясна,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
ўстанеш тады, Старана!

— — — — — — — — — — —

Чарнеюцца
гарбатыя
дзе-недзе берагі,
кладуцца цені захаду
на шэрыя сьнягі.
Сьмяецца
вечар спозьнены
званочкам пад дугой
і сыпляць зоры зорныя —
густы пчаліны рой.
Дзе-недзе
сіратлівыя
мігаюць аганькі, —
ня сьпяць, хоць працай змораныя,
штосьці рыбакі. —
Кранула
верхаводкаю, —
на лёдзе шмат вады, —
ім сьняцца хвалі сінія,
ім сьняцца невады;
трысьцё
пужліва-гібкае,
чарот у берагоў,
і першы срэбна-сіні іх
на возеры палоў...
І ціха
засыпаючы
чарнеюць берагі;

кладуцца цені захаду
на шэрыя сьнягі.
Сьпіць
вёска нарачанская
пад сіняю дугой
і сыпяць зоры зорныя —
густы пчаліны рой.

5.

Грышка

Вось неспадзявана прыплёўся да вас,
да вашых арцеляў учора...
Відаць не апошні і гэты папас, —
штось цягне мяне да вазёраў...

Спакойна у хаце лучына гарыць,
Тацяна маткі навівае;
Сымон сваю песьню на печы бурчыць
і лапці лазой падплятае.

Ад вас як я восеньню рана пайшоў
абіў ўжо нямала парогаў, —
адно сваё шчасьце ў змаганьні знайшоў,
другое — спаткаў на дарогах.

Спаткаў я яго, як цьвілі верасы, —
пра шчасьце гаворыцца ў казках, —
але я спаткаў яго з звонам расы,
апаўшай ў барох нарачанскіх.

Было яно, помню, як сон залаты,
як выраю крык на прадвесьні;
было яно, помню, Тацяна, як ты,
як Нарачы дзіўная песьня...

Тацяна

Ўжо позна... на гутарку час не такі.
А не, — раскажы што з былога...
Ды заўтра на сход мо пайдуць рыбакі,
ты лепш адпачыў-бы з дарогі...



А вецер калыша вясеньнюю ноч.
У хаце старэнькай і цеснай
бы з ветрам шуміць задажджыўшыся дождж
Сымона панурая песьня.

6.

„Былі калісь вазёры — быў хлеб і соль.
Нашы вазёры ўзялі.
Толькі засталася горкая голь
і на руках мазалі.

„Калышацца, ой гнуцца трасьнікі,
як бура хвалі вёсламі ударыць.
Бяз бою цябе, Нарач,
ня кінуць рыбакі!

„Змывала сіняй хваляй наш чорны пот.
І, ад вясны да вясны,
тысячы нас ты карміла сірот,
латала нам рызманы...

„Калышацца, ой гнуцца трасьнікі;
плывуць чаўны на сонечным загары.
Яшчэ убачыш, Нарач,
як ўстануць рыбакі!

„Над берагам вясеньне шумяць лясы.
Нарач падымецца зноў.
Крыльлем ўзмахнуць чаўнакоў парусы,
Ўдаль паплывём на палоў!..

„Калышацца, ой гнуцца трасьнікі,
зьбіраюцца навееныя хмары.
Мы буру любім, Нарач, —
з табою рыбакі!“

7.

Што-ж ня сьпіцца, Тацяна?..
Можа ноч без зарніц,
ноч вясеньняя,
дожджам чорным шуміць
за парканам?

Вецер мо' за гарамі
ў цёмным лесе між дрэў
заблудзіўшыся
зашумець зашумеў
галасамі?

Можа сны а паўночы
неспакойна снуюць?
Ці прысьніліся
ў гэту сінюю муць
чыесь вочы?

Эх, дарма, хоць спытаеш, —
аб чым ціха зьвіняць
зоры зорныя
і сасонкі шумяць, —
не згадаеш! —

Так дзявочыя мары,
думы, дзіўныя сны
нябывалыя...
Расьцьвітаюць яны
на загары,

раніцой на прадвесьні,
ці паўночнай парой,
нібы папараць,
ці усходняй зарой,
можа песьняй?..

*Канец часткі трэцяй.*

Кромань — Вільня
28-VII-1936.



ІВАН КАМЕЛЬ

# Суседы

Спаткаліся яны сярод натоўпу. Вачыма глыбака ўпіліся наўзаем. Ня ведалі, чаму шчапіліся ўзрокам, як два магутныя барцы. Змагаліся. Гарбаты ўсё-ж не паддаваўся. Ён першы ап'янелыя вочы перавёў на рампу.

Тэатр шуршэў натоўпам. Зашнураваны партэр і расхрыстаная галёрка пасвоему выражалі захопленьне гульнёй артыстаў. Ён ціха глядзеў на заслону. Шукаў на ёй разьвязкі драмы. Стараўся за людзей судзіць значэньне парушанай праблемы.

Гарбаты забаўляўся і шукаў лёгкага жыцьця. А ўсё-ж яны спаткаліся. І калі крэслы хруснулі пасьля гарачых воплескаў на заканчэньне, яны зыйшоўшыся з пасьпехам рукі падалі. Нічога ня пыталіся. Яму на ўсё адказ быў ясны:

— Гарбаты, лёсу жарт, людзьмі абходжаны, — так думаў Ён.

Гарбаты-ж бачыў чалавека, які заглянуў яму ў вочы і паказаў куток душы.

Ішлі, як блізкія, да хаты. Ціхія вуліцы маргалі лямпамі поўначы. Хмарнае неба ірдзела над горадам. Хацелася цяпла, спакою. Гарбаты йшоў да чалавека. Такое ўражаньне ён вынес з гутаркі. І не спрачаўся, калі Ён запрасіў яго на шклянку чаю.

— Дык вось, як ты жывеш? — сказаў Гарбаты, павёўшы вокам па пакоі.

— Жыву адзін, з мільёнам думак, — адказаў Ён, гледзячы на лёгкую пару, што косамі цягнулася з чаю. —

А ты? — спытаў Ён пачакаўшы.

— Безработны, — пачуў адказ. Вачэй Гарбатага ня бачыў. Іх пара схавала гарачага пасілку. Маўчалі. Думкамі ляцелі ў прастор на спатканьне гукаў мікрафону. А музыка лілася іскрыстым пералівам і хэўрай заліла малы Яго пакой.

* * *

Два прыяцелі ішлі кавалак часу праз жыцьцё. Бунтарная вясна, сьпелае лета, тужлівая восень...

— Як ты жывеш? — пытаў Яго і заглядаў Гарбаты глыбака ў вочы.

— Пытаеш ты? — шаптаў Ён ціха, — глядзі кругом на поле, вёскі, — я там жыву, хаця хаджу сярод рухлівага натоўпу места.

— Народ...

— Так, ён...

— Бывай, сягоньня ўжо пайду, — і працягнуў Гарбаты руку.

Гарачых рук спатканьне — і Ён ізноў адзін у пушчы думак.

— Пакрыўджаны і лёсам і людзьмі, — паўтараў Ён сваю думку.

* * *

Гарбаты п'е музыку грашовых зьвякаў. З рукі на руку пераложыць і вокам ліжа блеск манэты. Глухі на голас сэрца, ідзе Ён да яго. Спаляючы ў сабе пачуцьці, вітае ў тэрцыю вышэй:

— Жывём з табой сягоньня мы... Хачу эмоцыяў і шчасьця... З табой знайду я ўсё...

І горб Яго пачаў здрыгацца, тапіцца ў плечах, калі рукамі сыпаў серабро.

— Глухі на гэта я, — казаў Гарбатаму.

— Але прыяцель мой, — цягнуў Гарбаты.

І Ён пайшоў. Блеск... Музыка... Гоман...

* * *

— Пашто хадзіў я? — пытае Ён сябе.

— Пашто зрабіў я!.. — шэпча Гарбаты.

І кожны засыпаў з няроўным рытмам сэрца. Гарбаты чуў праз сон, як зьвінела серабро. Яго-ж збудзіў зьвяк сталі. Бяз слова скаргі, як люнатык, ішоў канчаць свой сон наяве.

* * *

Шуршыць папера. Скрып пяра. Усё пішуць... пішуць... пішуць... А Ён у квадратах мерыць неба.

* * *

Зялёны колер да болю рэжа вочы. І стол, як поле зелянее. Над ім сагнуўшыся, рукамі паперы пісанай лісты перакладаюць жрацы кадэкснай праўды. Пытаньні выстралам лятуць, а Ён адбіць ня мог атаку, хаця ня мала меў саюзьнікаў там, збоку.

Адныя вочы рэзалі Яго вагнём. Шукаў у іх прыязьні, а бачыў штосьць, чаго не разумеў. Разьвязка хутка надыйшла:

— ...на пяць гадоў... — пачуў апошні прыгавор. І словы з-за зялёнага стала, як гром, зьніштожылі свабоду. За імі з салі, як-бы рэха, адбіліся з цёмнага кутка:

— Не, не. То я зрабіў, за грошы... То выдумка была!..

* * *

Зелень шумам разьлівалася і затапіла сэрца, дзе прыязьнь асная цьвіла. Схапіў рукамі белы твар. Паветра кашай цякло ў грудзі. У вушох зьвінела: пяць гадоў і два Гарбатага.

* * *

Два нумары: адзін на пяць, другі на два... Між імі цень памёршае прыязьні...

Вільня, жнівень, 1936 г.



М. ВАСІЛЁК

## Маўчаць дубы

Праз сэрца я пачуцьці працаджу,
Каб кроў мацней у жылах пульсавала,
Хоць хмары паўстаюць, хоць чорнаю навалай
Гразяць — я сьмела ў даль гляджу —
Яна ўжо заваёваная намі!..

Шчыльней, шчыльней сталёвымі радамі —
Грудзям працоўным душна ў падзямельлі!..
Над паўшымі капцы нам сьвецяць маякамі —
З нядоляй, што смактала кроў нашу вякамі.

Бязстрашна распачаць!
Гэтак магутныя дубы маўчаць,
Лісьцём дрыжаць ледзь кволыя асіны,
Калі паўзе па небасхіле мрок пануры, —
Сьпякота паліць твар і душу... Так прад бурай
Маўчаць дубы ў задуме сіняй.

Баброўня, 1936 г.

* * *

Пяю, каб каменьні нат чулі,
Б'ю песьняй, як хвалямі ў моры, —
Даволі каркі свае гнулі
Пад цяжарам горкім ў пакоры.

Гнілое руйнуем мы сяньня
І творым красу новых дзён,
Імёнаў каб нашых ня зганьбіў
Жывых пакаленьняў праклён!

Ад. СТАНКЕВІЧ

# З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка

## (у дзесятыя ўгодкі яго сьмерці)

## 1926 — 1936

Казімер Сваяк — беларускі паэт і дзеяч — займае ў беларускім адраджэнскім жыцьці сусім арыгінальнае, асобнае месца. Ужо толькі дзеля гэтага варта беларускаму грамадзянству і народу бліжэй з ім знацца. Да таго-ж сёлета 6. V. мінула роўна 10 гадоў ад яго сьмерці, а ў архіве знаходзяцца дагэтуль нявыкарыстаныя аб ім весткі, асабліва ў яго „Хроніцы Хаўрусу". Вось-жа гэтыя жалобныя ўгодкі няхай паслужаць нам нагодай бліжэй пазнаёміцца з жыцьцём і дзейнасьцяй Казімера Сваяка.

Казімер Сваяк — гэта літаратурная мянюшка. Праўдзівае яго прозьвішча Кастусь Стэповіч. Радзіўся ён 19. II. 1890 году ў вёсцы Барані, Сьвянцянскага пав. Сын сялян паўвалочнікаў. Да 1900 году жыў пры бацьках, памагаючы ім у гаспадарцы, як пастушок. Некаторы час бацькі яго жылі ў вадным засьценку, як арэндатары. Як Барані, так і той засьценак, знаходзіліся ў глухім лесе. Лес, сваей красой і таёмнасьцяй, і так ад прыроды уражлівую душу будучага паэта, настрайваў і вырабляў на мастацкі, філёзофічны і містычны лад. Да далейшага развою душы яго ў гэтым-жа кірунку спрыяла яго бабка і стары пастух Марцін, якія расказвалі яму беларускія казкі і пялі такія-ж песьні. У гэтым часе Казімер Сваяк скончыў расейскую пачатковую школу.

Час свайго раньняга дзяцінства ўспамінае Сваяк пасьля з тугой і расчуленьнем:

„Далёка ты, родная старонка, ад мяне...
На крыльлях хмарных ляціць мысьль мая туды, дзе я ўбачыў сьвет, дзе айцец мой дарагі, дзе маці мілая, дзе сястрыца родная. Родзяцца во думкі: то сьветлыя, як вясеннае сонца над роднаю вёскай, то сумныя, як тая ночка цёмная, сьлязьлівая, восенная...

Прад вачамі стаіць уся прошласьць, што мінула як бліскі сьвятла, на векі згаснутага... Ня вернецца ніколі... Штодзень, што-момант далучаецца да яе новая хваля і... прападае вечна. Ах, шчасьлівы той, што збудаваў сабе стройную, горную мінуўшчыну... Чаму я неспакойны, чаму бязвольны?!..

Дарагі! Сабяры сілы духа... Стаў прад сабой усё, што прайшло... Будуй новае, што-раз высшае жыцьцё!..



* * *

Шуміць цёмны лес навокал Гаруноў, малой вёскі беларускае. Кругом ні жывой душы. Зрэдка толькі адзавецца зьвяга сабак вясковых, што чуюць ваўкоў. Людцы сьпяць адны, другія кончаць вячэру. У хаце апошняй, пры самым лесе, мігціць праз акно агоньчык.

Дзеткі акружылі навокал бабулю і слухаюць пільна казкі. Усе ўжо расходзяцца спаць. Ім толькі не да сну, бо якраз байка ідзець аб самым цікаўным: „Крыся абярнулася ў вадзянку і жывець у азярку. Што-дзень чуе яна голас жалосны з берагу — Крыся, Крыся, маладзян плачыць... Што-дзень адзываецца яна з жвіраватага дна. — Іду — бягу, раса вочкі залівае, жвірок ножкі падбівае"...

Слухалі дзеткі казкі-песьні. Аж заміралі з ахвоты даведацца, чым гэта кончылася, аж блішчэлі іх вочы. І ў ночы пасьля пялі яны ціхутка праз сон: „Крыся — Крыся! — Іду — бягу"... Шчасьлівае дзяцінства! Якжа яно жыва запісалася ў маей памяці! Няма ужо тэй бабулі. Зьмяніла яе новае пакаленьне. Забыліся аб ёй чуць ня ўсе. Ах, вечны табе спакой, родная! Прыдзі хоць у сьне йшчэ да мяне...

*

Помню ноч. Сям'я наша тады была падзелена. Часьць жыла ў Гарунох, а часьць у глухім засьценку Загінца. У засьценку жыла старушка, брат і я. Брат пасьвіў. Прыгналі раз дамоў. Прышла жывёла — брата ня было: прапаў недзе. Бабуля ня спала і плакала поўна неспакою. Лес быў кругом вялікі, з балотамі, гушчарамі, хмызьнякамі. Вадзілася многа ваўкоў. Што-ноч чуваць было іх завываньне; навадзіла яно і адважнаму дрыжачку на плечы... Цёмна. Поўнач. Алеся няма...

„Найсьвятша Матка да касьцёла хадзіла,
Сваё Дзіцятка за ручку вадзіла" —

мовіла бабуля свае пацеры голасам плачлівым і безнадзейным. Мне было страшна. Утуліўся глыбока, закрыў вочы і вушы і... заснуў здаровым дзіцячым сном. Назаўтра з зарой брат вярнуўся. Начаваў пры агні ў лесе, не баючыся ні ваўкоў, ні благіх людзей...

Незваротны час! Якжа я тады блізкі быў прыроды, як зжыўся з шаптуном-борам, з зялёным гаем, кветным лугам! Быць любіў і пад навальніцай — громам і пад гарачым сонцам і на балючым марозе. Якое здароўе біла з майго твару!.. А цяпер!..

*

Цэлую ноч гудзела мяцеліца, гонячы сыпкі сьнег і насыпаючы гурбы. Цяжка дзеткам ісьці ў школку, завеена дарога няблізкая, а і мароз шчыпае вушы. Але мы ў поце,

з румянымі тварамі бяжом праз насыпы, лезем праз гурбы— сьмешна неяк і лёгка. Радосная пара! Як доўга помніцца верш, навучаны на памяць! Як доўга стаіць у вачах вучыцель суровы, што мерыў злосна ўдары лінейкай „бяздай прычыны!“ У імгле мінуўшчыны ён здаецца лепшым і болей людзкім. Мімавольна забываесься, што ён быў п'яніца горкі і маскаль наравісты... А які вясёлы быў паварот з школы! Далёка сьлізгаліся па гладзенькім лядку; прыжмурыўшы адно вочка, паказвалі язык дзяўчынкам, чапалі шалуцькавата кожнага сустрэчнага, празывалі і сьмяяліся з боўдзелаў і злых сяброў. Дзе-ж было дзець тую жывасць і энэргію дзіцячую, што як ручай рвалася разьліцца? Напрасна хацелі судзяржаць нас старшыя, называючы „распусьнікамі“... Мы сваё права мелі...“ *)

У 1900 годзе Казімер Сваяк паступіў у гарадзкую школу ў Сьвянцянах, якую скончыў у 1905 г. І гэты час успамінае ён у тэй-жа сваей „Дзеі“:

„Гразка было ехаць да павятовага места, дзе меў я зачаць свае навукі па скончанай людовай школцы. Конь ледзь цягнуў воз, у каторым сядзеў пахмурны бацька і я маўклівы, задуманы. „От, дарога цяжкая, адазваўся ўрэшце бацька— глядзі, каб не пашлі намарна гэты труды і заходы“. Я маўчаў. Баязьлівы мой характэр быў прычынай цяжкіх мысьляў, поўных неспакою і прачуцьця нявыясьненага...

Эх ты сьветазарная дарога навукі! Сьвеціш ты маладой душы, як ясны месяц сярод майскай ночкі. А ўвойдзеш у тваю краіну, адкрываюцца штораз новыя сьветы, новыя зоры, неразгаданыя, недаступныя! Вось-вось ухваціш адзін праменчык, нацешысься ім, раз'ясьніш цемру быту, аж зьяўляецца другі, трэці... і сілы ападаюць, аж маркоціцца твая істота і малее, разумеючы, што кароткае жыцьцё Бог даў для пазнаньня, або што пэўна ня тут нам угадаць усе тайніцы быту, — трэба адмены цэлай істоты“ **).

1905 год — гэта год першай расейскай рэвалюцыі. Чуткая душа Сваяка ўжо шмат што бачыла недарэчным у грамадзка-палітычным жыцьці Беларусі пад панаваньнем расейскай імпэрыі, а гэта рэвалюцыя яшчэ больш адкрыла яму вочы. Рваўся ў сьвет, да навукі.

„Ідэалам маіх добрых бацькоў — кажа Сваяк — было відзець мяне ў духоўным стане. І я пайшоў па лініі жыцьця, якая мне здавалася найпрасьцейшай і якая была здаўна ў матчыных снох“ ***).

*) Каз. Сваяк—Дзея маей мысьлі, сэрца і волі. Вільня, 1932 г., бач. 3—5.
**) Там-жа, бач. 6.
***) Ад. Станкевіч — Казімер Сваяк. Нарысы аб ягонай ідэолёгіі. Вільня, 1931, бач. 9.



У 1906 і 7 г. Сваяк прыбывае ў Вільню і рыхтуецца ў Духоўную Сэмінарыю.

„Помню дзіўны мамэнт. Я прыехаў у Вільню з дарагім сваім айцом. Зайшліся ў катэдру, бацька дзеля Бога, а я сам ня ведаю дзеля чаго: маліцца я ня мог...

Бацька апусьціўся на каленкі і пачаў свае малітвы. Сэрца маё забіла трывогай. Прад вачамі стаяла будучыня неразгаданая, тайнічная. Здалося мне, што лёс мой нятолькі ад мяне залежны. Агляд Прадвечны Бога мусіць быць над кожным. Чаго Ён ад мяне жадае?.. Ці Ягоная помач мне не патрэбна?.. Я хацеў высокага зразуменьня і вялікіх учынкаў. Мысьль мая аднак спакарнела, відзячы сваю слабасьць і зьменнасьць... Я маліўся“. *).

Тут першы раз пазнаецца ён з беларускім адраджэнскім рухам, спаткаўшыся з „Нашай Нівай“.

Урэшце ў восені 1908 г. і ў наступных спатыкаем Сваяка ў Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні. Вось што ён аб гэтым піша:

„Праз тры гады сэмінарскіх студыяў я працаваў ня помнячы аб Божым сьвеце, аж на чацьвертым цяжкі сэмінарскі сыстэм зламіў мяне: я мусіў выехаць у горы, каб ратаваць сваё здароўе. У гэтым часе аддаў я ў рэдакцыю „Беларуса“ першыя свае творы *„Прад Богам“* („Беларус“ № 28, 1913 г.) і пачаў адтуль працу ў розьвітку беларускай народнай ідэолёгіі. — Прабыў зіму 1912 і 1913 г. у Закапаным і з гэтай прычыны толькі вясной 1915 г. высьвяціўся на ксяндза ў Петраградзе“ **).

Ідэолёгічныя Сваяка заінтэрэсаваньні ў гэтым часе відзім з наступнага яго ліста да брата з 1. IV:

„Рух палітычны ці наагул грамадзкі мае падклад этычны, дык у такіх перасіленьнях, якія мы перажываем, ці-ж можа быць душа чалавека спакойнай? Адраджэньне мовы нашае і то мае сувязь з справамі этыкі, бо ці-ж падклад яго ня вяжыцца з пытаньнем: „можна, нельга?“ Соцыялізм ня можа ня ўмешывацца ў справы натуры рэлігійнай, бо этыка і рэлігія — дзьве сёстры неразлучныя і абедзьве ў натуры чалавека. Мы павінны дайсьці да выснаву, што калі адкінем хрысьціянства з руху нашага народнага, то ён, гэты рух, расплывецца ў золкай міжнароднасьці і этычнай развязласьці. „Не пакідайма мовы роднай, каб ня ўмерлі“. Не пакідайма рэлігіі глыбокай нашай, каб не загавець душой...“ ***).

*) Казімер Сваяк, там-жа, бач. 8.
**) Ад. Станкевіч, там-жа, бач. 9.
***) Казімер Сваяк, там-жа, бач. 20.

Беларуская сьведамасьць і беларуская ідэолёгія ў Сваяка разьвіваецца далей. У 1913 г., вярнуўшыся з Закапанага гэтак ён піша:

*„Жнівень—1913.* Ад даўнага часу чую да цябе, маці Беларусь, асаблівую прывязнасьць — і болей чым прывязнасьць: надта гэта адчуцьцё глыбока зарылася ў сэрцы—пэўна гэта міласьць, каханьне з сэрца. Люблю я цябе і сільна люблю. Аб'ехаў я нямала ўжо сьвету, шукаючы красы і праўды, а найбольш бачу тэй і другой у сваім родным краі, у сваей мілай зямельцы. Стройны горы і даліны ў Татрах, прыемны малюнкі ў зямлі Кракаўскай, а ўсё ж цуднейшы наш бор вяльможны, пякнейшыя роўні і гаі нашы: страйнейшыя, бо гавораць проста да душы тваей, а мова іх пранікае цябе цэлага, лечыць раны сэрца твайго. О, хараство тут неапісанае, бо роднае, простае — як душа русьняка. Ты, браце, беларусе, выдаешся мне лепшым ад другіх народаў. Ты пакрыўджаны і нешчасьлівы, пакінены праз многа сваіх родных сыноў і дочкаў, аддадзены на зьдзек чужынцаў — і то здаўна — ты бедны, гаротны. І тут пэўна ляжыць прычына, чаму ты так блізкі сэрцу і душы маей. Цябе не сказіў фалш, не ляжыць на тваіх плячах крыўда чужая: свая толькі ўрэзалася крывава на іх і хіліць цябе да зямлі. Праўда і шчырасьць жыве йшчэ ў душы тваей — недарма-ж называюць цябе „простым", даючы спазнаць, што другія народы здаўна ўжо скрыviліся. Пазнай толькі добра, хто ты, гарніся да прасьветы, а станеш сільным: а гэта сіла дасьць волю духу твайму, так цяжка загнанаму і пакрыўджанаму...

Не хачу я пакінуць цябе, маці Беларусь, хоць тутка мус скажа ізноў разьвітацца з табой. Хачу служыць табе, хачу аддаць сябе для дабра душы тваей. А яна — душа твая — чакае афяраў. Патрэбны афяры, калі мае прыйсьці выбаўленьне. Я не пайду шырокім разгонам людзкога рахунку. Я хачу толькі служыць тваім патрэбам, беларусе. А яны аграмадны. Сапраўды сказаць трэба: „Жніво вялізнае, а працаўнікоў мала". Божа, дай мне зразумець і ўпэўніцца, якой жадаеш ад мяне службы? Аддаючыся найбліжэйшым братом маім, я хачу споўніць Волю Тваю, шукаць праўды і нясьці знайдзеную другім.

*13 жніўня.* Сягоньня слухаючы звон наш цудны касьцельны, раблю пробу аддаць уражаньне вершам. Папольску пішуць усе. Беларус—сірата: сьмяюцца з яго мовы. Я люблю бедных, апушчаных... Буду пісаць п а б е л а р у с к у. Мова беларуская ёсьць гладкай і згучнай: можа служыць і да паэзіі (але сам сябе я да паэтаў залічыць ня важуся). Пастараюся выгладзіць стыль свой беларускі. Згодзіцца ў будучыне" *).

*) Казімер Сваяк: Там-жа, бач. 30—31.



А вось урэшце надыйшла і сусьветная вайна, якая ў 1915 годзе нахлынуўшы на Беларусь падзяліла яе на дзьве часьці: адну часьць (заходнюю) занялі немцы, а другая (ўсходняя) падаўнейшаму асталася пад Расеяй. Галоўным асяродкам беларускага адраджэньня, як ведама, была тады Вільня. Вось-жа нямецкая окупацыя Вільні і значнай часьці нашага Краю працу гэту, рэч зразумелая, спыніла. Газэты „Наша Ніва" і „Беларус" выходзіць перасталі, выдавецтва спынілася, беларуская інтэлігенцыя разьехалася. Але так дрэнна было толькі ўпачатку. Хутка ўзноў пачалі тварыцца беларускія асяродкі і ў меру магчымасьці як у Вільні, так і на правінцыі, пачалася сякая-такая беларуская праца.

Вось-жа з такіх працаўнікоў на беларускім сяле першае і бадай адзінае мейсца займае наш паэт і народны ідэолёг Каз. Сваяк. Вайна ў 1914 г. застае яго ў Клюшчанах, Сьвянцянскага павету, у роднай ягонай парафіі, дзе ён з прычыны хваробы чакае на сьвяшчэнства. Ужо ў гэтым годзе (29-XI) ён арганізуе касьцельны хор, які пяе так-жа і песьні беларускія.

У 1915 г. Каз. Сваяк як вікары прабывае месяц у Камаях, а пасьля ў роднай парафіі і далей працуе для беларускай справы. Хор яго, склад якога даходзіў да 40 асоб, разьвіваецца і апрача беларускіх песьняў ладзіць так-жа і беларускія лекцыі. Так напр. гэты хор, сьвяткуючы свае першыя ўгодкі 2-XII-15 ладзіць ужо лекцыю „аб беларускай песьні", напісаную самым Сваяком, а прачытаную адным з сябраў хору.

У гэтым-жа 1915 г. Каз. Сваяк, праводзячы беларускую народную працу, прабуе мову беларускую заводзіць і ў казаньнях у касьцеле, як гэта было 21-XI.

У 1916 г. беларуская праца ў Клюшчанах пад кіраўніцтвам Сваяка яшчэ больш паглыбілася. Дайшло і да беларускіх школаў. Калядамі 1915 г. былі арганізаваны пад кіраўніцтвам Сваяка беларускія вучыцельскія курсы, а ў 1916 г. было заложана сем беларускіх школаў, у якіх малодшыя дзеці вучыліся пабеларуску, а старшыя побач з мовай беларускай вучыліся і мовы польскай. Школы гэтыя былі пасьля польскімі ўладамі закрыты.

Беларуская праца Каз Сваяка набірае штораз больш размаху і разгалосу і штораз больш страша польскіх паноў, якія шлюць ужо на яго скаргі ў Вільню да каталіцкай духоўнай улады за тое, што ён „беларусіць" Клюшчанскую парафію.

У тым-жа 1916 г. Каз. Сваяк заснаваў арганізацыю беларускай моладзі пад назовам „Хаўрус Сваякоў" (CHS), якая фактычна вырасла з успомненага хору.

Працу сваю „Хаўрус" вёў бойка. Вось што аб гэтым піша Сваяк:

„Гарой, гарой тутэйшая моладзь! зладзілася ідэйная першая забава-прадстаўленьне. Перашкод прыйшлося зламаць дужа-многа. Але ў канцы ўсё ўдалося. На сцэне стала „Пра-

клённае зельле“ *) — жывы драматычны абразок з нашага вясковага жыцьця. Забава падчас, калі за вёрст сорак грымяць гарматы! Аднак яна была патрэбай. Дух адпачыў і зажыў хоць на крыху новым жыцьцём“... **).

Да рэчы тут будзе адзначыць, што гэтае прадстаўленьне ў Клюшчанах было першае на беларускіх землях, што цяпер ляжаць на захад ад савецка-польскай граніцы.

Узноў-жа, як бачым з „Хронікі Хаўрусу“, моладзь ладзіла так-жа беларускія лекцыі. Лекцыі такія на тэму аб узгадаваньні характару адбыліся яшчэ ў тым-жа 1916 г.: адна 30-VII, а другая 6-VIII.

У палавіне 1916 г. Каз. Сваяк быў назначаны ў Карыцін (Беласточчына), дзе прабыў да вясны 1918 г. Але ня гледзячы на свой выезд з Клюшчан, зносін з тамтэйшай моладзяй на грунце беларускай ідэі не парваў. З выбітнейшымі сябрамі „Хаўрусу Сваякоў“ ён вёў перапіску, у якой падтрымліваў у моладзі беларускі дух, заахвочваў яе далей вясьці распачатую працу і адначасна даваў рады, як гэту працу далей праводзіць. І праца сапраўды йшла.

Не забываўся аб „Хаўрусе“ Каз. Сваяк у Карыціне і кіраваў ім праз пісьмы, а да таго былі ўжо з „хаўрусьнікаў“ некаторыя адзінкі настолькі ўзгадаваныя і выпрабленыя, што і самі патраплялі далей працаваць на беларускай ніве. Адным з такіх вясковых інтэлігентаў-дзеячоў, узгадаваных Сваяком, быў Адольф Клімовіч, цяпер інжынер-аграном, адзін з ідэолёгаў сучаснага беларускага адраджэньня, выдатны ідэйны беларускі народны дзеяч.

„Хаўрус Сваякоў“ трымаўся і працаваў гады тры. Працу сваю праводзіў пераважна пры помачы беларускіх кніжак, якіх было нямала ў хаўруснай бібліотэцы і якія шырока йшлі ў сялянства. Урэшце „Хаўрус“ распаўся з прычын ад яго незалежных. Прадусім ад 1918 г. Каз. Сваяк, моцна надарваўшы ў Карыціне здароўе, ня меў больш сілы хоць духова кіраваць „Хаўрусам“. Урэшце-ж 1919—20 год — гэта час вайны літоўска-польска-бальшавіцкай, час, калі немагчымай была ніякая арганізацыйная, ідэйная праца, а тымбольш праца беларуская.

Як Каз. Сваяк цаніў „Хаўрус Сваякоў“, як на яго глядзеў, сьведчыць наступны яго верш:

### Хаўрусу Сваякоў у Клюшчанах.

Гадкі са тры дзяржаўся ты удала,
Старонцы роднай ўсё стараючысь служыць;
Як мог і як умеў: ня быстра, ані вяла —
Змагаўся русьняка з прасоньня разбудзіць.

* * *

*) П'еса Каз. Сваяка, пасьля ім-жа пераназваная „Янка Канцавы“.
**) Каз. Сваяк — Дзея, бач. 44.



Так думцы вось тваей хай багаслравіць Бог,
Каб буйна узрасла для Бацькаўшчыны роднай;
А помні, брат Сваяк: Наперад бяз трывог
Ідзі ўсё дальш і дальш па пуціне свабоднай.

* * *

А есьлі-ж пуціна калючкамі наб'еццa, —
Ня бойся толькі ты, абы ісьці ледзь мог;
Бо пэўна нас калісь нямала сабярэцца:
Сапхнём тады карчы з усіх сваіх дарог.

Казімер Сваяк
24. IX. 1919.

Перабраўшыся ў канцы 1916 г. на вікарага ў Карыцін, Каз. Сваяк прабываў там да пачатку 1918 г., дзе так-жа разьвіў значную беларускую працу. Праца гэта яго ня была там лёгкая: травіў яго за гэта пробарШч (паляк) і пісаў у Вільню даносы, а тымчасам і сухоты няміласэрна грызьлі яго грудзі. Вось-жа Казімер Сваяк у беларускай там сваей працы прымушаны быў агранічыцца да шырэньня сярод беларускага сялянства, што знаходзіцца на рубяжы з польшчынай, беларускай народнай сьведамасьці словам і праз кніжку і пры тым спосабам магчыма тайным, крыючыся ад вока сваіх ворагаў.

Вось што аб гэтым чытаем у тэй-жа Сваяковай „Дзеі“:

...„У парафіі Карыцін большасьць беларусаў гавораць чуць ня ўсе пабеларуску. Гутарка мала розьніцца і ад нашай надвялейскай. Ідэя маладой Беларусі тутака нязнана“ *).

...„Запяяў я „тутэйшым“ колькі шчырых песьняў беларускіх, сказаў пару казкаў, задэклямаваў „Званара“ і даў прачытаць „Пчалінку“... Сяньня пры абедзе мой пробарШч зьнячэўку пытаў: „хто гэта даў да чытаньня беларускую кніжыцу, што чытаюць у мястэчку, сабраўшыся вечарам?“ Адказаў я, што гэта мая работа. — „Няхай ксёндз не заводзіць тутака ніякай навасьці. Прашу ня шырыць ані песьняў, ані казкаў, ані дэклямацыяў беларускіх!“ ПробарШч пасьля вытлумачыў, што гэтага вымагае касьцельная палітыка з Вільні“ **).

Урэшце ў тэй-жа „Дзеі“ чытаем: ...„Нездаволены (пробарШч) найгорш, што зрадзілася тут думка аб Беларусі не бяз майго удзелу“ ***).

Уканцы, зламаны фізычна (хваробай) і маральна (прасьледам з боку паляка пробарШча), Каз. Сваяк пакінуў Карыцін і ўдаўся ў Закапанае. У другой палавіне 1919 году варочаючыся з Закапанага спатыкаем Сваяка ў Лапеніцы, Ваўкавыскага пав., дзе быў пробарШчам беларускі адраджэнец і пісьменьнік кс. Я.

*) Каз. Сваяк — Дзея... бач. 51.
**) Каз. Сваяк, там-жа, бач. 53.
***) Там-жа, бач. 57.

Гэрмановіч, які так-жа ідэйна працуе на беларускай ніве, гаворачы беларускія казаньні ў касьцеле і арганізуючы беларускія школы. Вось-жа ў гэтай працы кс. Гэрмановічу памагаў і Каз. Сваяк.

Урэшце Каз. Сваяк ад 1920 да 1926 г., ужо за часоў польскіх, гэта знача аж да сваей сьмерці, прабываў на перамену то ў Закапаным, то ў Засьвіры, Сьвянцянскага пав., дзе быў прабаршчам і дзе, ня гледзячы на поўную руіну ягонага здароўя, на ніве беларускай, у галіне ўсьведамленьня народнага, даканаў яшчэ нямала.

За гэта польскія ўлады ня мелі да яго сэрца. Былі рэвізіі, дамашні арышт, а так-жа арышт рукапіснай беларускай літаратуры. Але гэта ўсё яго не застрашыла і ад роднай працы не адцягнула.

Урэшце трэба адцеміць, што Каз. Сваяк, як ведама, праз увесь дасьпелы час свайго жыцьця, апрача працы беларускай грамадзка-народнай, працаваў на ніве беларускай літаратуры, якая сапраўды была галоўным прадметам яго працы і ў якой ён пакінуў цалкам паважныя сьляды.

Пасьмертная літаратурная спадчына Сваяка агулам даволі значная. Многія з твораў ягоных ужо выйшлі друкам і сталіся ўласнасьцяй беларускага грамадзянства і народу агулам, а многія яшчэ ляжаць спакойна ў рукапісах і чакаюць на свайго выдаўца.

Да друкаваных ужо твораў Сваяка належаць: „Мая Ліра“ (зборнік вершаў), „Голас душы“ (малітаўнік для беларусаў каталікоў), „Чарку дай, браце...“ (філёзофічна-этычнае апавяданьне вершам у дусе хрысьціянскім), „Янка Канцавы“ (вясковая драма ў пяцёх дзеях), „Алькаголь“ (нарысы аб шкоднасьці алькаголю), „Купальле“ (фантазія-містэрыя, аснутая на беларускай мітолёгіі), „Дзея маей мысьлі, сэрца і волі“, многа вершаў, твораў поэтыцкіх прозай, афорызмаў, артыкулаў, разважаньняў і г. д. друкаваных ў „Беларусе“, „Крыніцы“, у каляндарох і інш.

Да недрукаваных дагэтуль твораў Сваяка належаць наступныя: аб рэлігійнай уніі на Беларусі (філёзофічныя і гістарычныя нарысы), вершы, філёзофічна-рэлігійныя разважаньні, праекты і спробы вершаў і г. д. Урэшце корэспондэнцыя ў польскай мове з паняй Ядвігай Банцэр на тэмы філёзофічныя і рэлігійныя.

Жадаючых бліжэй пазнацца з характарам літаратурнага творства Сваяка адсылаю да сваей кніжыцы: „Каз. Сваяк“.

Тут жа, як аб дзейнасьці Каз. Сваяка агулам, так і аб яго паэтычным і літаратурным творстве, прыгледзімся толькі збольшага і агульна.

Форма паэзіі Каз. Сваяка даволі рознародная і багатая. Карыстаецца ён рознымі спосабамі вершаваньня і карыстаецца імі зручна і гібка, хоць вершы яго бываюць часта нявыканчаныя і шурпатыя, што адчасьці тлумачыцца ягонай цяжкай і доўгатрывалай хваробай. Аднак спосабы гэныя, у параўнаньні да сяньняшніх, усё пераважна старыя, клясычныя. І гэта ўсё ў Сваяка цалком ёсьць рэчай зразумелай. Ён не тварыў згодна з прынцыпам „мастацтва для мастацтва“, як гэта часта і пераважна бывае ў перасычаных людзей і грамадзянстваў, а праз мастацкую форму, праз пачуцьцё красы, праводзіў сусім канкрэтныя, філёзофічна-грамадзкія ідэалы.



Шуканьне і апяваньне ў паэзіі сутнасьці жыцьця агулам і сутнасьці беларускага нацыянальнага жыцьця — вось галоўная мэта і галоўныя матывы творства Каз. Сваяка. Усё жыцьцё, што нас акружае і бурліць навокал нас — гэта ў сваяковай паэтыцкай уяве толькі зьверхнія праявы, гэта толькі лупіна, за якою знаходзіцца запраўднае жыцьцё, жыцьцёвая праўда, да якой ён усьцяж імкнецца і аб якой складае свае песьні.

Гэткі прынцыповы склад душы, гэткі аснаўны настрой ліры Сваяка бачым і ў адносінах яго да беларускага народу. Не шліфаваньне беларускай мовы, не выраблянне яе ў рожнародных формах вершу, не апяваньне красы беларускай прыроды, ня лірычна-асабістыя ўрэшце песьні займаюць творчую душу Каз. Сваяка, а прадусім беларуская нацыянальная ідэолёгічная праблема. Ня вонкавыя праявы жыцьця беларускага народу займаюць яго, а сутнасьць гэтага жыцьця.

Гэткае сваё заінтэрасаваньне беларускім жыцьцём Казімер Сваяк праявіў у сваім паэтыцкім творстве на трох галоўных адцінках жыцьця беларускага народу: на рэлігійным, нацыянальным і соцыяльным.

Чужынцы, карыстаючыся для сваіх утылітарных мэтаў хрысьціянствам, увялі глыбокі грозны разьдзел у беларускім народзе. Сваяк бача гэта і моліць Хрыста, каб народ гэты знайшоў сябе самога ў гэтым развале і каб ён „пачуў“ душу сваю.

Сьвятар-чужак жалезную
Руку падняў:
Сьвятыню нам належную
Сілком заняў.

Расьселіся, раз'еліся
Нябес купцы,
У пёрыны адзеліся —
Маўляў глушцы.

Народны жаль, народны боль
Ня кране іх:
Вядуць на зьдзек, вядуць на боль
Сьляпых, крывых.

Прыдзі, Хрысьце, нам веру дай —
Моц Божую:
Няхай пачуе родны край
Душу сваю.

(Прыдзі, Хрысьце) *).

*) Казімер Сваяк — „Мая Ліра“.

Вызваленьне з гэтай грозьбы народу паэт бача ў агульна-хрысьціянскай і агульна-беларускай сынтэзе.

Хочаш ты знаць, якую веру
Сам прызнаю і песьняй апяваю?
Скажу няшмат, бо знаць тут трэба меру,
Апроч таго ня ўсё кажу, што знаю.

Я веру ў нейкае вяліка' Аб'яднаньне,
Ці як завуць яго з лаціны — Уніонізм
І ў пяруна крывіцкага прызнаньне
І ў хрысьціянскі зноў сьвяты натуралізм.

(Веру нярозуму проціў) *).

Бача ясна так-жа Сваяк і беларускае нацыянальнае паняволеньне і адначасна бача вызваленьне з яго.

Думка аб бяздольнай Беларусі нігдзе не пакідае паэта і выклікае ў сэрцы ягоным дзіўна чулы, дзіўна глыбокі і трывалы агонь любові:

Айчыны мілай зор на сабе чую,
Куды ня пайду з самлелай душою.
Айчыны сьлёзнай праклёны лічу я:
Ратунку кліча — „ратуйце з разбою!"

(Айчыны мілай).

О край мой родны! Куды я ні гляну,
Гдзе лёс мой дзіўны мяне не закіне,
Штоколеч думкай сваей не закрану:
Са мной ты ўсюды у кожнай гадзіне.

(О край мой родны).

Думкай Сваяк вечна там, дзе *„яго плача маці"*, дзе яго *„брат з бяды марнее"*, дзе *„пануюць шчэ чужынцы"*.

У натхненьні паэт бача ўжо народныя натугі дзеля яго волі, бача лепшую, узыходзячую над Беларусяй, зару ейнай будучыны:

Ідзе вось ясная пара,
Праўду сьвеціць нам зара,
Айчына — Маці — Беларусь
Гарой, жыва!

(Гымн роднай зямлі) **).

Найбольш гора дазнаў народ беларускі ў цяжкой сваей гістарычнай падарожы ад суседзяў — усходніх і заходніх. З іхняга-ж боку і надалей найвялікшая небясьпека для нашага народу. Але вось паўстаючы да сьведамага, адроджанага нацыянальнага жыцьця, народ беларускі спраўляецца і з гэтай

*) Казімер Сваяк — „Мая Ліра".
**) Там-жа.



небясьпекай. Грозныя ворагі Беларусі ў творчай думцы паэта адыходзяць на бок і ўжо перастаюць быць ворагамі:

А во страпянуўся род той груганоwы!
Быў здалёку чутны гоман нейкай мовы.
Дзівам зьдзівваліся няпрошаныя госьці,
Бо з зямлі паўсталі беларускія косьці..

(Ой на Русь ды Белу).

Груган з усходу, а крук з заходу
Дарма там жыру шукае —
Бо зерне спорна, у волю прасторна,
Хутка пад неба ўзрастае.

(Загляне сонца) *).

Прасякнуты-ж праводнай сваей філёзофічна-хрысьціянскай думкай, Сваяк у сваім творстве адроджанага свайго народу ня кідае бяз зносінаў з суседзямі, якіх народ гэты апекі толькішто пазбыўся. Не, ён шукае з імі сужыцьця на асновах брацтва, як роўных з роўнымі і вольных з вольнымі, што, ведама, магчыма толькі пры поўнай самастойнасьці кожнага з гэтых народаў і пры тым кожнага на сваей уласнай тэрыторыі, кожнага на падставах Вышэйшай Справядлівасьці.

І ў гэта Сваяк сьвята вера:

Дасьць Бог калісь будзе люд народу братам,
А Русьняк Маскоўцу да Лехіткі сватам!..

(Ой на Русь ды Белу) **).

Урэшце, ня гледзячы на гэны, так здаецца ад зямлі і яе спраў аддалены, мэтафізычны тон ліры Сваяка, удзяляе ён шмат і прынцыповага месца беларускім соцыяльным справам.

Сваяк, як сын працоўнай Беларусі, мучыцца душой, бачачы багацьце, ад якога часта вее крыўдай людзкой, а ўспакайваецца, выбражаючы сябе селянінам пры працы, які „з плугом ідзе", прыпамінаючы, што ён „корміць сьвет":

Як бачу харство харомаў,
Жудосна мне,
Бо з іх тэй штукі, тых заломаў,
Крывёй пахне...

Адну пацеху ў жыцьці маю,
Адкуль буду,
Калі зямельку ураблю,
З плугом іду.

І хоць мне цяжка і гаротна,
Спакою нет,
Але ў душы ўжо немаркотна -
Я кармлю сьвет.

(Мне сумна) ***).

*) Казімер Сваяк — „Мая Ліра".
**) Там-жа.
***) Там-жа.

Сваяк, пад уплывам, відаць, рэвалюцыі заахвочвае беларусаў да новай працы на ніве социяльнай, але з яўнай іроніяй дадае, што цёмныя людцы нашы так у гэтым кірунку разагналіся, што

Нават добрыя будынкі
Пачалі ўжо руйнаваць —
„Годзе кажуць ўжо спачынку,
Трэба ўсё наноў складаць".

(Гэй будуйце).

Вось-жа Сваяк прад гэткай рэвалюцыяй социяльнай, прад гэткім спосабам шуканьня выхаду з социяльных беларускіх злыбедаў, гэтак прасьцерагае народ свой у тым-жа вершы:

Добра людцы, абы сьмела,
Толькі помніце адно:
Хто будуе ня ўмела,
З працы будзе мець драньнё.

Сваяк радзіць беларусу ў гэтай справе гэтак:

Разваж-жа перш чым зробіш,
Адлічы — рахунак здай —
А чаго не утаропіш —
Разумнейшага спытай.

Здабыць трэба перш зямельку,
Бо краіна-матка ўсім:
Хлябок родзіць і кудзельку
Дзецям родным, ня чужым.

Што у нас зямлі ня стала
То ня дзіва ані цуд —
Чужыня нам панавала,
Дзёрла скуру, як той бруд.

Далей Сваяк у тым-жа самым вершы радзіць, каб беларус прадусім працу сваю аддаў свайму краю, каб асьвячаў свой розум і ведай прымушаў зямлю радзіць, каб таго вучыўся, што трэба, а не якой пусьцячыны і каб пазнаў такім чынам добра сваіх ворагаў:

Каб ня даці ім заесьці
Свайго духа і свой труд
І твой край ня даць абсесьці:
Зробіш гэта — будзе цуд.

Будзеш мець зямелькі доваль,
Школы зробяцца з двароў
І авечкай і каровай
Зможаш панскіх шляхтуноў

Гэй будуйце, мае людзцы,
Жыцьцё новае наўкруг,
Нават сонкі хай прачнуцца —
Хто ня вораг — будзе друг *).

*) Казімер Сваяк — „Мая Ліра".



Гэтак больш менш выглядае духовы воблік Казімера Сваяка ў ягоным жыцьці, у грамадзкай дзейнасьці і ў літаратурным творстве. Гэткім гэны ягоны воблік астаўся і ў апошнія дні жыцьця яго на гэтай зямлі.

Красавік 1926 г. Каз. Сваяк — у сталіцы сухотнікаў, як сам казаў. Да аўтара гэтых радкоў надыходзе адтуль ад беларускага дагараючага паэта сьпярша пісьмо за пісьмом, а пасьля і тэлеграма за тэлеграмай з грозным алярмам аб няўхільнай катастрофе і з гарачай просьбай прыбыць да яго і забраць на бацькаўшчыну, каб „паміж сваіх мог дажыць кароткі свой дзянёк" і каб над ім „ня было дзярно чужое". „Мне цяжка тут, бо я сярод чужых, а там, у родных Клюшчанах я напэўна папраўлюся, я там паздаравею" — казаў мне Сваяк ажыўлены і разрадаваны як дзіця з майго прыезду.

Нажаль грудзі паэта былі ўжо сточаны мікробамі дазваньня і ня было ані магчымасьці вязьці яго ў Клюшчанскія сасоньнікі, ані так-жа ніякай надзеі на выздараўленьне.

У Вільні дагараў паэт у Літоўскай Клініцы. Часта траціў прытомнасьць. У ясных проблесках сьведамасьці маячыў нешта аб Беларусі, аб сваім народзе, аб крыўдзе ягонай, прасіў урэшце апякавацца ягонымі творамі, ягонымі рукапісамі, якія ўдалося выдабыць з пад арышту польскай пракуратуры, бо, казаў — „а можа і будзе з гэтай усей маей пісаніны якая карысьць для народу"?!..

Раніцай 6 траўня 1926 году Казімер Сваяк разстаўся з намі, адышоўшы ў тую краіну, у тое лепшае жыцьцё, дзе царства Праўды, Дабра й Красы, з каторага чэрпаў сваё натхненьне і ў чэсьць каторага складаў свае песьні і шчасьлівай часткай каторага бачыў сваю Айчыну — Беларусь.

АД. САЛАДУХ

# З досьледаў аб паходжаньні і аб гэрбе Скарынаў

Чытаючы нядаўна том успамінаў пралата Зыгмунта Галькі-Ледухоўскага пад назовам *„Das Buch von meiner Lebensfahrt“* (Prag, an der Jahrenswende 1934—1935), у якой ёсьць шмат вывадаў генэалёгічных і геральдычных, сусім нечакана наткнуўся я на зацемку аб адносінах беларускага роду Скарынаў з дужа старым родам — *Галька на Ледухове Ледухоўскія.*

Адпаведныя тэксты падам ніжэй у дaслоўным тлумачэньні з нямецкага.

Вось-жа у канцы разьдзелу пад назовам *Галька* на бач. 267 знаходзім вестку, якая будзе тут для нас выходным пунктам. Вестка гэна прагаварвае да нас гэтак:

— „Мусяць быць яшчэ ўспомнены — піша аўтар — тыя роды, якія праз увагу на супольны гэрб *Шалява* *) трэба аднесьці да нашага роду і якія дзеля гэтага маюць абаснованыя прэтэнсіі быць залічанымі да патомкаў Галькі. Гэткімі ёсьць роды: (памінаем тут недатычачыя нас роды: Алькевічаў, Якушэўскіх, Кучынскіх, Лебінскіх, Лапатаў, Наўратынскіх, Раманоўскіх, Стрыжаў, Сьвірскіх) Скарынаў (павет Рэчыца 1740 — прытачылі доказ шляхэцтва ў 1825 г.)“.

Ясна, гутарка тут аб родзе Скарынаў, якi здаўна жыў у Рэчыцкім павеце Меншчыны і якi напэўна быў аднэй з галін ня так далёкіх Скарынаў Полацкіх. Бо-ж Рэчыца этнографічна ня менш беларуская, як Полацк.

Цяпер папарадку трэба выясьніць значэньне прозьвішча патрыярхі роду Скарынаў — *Галькі,* а так-жа чужога гукам для нашага вуха назову гэрбу *Шалява.* Выясьненьне гэтых тэрмінаў знаходзім на бач. 264—266 успомненай кніжкі, якія з нязначнымі толькі скарочаньнямі падаём даслоўна:

„Род Ледухоўскіх, ідучы сьледам як сваей традыцыі, так і гісторыі, выводзіць сваё паходжаньне спэцыяльня ад *Галькі, сваяка вялікага рускага князя Уладзімера Вялікага, званага сьвятым, у якога быў ён у вялікім паважаньні з прычыны сваей ваеннай здольнасьці і жыцьцёвай мудрасьці.* Пасьля доўгіх войнаў з царствам бізантыйскім, *Галька* быў высланы каля 971 г.,—дата падпісаньня гістарычнага мірнага дагавору,—на чале мірнага пасольства ў Візанцію, да *цара Івана Зэмісхос'а,* каб пазнаць хрысьціянскую рэлігію і яе грэцкі абрад“... Баяры і „паслы былі тады *выбіраныя толькі спасярод нарманска - варажскай шляхты.* Тое, што Галька там бачыў, зрабіла на яго такое ўражаньне, што, здаецца, адразу сам прыняў хрысьціянства, а пасьля, вярнуўшыся ў Кіеў, выказываў *чаруючую красу і дастойнасьць багатых рэлігійных цэрэмоніяў, сьвятасьць хрысьціянскай веры і шчасьце тых, што да яе належылі,* а так-жа дараджаў князю, *разам з яго народам, прыняць сьв. хрост і гэткім чынам прысьпяшыць духовае адраджэньне рускага народу.* Калі-ж некаторыя паганскія баяры пачалі падсьмейвацца з яго новай веры, як з блуду, насьмешліва яго пыталі, ці адважыўся-б ён з гэтай прычыны ўступіць з імі ў барацьбу,—даў ён ім тады гэткі адказ: — *Нават не з адным, а з трыма!* — тады *назначыў навокал сябе на пяску круг, упісаў у яго тры крыжы,* паказваючы гэтак, *што ёсьць ён хрысьціянінам і мае надзею ў Богу і цалком пабіў усіх трох сваіх праціўнікаў.* — Цікавае гэта здарэньне! Бо паводле старога англа-саска-нарманскага звычаю тыя, што між сабой змагаліся, прадтым клалі навокал сябе каменьні, *або азначалі круг.* „Меч урэшце вырашаў спор“. „Меч ужо служыў вікінгам за плуг“. (Гэтак кажа Нэстар, рускі хронікар, гэтак кажуць так-жа арабскія хронікі Ібн Фосcляна. (Гл. I. B. Weiss IV т., бач. 137нн. — 143, 145, 408 — 412нн. — 475). Далей узноў — і гэта нешта асаблівае! — дапасаваны тут стара-нарманскі прынцып: „Маеш аднаго праціўніка,— заатакуй яго. Праціў двух так-жа мусіш бараніцца. Нават з трыма ня сьмееш стараніцца барацьбы. I толькі ад чатырох праціўнікаў можна табе адступіць. Бо ёсьць рыцарскі загад: атакуй ворага аднаго, бараніся проціў двух, не стараніся трох, адступай толькі прад чатырма“ (Cantu т. 9, бач. 60).

„Вось-жа Вялікі Князь *Уладзімер, каторы быў прысутны на гэнай барацьбе, што адбывалася ў імя пераможнага знаку сьв. крыжа, абдарыў Гальку першым хрысьціянскім гэрбам,* каторы яго адрожніваў з паміж усіх дагэтуль яшчэ паганскіх баяраў. Гэрб гэны складаюць: *тры залатыя крыжы — грэцкай формы, дык з шырэйшымі канцамі, — абнятыя залатым абручом і асаджаныя на блакітным фоне.* Аздобай гэрбу служа выступаючая з прылбіцы пазалочанага турнеевага гэлму правая і апанцыраваная жалезам рука з выдабытым і прыгатаваным да адмераньня ўдару старуска - нарманскім мячом. Гэрб гэты завецца *Шалява,* паводле Папроцкага *Салява, ці Слава — Збаўленьне!*

„Гэтак вось Галька,—называны так-жа Салявіта ці Слаўны—*першы прынёс* рускаму народу хрысьціянскую веру — *Anno Domini 971* (з крыніц: Нэстор... Гл. Paprocki—„Gniazdo cnoty“ 1578 бач. 209 і „Herby rycerstwa polskiego“ 1584 бач. 550. Długosz — Dzieje Polski). На памятку гэтага факту адна галіна пачала насіць мянюшку *Наўротынскіх,* палаціне *Conversor.* (Там-жа).

Што гэрб Галька-Ледухоўскіх і адначасна нашых Скарынаў паходжаньня нарманскага, вырасшага, відаць, ня толькі з сухіх

*) Мова нямецкая, як ведама, ня знае л цьвёрдага.

досьледаў хронікарска-гэральдычных, але так-жа з доказаў сусім рэальных, паслухайма, што аб гэтым гавора аўтар вышэй цытаваных мейсц на бач. 268: „У 1928 г. мой верны і разьбітны таварыш падарожы *Адольф Кольлер* даканаў слаўнага вынаходу ў каралеўскім замку Фрэдэрыксборг пад Копэнгагай, калі мы ў яго ўваходзілі сходамі, сэрпэнтынай віючыміся, каторых сьцены ўсеяны былі сотнямі гэрбаў. Вось-жа там у чатырох іншых, выразна збратаных з маім на адным шчыце гэрбаў, адкрыў ён наш гэрб, аздоблены пры тым вялікім крыжам ордэру Данэборга. Таксама на гэтым гэрбе быў наш радовы кліч: *Avorum respice mores!* (Зважай на абычаі продкаў). Пры помачы пазьнейшых досьледаў, пры пасрэдніцтве чэхаславацкага пасольства пры каралеўскім урадзе ў Копэнгазе, выразна сьцьвердзіў я, што тут (у справе гэрбу ў Фрэдэрыксборгу) іменна ідзе аб аднаго з патомкаў Галькі — *Galki!* *).

На пытаньне, дзе была калыска роду Галька-Ледухоўскіх, і *eo ipso* беларускіх Скарынаў, аўтар успамінаў адказвае (бач. 263 — 264) гэтак: *„Паходжаньне нашага роду губіцца ў цемры недасьледжаных часаў.* Аднак ня гледзячы на гэта ўсё, можам паказаць на некаторыя, вынікаючыя з гісторыі адзнакі, якія ў наступстве даюць вынікі проста дзіўныя. Так, першыя акружаны легендай і ўжо пацьверджаны гісторыяй продкі нашага роду паходзілі бяз сумніву з паўночных краёў, іменна з сяньняшняй Швэцыі. Мусілі такім чынам яны *быць нарманскага паходжаньня, вараскай крыві.* Больш чым „прад тысячай гадоў, як таварышы аружжа Рурыка, маглі яны быць пакліканы са сваей прабацькаўшчыны ў рускую зямлю самымі рускімі, бо былі з нарманскага князёўскага роду. Было гэта, быць можа, ужо ў часе пакліканьня гэтага князёўскага роду, гэта знача ў IX стаг. нашай хрысьціянскай эры... Быў ён, знача, бязсумніву *паходжаньня нарманска-вараскага,* прытым нятолькі, як сваяк вялікага князя з роду Рурыкавічаў — Уладзімера Вялікага, але так-жа быў гэткім на падставе паданых тут абставінаў і звычаяў. Гэральдык Зэрніцкі-Шэліга залічае род *Галькі* да паходзячых ад Рурыка“.

Запытаем цяпер: Якія-ж былі адносіны роду Галькі і Скарынаў да Краю? Адказам будзе гэта цытата (бач. 266): „У XIII ст. ваюе *Тодар Галька* — паводле аднэй крыніцы кіеўскі ваявода — процiў. . нямецкага ордэну. Каля 1300 году гэтман рускі *Пётр Галька* **) вядзе вайну з Польшчай, маючы Літву і Татараў, як таварышаў аружжа... У XV стаг. узноў рускія гэтманы: *Глеб і Януш Галька знаходзяцца ў войску Уладыслава Ягеллы.* Ваююць яны з нямецкім ордэнам. Пад Грунвальдам у 1410 годзе... (Гл. Briger Johannes „Chronik“. — Bielski „Kronika Polska“ 1576 t. 13, бач. 8. — Niesiecki „Encyklopedja“. — „Herbarz Polski“ t. 4 б. 250. — Okolski t. 3 бач. 83, t. 8 бач. 87). А што датыча *роду Галька,* дык параўнай трудна сяньня даступныя матар'ялы ў „бібліотэцы прыватнай“ Здзікоўскага. — Далей матар'ялы ў б. „Царскай Публічнай Бібліотэцы“. — У „VI радаслоўнай кнізе Валынскай губэрні“. — Урэшце архіў Кіеўскай Лаўры. — Архівы грэцкага патрыярхату ў Стамбуле“.

Аўтар успамінаў пралат Зыгмунт Галька-Ледухоўскі прад і па вайне адведаў Вільню, гдзе жыў яго далёкі сваяк, слаўны скрыпач Ігнат граф Галька-Ледахоўскі († 1927), жанаты з таленавітай скрыпачкай Вандай Багушэвічанкай, братаніцай нашага Фр. Багушэвіча. Пралат З. Галька-Ледухоўскі жыве ў Чэхаславацыі (Прага. Podbaba. Dolni Šarka 80).

Цікавую кніжку здобіць генэалёгічнае дрэва (нажаль у дужа малым маштабе) і некалькі рэпродукцыяў гэрбу роду Галькі, а знача і гэнага Скарыны з Рэчыцкага павету.

Адна рэпродукцыя рэпрэзэнтатыўная, урачыстая, парадная; другая й трэцяя скап'яваныя з гэнэалёгічнага дрэва. Для нас найцікавейшы гэрбавы шчыт, а менш ужо многія яго дэкорацыі ў стылі і смаку даўнейшых часаў. Разьмяшчэньне зорак на шчыце ў трэцяй рэпродукцыі прыпамінае нам сонечны шчыт на гэрбе Скарыны з упісаным на ім падабенствам твары. Хоць людзі ў сярэднявеччы часта малявалі сонца ці месяц з гэткім на ім падабенствам людзкага твару, то аднак мог ён на гэрбе Скарыны астацца як фігура паходная, дзякуючы сумыснай ці прыпадковай камбінацыі трох зорак (двое вачэй і вусны).

Калі йдзе аб Скарыну, нельга нам нічога памінуць, што мае хоць найменшую сувязь з асобай перакладчыка Біблії на беларускую мову.

*) Аб тым, што рускія гэрбы не знаходзяцца пад уплывам польскай сфрагістыкі, а насьлядоўваюць сфрагістыку Балтыцкага пабярэжжа, або Даніі, гавора так-жа ведамы ўкраінскі гэральдык др. Іван Шпытковськiй у сваей працы „Рід і герб Шептицьких“ („Богословія“, Львоў 1934. Т. XII, кн. I), гдзе апіраецца на Міхайлу Грушэўскім, Б. Барвінскім і Сэмковічу.

**) Знае гэтага рускага гэтмана з пачатку XIV в. Міхайла Грушевськiй (Історія III, вид. 2, ст. 112, нот. 1).

А. БУЖАНСКІ

# Недахопы „айцоў"

## (аб направе нацыянальнай мэнтальнасьці)

Цусіма, грымоты першай расейскай рэвалюцыі, сталыпінская рэакцыя і зацішша, перагружанае электрычнасьцю, перад насьпяваючай пераможнай рэвалюцыйнай хваляй 1917 году — гэта агульнарасейскі фон, на якім разьвівалася „нашаніўская пара", гэта фон беларускага Risorgimento.

Народ пазбаўлены традыцыі, адданы на ласку расейскага прыстава і земскага начальніка, суседзтва ўсемагутнага польскага памешчыка, безнадзейная пустата і цемната навокала, „казённая вінная лавка" і час ад часу праваслаўныя „крестныя ходы" і каталіцкія працэсіі — гэта фон беларускі.

Паўстае масавы нацыянальны рух, паўстае прэса, літаратура, выгартаюцца з архіваў гістарычныя забыткі, з абломкаў прысвоеных чужынцамі рэстаўруецца гісторыя.

Беларускі народны рух захапляе, галоўным чынам, сялянскія і работніцкія гушчы, пазбаўленыя сваёй традыцыі, але не прасякнутыя чужой, што датычыла і датычыць інтэлігенцыі зрусіфікаванай, альбо спольшчанай, узгадаванай на польска-расейскай грызьні.

Польска - расейская калатня на Беларусі заразіла кроў зрэнэгаванай беларускай інтэлігенцыі, польскія паўстаньні і мураўёўскія падаўленьні засугэравалі яе і перашкодзілі ёй далучыцца да беларускага адраджэнскага руху.

Памінаючы дынаміку адраджэньня і дасягненьні, зробленыя піонерамі-нашаніўцамі, выступае адна рыса тэй монумэнтальнай эпохі, на каторую дагэтуль зварочана вельмі мала ўвагі.

Беларускае адраджэньне ўвайшло на форум жыцьця неяк бокам. Увайшло яно неяк надта скромна і, калі гэтак можна выразіцца, чорным ходам.

Кожнае новае зьявішча, ці гэта ў галіне палітыкі, мастацтва ці літаратуры, павінна выклікаць адпаведны рэзонанс, тымболей малады нацыянальны рух; беларускі рух у нашаніўскую пару рэзонансу ня выклікаў.

Піонеры Адраджэньня, зрабіўшы аграмадную работу, навонкі справу не запрэзэнтавалі і не патрапілі надаць ёй эўропэйскага разгалосу. Трэба сьцьвердзіць, што толькі дзякуючы сялянска - работніцкай Грамадзе, калі слова „гурток" зьявілася на шпальтах „Times'y", „Le Matin'y" і „New-Iork Herald'y", сьвет даведаўся аб беларусах.

Лейтмотывам нашаніўскае эпохі была просьба:—дазвольце, паночкі, сярмяжнаму беларусу ў сваей уласнай хаце ў куточку пераначаваць!



У рэзультаце „скромнасьці" і нейкай палахлівай мэнтальнасьці піонераў, адраджэньне 12 міліённага народу прайшло незаўважаным, тады, як прыкладам, вызвольны рух македонцаў, народу малога, знайшоў водклік у цэлым сьвеце.

Найгоршым было тое, што нашаніўцы не навучылі беларуса расьпірацца лакцямі, на нацыянальную рахманасьць — найбольш ад'емны бок беларускага характару — не зьвярнулі ніякай увагі.

Вось жа нам ідзе аб направу народнае псыхікі, а што гэткая направа магчыма, маем шмат прыкладаў у гісторыі. Ня маем сьмеласьці рабіць закіды першым адраджэнцам, — памяць іх кожны беларус заўсёды ушануе ўставаньнем. Але тое, што нашаніўская пара нічога не дала ў сэнсе направы псыхікі і што ў сіле астаецца сказ з расейскага падручніка географіі: — „беларус па сваей прыродзе вельмі спакойны і надта добры земляkоп" — гэта фатальна адбілася на далейшым разьвіцьці падзеяў і да сяньня цяжэе над крывіцкім народам. Беларускае Risorgimento заскромна з апушчанай галавой увайшло ў гісторыю!

Гэта пролёг.

* * *

1935 год. Польскія палітыкі беларускую справу зьнялі цалком з афішы.

У палітычных нэгоцыяцыях беларусы ў рахунак не бяруцца.

Пэўныя сваёй бяскарнасьці з цёмных куткоў вылазяць розныя Шантыры, плюючыся сьліною ненавісьці.

Скуль-жа-ж розныя Шантыры чэрпаюць эрудыцыю ў беларускіх справах,—з акружэньня, з беларускага асяродзьдзя? — Не, яго яны не вывучаюць, а проста ня зносяць à priori. Эрудыцыю яны бяруць з літаратуры, каторая для іх дыспозыцыі адумыслова створана. У польскай мове ёсьць дзьве кнігі, якія зьяўляюцца для найшырэйшых слаёй грамадзянства вехамі ў лабірынце беларускіх спраў.

Маем на думцы повесьць Загорскай „Trucizny" (Anna Zahorska - Savitri) і кнігу Лявона Васілеўскага „Litwa i Białoruś". Факт вельмі характэрыстычны, што гэныя „Trucizny", выйшаўшыя з друку ўжо даўно, чамусьці ня выклікалі абурэньня беларусаў. Мала таго, з гэтым „творам" беларуская прэса не пазнаёміла шырака народныя масы. Былі маленькія рэцэнзіі і на гэтым канец. А гэны „твор" з вельмі удалым назовам „Trucizny" (Атруты), прайшоўшы ў бібліотэкі і ў чытаючы польскі агул, расьсейвае атруты шовінізму і ненавісьці да ўсяго беларускага, прадстаўляе беларускі народ у агідным асьвятленьні і быў пляўком у твар беларускага народу ў нашым краі.

У адношаньні да беларусаў — гэта кніга ёсьць такім-жа пагромным эвангельлем, як у адношаньні да жыдоў „Пратаколы сіонскіх мудрацоў“. І маўчаньне беларусаў у гэтай справе ці ня ёсьць вынікам „скромнага“ сьветапагляду пачынальнікаў Адраджэньня?

Дзеля таго, што творам пані Загорскай у беларускім друку мала хто займаўся, пазволім сабе зацытаваць пэўныя месцы: (гаворыцца аб беларускім спэктаклю ў пагранічным мястэчку па наш бок мяжы)—

„На афішы значылася, што будзе адыграна п'еса „Разарённае (?!) Гняздо“. Увайшлі ў вялікую салю прыбраную бяз густу і стылю. Сядзелі тамака мужыкі ў сярмягах, паўінтэлігенты. Аніводнае постаці, ад якой бы веяла поўнай культурай з выражэньня твару і з вонкавага выгляду. Пры ўходзе стаяла група. Вуграваты тып з белай чупрынай нападаў на „кепства польскіх уладаў“, якія не дазвалялі адчыніць беларускую школу, бо прадстаўлены вучыцель гаварыў толькі парасейску. Паўстала пытаньне, у чым будзе беларускасьць гэтай школы? — Ня маем інтэлігенцыі — уздыхалі“. Таму гэтая цёмная маса без гістарычнае волі чапляецца хоць-бы і да мяне — падумаў Васілевіч з нясмакам і пачуў адразу жаль. Так, яны ўбогія духам. Таму трэба да іх ісьці. Паднялася занавеса. Па ўдэкараванай сцэне рушаліся акторы без таленту. Усё перанятае з расейскага рэалістычнага тэатру, да таго-ж з провінцыі, з нейкага Арлаці з Харкава, — фармулаваў Васілевіч. Гралі на расейскі лад, а гаварылі пабеларуску. Выглядала гэта на нейкую карыкатуру, як гумарыстычная ўкраінская пародыя аб стварэньні Эвы з сабачага хваста, або „Тарас на Парнасе“.

На сцэне разыгрывалася драма. Сярод беларускай шэрасьці шалеў падпальшчык (скопіяваны з Андрэева). З патосам кідаў словы ненавісьці на паноў. Клясовасьць, як белыя ніткі, вылазіла з усіх швоў гэтага насьпех фабрыкаванага нацыяналізму...

Адсувалі крэслы, пачыналіся скокі. Гармонія заенчала нацыянальную лявоніху. Панна ў чырвонай блюзцы з каровім какецтвам апёрлася на дзяцюка ў чорнай сарочцы. Румяная беларуска прыпомніла Васілевічу панну Антаніну. Хварабліва засумаваў ён за ёй, ці за кокаінай?“

Якой „субтэльнасьцю“ выражэньняў і „блескамі“ інтэлекту вее ад гэтага адрыўку аўторкі - эстэткі! Прывядзём яшчэ адзін адрывак з гэтага эпохатворчага раману:

„Хочаце ўвайсьці да нас? запрашаў сваімі сьвятлістымі вачамі Осьвяцкі (якое сымболічнае прозьвішча! А. Б.). Яны стаялі перад домам у польскім стылю. — Гэта знача куды? У сялібу польскай Мацежы школьнай. Увайшлі ў прытульную салю прыбраную партрэтам „wieszczów“. На паліцах стаялі „porządnie“ апраўленыя кніжкі, азначаныя нумаркамі. Паненка ў гарцэрскай вопратцы ветліва і стройна спаўняла функцыі бібліотэкаркі. — Бачыце гэтага госьця — паказаў Осьвяцкі на інтэлігента з рыжаватай бародкай, — гэта расеец. Няма тут ніякай іншай саліднай бібліотэкі. Ад часу, як трымаем кнігі, інформуючы аб навейшых выніках культуры ў Эуропе, ён прыйшоў да нас. Шукае культуры наагул, пакуль што старонючыся ад польскай. Прыдзе час і на гэта...

Прыйшлі ў чытальню, дзе шмат людзей сядзела пры газэтах і ілюстрацыях. Осьвяцкі адчыніў наступныя дзьверы.— Уваходзьце хутчэй. Лучылі ў цёмнасьць. Дзьверы зачыніліся за імі. Крыху пазьней Васілевіч асвоіўся з акружэньнем і сконцэнтраваў увагу на экране, на каторым значыўся нейкі чыкагскі небаскроб. Лектар проста і пэдагогічна гаварыў на тэму: „Амэрыка край багацтва“. У паветры чуць было карбітам — І тут таксама, ...загучаць магутныя прамысловыя заводы. Запульсуюць паровыя молаты. Жыцьцё возьме шалёны радасны разгон, — кончыў лектар. Ізноў асьвятлілі салю. Было тут многа дзяцей школьных, чыстых і вымытых, якія спакойна і дысцыплінавана пачалі апушчаць салю, уступаючы ў праходзе старшым.— Скуль узяліся гэтыя дзеці? дзівіўся Васілевіч, цалком вымытыя. Гэткіх на „Kresach“ дагэтуль ня было!— Беларускія дзеці — усьмяхнуўся Осьвяцкі, такія сабе дзеці з местачковага няхлюйства нават і праваслаўныя. Чаго-ж вы хочаце, нядарма існуе нашая „повшэхная“ школа. Шэсьць год б'ём галавой у мур, але й у муры дзіру можна зрабіць. А цяпер пакажу вам ілюстрацыю да лекцыі. Завёў яго на чыста ўтрыманы сквэрык. Пасярэдзіне на горцы стаяла альтанка. Васілевіч прыпомніў сабе, што тут у сьвята часам грала аркестра.— Перад вайною тут нічога ня было — гаварыў Осьвяцкі, цяпер глядзеце: тутака новая чыгуначная станцыя, тут школа, там — направа — тартак, побач завод імпрэгнаваных шпалаў. Тыя шырокія дахі за вёскай — гэта фабрыка гнутых мэбляў“.

У параўнаньні з папярэднім абразом беларускага барбарызму такой мілай і будуючай атмосфэрай вее з вышэйпададзенага фрагмэнту, што неяк проста непрызваітымі выдаюцца думкі аб недахопах у навуцы беларускіх дзяцей, прайшоўшых праз польскія школы і іншыя культурныя пляцоўкі, створаныя і кіраваныя п.п. Осьвяцкімі.

Калі прыгледзімся да розных трікаў „шаноўнай пані Savitri“ дзеля задэмонстраваньня вышэйшай місыі вышэйшага народу, прыходзяць на думку лекцыі п. Carlo, каторы нядаўна аб'яджаў гарады Польшчы з мэтаю папулярызацыі італіянскае місіі ў Абісыніі. Дык вось гэты прэлегент пасьля сваіх адчытаў раздаваў

альбумы затытулаваныя панямецку: „Was Genf nicht sehen will“ (Чаго Жэнэва ня хоча відзець). На аднэй старонцы альбуму пахілая ўбогая хацінка — гэта коптыйская царква ў „Аддіс-Абэбе, побач багацейшы храм у найлепшым стылю — гэта таксама коптыйская царква, але ўжо ў Асмары (Італіянская Эрытрэя). Далей, гара трупаў гніючых, зьверска пакалечаных абісынскімі бандытамі (відочна на тэрыторыі пад уладай нейкага абісынскага раса). Побач элегантныя сёстры і лекары італіянскага чырвонага крыжа перавязваюць і лечаць абісынскіх дзяцей. З аднаго боку зьдзічэньне і заняпад, з другога культура, поступ, сьвятло. Што да гэтага альбому, выданага італіянскім Ministerio della Stampa e Propaganda, дык наіўнае і мала пераконваючае разьмяшчэньне ілюстрацыяў мала каго засугэруе, а што датычыць кніжкі п. Загорскай, дык тасаваньне падобных спосабаў у адносінах да народу даўшага бацькаўшчыне шаноўнай пісьменьніцы Міцкевіча, Касьцюшку, Матэйку і інш., выклікае думку аб агіднай духовай арганізацыі пэўных экзэмпляраў роду чалавечага.

Цяпер некалькі слоў аб фабуле раману.

Збанкрутаванага абшарніка Васілевіча, кокаіністага і п'яніцу цёмныя сілы абкружаюць, стараючыся ўцягнуць у Грамаду. Найбольш у гэтым кірунку працуе панна Антаніна, каханка Васілевіча. Васілевіч мае сымпатыі да беларускай справы, ён беларус з паходжаньня, але ягоная арыстократычная душа баіцца соцыяльнага радыкалізму беларусаў.

Грамадаўцы, з якімі ён спатыкаецца, паслы Грыб і Смарчок, абяцаюць яму на ўласнасьць маёнтак Васілева, адзіны, каторы астаўся на гэтым баку граніцы; абяцаюць на выпадак захвату ўлады грамадаўцамі. Гэта яго абурае. Пад уплывам панны Антаніны, ён кідае жонку, з каторай у яго непаразуменьні нацыянальнага характару, прычым ён маніцца перайсьці на праваслаўе. Але ў Васілевіча падвойная душа: адна польская, а другая беларуская. Ён прыглядаецца да дзейнасьці гурткоў Грамады і гэта яго адцягвае ад беларускай справы. Ён жыве то ў Варшаве, то ў нейкім беларускім мястэчку. Аднойчы ён выбіраецца ў свой маёнтак Васілева, каторы знаходзіцца над самай граніцай. Тамака скамунізаваныя сяляне, пазнаўшы ў ім гаспадара ўласнасьці, з каторай яны тымчасам карысталі, пры помачы загранічных камуністаў хочуць забіць Васілевіча. Прыпадкова ён ратуецца, варочаецца ў Варшаву, дзе жонка ягоная ўмяшчае яго ў санаторыю. Падзеі над граніцай вылячылі яго з беларускасьці, а санаторыя ад п'янства і кокаіны. Ён асядае ў сваім маёнтку з жонкай і дачкой, астаючыся верным сынам польскага народу.

Трудна і непатрэбна адтвараць зьмест кнігі. Важна тое, што ўсе беларусы, паводле аўтаркі,—гэта грамадаўцы камуністы. Іншых яна ня ведае. Іншыя нарушылі-б конструкцыю ейнае кніжыцы. А наагул аўтарка „добра“ азнаёмленая з беларускай гісторыяй і літаратурай. Аб літаратуры яна, вуснамі сваіх пэрсонажаў,



заяўляе: уся беларуская літаратура можа зьмясьціцца на аднэй паліцы; што да гісторыі, дык беларусы толькі два разы сябе выявілі — забіваючы Язафата Кунцэвіча і разьбіваючы двары падчас бальшавікоў. Коратка і ясна. Ад гэткіх „мудрасьцяў“ у кніжыцы аж роіцца. Delirium tremens галоўнага героя раману перайшло на асобу аўтаркі-эстэткі. Што п. Загорская эстэтка з вельмі субтэльным пачуцьцём не падлягае ніякаму сумніву; яна шалее за Грігам, найбольш ёй падабаецца песьня Сольвэйгі з Пэр Гінта. Толькі неяк дзіўна пераплятаецца ў гэтай эстэткі песьня Сольвэйгі з гэткімі краскамі, як: „szerokomordy i wyłupiastooki okaz rasy białoruskiej“ (бач. 92).

Але трэба скончыць з Загорскай Savitri і з яе „Truciznami“. Выйшаў з друку гэны „шэдэвр“ даволі даўно, яшчэ ў 1931 годзе. Крытыкай займацца ўжо неактуальна. Мы закранулі гэта толькі ў сувязі з агульнай тэмай. Не адрэчы тут яшчэ адцеміць, што ў чэрвені месяцы бягучага году апэляцыйны суд у Львове сканфіскаваў повесьць Гоголя „Тарас Бульба, як абражаючую годнасьць польскага народу („Expres Poranny“, № 154, 4-VI-1936 г.). Ці не магла-б, прыкладам, віленская пракуратура на „Trucizny“, цкуючыя на 3 міліёны беларусаў у Польшчы, знайсьці адпаведны параграф?

Гаворачы аб „Litwa i Białoruś“ Лявона Васілеўскага, трэба засьцерагчыся, што гэтая кніга зусім іншага характару. Гэта нарыс гісторычна-палітычны нацыянальных адносін, утрыманы ў тоне корэктным і прызваітым. Разглядаючы старадаўны пэрыяд беларускай гісторыі, аўтар адзначаецца, нават, нікаторым об'ектывізмам. Аўтар паклікаецца на нікаторыя жаролы — відны ў ім натугі да сумленнага выкананьня працы, апрача таго ён адумысловец у справах нацыянальных меншасьцяў у Польшчы. Але вось закранаючы Ф. Багушэвіча, п. Васілеўскі робіць памылку, уласьцівую амаль усім польскім літаратарам і крытыкам. Паводле ягонае думкі, Багушэвіч зьяўляецца прадстаўнікам нацыянальнай беларускай літаратуры (перад гэтым п. В. абгаварвае літаратуру польска-беларускую), будучы сам паляком і культурна і нацыянальна.

Тут ёсьць пэўная непрадуманасьць.

Калі ў адносінах да літаратуры польска-беларускай (Ян Баршчэўскі) п. Васілеўскі кваліфікуе тварцоў яе, як палякоў, дык у гэтым з ім можна згадзіцца, але называючы Багушэвіча паляком нацыянальна і адначасна „зьвястуном“ новага этапу разьвіцьця беларускага пісьменства — літаратуры нацыянальна-беларускай, — папаўняе лёгічную памылку.

Далей, у разьдзеле аб нямецкай окупацыі, гаворачы аб зносінах „Гоману“ з Ober-Ost'ам, п. Васілеўскі прыгадуе розных расейскіх „палітыкаў“, наракаўшых на „заплёмбаваны вагон“ Леніна.

Разглядаць кнігу Лявона Васілеўскага „Litwa i Białoruś“

не ўваходзіць у нашае заданьне і зусім неактуальна. Ідзе толькі аб тое, што яна таксама дае скрыўлены перакрой беларускага культурна - палітычнага жыцьця. І ідзе яшчэ аб тое, што яна, таксама як і „Trucizny“, ляжыць у найбліжэйшым засягу розных Шантыраў і п. Саt'аў з віленскага „Слова“ і іншых „прыяцеляў“ беларускага народу.

Разглядаючы выданьні, каторыя прычыніліся да пашырэньня і, калі гэтак можна выразіцца, да ўстабілізаваньня зьвягі на беларусаў і беларускую справу, прыходзіць на думку, што нятолькі чужыя шовінізмы адыгрываюць тутака галоўную ролю.

Нейкае толстойскае непраціўленьне сілай злу, нейкі пасыўны усходні дух рабіндранаттагорызму лунаў над нашым адраджэньнем. Вельмі сымптоматычна, што ў найцікавейшага пісьменьніка нашаніўца Гарэцкага, у найлепшай повесьці „Антон“, як тоно знаходзім словы з Талстога.

Дзеля таго, што ў адраджэнскай літаратуры былі толькі „пэйзанскія“ настроі (не мотывы: мотывы іншыя не маглі быць), без фэерычных бліскаў, — дык адсутнасьць эфэктаў таксама стварыла ў суседзяў малое зацікаўленьне справай, якая ў недалёкай будучыні змусіць іх да крыху лепшага трактаваньня...

Думаем, што калі-б беларускае Адраджэньне паказалася з „гулкім гоманам грымотаў“, як многа пазьней камандаваў арлянятам Купала, дык напэўна гэткага роду літаратура не знайшла-б сабе выдаўцоў.

Тэза, што беларус „таксама“ хоча жыць на сваёй зямельцы, была вынікам малой кінэтычнасьці беларускага руху (пры вялікай дынамічнасьці). А гэтае апошняе ці ня ёсьць вынікам адсутнасьці гісторыёзофіі? Ці ня ёсьць найвялікшым злом, што вялікі народ з вялікай гісторыяй ня мае апрацаванай гісторыёзофічнай думкі? Ці ня гэта стварае спрыяючы грунт для дзейнасьці Саt'аў, Шантыраў і для пашырэньня „Truciznaй“?





## Міхась Машара — „Лёгкі Хлеб“. Драма ў трох актах з жыцьця вясковай моладзі.

Выд. „Беларускай Крыніцы“. Вільня, 1936 г. бач. 63, 20 × 13.

Міхась Машара, як бачым, піша нятолькі вершам, але так-жа й прозай. Вось прад намі гэтак напісана, выдана яшчэ сёлета летам, драма „Лёгкі Хлеб“. Першы акт і другі адбываецца на сяле і адначасна, а трэці ў Вільні гады два пазьней.

Фабула драмы гэткая. Вясковая дзяўчына, дачка багатага селяніна, атрымала сякую-такую асьвету і адбілася ад роднага асяродка. Яна ўжо чураецца сваіх таварышаў вясковых хлапцоў, заглядаецца на нейкага валацугу, дарожнага майстра, быўшага афіцэра Крукоўскага і ўрэшце аддае яму сваё сэрца. Чаму так? Дзе прычына такой драматычна-фальшывай псыхікі вясковай дзяўчыны? У цемнаце агулам і ў нацыянальнай нясьведамасьці. Вера атрымала пачаткі асьветы, як відаць з яе любасьці да русыцызмаў, у чужой расейскай школе. Школа гэта, замест аткрыць ей вочы на праўду, яшчэ больш яе зацямняла й вучыла пагарджаць усім родным, беларускім: пагарджаць сваей мовай, працай, усім вясковым бытам. Вось-жа Вера добра і вялікую мерку прысвоіла сабе гэтага фальшу й лятуцела аб нечым лепшым, „цілігентным“, аб нейкім страйнейшым і лягчэйшым жыцьці, аб „лёгкім хлебе“, агулам гаворачы.

Крукоўскі, па празваньню сялян Крук, нейкі здэморалізаваны прыблуда балаховец, гэты трагічна-фальшывы настрой вясковай дзяўчыны спрытна выкарыствае. Ён, зайграўшы роль „цілігента“, аб якім Вера ружова лятуцела, прыкінуўся ўлюбленым, — лёгка здабыў яе сэрца і... пасаг. Лявон Мутэрка, бацька Веры, разумны селянін, усю гэту трагічную хлусьню прынамсі часткова разумеў і на жанімства Веры з Крукоўскім рашуча быў праціўны. Вера з Круком рашылі ўцякаць у горад і там ажаніцца. Спрыяючы дачцэ і шкадуючы яе маці Альжбета благаслаўляе іх на гэта і тайком ад мужа дае ім значную суму грошаў.

Мэта дасягнута. Крук аб жанімстве й ня думае. Яму былі патрэбныя грошы. Ён іх здабыў, а Веру кінуў. Шмат ей прышлося цярпець, галадаваць. Здабывае ўрэшце працу ў сталоўцы. І толькі цяпер, пад уплывам цярпеньняў маральных і фізычных, а так-жа дзякуючы добрым і сьветлым людзям, добрая і разумная ад прыроды Вера перараджаецца духова. Яна пачынае разумець галоўную прычыну сваей трагэдыі і трагэдыю ўсяго свайго беларускага

народу. У тэй сталоўцы, прыехаўшы з вёскі, прыпадкам спатыкаецца з Верай Пятрусь, вясковы хлапец, каторы шчыра яе любіў, аб чым Вера ведала, але для Крука якога адкінула. Усьміхаецца ім шчасьце, але дарэмна... Вера аддаецца службе ідэі адраджэньня беларускага працоўнага народу. Здабывае яна ўрэшце працу вучыцелькі ў беларускай школе.

Ужо з гэтай — дужа агульна пераказанай — фабулы драмы можна мець паняцьце й аб мастацкай яе старане адносна галоўнай тут асобы Веры, якая сапраўды аўтару ўдалася. Прадстаўлена гэта асоба ў драме проста, ясна, у значнай меры тыпічна, агулам праўдзіва і з тэй паэтыцкай прыкрасай у разьвязцы яе асабістай трагэдыі, якая яе характар увыпукляе, заканчвае і надае ей нешта з вечнай красы мастацкай і маральнай. Адно толькі можна-бы закінуць тут аўтару — гэта памойму псыхолёгічную нязгоднасьць з праўдай у тым пункце характару Веры, дзе яна, спаткаўшы Пятруся, замест пагадзіць, згарманізаваць шчасьце асабістае з грамадзкім ідэалам, уся аддаецца гэтаму апошняму, захаваўшы, праўда, таварыскую з ім дружбу на тым-жа ідэовым беларускім грунце. Вось-жа, факт, што ня выйшла Вера замуж за Пятруся, памойму, ёсьць зьявай псыхолёгічна непраўдзівай. Больш нешта падобнае было-б нармальным у мужчыны, але не ў жанчыны. — Увесь іншы пэрсонаж у драме, за малымі выняткамі, ёсьць добрай „дэкорацыяй“, фонам, дапаўненьнем і завяршэньнем характару й дзейнасьці Веры.

Васіль Лаўручонак, сьлёсар, чалавек разьвіты, сьведамы нацыянальна й клясава, паходзіць з тэй-жа вёскі, жэніцца з аднасяльчанкай Ганулькай, дзяўчынай разумнай і добрай. Гэта пара дужа дабраная. Жыцьцё іх спакойнае і нармальнае, — яно ёсьць кантрастам трагэдыі Веры, яно кідае цёплае сьвятло на яе цяжкае жыцьцё і яшчэ больш аткрывае нагасьць і жудасьць яго.

Рыгор — бацька Лаўручонка і Мар'яна — матка Ганулькі — прадстаўнікі нядаўнай беларускай мінуўшчыны, якія ўжо адыходзяць і якія зьяўляюцца ўжо бадай апошнімі колцамі між нашай мінуўшчынай і сучаснасьцяй.

Лявон Мутэрка — бацька Веры і Язэп Гарачка — гаспадар, у якога кватаруе Крук, першы сваей працавітасьцяй, паглядам на жыцьцё і сваім „чуцьцём“ сутнасьці жыцьцёвай праўды, асабліва адносна справы жанімства сваей дачкі, а другі сваей умеласьцяй падтрымаць добрыя суседзкія адносіны беларускай сялянскай „дыплёмацыяй“, спаўняюць роль свата ад імя Крука — гэта сапраўды мастацкія й праўдзівыя тыпы, якія выдатна дапамагаюць нам зразумець усе тыя абставіны, у якіх расла Вера, а разам з імі і яе жыцьцёвую драму.

Добра так-жа выйшаў у аўтара тып маці Веры Альжбеты. Гэта тыповая добрая маці, любоў якой засланяе розум і звычайнае пачуцьцё рэальнасьці. Хораша і балюча гэта выходзіць, калі яна, выправіўшы ў сьвет Веру, молячыся разважае, што яна зрабіла, што йнакш зрабіць не магла й што жджэ дачку яе?!



Прайдоха Крук змаляваны ў аўтара бадай замала, няпоўна. Мала відаць, чым ён цягнуў да сябе Веру.

Ня сусім праўдзіва прадстаўлены й Пятрусь. Ён распраўляе аб жыцьцёвым матар'ялізме й ідэалізме. Праўда, ён граматны, чытае кніжкі, цікавіцца жыцьцём, з натуры разьвіты, але ўсё-ж астаецца вяскоўцам і, хоць можа быць разумнейшы і не ад аднаго інтэлігента, то ўсё-ж такі ў яго вуснах словы, напр. аб матар'ялізме, — ёсьць зьявай жыцьцёва непраўдзівай.

Агулам уся п'еса напісана жыва, добрай сочнай дзісьненскай мовай, зручна і лёгка зложана ў сэнсе сцэнічным і авеяна яснай думкай: — не адрывайся ад родных карэньняў, не ганіся за „лёгкім хлебам“!

Даводзілася чуць закід, што іменна ў гэтым ідэовым матыве і загана гэтай драмы, а гэта таму, што матыў гэты даўно ўсім ведамы, абкляпаны і ўжо нічога новага не гавора. — Вось-жа я асабіста гляджу на гэта йнакш, галоўны фабулярны матыў гэны ўважаючы ў нашай літаратуры за рэч дадатную й пажаданую: раз, што *„nil novi sub sole“* — нічога новага пад сонцам, як сказаў старадаўны філёзаф, а другі раз, што ў беларускім жыцьці, а знача й у нашай літаратуры, гэткі матыў павінен яшчэ паўтарацца доўга й часта.

Праўда, п'еса гэта здаецца ня будзе лёгкай для пастаноўкі на сялянскай аматарскай сцэне, бо на гэта яна повелікая і запаважная зьместам, але гэта, ведама, не зьмяншае яе вартасьці.

Словам, „Лёгкі Хлеб“ Машары — гэта сусім паважны ўклад у беларускую драматычную літаратуру, як з боку мастацкага, так і ідэовага. Астаецца толькі пажадаць, каб аўтар належна цаніў і драматычны жанр свайго літаратурнага творства.

*Ад. Станкевіч.*

# ХРОНІКА

═ Таварыства Беларускай Школы ў Вільні сёлета сьвяткуе 15-годзьдзе свайго існаваньня. ТБШ у сваім часе было самай магутнай і распашыранай беларускай культурна-асьветнай арганізацыяй у зах.-беларускіх землях. Да 1926 г. мела назоў Цэнтральнай Школьнай Рады, ад гэтага году—ТБШ. ТБШ у змаганьні за асьвету сярод шырокіх гушчаў беларускага народу зарганізавала 11 Акружных Упраў (Баранавічы, Беласток, Вялейка, Горадня, Глыбокае, Ліда, Наваградак, Мір, Косаў, Слонім, Сьвіслач), каля 500 гуртkoў (1929 год), болей 250 бібліятэк-чытальнь і болей сотні народных дамоў. За ўвесь час існаваньня Т-ва толькі Галоўная Управа Т-ва зарэгістравала 10.179 сябраў. Пасьля прыняцьця Соймам у 1924 годзе г. званых языковых законаў, Т-ва змагалася за ўрадовую беларускую школу. На працягу да 1929/30 школьнага году было складзена некалькі дзесяткаў тысяч школьных дэкляpацыяў на больш 412 камплектаў школ, у выніку чаго школьныя ўлады адчынілі толькі каля 65 урадавых „беларускіх" і г. зв. утраквістычных школ, якія аднак з часам у большасьці перасталі існаваць, бо ператвораны ў школы польскія. — У 1928 годзе пачынаецца дзяржаўна-адміністрацыйнымі ўладамі масавая ліквідацыя Т-ва. Сяньня Т-ва налічае ўсяго некалькі гуртkoў.

Міма вонкавых перашкод, Т-ва ўсьцяж працуе, і зараз у Галоўную Управу Т-ва з многіх месц паступаюць заявы аб адчыненьні новых і „завешаных" гуртkoў.

ТБШ супольна з Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры сёлета 28 лютага прыступілі да правядзеньня акцыі дамаганьня беларускае школы. Дзеля гэтага ўтварылі Школьны Сакратарыят (Вільня, Каралеўская 3—8).

З увагі на прыпадаючы сёлета юбілей 10-годзьдзя існаваньня другой, масавай і заслужанай для беларускага культурнага адраджэньня і вызваленьня, арганізацыі — Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, ёсьць думка супольнага зарганізаваньня ўрачыстага сьвяткаваньня юбілеяў ТБШ і Інстытуту.

═ У канцы гэтага году мінае 15 гадоў ад заклaдзінаў Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні. Як ведама, Музэй паўстаў са збораў с. п. Івана Луцкевіча, які ўжо ў 1918 годзе падараваў гэты бясцэнны нацыянальны скарб Беларускаму Навуковаму Таварыству, закладчыкам якога сам-жа быў. Нажаль, зарганізаваць з гэтых збораў публічны музэй ахвярадаўцы не давялося: 20 жніўня 1919 году Іван Луцкевіч памёр. Т-ва распачало арганізацыйную працу толькі ў канцы 1921 году, атрымаўшы дзеля гэтага бясплатнае памяшчэньне ў Базыліянскіх мурох (Вострабрамская 9), належаўшых тады йшчэ да праваслаўнага духавенства. З таго часу работа ў Музэі ужо ня спынялася, а лічба рэчаў у ім усьцяж узрастала дый узрастае.

═ Архіў беларускага адраджэнскага руху. У Беларускім Музэі ёсьць багаты архіў—як старых актаў (ад XV стаг.), так і датычачых беларускага адраджэнскага руху. За мінулае лета праца над упарадкаваньнем архіву адраджэнскага руху значна пасунулася наперад, і цэлы рад асобаў ужо меў магчымасьць карыстаць з яго.

═ Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні атрымаў два невялікія сшыткі першых паэтыцкіх твораў Якуба Коласа з 1898 году. Творы гэтыя—вершы і проза—былі пісаны падчас вучэньня паэты ў расейскіх школах, дык Колас карыстаўся сьпярша расейскай мовай. Сшыткі няпоўныя, не хапае ў іх паасобных лісткоў. Паводле слоў ахвярадаўцы, Міхася Міцкевіча (брата паэты), гэткіх сшыткоў было больш, але яны недзе загінулі.



Гожа адзначыць, што ў музэйным архіве пераховываецца шмат рукапісаў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў: Коласа, Купалы, Максіма Багдановіча, Зьмітрака Бядулі, М. Гарэцкага, Ул. Жылкі і іншых.

═ Літаратурныя пятніцы. Дзеля ажыўленьня беларускага літаратурнага руху, наш часапіс арганізуе літаратурныя зборкі, г. зв. літаратурныя пятніцы. На „пятніцах" учасьнічаюць беларускія паэты, пісьменьнікі і іншыя прадстаўнікі пяра, што цікавяцца літаратурнымі праблемамі і рухам. Першыя дзьве „пятніцы", якія адбыліся ў канцы верасьня, прысьвечаны справам арганізацыі як самых „пятніц", так і справе арганізацыі Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і журналістаў; апрача таго, Максім Танк прачытаў чацьвёртую частку сваей паэмы „Нарач" і іншыя творы. У парадку дзенным чарговых пятнічак — справа арганізацыі „Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і журналістаў" і чытаньне лібрэтта да беларускай опэры „Курган", якую мае намер апрацаваць кампазытар Грэчанінаў. Лібрэтто напісаў мгр. Я. Хвораст.

═ Адміністрацыйныя ўлады ў Вільні ў другой палавіне ліпня сканфіскавалі зборнік вершаў маладога уталентаванага беларускага паэты і пісьменьніка Максіма Танка, нашага супрацоўніка. Зборнік мае назоў „На этапах", зьмяшчаў на 9-х аркушах фармату васьмёркі больш сотні мастацкіх вершаў — прадукт творчай працы паэты апошніх гадоў.

═ Дня 6-га кастрычніка віленская радыёстанцыя надавала аўдыцыю „Лета на Віленшчыне". Праграма аўдыцыі зьмяшчала рэфэрат, ілюстраваны солёвымі і харальнымі беларускімі народнымі песьнямі, выкананымі памастацку хорам грам Р. Шырмы. З прыкрасьцю зазначаем, што аўтар рэфэрату, гаворачы аб беларускіх традыцыйных звычаях і беларускіх народных песьнях, зусім тэндэнцыйна прамаўчаў, што яны беларускія, — гаварыў аб іх, як аб „нашых", „тутэйшых", сьпяваных там і там (павет), толькі не беларускіх. Радыёвы слухач так і не даведаўся, што мае тут дзела з характвом беларускай народнай традыцыі і песьні.

═ XII-ты Зьезд Саюзу Музэяў. У Варшаве ад 26 да 29 верасьня адбываў нарады што-годні зьезд дэлегатаў Саюзу Музэяў у Польшчы. З Вільні на зьезьдзе быў толькі прадстаўнік Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча; польскія музэі з Вільні дэлегатаў сёлета не пасылалі.

У склад Саюзу ўваходзяць такжа украінскія музэі. На зьезьдзе былі тры украінскія дэлегаты із Львова і Коломыі.

* * *

═ Юбілей Якуба Коласа. Пад кіраўніцтвам камісара асьветы БССР Дзякава адбылося першае паседжаньне Камітэту ўшанаваньня трыццатай гадаўшчыны літаратурнай дзейнасьці народнага паэты Якуба Коласа. На паседжаньні вызначаны тэрмін юбілейных урачыстасьцяў. Сьвяткаваньне юбілею адбудзецца паміж 5 і 15 кастрычніка. Урачыстая акадэмія ў чэсьць Якуба Коласа адбудзецца 11-га кастрычніка, у памешканьні Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру ў Менску.

═ Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў БССР, у сувязі з юбілеем Якуба Коласа, вызначыў дэлегатаў, каторыя ў работніцкіх і чырвоноармейскіх клюбах прачытаюць рэфэраты аб жыцьці і творчасьці юбіляра. З рэфэратамі выступяць: паэт А. Александровіч, прафэсар Браншэйн, акадэмік Замоцін, паэты: Гурскі, Глебка Пятрусь, Броўка Пятро і іншыя. — Апроч таго выдзеляваны дзьве брыгады пісьменьнікаў дзеля зарганізаваньня юбілейных рэфэратаў у местах Беларусі — Гомелі, Бабруйску, Віцебску, Магілёве і інш.

14-га кастрычніка адбудзецца ў Доме Пісьменьніка БССР у Менску прыняцьце Якуба Коласа. У прыняцьці возьмуць учасьце прадстаўнікі літаратуры іншых савецкіх рэспублік. Нумар 10 беларускага савецкага літаратурнага журналу „Полымя Рэвалюцыі" будзе юбілейным нумарам.

== Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў БССР, пачынаючы ад кастрычніка месяца, арганізуе літаратурныя вечары. Вечары будуць адбывацца два разы ў месяц.

== Інстытут асьпірантуры для маладых пісьменьнікаў Беларусі арганізуе Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў БССР. Інстытут пачне працу ў 1936—37 акад. г. Заданьнем Інстытуту — паглыбленьне веды пісьменьнікаў у галіне марксістоўска-ленінскага літаратуразнаўства, гісторыі старасьвецкай заходнеэўрапэйскай і рускай літаратуры, а таксама знаёмасьць з іншымі галінамі мастацтва (гісторыя тэатру, малярства). У Інстытут асьпірантуры будуць прыймацца толькі тыя пісьменьнікі, што маюць вышэйшую асьвету.

== Выйшла з друку кніжка п. з. „Беларуская Савецкая Паэзія" — рэфэрат паэты А. Александровіча, прачытаны на трэцім пленуме Саюзу Пісьменьнікаў СССР. Кніжка ілюстравана партрэтамі пісьменьнікаў БССР.

== Над чым працуюць пісьменьнікі Сав. Беларусі? Міхась Зарэцкіпіша сцэнічны твор, абаснаваны на повесьці Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна „Дуброўскі" (для другога дзяржаўнага беларускага тэатру), Самуйлёнак піша раман з жыцьця Грузіі „Будучыня", І. Гурскі піша сцэнічны твор „Кастрычнік на Беларусі", Васіль Каваль прыгатаваў да друку зборнік выбраных навэль і піша раман „Патомкі пасынкаў" з жыцьця калгаснай вёскі, Мікола Хведаровіч піша паэму аб паўстаньні ў Гомелі а таксама перакладае на беларускі язык паэму Пушкіна „Каўказскі пленьнік", Барыс Мікуліч піша раман „Скрыпка", Алесь Дудар, Пятрусь Глебка, Аркадзь Куляшоў — перакладаюць на беларускі язык паасобныя творы Пушкіна („Аўгені Анегін", „Барыс Гадуноў", „Цыганы").

== Новая п'еса Якуба Коласа. Народны паэт Якуб Колас напісаў новую п'есу „Вайна вайне". П'еса напісана спэцыяльна для другога дзяржаўнага беларускага тэатру. П'еса будзе адыграна на сцэне ў сьнежні месяцы.

== Усебеларускі (Сав. Беларусь) Дом Народнай Творчасьці. СНК БССР пастанавіў адкрыць у пачатку будучага году ў Менску Усебеларускі Дом Народнай Творчасьці. Дом Народнай Творчасьці будзе сыстэматычна арганізаваць дзеля паказу дасягненьняў мастацкай самадзейнасьці алімпіяды і выстаўкі. Кіраўніцтва дзеля спраў мастацтва цяпер займаецца падборам кваліфікаваных сілаў для Дому Народнай Творчасьці.

== 15-га верасьня пачаў спэктаклі ў Менску Беларускі Дзяржаўны Тэатр Опэры і Балету. Тэатр будзе працаваць у Менску да 1-га студня. У рэпэртуары тэатру, у гэтым часе, — опэры: „Еўгені Анегін", „Рыгалето", „Пікавая дама", „Кармэн", „Сэвільскі цырульнік", балеты — „Капэлія", і „Канёк гарбунёк". Тэатр у гэтым сэзоне будзе так-жа працаваць над беларускай опэрай „На Купальле", музыку якой пішыць беларускі кампазытар Туранкоў.

== Вясной 1937 году адбудзецца ў Парыжы міжнародная выстаўка „Мастацтва і Тэхнікі сяньняшняй пары". На выстаўку запрошана Савецкая Беларусь (БССР).

*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*





## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш.

**Rajmund Gostkowski,** Kapłani i Kapłanki w sztuce kreteńsko-mykeńskiej i greckiej. Вільня 1936.
**Balticoslavica,** т. II. Вільня 1936.
**Rola Słowaczyzny w militarnym sojuszu Czechów z bolszewicką Rosją,** Варшава 1936.
**Жінка,** ч. 13—14. Львоў 1936.
**Назустріч,** ч. 13, 14, 15, 16, 17, 18, 19. Львоў 1936.
**Богословія,** кн. 2—3. Львоў 1936.
**Вістнік,** кн. 9, 10. Львоў 1936.
**Дзвони,** ч. 3, 6—7, 8—9. Львоў 1936.
**Рідна Мова,** ч. 8, 9, 10. Варшава 1936.
**Нова Хата,** ч. 18. Львоў 1936.
**Обрії,** ч. 21—22, 23—24. Львоў 1936.
**Katolik,** č. 11. Прага 1936.
**Život,** č. 14—15, 16—17, 18. Прага 1936.
**Pax,** № 9. Вільня 1936.
**Oriens,** № 4, 5. Варшава 1936.

**Ад Рэдакцыі:**

Рэдакцыя просіць ПТ сваіх супрацоўнікаў найхутчэй прысылаць літаратурны і навуковы матарыял да друку ў наступныя кніжкі „Калосься".

# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС

Кніжка 5(9) 1936 г. Год II





БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ПАЭТ
ЯКУБ КОЛАС.

ВІЛЬНЯ 1936 ГОД

**Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—2.**

Складка на год—2 зал., на паўгода—1 зал.
Адна кніжка — 50 гр.

**Часапіс выходзіць раз у тры месяцы**

## Зьмест кніжкі 5(9) „Калосься“





**Ад Рэдакцыі:**

Рэдакцыя просіць ПТ сваіх супрацоўнікаў найхутчэй прысылаць літаратурны і навуковы матар'ял да друку ў наступныя кніжкі „Калосься“.

Белар. Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.

# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 5(9)** **1936 г.** **Год II**

*МІХАСЬ МАШАРА*

## *Хмары над Нёманам*

*пп. ЯКУБУ КОЛАСУ*

*I.*

*— Бура ідзе — сьцеражыцеся!*
*Нёмана хвалі шумяць, —*
*— Хто з вас гатоў —*
*адклікніцеся*
*Стоячы буру спаткаць!*

*Тысячы год я тут хвалямі*
*Б'юся і рву берагі,*
*Колькі ўжо песьнямі славілі*
*Шлях мой бурліва-даўгі.*

*Здаўна вас знаю, рахманыя*
*Дзеці маіх берагоў,*
*Вашу нядолю паганую*
*Столькі ўжо бачыў вякоў.*

*Песьні тужліва-балючыя*
*Так надакучылі мне, —*
*Сёньня бунтарна-кіпучыя*
*Думкі нясу на хрыбце.*

*Гэй дудары, мае лірнікі,*
*Дзе вы падзеліся, дзе?*
*Гляньце на вёскі - магільнікі, —*
*Грозная бура паўзе!*

*Дзе вы падзеліся звонкія?*
*Столькіх я тут гадаваў,*
*Хмары ізноў над старонкаю*
*Вецер шалёна нагнаў.*

II.

*Чорныя хмары павісьлі над вамі.*
*Шэрыя будні трывожна ідуць.*
*Злыдні заломы на шлях ваш радамі*
*Ў цемры трывожнай бяз спынку кладуць.*

*Хочуць каб спалі, як спалі вякамі,*
*Хочуць каб вечна служылі камусь,*
*Хочуць каб вера патухла ў народзе, —*
*Зноў каб жабрачкай была Беларусь;*

*Хочуць каб матцы у сумныя вочы*
*Родныя дзеці плявалі ізноў;*
*Здраду гадуюць, шукаюць ахвочых.*
*Сеяць атруту у душы братоў.*

*Хочуць ізноў, каб няволі пакора*
*Рабскай пячаткай лягла вам на твар,*
*Зноў стала цёмна, як ноччу у боры,*
*Зноў стаў патрэбным юдаш і гандляр.*

*Зноў каб блудзілі... на вошчуп рукамі*
*Сьцежку шукалі да ўласнай душы...*
*Чорныя хмары павісьлі над вамі, —*
*Дыхаць чым будзеце ў мёртвай цішы?*



III.

*КОЛАС, Вялікі наш КОЛАС!*
*Чуеш, як Нёман гудзе?*
*Чуеш?.. Знаём яго голас,*
*Думаю, добра Табе.*

*Тут Тваіх думак калыска,*
*Раніца песьняў Тваіх.*
*З даляў сягоньня няблізкіх*
*Тужыш, магутны, па іх.*

*Нёман нічым нястрыманы,*
*Вольны заўсёды, як быў,*
*Сёньня тугой ўсхваляваны*
*Грозна стары забруіў.*

*Б'юцца гарбатыя хвалі,*
*З ветрам шумяць лазьнякі,*
*Гоман плыве над палямі.*
*Гоман трывожны ракі.*

*Слухаюць вёскі і сёлы*
*Нёманаў гоман — тугі,*
*Восені сум невясёлы*
*Коўдрай накрыў берагі.*

*КОЛАС, Вялікі наш КОЛАС!*
*Чуеш, як Нёман гудзе?*
*Нёман з Табою гуторыць —*
*Шле прывітаньне Табе!*

# На пройдзеным шляху

**(У 30-тыя ўгодкі творчае працы Якуба Коласа)**

Дзесяць гадоў таму назад, калі ўся культурная Беларусь спраўляла дваццацілецьце паэтыцкае творчасьці Якуба Коласа, праф. Замоцін пачаў сваю стацьцю аб Коласе *) гэткімі словамі:

„Дваццацілецьце літаратурнае дзейнасьці — гэта ня звычайная юбілейная дата: гэта — мяжа, за якою для працаўніка пяра пачынаецца ці гістарычная вядомасьць, ці — гістарычнае забыцьцё“.

Сёлета мы спраўляем новы Коласаўскі юбілей — трыццацілетні. І, дапаўняючы ўдатны афорызм праф. Замоціна, можам сказаць, што новы юбілей — гэта мяжа, з аднаго боку якое асталася большая частка жыцьця Коласа, з другога — невялікі ўжо астатак жыцьця, у каторым трудна спадзявацца нечага новага, нечаканага. Дык маем права разглядаць творчасьць Коласа блізу як закончаную: такіх глыбокіх зьмен у навакольным жыцьці, якія бачыў Колас, ды якія адбіліся на ягонай псыхіцы і творчасьці вельмі ярка, яму бадай што пераажыць другі раз не давядзецца.

Гэта аблягчае задачу аглядчыка творчасьці Коласа, дае магчымасьць поўнага адтварэньня ягонага духовага абліччa — бяз рызыка, што напісанае аб паэце сягоньня можа аказацца няправільным заўтра — з прычыны зьмены гэтага абліччa. Мастацкая-ж веліч паэта, прызнаная згодна ўсімі крытыкамі ўжо дзесяць гадоў таму назад, напэўна за гэты час не паменшылася: Колас, ня спыняючыся, ідзе ўсьцяж наперад.

У творчасьці Коласа бачым д в а  і д э о л ё г і ч н ы я  п э р ы я д ы. Першы — гэтак званы *„нацдэмаўскі“* ці нацыянальна-адраджэнскі, які абыймае час ад пачатку паэтыцкае працы юбіляра ажно да першых год БССР, другі — *„пралетарскі“*. Хоць у абодва пэрыяды Колас быў і астаўся тым-жа вялікім мастаком слова, творчасьць яго з ідэолёгічнага боку рэзка зьмянілася. І дзеля гэтага т э м а т ы к у  і  і д э о л ё г і ч н ы  з ь м е с т творчасьці нашага юбіляра з абодвух пэрыядаў трэба разглядаць асобна.

## I.

П э р ы я д  н а ц ы я н а л ь н а - а д р а д ж э н с к і быў найбольш плодны. Гэта ён даў славу паэту; гэта на падставе апублікаваных у гэтым пэрыядзе мастацкіх твораў Коласа ўрад Савецкае Беларусі даў яму ў 1926 годзе пачэсны тытул „народнага паэты“. У творах гэтага пэрыяду Колас, геніяльны артыста-маляр, намаляваў жывым мастацкім словам усё тое, чым жыў беларускі

*) Зборнік „Якуб Колас у літаратурнай крытыцы“, Менск, 1926.



вясковы народ, беларуская народная інтэлігенцыя, урэшце — сам паэт, каторы, хоць ужо інтэлігент — народны настаўнік, астаўся верным сынам узгадаваўшае яго вёскі. Характэрнай рысай творчасьці Коласа было тое, што ён не даваў лішняе волі фантазіі, а маляваў запраўднае, зусім рэальнае беларускае жыцьцё, выліваў у сваіх лірычных вершах свае настроі і пераажываньні зусім шчыра і беспасрэдна. Нават абразы прыроды — гэта адбітак тых мяйсцовасьцяў, дзе праводзіў паэт свае дзіцячыя дні. Нават дзеючыя асобы — і тыя сьпісаны з натуры. — Творчасьць Коласа гэтага пэрыяду прадстаўляе гэтак ня толькі вялікую мастацкую цэннасьць, але адначасна і нязвычайна важны жыцьцёвы дакумэнт.

Пачаў Колас з пісаньня лірычных вершаў, і на іх мы ў першы чарод мусім затрымацца: яны-ж найлепей знаёмяць нас з унутраным сьветам, з духовым абліччам паэта.

Звычайна прынята лірыку паэта разглядаць у сувязі з ягоным жыцьцём, якое яе тварыла. Аднак дзеля падрабязнага азнаямленьня з жыцьцём юбіляра мы адашлём чытача да зьмешчанае ў гэтым жа нумары часапісу аўтобіографіі Коласа, напісанай ім у 1926 годзе, і пры разглядзе твораў Коласа будзем адзначаць толькі тыя мамэнты ягонага жыцьця, якія беспасрэдна вяжуцца з яго творчасьцяй.

---

Першыя лірычныя вершы свае пісаў Колас — п а р а с е й с к у. Няхай гэта ня пужае нашых „нацыянальных пурыстаў“: у той час, як гэта дзеялася, ня было йшчэ шырокага беларускага нацыянальнага руху, не існавала й беларускае грамадзянства, аб'яднанае нацыянальнай сьведамасьцяй, ды толькі адзінкі, часта нічога ня ведаўшыя адна аб аднэй, пробавалі нешта рабіць для беларускае справы — на ўласную руку. А Колас да таго-ж вучыўся граматы ў р а с е й с к а й мове, пасьля хадзіў у р а с е й с к у ю народную школу (іншых ня было!), а ў канцы 90-ых гадоў мінулага стагодзьдзя паступіў у р а с е й с к у ю - ж вучыцельскую сэмінарыю. Падчас навукі знаёміўся з расейскай паэзіяй і, узіраючыся на яе, у паэтыцкую форму ў чужой мове выліваў свае ўласныя пачуцьці, сваю любоў да роднае вёскі і да Зямлі Беларускае. Толькі пазьней — пад уплывам прыпадкова папаўшага яму ў рукі беларускага вершыка Янкі Лучыны „Стары лясьнік“ — пачаў Колас тварыць і ў беларускай мове, хутка зусім пакінуўшы пісаньне парасейску.

Што-ж было тэмай лірыкі Коласа? Што яго так узварушала, што пабуджала да тварэньня?

Перад усім — навакольнае жыцьцё, якое бачыў. Прырода, яе хараство — часам яркае, сонечнае, але пераважна — сумнае, агорненае дымкай тугі, як быццам адбіваючае сум і тугу народу-гарапашніка, што на роднай зямлі ад вякоў працуе ў голадзе й холадзе, зьдзеку й паняверцы, — вось найчасьцейшыя тэмы

лірыкі Коласа. Абразы, якія Колас малюе, гэткія жывыя, гэткія плястычныя, што папросту стаяць нам уваччу. А побач з прыродай — гора народнае, галіта беларускае вёскі ўзварушаюць паэта ад наймаладзейшых гадоў, праведзеных на вёсцы. Узварушаюць гэтак глыбака, што ў адным з першых вершаў, напісаных у беларускай мове падчас агульнага ўздыму народных мас усяе Расеі ў 1905 годзе, паэт з нязвычнай яму рэзкасьцяй зварачаецца да „багачоў і панства“, пагражаючы за крыўды народныя — шыбеніцамі... („Ворагам“). Але гэткіх выбухаў у Коласа мала, і ён пераважна з болем у сэрцы малюе народнае жыцьцё — з усімі яго нягодамі, і глыбокім, шчырым спогадам сярмяжным братом вееcompleted ад кожнага радка Коласавых вершаў. Колас сваімі вершамі хоча „раскатурхаць“ цемру й сон народны, разбудзіць нясьведамыя масы, каб павясьці па шляху вызваленьня. Найбольш яркім яго вершам на палітычна-грамадзкія тэмы трэба лічыць той, якім ён — ужо ў канцы першага пэрыяду сваей творчасьці — адгукнуўся на мір у Рызе ў 1921 г. („Беларускаму люду“). Імкненьне да волі народнае зьліваецца ў Коласа з яго ўласным імкненьнем да вызваленьня з-за кратаў падчас адбываньня трохгадовае вастрожнае кары — за ўчасьце ў барацьбе за беларускую школу. Тут — за кратамі — сум па ўтрачанай волі цяжка прыгнятае душу паэта. Тут родзяцца найхарашэйшыя лірыкі Коласа, зьмешчаныя ў зборніку вершаў „Песьні жальбы“ (Вільня, 1910 г.), як: „Песьня няволі“, „Гусі“ і іншыя. Ня менш цяжка, чым вастрог, пераживае Колас тыя гады разлукі з родным краем, якія ён правёў на чужыне — у Маскоўскай, Пермскай і пасьля Курскай губэрні — ад 1915 да 1921 году. Ня пішацца там паэце, а калі й варочаецца да яго Муза ягоная, дык яна вельмі-ж сумная, маркотная. Уся лірыка Коласа глыбака прасякнена ўкаханьнем роднага краю і свайго народу, уся яна адпавядае тэй ідэолёгіі, якая была так характэрна для беларускіх адраджэнцаў „нашаніўскае“ пары.

Шмат спрэчак было ў беларускай літаратурнай крытыцы на тэму аб пэсымізьме лірыкі Коласа. Ці Колас — запраўды пэсыміст? Інакш: ці ягоныя настроі прыгнятаюць, родзяць безнадзейнасьць, ці — наадварот — дапамагаюць прабуджэньню барацьбянае энэргіі дзеля перамаганьня жыцьцёвых нягод? — Крытыка „нашаніўцаў“ ня лічыла Коласа пэсымістам: сум яго вынікаў заўсёды з пэўных об'ектыўных вонкавых прычын, а не з духовае істоты самога паэта. І вершы Коласа не прыгняталі чытачоў, а запраўды-ж вельмі дапамагалі нацыянальнаму і грамадзкаму прабуджэньню іх. Вершы Коласа ў тыя запраўды сумныя часы нязвычайна захоплівалі і маральна падыймалі чытачоў: яны казалі, што нам жывецца блага, але й паказвалі ўперадзе ясьнейшыя гарызонты:

> Хоць вечна мы блукаемся,
> а ўсё-ж такі, хоць некалі,
> ды праўды дапытаемся!



А ў лірычным апісаньні падарожы цялежкай на бясконцых дарогах Беларусі („Думкі ў дарозе“) Колас, малюючы галіту беларускае вёскі, дае побач нязвычайна рэзкую антытэзу ёй у апісаньні панскага палацу, у выніку чаго дасягае такога эфэкту, якога іншыя песьняры не заўсёды могуць дасягнуць нават найбольш бунтарнымі словамі й заклікамі. Колас наагул будзіць нацыянальнае і грамадзкае пачуцьцё ня словамі, ня лёзунгамі, а паэтыцкімі абразамі, якія найлепш гавораць аб ягоным высокім мастацтве.

Характэрная рыса лірыкі Коласа — яго духовая раўнавага, якая нарушаецца толькі вельмі рэдка. А побач з раўнавагай, з гармоніяй духовай займае ў Коласа значнае мейсца спакойны гумар. Але і ў Коласа бываюць мамэнты, калі навакольнае жыцьцё ўсё-ж такі гэту раўнавагу нарушае. Гэтак было, напрыклад, калі ён пісаў успомненыя ўжо вершы свае „Ворагам“ і „Беларускаму люду“. У іншым кірунку адбываецца гэткае-ж нарушэньне духовае раўнавагі ў паэты ў той пераломны для Беларусі мамэнт, калі важыўся лёс новага ладу для яе, калі адзін за адным зьмяняліся тут усё новыя й новыя ўладары („Родныя малюнкі“ 1921 г.). І гэтаму прыроджанаму рэалісьце прадстаўляюцца на родных гонях нейкія зусім нерэальныя ценістрахі, якія будзяць нейкую беспрадметную трывогу, нейкую няпэўнасьць („Звон шыбаў“, „Цені-страхі“, 1921 г.). — Але такі настрой хутка мінае, і паэт ізноў глядзіць з верай у будучыню:

> Куды ні гляне маё вока —
> Усё поўна згоды, дабраты...
> Ты маеш выгляды прарока,
> Наш край пакуты, край сьвяты!

— кажа Колас у вершы „У палёх Беларусі“, які напісаў вярнуўшыся на Бацькаўшчыну пасьля многалетняга бадзяньня на чужыне (1921 г.).

Лірыка Коласа сабрана ў двух зборнічках вершаў: „Песьні жальбы“ (Вільня, 1910 г.) і „Водгульле“ (Менск, 1922 г.). Але памыліўся-б той, хто падумаў-бы, што ў гэтых зборнічках — уся лірычная творчасьць Коласа. Шмат лірыкі знойдзем мы йшчэ ў ягонай цудоўнай паэме „Сымон Музыка“ — у апошнім яе, закончаным і аканчальна апрацаваным выданьні (Менск, 1925 г.)*). На асаблівую ўвагу заслугуюць тут лірычныя ўстаўкі, у якіх паэт малюе свае ўласныя настроі, перажываныя з ускрашэньнем у памяці абразоў роднае прыроды ці даўно забытых уражаньняў, так глыбака ўзварушаючых і кожнага чытача (уступленьне і адрыўкі: „Гэй дарогі ў край шчасьлівы!“, „Гарэў агонь — пагас агонь“ і іншыя). З гэтымі лірычнымі ўстаўкамі неабходна пазнаёміцца кожнаму, хто хоча глыбей заглянуць у песьнярову душу, пазнаць крыніцы творчасьці Коласа.

*) Гэтае выданьне шмат розьніцца ад надрукаванага ў 1918 годзе ў пачаткавай постаці недакончанага йшчэ тады твору Коласа.

Ці-ж трэба дадаваць, што гэтыя вершы, напісаныя ў часе поўнае мастацкае дасьпеласьці паэта, харастовм формы сваей зусім адпавядаюць хараству й багацьцю зьместу? Што мова тут—яшчэ больш дасканалая, што верш—яшчэ больш лёгкі й мілагучны? Гэта-ж рэч сама сабой зразумелая. І гэта-ж— доказ нясупыннага поступу ў разьвіцьці паэтыцкае творчасьці Коласа.

---

Калі ўжо ў лірыцы, дзе абраз служыць пераважна як-бы падставай, дапаможнікам дзеля выяўленьня пачуцьця паэта, мы можам адзначыць малярскія здольнасьці Коласа, дык гэтая асноўная рыса ягонае творчасьці йшчэ больш ярка выявіцца пры разглядзе эпосу Коласа: тут маляваньне ёсьць найбольш істотная частка зьместу.

Эпос Коласа (тут аўтар выступае пад іншай мянюшкай: як *Тарас Гушча*) складаецца з дробных апавяданьняў (у першым пэрыядзе — зборнічкі „Апавяданьні", 1912 г., „Батрак", „Прапаў чалавек", „Тоўстае палена", „Нёмнаў дар", „Родныя зьявы", 1914 г., „Казкі жыцьця", 1921 г.), дзьвюх повесьцяў—„У палескай глушы", 1923 г., і „Ў глыбі Палесься", першых частак закончанае толькі ў апошнія гады трылёгіі, урэшце — дзьвюх вялікіх паэм— „Новая Зямля" і „Сымон Музыка" (1925 г.). Перш, чым падойдзем да разгляду іх, адзначым некаторыя мамэнты з жыцьця паэта, якія выясьняюць зьмест разгляданых твораў.

Як ведама, Колас — гэта сын вёскі. Бацька ягоны, малазямельны селянін, ня мог выжыць з сваей сям'ёй на сваей гаспадарцы і мусіў ісьці на службу да паноў — за лясьніка ў Радзівіллаўскіх лясох. Там — у гэных лясох, на ўлоньні прыроды, праходзілі дзіцячыя гады Коласа; там душа яго гэтак шчыльна, гэтак неразрыўна зьвязалася з роднай прыродай. Там-жа малы Костусь *) першы раз, але не адзіны, сваімі дзіцячымі вачыма пабачыў той зьдзек, які быў прымушаны цярпець ягоны бацька, чалавек працы, ад сваіх паноў. Там-жа ў душы паэты „змагазываваліся" тыя абразы жыцьця беларускай сялянскай сям'і, якія Колас пасьля і намаляваў у сваіх мастацкіх творах.

Далей, скончыўшы вучыцельскую сэмінарыю, пайшоў Колас на самастойную працу, як школьны настаўнік. Жыў і працаваў у глухіх палескіх кутох. Добра пазнаёміўся з жыцьцём беларускіх дзяцей і калегаў-настаўнікаў у школе, а па-за школай — з тэй народнай „інтэлігенцыяй", тым вясковым „панствам", якое складаецца з дробных урадоўцаў, валаснное ўлады, вясковага духавенства і да т. п. І гэты пэрыяд жыцьця знайшоў шырокае адбіцьцё ў Коласавых творах, дык і яго нельга абмінуць моўчкі.

Калі Колас стаўся супрацоўнікам „Нашае Долі" і пасьля наступніцы яе „Нашае Нівы" (ад 1906 году), ён — побач з вершамі — пачаў пасылаць туды і свае апавяданьні. Апавяданьні прадстаўлялі вельмі яркія абразкі з жыцьця беларускае вёскі. Гэта былі як-быццам актуальныя фотографіі, ілюстраваўшыя бягучы мамэнт на вёсцы. Пачалося з сьвежых яшчэ водгукаў рэвалюцыі 1905 году („Бунт", „Социяліст"); далей пайшлі бытавыя апавяданьні з жыцьця сялян — з цікаўнай псыхолёгічнай асновай („Малады дубок", „Кажух старога Анісіма", „Недаступны", „Дзяліцьба", „Нёмнаў дар" і інш.), такія-ж апавяданьні з жыцьця вясковага „панства" („Пісаравы імяніны", „З днеўніка пана Жылака", „Так і трэба ашуканцу"). Тыпы Коласа — заўсёды праўдзівыя, заўсёды жывыя, папросту сфатаграфаваныя з натуры. Аднэй-другой рыскай Колас знамяніта характэрызуе сваіх герояў, выяўляе іх істотнае аблічча. Паміж іншым, шмат мейсца ўдзяліў наш паэт беларускім дзецям („У старых дубох", „Злучыліся"), асабліва-ж — тэй трагэдыі, якую пераживала беларускае дзіця, папаўшы да здэнацыяналізаванага места, дзе яго перараблялі на чужацкі капыл, выбівалі з яго беларушчыну—„дзеравеншчыну" (апавяд. „Дзеравеншчына"). Урэшце, у апавяданьнях сваіх, наагул наскрозь прасякнутых беларускім народным духам — з нярэдкімі ў Коласа гумарыстычнымі рыскамі, закранаў юбіляр наш і пытаньне нацыянальнае. Ужо ў „Дзеравеншчыне" бачым падыход да гэтага пытаньня, толькі ў форме сьцьвярджэньня нацыянальнае крыўды, робленае беларусу. У алегорычнай казцы аб трох братох („Дудар") Колас зварочваецца да двух старшых братоў беларуса, у якіх лёгка пазнаць украінца ды расейца, заклікаючы іх, каб ня толькі прызналі прыроднае права меншага брата падаць свой голас — у роднай мове — на ўвесь сьвет, але каб і дапамаглі яму дагнаць апярэдзіўшых яго ў культурным разьвіцьці старшых братоў. Гэтае апавяданьне асабліва характэрнае для Коласа: тут адбіўся ўвесь сьветапагляд паэта — яго глыбокі гуманітарызм, пашана да правоў чалавека, жаданьне нацыянальнае згоды і брацтва народаў. З гэтага шляху Колас ня зыходзіў усё сваё жыцьцё. За гэта меў і мае вялікую пашану ўсяго нацыянальна сьведамага беларускага грамадзянства — па сягоньняшні дзень.

Асаблівае мейсца займаюць у Коласа алегорычныя апавяданьні — „Казкі жыцьця", у якіх дзеюць жывёлы, расьціны і сілы прыроды, але заўсёды ў іх крыецца глыбокая філёзофская ці грамадзкая думка, якую лёгка датарнаваць да жыцьця людзей.

Дзьве повесьці Коласа — „У палескай глушы" і „У глыбі Палесься" — гэта бадай-што аўтобіографія аўтара, якая абыймае першыя гады яго настаўніцкае працы на Палесьсі — з усімі сьвежымі, ідэальнымі парываньнямі моладасьці, чыстымі, сьветлымі імкненьнямі да грамадзкае працы на карысьць народу. Ідэальная постаць Лабановіча рэзка выдзяляецца на фоне агульнае бязыдэйнасьці вясковае „інтэлігенцыі" — абмаскоўленых настаўнікаў-чыноўнікаў, духавенства вясковага, валасных пісароў, дробных урадоўцаў, дзяўчат з гэтае сфэры і г. д. Калі прыгле-

*) Сапраўднае імя і прозьвішча паэта — Кастусь Міцкевіч.

дзімся да дзеючых у повесьцях асоб, дык лёгка пераканаемся, што Колас надзяліў іх тымі-ж псыхолёгічнымі рысамі, якія мы ўжо бачылі ў героях дробных апавяданьняў, — толькі-ж у повесьцях яны прадстаўлены больш поўна, усебакова, на фоне таго асяродзьдзя, у якім жывуць і дзеюць. Лёгка мог-бы малады настаўнік-ідэаліст, закінены ў глухі куток Беларусі і адарваны ад культурнага жыцьця, паддацца пануючым сярод вясковае „інтэлігенцыі" настроям, забыцца аб сваіх ідэалах і загразнуць у дрыгве — сярод п'янства, гульні ў карты, даволі грубага „флірту" з паненкамі. Але герой Коласа, інакш — сам аўтар, выйшаў з усіх жыцьцёвых спробаў пераможцам. Канец другое часткі трылёгіі („У глыбі Палесься"), гэткі падобны вонкава да разьвязкі ў апавяданьні „Бунт", найлепш сьведчыць аб гэтым. Даючы гэткую рэзкую антытэзу героя і асяродзьдзя, як і ў „Думках у дарозе", паэт выкарыстывае яе дзеля прабуджэньня ў чытачоў абурэньня на гэнае асяродзьдзе, здаровага грамадзкага і нацыянальнага пачуцьця, пачуцьця абавязку працы для свайго забітага, пакрыўджанага народу.

Повесьці Коласа напісаны гэтак сама жыва, сакавіта, як і ягоныя апавяданьні. Пасталеўшы, прайшоўшы доўгі ўжо шлях жыцьця, юбіляр не абмежываецца дробнымі мамэнтамі з беларускага жыцьця, а стараецца даць шырокі, поўны, усебаковы абраз гэтага жыцьця. Гэтым імкненьнем, здаецца, можна растлумачыць і нарадзіны двух вялікіх эпіцкіх твораў, аканчальна замацаваўшых славу Коласа, як корыфэя беларускае паэзіі, — паіменна: „Новае Зямлі" і „Сымона Музыкі".

Літаратурная крытыка раўнуе „Новую Зямлю" з польскай паэмай „Pan Tadeusz" Адама Міцкевіча і расейскай — „Евгеній Онегин" Пушкіна. Параўнаньне гэтае трэба прымаць аднак з паважнай засьцярогай: у істоце сваей яны — непараўнальныя, бо лішне вялікі пэрыяд ад часу іх дзеліць, лішне розны ў іх зьмест і характар, ідэі і заданьні, урэшце — мастацкія прыёмы зусім індывідуальныя ў усіх трох паэтаў. Можна затое сказаць, што Коласава паэма сваей мастацкай вышынёй раўнацэнна, калі ня вышэй за тыя дзьве, што яна ў нашыя часы і ў нашым асяродзьдзі адыграла ня меншую ролю, чым польская і расейская — у часох іх напісаньня — у польскім ды расейскім жыцьці. Калі-ж будзем шукаць бліжэйшых аналёгіяў у нашай сучаснасьці, дык паэма Коласа адпавядае ў польскай літаратуры хіба толькі повесьці Рэймонта „Chłopi", адзначаная, як цэннасьць агульналюдзкая, прэміяй Нобэля, у расейскай-жа літаратуры адпаведніка ей, здаецца, ня знойдзем.

„Новая Зямля" дае самы поўны, самы ўсебаковы абраз жыцьця малазямельнае сялянскае сям'і, прымушанае галадаваньнем на ўласнай жабрацкай гаспадарцы пакінуць апошнюю і йсьці на службу да паноў. І хоць аўтар і ў гэтым творы дае шмат аўтобіографічнага матарыялу, апісуючы сям'ю свайго бацькі ды ўласнае жыцьцё ў ёй, дадзены Коласам абраз ёсьць т ы п о в ы



для ўсяго беларускага незаможнага сялянства. Падзеі ў сям'і лясьніка Міхала, бацькі паэта, разьвіваюцца на асноведзі, якую прадстаўляе праведзеная тут аўтарам ідэя. Гэтая ідэя, цяпер выклінаная ў БССР урадавымі чыньнікамі і пакорнымі апошнім пісьменьнікамі, — ідэя, якое выракся (з добрай волі, ці не, — над гэтым затрымлівацца ня будзем!) і сам Колас, — ёсьць адвечная ц я г а с е л я н і н а д а з я м л і, на якой ён толькі і можа чуць сябе вольным і моцным, быццам той старагрэцкі Антэй, — да таго-ж цяга да ў л а с н а е зямлі. І з гэтага гледзішча „Новую Зямлю" мы маем права назваць э п о п э я й беларускага сялянства, у пэўнай меры нават — беларускага народу, бо іменна гэты народ ёсьць галоўная дзеючая асоба твору Коласа, хоць і ўвасоблены ў аднэй тыповай сям'і.

Дзеля таго, што галоўная ідэя „Новае Зямлі", як нязгодная з марксызмам, які запанаваў на Усходзе, ня мае там права грамадзянства, — гожа затрымацца на г е н э з і с е гэтае ідэі. Бясспрэчна, што псыхіка беларускага селяніна, хаця-б гэта быў нават беззямельнік, ёсьць псыхіка ў л а с ь н і ц к а я; але вырасла яна з тых соцыяльных абставінаў, у якіх жыў, а ў нас, на Захадзе, і цяперака жыве гэны селянін. — Вось той шлях, які, паводле „Новае Зямлі", давёў Міхала да думкі аб неабходнасьці здабыць сабе кусок зямлі на ўласнасьць і стацца незалежным ад паноў.

Паны і іхнія давераныя людзі ня бачылі ў лясьніку чалавека. Лаянка, зьнявага, а то й кулачная расправа — „мардабойства" — былі штодзенным хлебам лясьнікоў у Радзівіллаўскіх лясох. Міхал аб гэтым вось як кажа:

Але-б вы самі спрабавалі,
Калі-б у вочы вам плявалі
І вас агіднаю зьнявагай
Па сэрцу білі, як тэй шлягай!
А ты маўчы, сьвяці вачамі
Перад паўпанкамі, панкамі
І перад панскім розным збродам,
Цярпеньнем скованы, як лёдам.

Паміма гэтага — варункі працы страшэнна цяжкія і з іншага гледзішча. Міхал дастаў лясьніковую пасаду ў адным мейсцы, папрацаваў там некалькі гадоў, давёў гаспадарку да парадку, улажыўшы працу ўсей сваей сям'і, і ўжо цешыўся, што будзе мець заслужаныя вынікі зробленага высілку. Ды дзе там! Лясьнічы трымаўся такое сыстэмы, што не даваў лясьнікам задоўга сеждваца на адным мейсцы: баяўся, каб ня зжыліся, не ссябраваліся з акалічным сялянствам — на шкоду паном... І вось гэткі-ж лёс спаткаў і Міхала: яго ўсьцяж перакідалі з мейсца на мейсца, уся праца яго на гаспадарцы — на ч у ж о й зямлі! — марнавалася, і ён увесь час чуў сябе няпэўным, нічым незабясьпечаным. Гэта страшэнна мучыла Міхала. Ён пачуваў

сябе цяжка пакрыўджаным, ня бачыў ніякага спосабу змагацца з гэтай крыўдай і шукаў выхаду з утварыўшагася палажэньня толькі ў адным кірунку:

А дзе-ж той выхад, дзе збавеньне
З няволі цяжкай, з паланеньня?
Адзін ён ёсьць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая раль ля!
То наймацнейшая аснова
І жыцьця першая умова.
Зямля ня зьменіць і ня здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,
Зямля — аснова ўсей айчыне!

Каротка кажучы, свая зямля — гэта ў вачох беларускага сялянства з апісаных Коласам часоў (а ў заходне-беларускіх землях — і з цяперашніх!) ёсьць адзіны шлях да вызваленьня, да праўдзівае волі. Дык да гэтага-ж і зводзіцца ідэолёгічны зьмест Коласавае паэмы.

Ня будзем тут шырэй затрымліваца над высока мастацкімі апісаньнямі прыроды і яе характва ў паэме „Новая Зямля". Тут Колас выявіў сябе, як запраўдны маляр прыроды. Беларускія краявіды, усходы й за́хады сонца, работы ў полі — жніво й сенакос — усё гэта адбілася ў „Новай Зямлі" у непараўнальных сваей красой абразох. Колас падняўся тут на недасяжную для другіх пісьменьнікаў вышыню. Даводзіць, што гэта запраўды так ёсьць, значыць даводзіць рэч зусім ясную. І мы замест гэтага адашлём чытача да арыгіналу Коласа. Самі-ж вернемся да ідэолёгіі Коласа, выяўленай у ягоных паэмах. Бо-ж і „Сымон Музыка" ў сваей істоце — такі-ж цудоўны, натхнёны гымн волі. Толькі тут Колас ужо ня толькі маляр: ён адначасна і музыка, бо-ж знамяніта ўмее перакладаць на словы — музыку, бо гэтая ягоная паэма ўся наскрось прасякнута музыкай: усё ў ёй сьпявае!

Паэма „Сымон Музыка" пасьвячана беларускаму дзіцяці, якому і ў „Новай Зямлі" ўдзяліў паэт шмат мейсца. Пераходзячы да разгляду гэтае другое паэмы Коласа, нельга моўчкі абыйсьці запраўды-ж высока-мастацкага ўступу да яе — пасьвячэньня аўтарам твору свайго беларускай моладзі. Пасьвячэньне, паміма сваей цудоўнай формы, мае глыбокі зьмест: яно паказуе крыніцу творчасьці Коласа, які ў душы сваей зьбірае адбіткі запраўднага жыцьця і пасьля пературае іх у паэтыцкай форме. І добра зрабіў паэт, што свой твор прынёс, як дар, беларускай моладзі: герой паэмы, сялянскі хлопчык-артыста, прабівае сабе жыцьцёвы шлях ня з ласкі „можных гэтага сьвету", не дзякуючы апецы магната, які хутка перастаў цікавіцца сваей „забаўкай"-мастаком-самародкам, — а дзякуючы сваей уласнай духовай моцы, дзякуючы неразрыўнай сувязі сваей з сваім народам, служыць якому песьняй-музыкай — мэта жыцьця Сымонкі. У гэтым — добрая навука для тых чысьленых Сымонкаў беларускіх, што гэтак часта — за панскую ласку — адступаюцца ад свайго народу, выракаюцца сваей беларускасьці і, купіўшы гэткай цаной жыцьцёвую кар'еру, прыносяць славу чужынцам...

„Сымон Музыка" — гэта гісторыя вызваленьня мастака-самародка, а наўперад — грамадзкага й нацыянальнага самаўсьведамленьня яго. Ад пачатку жыцьцёвае вандроўкі Сымонкі, калі бацька выгнаў яго з хаты, ён у цяжкіх варунках, крыўджаны і эксплёатаваны, падыймаецца духова ўсё вышэй і вышэй, дасьпявае і як грамадзянін, і як мастак. Вялікую ролю ў гэтым вырастаньні Сымонкі адыгрывае пачуцьцё нясьведамае любові да Ганны, каторае ў канцы расьцьвітае, як цудоўная краска, і злучае гэтых двое маладых — дзеля далейшае супольнае жыцьцёвае вандроўкі. Але прыпадковае спатканьне Сымонкі з князем, каторы зацікавіўся хлапчуком-артыстам і ўзяў яго ў свой замак, стаўляе нашага героя перад спакусай пераходу на бок паноў і забыцьця аб сваім народзе. Ды Сымонка гэтай спакусе не паддаўся. Ня стаўся панскім служкай-лякаём, захаваў свой чалавечы воблік, сваю ўласную волю. Не задумываючыся, кінуў свайму апякуну-магнату праўду ў вочы, напомніў аб крыўдах сярмяжных братоў сваіх, пагразіў помстай народу... І гэта быў пераломны мамэнт у адносінах да яго князя: магнат зразумеў, што гэты асаблівы народны трыбун, узброены мастацтвам, можа запраўды стацца грозным і небясьпечным для паноў, — і вось ён адварачаецца ад Сымонкі, пакінуўшы сваю пачатковую думку даць хлапцу музыкальную адукацыю. Сымонка аказаўся мо' страчаным для „вялікага сьвету", але захаваў свае сілы і здольнасьці, якім ня суджана было нармальна разьвіцца да канца, толькі для свайго народу — для сваіх сярмяжных братоў, каторыя так мала радасьці і красы маюць у сваім гаротным жыцьці.

Ці-ж трэба пасьля гэтага даказываць існаваньне ў Коласа нацыянальнае ідэолёгіі? Ці трэба шукаць зусім лішніх тут палітычных формулаў і лёзунгаў? Не: зьмест твораў Коласа сам гаворыць аб ягонай ідэолёгіі і паслужыў у сваім часе падставай для савецкіх дзейнікаў дзеля абвінавачаньня паэта ў „нацдэмаўшчыне".

Каб закончыць агляд творчасьці Коласа ў першы пэрыяд яго літаратурнае працы, трэба было-б адзначыць яго драматычную творчасьць. Апошняя аднак даволі бедная: да вайны выйшла ў сьвет даволі слабая па сваей драматычнай фактуры п'еска „Антось Лата"; у першыя пасьля вайны гады — „Забастоўшчыкі", удраматызаванае апавяданьне аб першым выступленьні беларускага вучыцельства на змаганьне за беларускую школу (патайны зьезд настаўнікаў у 1906 годзе). І толькі ў пачатку новага пэрыяду творчасьці Коласа выходзіць рад но-

вых драм яго, якія трэба разглядаць у сувязі з усей творчасьцяй Коласа гэтага пэрыяду. Нажаль, творы гэтага новага пэрыяду да нас, у заходне-беларускія землі, блізу не даходзяць, і матарыялу дзеля разгляду мы маем вельмі мала.

## II.

Падходзім тут да другога — новага або „**пралетарскага**" пэрыяду творчасьці Коласа. Пачнём, як і пры разглядзе першага пэрыяду, ад лірыкі паэта.

Неабходна, аднак, зрабіць агаворку: да нас наагул творы Коласа блізу не даходзяць. Дык прыходзіцца ў значнай меры абаперціся на тых аглядах творчасьці Коласа навейшага пэрыяду, якія зьмяшчаюцца ў савецкай беларускай прэсе.

Колас не адразу здолеў наламацца да новых вымаганьняў „савецкае грамадзкасьці". Ужо ў дваццатыя ўгодкі паэтыцкай творчасьці яго літаратурная крытыка ў БССР рабіла паэце закід, што „ідэі кастрычніка з першых дзён існаваньня савецкае ўлады альбо зусім не адбіваліся ў творчасьці Коласа, альбо неналежным чынам адбіліся". Так пісаў Шукевіч-Траццякоў у ўгодкавым выданьні „Якуб Колас у літаратурнай крытыцы" (Менск, 1926 г.). Крытык пералічае доказы таго, што Колас доўга ня мог пайсьці з сучасным савецкім жыцьцём і адтвараў у сваіх творах мінулае. Але пад націскам крытыкі паэт „патроху пачаў вылазіць з „Палескае глушы", настрой сучаснага ўносіць у сваю „Новую Зямлю", ...перапрацаваў свайго „Сымона Музыку", зьмяніў яго канец, рашуча ськінуў з Сымона ранеў аблытаўшую яго рэлігійную павуціну". І хоць той-жа крытык урэшце сьцьвярджае, што ў найнавейшых сваіх творах Колас „раз назаўсёды парваў" з „гнілым балотам" мінулага, што ён выйшаў „на прасторы жыцьця савецкае краіны", — усё-ж такі ён прызнае, што „Коласа мала цікавіць джаз-бандаўскі рытм гораду і наўрад ці калі адаб'е ён магутную дынаміку фабрыкі, заводу ў сваіх творах". — „Затое — родная „лявоніха", „мяцеліца", беларуская песьня знойдзе добрае „водгульле" ў яго творах. Затое — яго матка ў нядзелю так смачна падсмажвае аладкі, што жывот сам пачынае прасіць верашчакі. Затое — ён адбіў жыцьцё селяніна ад нараджэньня да сьмерці ня горш, чым Шылер у „Ліцьцё звону", Пушкін у „Евгеній Онегін", чым „Калевала", „Одысэя" — сучасныя ім эпохі". Бо-ж Колас як быў, так і астаўся верным сынам і песьняром вёскі, хай сабе савецкай, але вечна жывой у працы на ральлі.

Названы крытык меў рацыю ў тым, што не прадстаўляў сабе, каб Колас пачаў адбіваць жыцьцё места. Колас запраўды і ў найнавейшых сваіх творах, асабліва лірычных, пяе аб сялянскім жыцьці — ведама, — новым. На старую вёску ён глядзіць з пагардай. Вось што ён гаворыць у вершы „Старой вёсцы" (1930 г.):

Убогая, старая вёска!
Ты ў рызманох, ты ўся ў саломе,
Пануе цемра ў тваім доме,
А ты стаіш на пераломе,
Шкадуеш выцьвіўшай палоскі!
Зірні наперад зоркім вокам
У наша сёньняшняе раньне...
Вітай дня новага сьвітаньне,
Ідзі машынам на спатканьне,
Ды грамадою, цьвёрдым крокам!
„Мая зямля", „мой поплаў",
„Мой луг", „мой конь", „мае каровы",
Зьлінялыя, старыя словы,
Пара, пара даць сэнс ім новы,
Зьмяніць іх час на „наш" і „наша"!

Ад сваіх старых хутарскіх ідэалаў Колас адракаецца (цыкль вершаў „Калгаснае" — 1930 г.), лічыць, што даўней вёскай „валодала зямля", а цяпер — наадварот: цяпер „калгасы" вывелі сялянства з гэнага „палону". У вершы „Моладзь", напісаным адначасна з цытаванымі, паэт вітае вясковы маладняк, каторы (цытуем словы праф. Замоціна) „разам з бядняцкай часткай вёскі цалкам гатовы пераключыць сваю энэргію на будаўніцтва новага ладу жыцьця":

Прэч, саломенныя стрэхі,
Цесны двор і катухі!
Мы другія ставім вехі...
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .
Трактар будзе наша зброя,
Сіла — моладасьць, парыў.
На работу сыпнем роем,
Сьвет нанова перакроім, —
Дык жыві-ж ты, калектыў!

І аб старых абразох, гэткіх родных і мілых некалі нашаму паэце, нічога ў памяці ў яго не асталося... Колас ужо пагадзіўся з новай сучаснасьцяй і ей пяе свае гымны:

Змоўкнуў звон хаўтурны
На старых капліцах,
Забурлілі бурна
Новыя крыніцы.
Загулі заводы,
Трактары ў калгасах...

Колас выразна проціўстаўляе мінулае сучаснаму Заходу, ясна — не на карысьць апошняму:

У нябыт адыходзіць зякляцьце вякоў
Гэты зьдзек,
Гэты жах кабалы...

Я вітаю вялікі, шырокі разгон
Нашых дзён маладых,
Гоман творчасьці іх...
Дык ярчэй-жа гары, сонца радасных дзён!

Як сьцьвярджае праф. Замоцін, із стацьці якога аб найнавейшай лірыцы Коласа („Літаратура і Мастацтва“) мы ўзялі паданыя адрыўкі вершаў, паэт ўзьвялічае здабычы „Кастрычніка“, піша вершы папросту агітацыйнага характару і неаднакротна адракаецца ад сваей колішняй „нацдэмаўшчыны“. Выступае ён і ў дні вялікіх урачыстасьцяў, як дапрыкладу ў дзень маёвага сьвята; пачатак вершу „Ў майскія дні“ тут падаем (ён вельмі характэрны для сяньняшняга Коласа):

Пеў я песьні колісь
У журботным тоне
Бяз пустых прыкрас,
Бо ня меў я волі,
Бо быў я ў палоне,
Бо такі быў час.
Ліха тое сёньня
Адыйшло далёка,
Зарасло быльлём.
Цёмнае прадоньне,
Дзе адчай галёкаў,
Зьнішчана суздром.

Ужо з паданых адрыўкаў лірычных вершаў Коласа бачым, што з боку тэхнікі так сама ёсьць у яго шмат новага. Адзначае гэта і праф. Замоцін у цытаванай стацьці („Лірыка Якуба Коласа 1930—35 гадоў“):

„Як лірычныя жанры, так і лірычныя вобразы, і стылістыка, і вершаскладаньне — усё ў лірыцы Коласа 1930—35 гг. ўступае ў фазу пэўнага аднаўленьня“. Няма суму. „Поўныя энтузьязму і патэтыкі рэвалюцыйныя гымны“. — „Вострая сатыра проці ворагаў дыктатуры пролетарыяту“.

„Лірычныя вобразы, праз якія аўтар дае нам сваё ідэолёгічнае праламленьне дадзенай тэмы, заўсёды канкрэтныя, жыцьцёвыя і носяць на сабе сьляды шырокага і праўдзівага ахопу паэтам сучаснага жыцьця ў яго асноўных задачах. Паэтычная стылістыка і вершаскладаньне ў лірыцы Коласа апошніх гадоў таксама актывізованы: у вершах адчуваецца жывая лексіка нашай эпохі, лексіка рэвалюцыйнага дзеяньня і вялікіх заваёў будуючагася соцыялізму. Аўтар карыстаецца больш актуальнымі па тонусу рытмамі (пераважна хорэічнымі і ямбічнымі), больш гнуткай і рознастайнай строфікай. Наагул, у лірыцы Коласа мы ўжо назіраем той шчасьлівы падыход да аўладаньня мэтадамі соцыялістычнага рэалізму, які больш канкрэтна выявіўся ў яго мастацкай прозе апошніх гадоў“.

Зразумелая рэч: Колас, як быў, так і астаўся вялікім мастаком слова.

---



Пяройдзем цяпер да мастацкае прозы Коласа. Яна і далей складаецца з апавяданьняў і повесьці.

Выданы ў Менску, у 1926 годзе зборнік апавяданьняў пад назовам „На пnative"На прасторах жыцьця“ зьмяшчае рад большых і меншых апавяданьняў з савецкага ўжо жыцьця. Але тут адчуваецца яшчэ той — так добра нам знаёмы — стары Колас, які мае свой уласны пагляд на справы, які ўмее знайсьці і сьмяхотныя рыскі ў новым ладзе дый ахвотна з іх падкпіць. Да такіх апавяданьняў належыць невялічкі расказік „Хаім Рыпс“, дзе вельмі-ж гумарыстычна прадстаўлены новасьпечаныя савецкія ўлады на вёсцы. Але гэты зборнічак належыць яшчэ фактычна да старога пэрыяду творчасьці Коласа. З таго часу выйшла шмат новых рэчаў, якіх, нажаль, мы тут не атрымліваем... Да вялікшых апавяданьняў належыць Коласавы „Адшчапенец“.

„Адшчапенец“, паводле слоў самога Коласа, быў задуманы вельмі шырака. Галоўны герой — гэта селянін „старое даты“, заўзяты індывідуаліст, які вельмі варожа адносіцца да савецкае рэвалюцыі ў вясковым жыцьці. Колас маніўся правясьці яго даўгім шляхамназіраньня новага савецкага будаўніцтва, пазнаёміць з разбудовай мястовае прамысловасьці, паказаць усе дасягненьні Саветаў у розных галінах жыцьця і, пераканаўшы ў правільнасьці савецкай лініі, вярнуць у родны кут, як „наверненага“ на новую веру „калгасьніка“. Аднак, Коласу не ўдалося выпаўніць задуманы плян: падганяны савецкай крытыкай, каб хутчэй сваей творчасьцяй ішоў служыць калгаснаму будаўніцтву, Колас, як сам кажа, лішне пасьпяшыў і сваей працай нездаволены.

Такія-ж мэты праводзяць і другія найнавейшыя апавяданьні Коласа. Ня маем магчымасьці пазнаёміцца з іх мастацкай вартасьцяй беспасрэдна, але здаецца, што Коласавы прысуд над сабой — хіба-ж мае рэальныя падставы.

За тое Колас паказаў сябе ізноў вялікім мастаком у новай повесьці пад назовам „Дрыгва“ (Менск, 1934 г.), у якой некаторыя бачаць трэцюю частку трылёгіі Коласа. Аўтар нідзе гэтага сам не адзначае. Дый з першымі дзьвюмя часткамі трылёгіі „Дрыгва“ мае супольнае толькі адно: мейсца дзеяньня — Палесьсе. З старых дзеючых асоб мы нікога тут не спатыкаем. Рэч дзеецца падчас змаганьня з заняўшымі ў сваім часе Палесьсе польскімі легіонамі.

У аднэй стацьці ў часапісе „Літаратура і Мастацтва“ знаходзім гэткія радкі аб гэтай повесьці, зьместу якое дзеля зразумелых прычын мы пераказаць ня маем магчымасьці. — „Палеская пушча ізноў стала тэмай для Коласа, але зусім у іншым сэнсе і ў іншай абстаноўцы. Гэта ня тая „самабытная“ пушча, ад балот якое „патыхала нейкім нявыразным смуткам“ (так пісаў Колас у творы „У палескай глушы“). Палеская пушча, глуш у аповесьці „Дрыгва“ ператварылася ў арэну змаганьня, дзе „славутныя паляшукі“ вялі клясавую барацьбу, аддавалі сваё жыцьцё, абараняючы соцыялістычную радзіму ад нападу... інтэрвэнтаў“.—

Але тыя абразы, якія малюе Колас, маюць высокую мастацкую вартасьць: яны — бясспрэчна шчыра, з перакананьнем выліваюцца спад пяра Коласа. І таму повесьць мае вялікую мастацкую вартасьць, выведзеныя ў ёй тыпы — жывыя, сакавітыя, акцыя разьвіваецца вельмі жыва. Кніжка запраўды можа захапіць чытача.

У часапісе „Літаратура і Мастацтва“ знаходзім кароценькую зацемку аб тым, што ў сувязі з праектаваным у 1937 годзе вялікім сьвяткаваньнем 20-леьцця існаваньня савецкае ўлады ўжо загадзя падгатаўляюцца п'есы дзеля пастаноўкі падчас сьвяткаваньня. Здаецца, што дзеля гэтага апрацоўвае і Колас сваю — праўда, даўно задуманую, але дагэтуль недаконччаную, — драму „Вайна вайне“. З адрыўкаў, якія друкаваліся ў савецкай прэсе, трудна мець прадстаўленьне, што гэта будзе з боку мастацкага. Тэма-ж — ясная: паэт хоча прадставіць той масавы, усенародны рух проці далейшае вайны, якую — пасьля зваленьня царскае ўлады — хацеў вясьці ўрад Керанскага „да пабеднага канца“. Гэты рух выкарыстываюць бальшавікі, захопліваюць кіраўніцтва масамі і ўрэшце здабываюць у свае рукі ўладу. Што будзе ў п'есе беларускага — апрача мовы і дзеючых асобаў, — з апублікаваных адрыўкаў вывесьці цяжка. Здаецца, аднак, што „Вайна вайне“ будзе належаць да тых твораў, якія аднолькава выходзяць на ўсіх мовах і на ўсіх сцэнах.

Вось усё тое, у чым выявілася новае аблічча Коласа.

---

У найнавейшым пэрыядзе паэтыцкае творчасьці Коласа заслугоўвае так-жа на ўвагу яго творчасьць для дзяцей. Тут Колас робіцца роўна блізкім і зразумелым для кожнага беларуса, для кожнага чалавека, асабліва-ж — для кожнага пэдагога, незалежна ад ягоных палітычных і сацыяльных паглядаў.

Ведама, і ў вершах, пасьвячоных дзецям, выяўляюцца новыя настроі Коласа.

Для дзяцей Колас напісаў — судзячы паводле савецкае крытыкі — запраўды-ж цэнны эпіцкі твор, які хіба-ж адпавядае таму дару моладзі беларускай, што даў ей Колас у „Сымоне Музыцы“. Гэта ёсьць „Міхасёвы прыгоды“ (1935 г.). Мы не маглі атрымаць гэтае паэмы, каб беспасярэдне з ёю пазнаёміцца. Але тое, што піша аб ёй С. Куніцкі ў № 58 „Літаратура і Мастацтва“ з 18. X. 1936 году, прымушае думаць, што нашая дагадка — правільная. Дык падаём сказаную рэцэнзію савецкага крытыка ў скарочаньні.

„Паэма „Міхасёвы прыгоды“ (1935 г.) мае выключную цікавасьць. Яна наскрозь пранікнута оптымізмам, радасьцю, напісана з вялікім майстэрствам. Яна яшчэ і яшчэ раз



сьведчыць аб выключным веданьні паэтам своеасаблівасьцей дзіцячых успрыняцьцяў, дзіцячай псыхікі. На працягу ўсяе паэмы мысьль і фантазія чытача актывізуюцца, перад маленькім чытачом раскрываюцца шырокія краявіды рознастайных малюнкаў прыроды, чытач на кожным кроку сустракае жывыя вобразы жыцьця.

З самых першых старонак паэмы маленькі чытач пападае на „луг квяцісты“, перад яго вачыма „прыгожая рэчка“, „расступіўся лес ва ўсе бакі“, а „там шумела морам жыта, а ячмень густы, зялёны адбіваў усім паклоны“. Ён адчувае цяпло сонца, подых ветру, пах розных кветак. Тут-жа маленькі чытач сустракаецца з рознымі птушкамі, буслямі, рыбамі, вожыкамі, гадзюкай, воўкам. Перад яго вачыма — суніцы, розныя грыбы і іншае. Усё гэта апісана ўмелай рукой мастака. Усё гэта прыкоўвае ўвагу чытача.

Усё багацьце зьяў і прыроды ў паэме композыцыйна зьвязана з асноўным героем паэмы — Міхасём. Міхась стаіць у цэнтры паэмы, а навакол яго — зьвязаная з ім прырода, сьвет расьцін і жывёл. Гэта робіць паэму асабліва дзейнай, бо адносіны Міхася да навакольных зьяў завастраюць увагу чытача, актывізуюць яго ўспрыйманьні.

Дзеяньні і прыгоды хлопчыка Міхася, якія разгортываюцца ў паэме, зьяўляюцца цалком тыповымі і характэрнымі для яго ўзросту (9—10 гадоў). Ён усё імкнецца пазнаць, усё яго цікавіць і вабіць. Ён актыўна ўключаецца ў кожную зьяву, увесь час дзейнічае, напоўнены рознымі, уласьцівымі яго ўзросту клапотамі.

Бадзёрасьць Міхася, яго жыцьцярадаснасьць на працягу ўсяго твору гармонічна зьліваюцца з радаснай, поўнай жыцьця прыродай, з радасьцю калгасных палёў, дзе „шуміць морам жыта“, дзе „ячмень густы, зялёны адбівае ўсім паклоны“.

Шырока пазнаёміўшы свайго маленькага чытача з багацьцем жывой прыроды, аўтар у апошняй частцы твору пераключае яго ўвагу на горад. Гэта пераключэньне ставіць тую-ж мэту, што і пры паказе прыроды: пазнаёміць маленькага чытача з асаблівасьцямі гораду, у прыватнасьці з жыцьцём гарадзкіх дзяцей. Гэта аўтар ажыцьцяўляе ізноў-такі праз вобраз свайго асноўнага героя паэмы, Міхася.

У гутарцы з калгаснымі дзяцьмі Міхась расказвае пра асаблівасьці гораду, пра трамвай, аўтамабілі, танкі, танкеткі, пра самалёты, пра гарадзкія сьвяткаваньні і інш. Тут-жа Міхась расказвае і пра радаснае жыцьцё дзяцей гораду ў дзіцячых садох.

Паэма „Міхасёвы прыгоды“ вызначаецца вялікай мастацкай і дзейнай сілай. У ёй кожны вобраз, кожнае слова напоўнены глыбокім сэнсам, праўдай жыцьця, і ў той-жа час

паэма вызначаецца мастацкай прастатой. Мова і вобразы паэмы сваімі карэньнямі ўваходзяць у багатую народную мову“.

Ці-ж хаця-бы на падставе гэтага водзыву мы не пазнаем у аўтары старога нашага знаёмага — аўтара „Сымона Музыкі“?..

---

Шмат для каго асоба Коласа прадстаўляе псыхолёгічную загадку. Як ён мог так лёгка прытарнавацца да сучаснага савецкага социяльнага жыцьця — як-быццам бяз глыбейшае ўнутранае барацьбы і ломкі?

Душа чалавека — процьма: трудна ў ёй разьбірацца. Магчыма, што Коласа запраўды гэтак глыбака захапіла новае жыцьцё ў Савецкай Беларусі, што яго оптымізм, радаснасьць, патос — шчырыя. Магчыма.

Але ёсьць і другі мамэнт, які мусіў адыграць ролю ў „навярненьні“ Коласа на „новую веру“. Колас заўсёды быў м а л я р о м жыцьця і ў гэтым адрозьніваўся ад Купалы, які хацеў быць тварцом-рэфарматарам гэтага жыцьця. Колас заўсёды маляваў тое, што ёсьць, незалежна ад таго, ці гэта ён пахваляў, ці ганіў. Вось-жа, раз у Саветах гэтае рэальнае жыцьцё зьмянілася, Колас ня мог вечна пісаць з памяці аб тым, што мінула, і мусіў адбіваць тое, што сягоньня дзеецца на беларускіх загонах.

Славячы сяньня — у трыццатыя ўгодкі паэтыцкае працы — Вялікага Мастака, мы сьхіляемся перад Ім і Ягонымі заслугамі для беларускага народу.

---



МАКСІМ ТАНК

# Тры песьні

*прысьв.* ЯКУБУ КОЛАСУ

*Эх, скрыпачы*
*з салаў'інымі песьнямі,*
*хлопцы, дзяўчаты мае, маладзіцы —*
*трэба было-б пра жыцьцё саламянае,*
*трэба было-б галасіста заліцца!..*
*Перш прывітаем загоны мы родныя,*
*рэкі свае прывітаем, азёры,*
*ветру напевы на струнах свабодныя,*
*поле, бары, пералескі і горы!*
*Посьле пайдзем грамадой каляінамі,*
*там, дзе блакіт над зямлёю сагнуўся,*
*проста шляхамі паднебна-гусінымі —*
*мы — маладыя пяўцы Беларусі...*

*Першую песьню*
*сьпяём салаў'іную —*
*Дайце цымбалам размаху, разгону!*
*Можаце казкай назваць ці былінаю*
*песьню аб чорным, крывавым прыгоне.*
*Помніце, як упрагалі нас тройкамі?*
*як бізуном не адзін быў забіты?*
*як раз'яжджалі паны-пryганятыя?*
*як мы вазілі айцоў-езуітаў?..*
*Плакалі болей як вербы зялёныя*
*маткі, сіроты, дзяўчаты, удовы,*
*нізка схіляючы плечы паклонамі,*
*нізка зьгінаючы плечы, галовы...*

*Можа ня хочаце*
*слухаць мінулае,*
*тое, тто сохамі пераарана?*
*Можа ня хочаце песьнямі, струнамі*
*рваць і старыя і сьвежыя раны?*
*Платы ня прымем за песьні вясёлыя!*
*Досыць калі мо' над струнамі самі*
*і безпрытульныя, босыя, голыя*
*рукі падыміце вы . . . . . . . . !*
*Мо' баіцёся, і вуснамі сінімі*
*ў спадчыне гора пакінеце ўнукам? —*
*Верым, што знойдуцца сілы арліныя,*
*грудзі ахвярныя, моцныя рукі!*

*Песьню другую*
*сьпяём весялейшую.*
*Шырака з захаду і да ўсходу*
*хмары навісьлі над Краем цямнейшыя,*
*хмары над хатамі і над народам.*
*Кажуць зрачыся курганаў і спадчыны!*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Хочаць — каб песьні забыліся матчыны!*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Хочаць — каб самі капалі магілы мы,*
*самі братом сваім, сёстрам і дзецям;*
*хочаць — каб вечна слугамі былі мы ім*
*і жабракамі хадзілі па сьвеце...*

*Гэй, скрыпачы,*
*песьняры галасістыя!*
*Што, — можа струны парваліся, змоўклі,*
*струны ня простыя, а серабрыстыя*
*і каляровыя, быццам вясёлкі?*
*Нас не вініце, што йграем ня весела, —*
*Песьня ня ходзіць яшчэ скамарохам!*
*Можа адным яна голавы зьвесіла,*
*але з другімі пайдзе бураломам!*



*Зноў запяём мы ад зораў разсеяных*
*густа над нівамі ў шэрую восень;*
*можа ад казак, што снамі навеяны*
*ад прыдарожных бярозаў і сосен...*

*Ёсьць дзьве дарогі*
*ў полі ды польныя...*
*Пойдзеш аднэй — жыць ты будзеш ў няволі;*
*пойдзеш другой — будзеш з сіламі чорнымі*
*цяжка змагацца за шчасьце, за волю...*
*Ты пераможаш і раны балючыя,*
*раны ад межаў Краіна залечыць,*
*плечы расправіць шырока-магучыя,*
*прыйдзе народ на вялікае веча.*
*Сонцам зазвоняць барозны ўзараныя,*
*закаласяцца густымі жытамі;*
*. . . . . . . . . . . . . сяньня магілы стаптаныя*
*. . . . . . . . . . . . . . . . мы асыпім вянкамі!..*

*Гэй, песьняры*
*з салаў'інымі песьнямі,*
*хлопцы, дзяўчаты мае, маладзіцы!*
*Слухайце! можа ўжо сяньня прадвесьнямі*
*звоняць пад лёдам жывыя крыніцы!*
*А перад намі дарожанькі родныя,*
*шэрыя вёскі, бары і вазёры.*
*Сэрцам, грудзямі вітаем свабодныя*
*дні і напевы на чорных разорах!*
*Сяньня ідзём мы далей каляінамі,*
*там, дзе блакіт над зямлёю сагнуўся...*
*Слухай!.. Усходам, шляхамі гусінымі*
*вырай ляціць на палі Беларусі!*

**Вільня, 23. X. 36.**

ЯКУБ КОЛАС

# Аўтобіографія *)

Мае дзіцячыя гады прайшлі ў адзіноце. Бліжэйшымі маімі таварышамі-прыяцелямі былі два старшыя браты. Усё маё грамадзкае жыцьцё замыкалася ў вузкім коле сваёй сям'і. Бацька мой Міхал Казіміравіч Міцкевіч быў лясьніком. Чалавёк ён быў невялікай адукацыі: умеў расьпісацца, чытаць папольску і парускy. Разьбіраў нават і рукапіс. Маці мая Ганна Юраўна з Лёсікаў зусім няграматная, але разумная ад прыроды і добрая жанчына. У сям'і былі яшчэ два дзядькі, Пятрусь і Антось, людзі граматныя. Дзяцька Пятрусь быў у маскалёх на вайсковай службе, быў пісарам. Ён любіў чытаць кнігі, разьбіраўся ў іх і наагул шанаваў кнігу. Дзядзька Антось—малодшы брат бацькі, самы малодшы з маіх дзядзькоў,—здаў экзамен за курс пачатковай школы. Ён ведаў многа розных расказаў, казак, і ўмеў іх расказваць. Таксама ён ведаў і многа песень, але галоўным чынам з розных песельнікаў. Любіў дзяцей, умеў з імі ладзіць і добра знаў дзіцячую псыхолёгію. Ён-жа прышчапіў мне любасьць да навукі і вельмі зацікавіў байкамі Крылова, якога я потым амаль што ўсяго знаў напамяць.

Памятаць і адрозьніваць сябе ад вакольнага сьвету пачынаю прыблізна з 4-х гадоў. Радзіўся ў 1882 годзе 22-га кастрычніка па старому стылю, у засьценку Акінчыцах, дзе бацька меў першую пасаду лясьніка. Часта прыходзілася яму перабірацца з месца на месца — такая была панская воля лясьнічага. Самыя раньнія дзіцячыя гады мае прайшлі ў Сухошчыне, або Ластку. Гэта было глухое месца — поле, навокал лес ды адна толькі сяліба лясьніка — хата, гумно, хлеў. Часамі да нас заходзіў хто з сваякоў з Мікалаеўшчыны, адкуль былі родам бацькі, і заставаліся на некалькі дзён. Мне было вельмі цікава слухаць іх гутаркі. А гэтыя гутаркі былі самага рознастайнага характару. З гэтых гутарак знаёміўся я з невядомым мне жыцьцём за межамі нашае сялібы. Таксама часта бывалі ў нас і лясьнікі, аб'езчыкі і розныя панкі з лясьніцтва. Многа было гутарак аб лясьніковым побыце, аб праявах службовага характару, аб адносінах паноў да лясьніка. У гэтых адносінах было многа крыўднага і несправядлівага да лясьніка, і ў мяне з самага раньняга дзяцінства закідалася ў душу варожае пачуцьцё да паноў, а з часам яно яшчэ больш узмацнілася.

Любіў я вясною па ўсходзе сонца зашыцца куды-небудзь у куток і слухаць жаваранкаў. Мне тады здавалася, што я ведаю, аб чым яны сьпяваюць, я адрозьніваў вясёлыя і смутныя іх песьні, і мне нават здавалася, што жаваранкі ў другіх мясьцінах

*) Перадрукоўваем з кнігі: „Якуб Колас у літаратурнай крытыцы". Менск, ДВБ, 1926 г., бач. 162, 2 нлб., фармат 8⁰. (Рэд.).



ня так сьпяваюць, як яны. Да раньніх дзяцінных успамінаў адносяцца такія здарэньні. Засыпалі мы вясною яму, дзе была закопана бульба, яма залілася вадою. Я насіў трэскі, пасьлізнуўся на гліне і ўпаў у яму з вадою. Плюхаўся на версе, покі дзядзька Пятрусь ня выцягнуў. Другі раз мяне падпаілі на дажынках, я пачаў танцаваць на лаве, сьмінуўся з лавы і аб табарэт разьбіў сабе галаву. І ад гэтага часу застаўся ў мяне на галаве знак. Помню яшчэ адну навальніцу ўначы. Я страшна перапалохаўся, дрыжэў, а бацька мяне заспакойваў, узяўшы да сябе на пасьцель. Вучыцца чытаць прабаваў сам. Карыстаўся такім спосабам. Некаторыя літары чамусь рабілі на мяне большае ўражаньне, і я пытаў асобу досыць паважную ў гэтай справе, як называецца такая літара і стараўся запомніць яе назву. Такім парадкам вывучыў я ўсе літары, але чытаньне давалася на першых часах трудна. Тады-ж нейк, калі мне было гадоў пяць, вылаяў я Бога апошнімі словамі за тое, што мне не ўдалося занесьці з хаты жару, загорнутага ў анучу і абложанага смалячкамі, каб разлажыць на полі агонь. Быў вялікі вецер, ён борзда разьдзьмуў вуглі, карчы загарэліся; я папёк сабе пальцы. Потым, як злосьць прайшла, я вельмі востра і балюча адчуваў свой грэх, бо думаў, што Бог мне ніколі не даруе гэтага. Пярэбары з Сухошчыны ў Альбуць (у „Новай Зямлі" апісана, як „Парэчча") кладуць выразную мяжу ў маім жыцьці, і ў далейшым я ўжо добра памятую. Першая навука вялася дома. Дома я вучыўся дзьве зімы (я і два старэйшых браты). Аднаго „дарэктара", вясковага хлопчыка, скончыўшага пачатковую школу, бацька наняў за 3 рублі на зіму. Потым нас адправілі ў сельскую школу. Альбуць найболей яскрава запала ў маёй памяці. Там была надзвычайна цікавая прырода. Лясьніковая пасада стаяла на бойкай дарозе, кудою ішлі і ехалі людзі. Многа рознага люду паперабывала ў нашай хаце. Нямоўчныя, цікавыя гутаркі новых людзей пашыралі мой запас ведаў аб людзях і жыцьці і далі мне багаты матэрыял для назіраньня. Лоўля рыбы, зьбіраньне ягад і грыбоў, работы на полі і на пузе, каля дому, — усё гэта давала багаты зьмест жыцьця ў Альбуці.

Там-жа я пачаў прабаваць і свае літаратурныя сілы, калі мне было гадоў 12. Помню, прачытаў свой верш „Вясна" *) свайму бацьку; бацька праслухаў мяне ўважна, потым запытаў, ці праўда, што гэта напісаў я, і даў мне рубель гасьцінцу. Я любіў навуку, кнігу, мяне моцна цягнула і тое і другое. Вучыўся я добра. Бацька ўсімі сіламі стараўся пусьціць мяне ў навуку. У 15 гадоў паступіў я ў Несьвіскую настаўніцкую сэмінарыю. Падрыхтаваў мяне А. Лёсік. У 1902 г. мяне выпусьцілі адтуль настаўнікам. У сэмінарыі я досыць многа часу адводзіў і на складаньне вершаў. К таму часу ў мяне было напісана 16 баек. Пачаў пісаць паруску. Вялікі ўплыў меў на мяне ў сэ-

*) Яго ў мяне не захавалася.

мінарыі настаўнік Кудрынскі. У гэты час я шмат запісаў этнографічнага матэрыялу і перадаваў яго Кудрынскаму. Яшчэ ў пачатковай школе выпадкам папалі да мяне ў рукапісі беларускія вершы, як потым я даведаўся, напісаныя Янкам Лучынаю. Гэтыя вершы я вывучыў напамяць і любіў іх дэклямаваць. Сярод маіх родных і знаёмых гэтыя вершы карысталіся вялікім посьпехам („Паночку, даражэнькі, дай пораху крышку, калі маеш ўвагу на старога Грышку“). Я пісаў і пабеларуску. Адзін такі верш „Вясна“, зьмешчаны ў „Песьнях жальбы“, папаў на вочы Кудрынскаму. Ён мне сказаў: „Вот ваше настоящее призвание“. Гэта заахвоціла мяне, я стаў пісаць больш. Некаторыя свае творы чытаў я на сваім сэмінарскім вечары, дзе я выступаў першы раз у жыцьці ў якасьці актора. Апроч вершаў, расказваў і беларускія жартлівыя расказікі і меў надзвычайны посьпех і сярод таварышоў, і настаўнікаў, і гарадзкой публікі, дзе было многа афіцэраў. Выступіў я, адзеты селянінам з-пад Глуску. Якраз здарыўся чалавек адтуль і ён даў мне сваю вопратку. Мае байкі і вершы юнацкага пэрыяду, сярод каторых пападаліся значныя па зьместу і па сужэту, не захаваліся. Тры такіх значных твораў таго часу я помню: „Страх“, „Каля кастра“, „Яшукова гара“ (напісана ў першы год настаўніцтва на Палесьсі), пачатак вялікага па замыслу твору ў прозе „Адзін з сотні“. У пачатку яго даны малюнак сэмінарскага жыцьця і зроблена абрысоўка героя Сошкіна; адзін сшыток з маімі творамі падхапіла бура, калі я быў у дарозе (летам 1902 г.) і занясла яго няведама куды. Многа літаратурнага, апрацаванага і неапрацаванага матэрыялу прапала ў мяне ў часе эвакуацыі 1915 г. Тоўсты сшыток рэвалюцыйных вершаў, для мяне асабліва цэнных цяпер, напісаных у 1906 г., прапаў бясьсьледна. Сярод гэтых твораў асабліва цікавым для мяне і для гісторыі настаўніцкага руху была паэма, прысьвечаная настаўніцкаму зьезду. Паэма складалася з 12 досыць значных песень. Два самыя раньнія вершы, напісаныя ў гадоў 16, я помню напамяць — адзін верш „Плач“ і другі „Сьмех“.

Беларускае гора-нядоля стукалася ва ўсе шчыліны мае душы. Але я ня мог усьведаміць сабе яго прычын. Нацыянальная мая сьведамасьць абудзілася ў мяне пазьней — у першыя гады настаўніцтва. „Беларусь“, „Беларусь“, як тэрміны, былі мне вядомы яшчэ ў пачатковай школе, але за гэтымі тэрмінамі ня было ў мяне рэальнага зьместу, толькі-ж яны мяне заўсёды craналі. Асабліва ўражаньне яшчэ ў дзяцінстве зрабіў на мяне адзін рысунак, які спаткаў я ў нейкім рускім журнале, рысунак называўся „Белоруссия“. На гэтым рысунку была паказана карчма, на парозе яе — карчмар, а каля парогу — п'яны беларус-селянін. Селянін танцуе, а ўнізу подпіс: „Бяз музыкі, бяз дуды ходзяць ногі ня туды“. Рысунак вельмі колёрытна перадаваў беларускі пэйзаж і сцэну.

Першыя гады настаўніцтва прайшлі на Палесьсі — у Люсіне



і Пінковічах. Люсіна — страшэнная глуш. Апісана „У Палескай глушы“. Тут я першы раз пазнаёміўся з нелегальнаю рэвалюцыйнаю літаратураю. Даваў яе мне адзін яўрэй, столяр па прафэсіі, мой недалёкі зямляк (з Стоўпцаў). Гэтыя брашуркі далі ход маім разважаньням у зусім новым кірунку і моцна зацікавілі мяне. Яны зрабілі ў мяне цэлы пераварот. Газэты радыкальнага характару, японская вайна, гутаркі настаўнікаў-землякоў, з якімі сустракаўся летам, пакіравалі мяне на рэвалюцыйную дарогу. У 1905 годзе я хоць і ня мог яшчэ добра орыентавацца ў партыях, але быў ужо заўзятым ворагам самадзяржаўя, і ў гэтым кірунку вёў работу. У выніку ўсяго гэтага — удзел у настаўніцкім зьезьдзе ў 1906 годзе. Выхад першых беларускіх часапісаў „Н. Д.“, „Н. Ніва“, знаёмства з Уласавым, з дзеячамі беларускіх часапісаў палажылі рэзкую мяжу ў маім жыцьці, і я цалкам аддаўся беларускай справе і беларускай літаратуры. У 1906 г. мяне звольнілі з настаўніцкай пасады. Зіму 1906 і 7 году я жыў у брата, адчыніў нелегальную школу, меў 12 вучняў. Вечарамі пісаў, заняўся, паміж іншым, складаньнем „Другога чытаньня для дзяцей беларусаў“. Вясною ў 1907 г. езьдзіў у Вільню, каб застацца ў рэдакцыі „Н. Н.“. Пажыў там тыдняў 6, і мяне, як паднадзорнага, выгнала адтуль паліцыя. У 1907 г. 1-га верасьня ізноў паехаў у рэдакцыю „Н. Н.“ з дазволам ад паліцыі жыць у Вільні. У пачатку 1908 г. паехаў у Магілеўшчыну ў адну школку, адкрытую панам Гарадзялкоўскім для сялян, і вёў там навучаньне пабеларуску, як і жадаў Гарадзялкоўскі. Матэрыялам для навучаньня чытаньню была „Наша Ніва“ і невялічкая літаратура, якую можна было дастаць тады. Лета 1908 г. заняўся прыватнымі лекцыямі ў Стоўпцах. У тым-жа годзе 15-га верасьня быў суд нада мною. Судзіла Віленская Судовая Палата. Далі 3 гады заключэньня ў крэпасьці. Адседзіў у Менску, у вастрозе многа пісаў дробных вершаў і пачаў пісаць „Новую Зямлю“. Вышаў з вастрогу ў 1911 г. 15-га верасьня. Увосень гэтага году пачаў пісаць „Сымона Музыку“. Напісаў І-ю часьць. 11-ты і пачатак 12 году быў бяз месца, жыў у Лунінцы ў свайго таварыша В. Філіповіча, займаўся з яго платнымі вучнямі на яго-ж кватэры. Красавік і пачатак мая жыў у Беларучы (25 вёрст ад Менску) у свайго таварыша і „дарэктара“ (гл. „Новая Зямля“) Івана Міцкевіча. Тут напісаў ІІ-ю частку „Сымона Музыкі“. У маі дастаў пасьведчаньне аб „благонадежности“ і дастаў пасаду настаўніка ў Купяцічах (12 вёрст ад Пінску), але адтуль зараз-жа перавёўся ў Пінск у ІІІ-яе прыходзкае вучылішча. У 1913 г. вясною жаніўся ў Пінску з настаўніцаю чыгуначнай школы Марыяй Каменскай. У 1914 г. забралі на вайну, але скора выпусьцілі. У 1915 г. змушаны быў пераехаць у Маскоўшчыну.

З 1915 г. па 1921 год жыў я ў Расіі: у Маскоўскай губэрні, у Пярмі, а потым у Куршчыне. У верасьні 1915 г. мяне забралі ў салдаты, быў у 55 запасным батальёне ў Маскве. З 1-га студзеня 1916 году па 1-е мая таго-ж году быў у ваенным Аляксан-

драўскім вучылішчы. Адтуль мяне назначылі ў Перм у запасны полк. У ліпені 1917 г. быў адпраўлен на фронт у Румынію начальнікам эшалёну дызэртыраў. У Румыніі я захварэў ліхаманкаю, жаўтухаю. Там-жа ў мяне пачаўся процэс у лёгкіх, і мяне эвакуавалі адтуль у Курскую губэрню ў гор. Абоянь, дзе жыла мая сям'я. Па дэкрэту савецкага ўраду ў пачатку 1918 году я быў звольнены з войска, як настаўнік. У Куршчыне быў увесь час настаўнікам, а потым школьным інструктарам. Цэлую зіму 1918-19 г. быў сакратаром камуністычнай ячэйкі ў сяле Ліпавец. У Ліпаўцы адчыніў хату-чытальню, арганізаваў бібліотэку, зьвязаўшыся з паліт-асьветнымі ўстановамі пры Чырвонай арміі. З прыходам Дзянікіна прышлося ўцякаць і хавацца. Калі была замацавана савецкая ўлада, я зноў паступіў на асьветную работу, быў школьным інструктарам. Схадзіў пяхотам ад школы да школы палавіну Курскай губэрні. Затым быў членам школьна-інструктарскай калегіі. 1920-21 г. жыў на вёсцы ў школе. Гэта быў галодны год. Прышлося заняцца цяжкаю працаю на зямлі пры школе, каб не прапасьці з голаду (гэты побыт апісан у расказе „Туды на захад"). За часы вайны і прабываньня ў Расіі пісаў мала, урыўкамі. У Куршчыне скончыў „Сымона Музыку" і напісаў адзін ці два разьдзелы з „Новай Зямлі". Сувязь з Беларусьсю была выпадковая з прычыны падзей ваенна-палітычнага характару. Моцна смуціўся па Беларусі. Дзякуючы ўраду БССР у маі 1921 г. пераехаў у Менск. Беларуская культурная справа, з якою я азнаёміўся па прыезьдзе ў Менск, і яе пэрспэктывы пры савецкім урадзе на мяне зрабілі найлепшае ўражаньне...

У Менску я стала аддаўся сваёй літаратурнай рабоце і ўвесь час меў і маю магчымасьць вясьці яе і бачыць плёны гэтае свае работы ў форме тых кніг, якія надрукаваны ў Менску ў апошні пэрыяд мае 20-гадовае літаратурнае работы.

Цяпер задуманы вельмі паважныя літаратурныя работы, да якіх я рыхтуюся і думаю грунтоўна ім аддацца.

---



# З дарогі *)

*Мінула шмат гадоў,*
*І многа зьмен за час той адбылося!*
*У подыхах вятроў*
*шмат страчана сьлядоў,*
*Бы красак тых у выцьвеўшым пракосе.*

*І часта, нібы ў сьне,*
*Дзяцінства мне мільгнецца прад вачамі,*
*Як песьня аб вясьне,*
*Аб той, што калісь мне*
*Няяснымі зьвінела галасамі.*

*Пазбыцца гэтых сноў*
*І зьяў былых ня здолеў я і сёньня:*
*Не, не — ды ўспомню зноў,*
*Той кут, дзе я даўно*
*Сагрэты быў пяскамі Наднямоньня.*

*Я сьвет угледзіў там,*
*Пазнаў складанасьць гам яго і тонаў,*
*Адчуў адвечны храм,*
*Злучэньне блеску, плям,*
*Дзе ўсё дрыжыць, зьвініць няпэўным звонам.*

---

*) Гэты верш Аўтар прысьвячае заходне-беларускім землям. У мінулым годзе ўлетку Я. Колас, едучы на кангрэс абароны культуры ў Парыж і назад, праяжджаў праз Стоўпцы і іншыя паветы. Зразумелым дзеля гэтага загаловак вершу. Передрукоўваем з дзьвюх частак вершу першую.
(Рэд.).

*І колькі зьяў і чар*
*У памяці захована з былога —*
*Дзяцінства казак, мар*
*Прывабны скарб і дар,*
*Як першая ў жыцьці мая дарога!*

*Хоць сьлед пуцін маіх*
*Засыпан там ужо даўно вятрамі,*
*А бачу, як жывых*
*Мне блізкіх, дарагіх,*
*. . . . . . . . . . . . . . . .*

*Дзяцінства сны мае*
*І вобразы пад нёманаўскім сонцам!*
*Як часта паўстае*
*І вабіць і пяе*
*Акорд, адсьпеваны і злучаны з бясконцым!*

* * *

3. І. 1936 г.



# Дрыгва *)

## (урыўкі)

### І.

Панад Прыпяцьцю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак. І хаты няроўныя тут, як і людзі: адна большая, другая меншая, старэйшая ці навейшая, але хата дзеда Талаша ўсё-ж такі зварачае на сябе ўвагу. Ня так знадворным выглядам, як адзіноцтвам: стаіць яна на вотшыбе і ў блізкім суседзтве з хмызьняком ускрай балота. Побач з хатай, прыкрываючы яе ад летняга сонца, красуецца высокая разложыстая груша. Вясною, усыпаная белым цьветам, як маладая дзяўчына, яна проста аздабляе дзедаў двор, і ня толькі дзед Талаш, а і бусел з гнязда, змайстраванага на дзедавай клуні, залюбуецца ёю.

Нават калі сьцінуць гадоў пятнаццаць з плячэй дзеда Талаша, то і тады ён быў ужо немалады: было яму тады гадоў семдзесят з хвосьцікам. А між тым, як раз у той час праславіўся дзед Талаш, як ваяка, ды які яшчэ ваяка!.. Да гэтага-ж часу ніхто ня ведаў аб ваяцкіх здольнасьцях дзеда Талаша. Праўда, бывалі выпадкі, калі дзеду Талашу здаралася пускаць у ход кулакі. Але гэта бывала тады, калі дзед Талаш падгуляе, а ліхі чалавек увядзе яго ў злосьць. Звычайна-ж ён быў чалавек сталы, ураўнаважаны і разважлівы, хоць, праўда, да пэўнай граніцы. Быстрыя цёмныя вочкі яго пазіралі ўдумліва, але ў іх часамі блукаў і затаены аганёк, гатовы разгарэцца ў адпаведныя мінуты цэлым пажарам рашучых учынкаў. Дзед Талаш любіць лес, балоты і сваю родную Прыпяць, дзе ён так спрытна езьдзіў на чаўне, ды лавіў рыбу. І стралок з яго быў ня кепскі: які-ж ён быў-бы паляшук, каб ня ўмеў добра страляць? На тое-ж яно і Палесьсе — бяз стрэльбы там абыйсьціся трудна.

Калі строга разьбірацца ў фактах, то хата, аб якой была тут гутарка, ня зусім дзедава хата. За доўгі час прывыклі называць яе Талашовай хатаю. А сапраўды-ж яна належала дзедавай жонцы, цяпер бабцы Настулі. Шэсьдзесят гадоў таму назад прыстаў Талаш у прымы да Насьці Балыгі. Насьця была адна дачка ў бацькоў. Вось якім парадкам стаў Талаш уладаром гэтай хаты. А ўрэшце яно і ня так важна, каму належала хата, тым болей, што дзед Талаш перасыпаў яе і можа па справядлівасьці лічыцца яе гаспадаром. Важна было тое, што хата стаяла воддаль ад сяла і трохі ў бок ад людзкога вока. Да таго, як прыстаць у прымы, Талаш быў у пана за пастуха. І яшчэ, што можна адзначыць з мінулага дзеда Талаша, дык гэта тое, што ў яго бацькі было дванаццаць дзяцей. Васьмёра з іх паўмі-

*) Дрыгва, аповесьць, Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск 1934, бач. 323, 1 нлб., фармат 8⁰.

рала малымі, а жыць засталіся два сыны, у тым ліку і дзед Талаш і дзьве дачкі.

Спакойна і павольна, як у зачараваным сьне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не сьпяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот. А яго так многа, што ўсёроўна, сьпяшайся не сьпяшайся, гэтай работы ёй хопіць на доўгія гады. Можа і надзею страціла яна вынесьці хоць калі-небудзь гэта мора цёмна-ружовай вады з неабсяжных балот Палесься, і з гэтай прычыны яна такая павольная і флегматычная. Вось толькі тады, калі разгуляецца вецер над зялёнаю шчэцьцю лясоў, над круглымі купамі - шапкамі кучаравай лазы, над барадаўкамі - купінамі жорсткай асакі, тады яна нявегла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубкі ды голасна ўхліпвае ў прыбярэжных чаротах, як маці ўскрай магілы, дзе пахаваны яе дзеці. І дзед Талаш не адважваецца тады ад'яжджаць на сваім чаўне на сярэдзіну Прыпяці.

Затое-ж, як лагодна і ўтульна разляжыцца яна ў мяккіх берагох, калі супакоіцца вецер, а над Палесьсем рассыплецца сонца мільярдамі залатых крупак святла! Спакой і цішыня пануюць тады над зялёнымі аксамітамі балот і лясоў. Бліскучаю сталёваю стужкаю зьяе Прыпяць, і толькі ў глыбозных чорных бухтах яе плёскаюцца самы, узьнімаючы срэбныя кругі-абручы. А дзед Талаш, пазіраючы на гэтыя забаўкі самоў, ссуне са лба на патыліцу саламяны капялюш, скажа сам сабе: „О, зьгінь твая маты! ось падчапіць-бы цябе, завалу“!

Спакойна і павольна, як у зачараваным сьне, цякло і само жыцьцё на Палесьсі, а водгульле ўсяго таго, што дзеялася на сьвеце, далятала сюды ў прыглушаных пpасторамі Палесься тонах, або з такімі напластаваньнямі людзкой фантазіі, што ўжо трудна было вылушчыць з іх зерне праўды.

Але час настаў.

Закалыхалася, затраслося Палесьсе. І было гэта ўлетку, калі прышоў царскі загад аб мабілізацыі. Павалілі грамадою запасныя, дзяржучы кірунак на бліжэйшыя чыгуначныя станцыі, павалілі пад шумную музыку гармонікаў, песень і надрыўнога плачу мацярок і маладзіц. Хоць спачатку вайна вялася дзесь далёка, але водгульле яе ўсё галасьней і галасьней даносілася да ціхага Палесься. Пасылаліся з далёкага фронту пісьмы ў глухія закуткі палескіх вёсак, і часта адказам на гэтыя пісьмы быў горкі плач асірацелых дзяцей і маладых удоў. А вайна брала ўсё новыя ахвяры. І ня было канца вайне. Ды мала гэтага — фронт пачаў набліжацца сюды. Цяжка ўздыхалі дзяды і дакорліва ківалі галовамі. А дзед Талаш чуць быў у бяду не папаўся. Панёс ён у Петрыкаў прадаваць рыбу. Здзівіўся дужа дзед, калі пакупец пачаў адлічваць яму грошы папяровымі маркамі. На грошах былі царскія партрэты. На адной быў партрэт Мікалая другога і стаяла цыфра 10.



— Ты-ж гэта мне што даеш? — ў абурэньні запытаў дзед Талаш, палажыўшы на далонь папяровую марку.

— Першы раз іх бачыш? грошы цяпер пашлі такія. Паглядзі, царскі партрэт і напісана — 10 капеек.

Перавёў дзед Талаш вочы на царскі партрэт, патрос галавою.

— Ваяка, згінь твая маты!.. Даваяваўся, сволач ты, гіцаль, да таго, што ўжо і меднае капейкі ня маеш!

Натапырыў вушы паліцэйскі стражнік і да дзеда! Насілу адкараскаўся дзед Талаш ад гэтага ліха. І занатаваў сабе: на людзях трэба быць такім-жа асьцярожным, як і на балотнай дрыгве: ступіш ня так — і правалішся. Не разгледзішся — на гадзіну насунешся (бач. 3—7).

## XXV.

Тысячамі дарог і ў розных кірунках зьбягае вясною сьнегавая вада. Як многа гэтых дарог і як разнастайны яны ў сваім руху і ў сіле свайго імкненьня.

Ёсьць нейкія заваблівыя чары, паэзія і хараство ў гэтых дарогах - ручаях, што пракладаюць пуціны вясьне і адноўленаму жыцьцю на зямлі, у іх мітусьлівым бегу і залівістым бульканьні, у вясёлым гомане і ў грозным шуме. Маленькія, кволыя, ледзь заметныя ў пачатку, струменяцца яны, як сьлёзы, на твары зямлі тоненькімі пакручастымі рысачкамі, набываючы сілы з кожным часам, з кожным крокам руху наперад. І колькі перашкод, колькі нечаканасьцяй у іх падарожжы! Кожная грудка лёду, кожны парог-гарбінка, выступ зямлі, узгорачак становяць ім замінкі і труднасьці ў іх імклівым руху. Але яны бягуць, несьціханна, бягуць бязупынна, дзе шпарчэй, дзе павольней, абыходзячы перашкоды, ці проста зносячы іх з свае дарогі, бягуць, покі не сальюцца ў бурлівыя патокі, покі не ачысьцяць зямлі ад сьнягоў, каб магутным разводзьдзем пралажыць шырокі шлях для яе новага жыцьця.

Тысячамі дарог і ў розных кірунках ідуць і людзі, шукаючы сабе прастору, волі і ўсяго таго, што называюць яны сваёю радасьцю і шчасьцем (бач. 186, 187).

— — — — — — — — — — — — — — — —

# Юбілей Клясыка — сьвята народу

### Аб гэнэзысе клясыка

Асаблівае зьявішча: ніколі і нідзе — ніякія інстытуцыі ні аўторытэтныя асабістасьці ня ўзялі на сябе задачы вырашыць: — той ці іншы пісьменьнік падлягае абазначэньню, як клясык.

Пісьменьнікаў лёгка „прыдзяліць“ да той, ці іншай групы, школы, кірунку; можна іх награджаць, згодна з пастановай розных інстытуцыяў, рознымі ляўрамі. Некаторыя з пісьменьнікаў становяцца да сусьветнага конкурсу на тытул ляўрэата Нобэля, што дае ім магчымасьць вышэй падняцца на апалонаўскую гару. Але ніякія пастановы ці вызначэньні акадэміяў, якія быццам кіруюцца крытэрыямі чыста - літаратурнай спэцыфікі, ня здолелі-б падняць пісьменьніка да тэй вышыні Парнаса, дзе сярод „дзевяці муз“ знайшоў сабе мейсца мастак-клясык.

Дарэмна будзем шукаць тлумачэньня гэтага зьявішча ў дэфініцыі самога паняцьця клясык, — якое найчасьцей даюць прыхільнікі літаратурнага формалізму. Нямецкае „Musterschriffsteller“—паняцьце схэматычнае і да таго яшчэ суб'ектыўнае. Калі-б мова была аб „прыкладным пісьменьніку“, дык справа клясыка апынулася-б у руках судзьдзяў, якія знайшлі-б сродкі, каб прызнаць сябе годнымі і компэтэнтнымі да выдаваньня клясыку — пашпартоў.

Гэнэзы клясыка відавочна трэба шукаць на іншым грунце. Адзінай інстытуцыяй „вызначаючай“ клясыка і даючай яму сваё ўпаважненьне гэта Вялікі Безыменны — Грамадзкасьць данай эпохі з усімі сваімі характэрнымі і пераважаючымі азнакамі соцыяльнага, нацыянальнага і культурнага характару. Ніякія санкцыі літаратурных „жрацоў“ не патрэбны былі-б Якубу Коласу, каб ён стаў перад намі, як клясык нашэй літаратуры, таксама, як ня трэба гэта было таму, хто „прыдумаў“ лявоніху, хто змайстраваў цымбалы, хто першы запяяў народную песьню. Гэта даная канкрэтна — зложаная грамадзкасьць высунула таго, каторы высака-мастацкімі сродкамі будзе выражаць яе сьведамае і падсьведамае імкненьне, ідэалы, патэнцыянальныя магчымасьці.

### З народу — да народу

„Мэтрыка нараджэньня“ Якуба Коласа, як пісьменьніка, гавора: Хваля вялікага народнага прабуджэньня, арганічная частка гістарычнага ўздыму вызваленчай барацьбы ўсіх прыгнечаных народаў царскай Расеі, вынесла і кіравала нашага вялікага юбіляра-клясыка на творчы шлях. Праз глушы Палесься праносіцца голас паэта. Праўда, гэты голас яшчэ гучыць адасобнена. Гэта яшчэ ня „кліч зямлі“ беларускай, а толькі паасобных яе сыноў, вышаўшых з народных гушчаў яе інтэлігентаў. І як-бы дзіўным, парадаксальным гэта не здавалася, — аднак гэта факт: самі з народу нясучы яму свае ідэі аб адраджэньні, яны, гэныя інтэлігенты, не пачулі яшчэ, што вызваленча-беларуская справа перастала ўжо быць справай адзінак-фантастаў, што гэта справа ўсьцяж глыбей уразаецца ў сьведамасьць народных гушчаў, бунтуе іх кроў, кліча іх да вялікага чыну.

Аднак ня быў-бы Якуб Колас клясыкам нашае літаратуры, мастаком, нясучым пачэсны тытул Народнага Паэта, калі-б не знайшоў той шлях, які вядзе яго — сына народу — да самога народу.

Няхай на славу Якуба Коласа будзе сказана: ён адным з першых з старэйшага пакаленьня беларускіх пісьменьнікаў на гэты шлях уступіў. Тады-ж і пачаўся найбуйнейшы росквіт яго таленту.

У творчасьці Якуба Коласа, у яго псыхоідэолёгічных настаўленьнях мы бачым працэс разьвіцьця. Працэс, праўда, не заўсёды раўнамерны, і як ува ўсякім працэсе, так і ў творчасьці Якуба Коласа можна ўбачыць розныя яго этапы. Гэта будзе і мэрыторычна і мэтодолёгічна правільным.

### Сьвята, якое абавязвае

Сьвяткуе 30-ці гадовы юбілей творчасьці Якуба Коласа ўвесь беларускі народ, а разам з ім і ўсе іншыя народы не асьлепленыя шавіністычнай ненавісьцю да творчага чалавечага духа. Бо Якуб Колас — гэта падпора вялікага гмаху ўселюдзкай культуры.

Каб гэта наша сьвята поўнасьцю адказвала значэньню Вялікага Мастака ў нашым нацыянальна-культурным жыцьці, неабходны да гэтага згуртаваны чын усяго беларускага народу. Адзначым тады гэты юбілей узмоцненымі высілкамі на полі народнай асьветы. Памятуючы шлях разьвіцьця Якуба Коласа, акружым нашых маладых, шмат цярпячых пісьменьнікаў, цёплым, культурна-творчым асяродзьдзем, якое паможа новаму пакаленьню усвоіць вялікі досьлед Коласа, Купалы, як і наагул лепшых прадстаўнікоў чалавечай культуры.

У чэсьць юбілею нашага Клясыка ўзмоцнім свае натугі, каб супольнымі сіламі ўтварыць у Вільні гмах беларускай культуры, каб у нашых вёсках утварыць народныя дамы яго імені. — Гэта будзе лепшы доказ нашай вялікай пашаны для Народнага Паэта — шмат заслужанага для нашай народнай справы — Якуба Коласа.

---

АД. СТАНКЕВІЧ

# У „палоне" паэзіі Якуба Коласа

## (з нагоды 30-летняга юбілею яго літаратурнага творства)

Паза асабістым жыцьцём чалавека бываюць на сьвеце факты, жыцьцёвыя праявы, якія на некаторых людзей маюць асаблівы і рашучы ўплыў, якія трымаюць яго як-бы ў палоне, і якія якбы заварожываюць псыхіку чалавека праз усё яго жыцьцё.

Бываюць так-жа і ў асабістым жыцьці чалавека здарэньні, аб якіх ён ніколі не забываецца, якія жывы і вечны сьлед пакідаюць на яго душы. Мінаюць гады, мінае і зьмяняецца з імі жыцьцё чалавека, а гэныя здарэньні, як жывая пячаць, астаюцца нязьменнымі і непарушнымі. Больш таго — гэныя здарэньні асаблівую яшчэ праяўляюць дзейнасьць у душы чалавека — ўспаміны аб іх тораць у нас усьцяж нешта новае, лучаць мінуўшчыну з сучаснасьцяй, узбагачаюць псыхічнае жыцьцё наша.

У маім жыцьці, калі яго разглядаць з пункту беларускай адраджэнска-вызвольнай ідэі, асаблівым, аб'ектыўным і суб'ектыўным фактам, ад пачатку аж да сяньня, ёсьць вылучнае і рашучае дзеяньне літаратурна-мастацкага творства Якуба Коласа на маю псыхіку і маё з ім асабістае спатканьне.

У 1910 годзе я ўступіў у Віленскую Духоўную Каталіцкую Сэмінарыю. Агулам кажучы, быў я ўжо сьведамым беларусам. Сьведамасьць аднак гэта была яшчэ дужа сырая, няглыбокая, нявыканчаная. Праўда, проціўставіцца польскай нацыянальнасьці, ня гледзячы на атмасфэру польскага каталіцтва, у якім я гадаваўся, на дзіва і для мяне самога, удалося мне лёгка. Жыцьцё аднак праз увесь час майго юнацтва ўсьцяж стаўляла прада мною спакусы, што накіроўлівалі мяне ў бок польскасьці. Але нямнога трэба было мне змаганьня з імі, каб астацца верным беларускай стыхіі. Крыху інакш справа выглядала з расейшчынай. Прабыўшы ад 1905 да 1909 году ў расейскай гарадзкой школе ў Ашмяне, я пачынаў звыкацца з казённай навукай, што рускі народ дзеліцца на тры пададдзелы: на вялікарусаў, маларусаў і беларусаў, і што я дзеля гэтага сапраўды беларус, але што мая гэта нацыя не самастойная, а ёсьць толькі часткай агульна-рускай нацыі. „Беларуская Дудка" Багушэвіча, асабліва яго прадмова да яе, упорыстыя, часта аж да забыцьця аб усім іншым, студыі і з гэтага боку дапамаглі мне мінуць небясьпеку і абедзьвімі нагамі цьвёрда стаць на беларускі шлях. Гэтак нацыянальна скрысталізаваўся я ў першых двух гадох маей навукі ў сэмінарыі ў 1910—11 годзе. Далейшае шліфаваньне і разьвіваньне маей беларускай сьведамасьці і ідэолёгіі адбывалася асаблівым спосабам пад уплывам паэзіі Коласа.

Ад восені 1906 году ў Вільні выходзіла „Наша Ніва". Тайком ад улады сэмінарысты даставалі яе і чыталі. Найбольшае на мяне ў гэтым часапісе рабілі ўражаньне вершы Коласа. Высока мастацкія і адначасна фотографічна праўдзівыя малюнкі беларускай прыроды і беларускага быту, глыбока - спакойныя і поўныя безграгічнай любові да ўсяго гэтага настроі паэзіі Коласа, змушалі біцца ў тахт з ей маё сэрца, выклікалі ў мяне нейкую дагэтуль няведамую любоў да Беларусі і беларускага народу і парывалі ў краіну лепшага, ідэальнага беларускага сьвету. І іншыя сэмінарысты беларусы дазнавалі падобнага ўражаньня ад паэзіі Коласа. Больш таго — нават рашучыя нашы праціўнікі, слухаючы ці чытаючы Коласа паэзію, задумваліся, псыхічна разаружваліся і мякчэлі ў сваім упорстве і ненавісьці да справы беларускага адраджэньня.

Але ня толькі праз яго паэзію ў „Нашай Ніве" пазнаў я Коласа, які ўзяў у „палон" душу маю. Час ад часу ўдавалася бываць у рэдакцыі „Нашай Нівы". Адзін раз, здаецца ў 1911 г., падчас такіх адведзінаў гэнай рэдакцыі, якая мясьцілася ці на Віленскай 20 ці на Завальнай 7 у Вільні, я спаткаў Івана Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага. З імі знаўся я ўжо добра. Але апрача іх быў там чалавек, якога я спаткаў першы раз. Сядзеў ён у кутку пад акном маўкліва й задуменна, уважна прыглядаючыся да мяне. Якое-ж маё было зьдзіўленьне і радасьць, калі Іван Луцкевіч падвёў мяне да гэнага незнаёмага і сказаў: будзьце знаёмы, гэта беларускі паэт Якуб Колас. Радасьці маей ня было канца. Я глыбака быў узварушаны. Хацеў нешта Коласу сказаць прыемнае, але нічога ня вышла. Колас ня быў словаахвотлівым, уважна і пытальна глядзеў на мяне і маўчаў. Відзячы наш клопат, Іван Луцкевіч бліжэй тлумачыў, хто я такі, і адначасна паказваў нам старадаўныя беларускія забыткі, сабраныя ім для беларускага музэю. Прамовіў і Колас. Цешыўся, што я стаў на беларускі шлях і жадаў вытрываласьці. Мне-ж толькі гэтага і трэба было. Чытаючы паэзію Коласа, мне часамі прыходзілі сумнівы, што гэта можа паэзія і толькі, што можа і сам Колас у сапраўднасьці інакш глядзіць на сьвет. Асабістае спатканьне, як змору, разьвеяла ўсякія сумнівы, усякія чорныя думкі.

Гэта было маё адзінае спатканьне з Коласам, якое ў памяці аднак маей асталося назаўсёды. Здаецца мне, што Колас тады, гледзячы на мяне, як-бы пытаўся: няўжо-ж ты вытрываеш ў беларускай стыхіі, няўжо-ж ты выпутаешся з чужых цянётаў і сапраўды пойдзеш па беларускім шляху? Тымчасам для мяне ўжо тады ня было ніякіх у гэтай справе сумніваў. Колас і яго паэзія даканалі ў гэтай справе ў душы маей рэшты. Было гэта 25 гадоў таму, а помніцца як сяньня.

Асабістае спатканьне маё з Якубам Коласам яшчэ больш узмацавала дзейнасьць ягонай на мяне паэзіі, якая назаўсёды

асталася „дамай“ майго сэрца. Калі вышаў у сьвет друкам зборнік яго вершаў „Песьні Жальбы“, я з імі ўжо не расставаўся ніколі. Пасьля сэмінарыі апынуўшыся на студыях у Духоўнай Акадэміі ў цяперашнім Ленінградзе, а тады яшчэ Пецярбурзе, а пасьля Петраградзе, я далей знаходзіўся пад рашучым уплывам чараў паэзіі Коласа, далей не расстаючыся з „Песьнямі Жальбы“ і прагавіта прачытваючы па некалькі разоў так-жа вершы Коласа, што друкаваліся ў тагочасных беларускіх часапісах, асабліва паэму „Новая Зямля“, фрагмэнты якой друкаваліся на пачатку рэвалюцыі ў беларускіх газэтах, што выходзілі тады ў Менску.

Лацінская пагаворка кажа: „bonum diffusivum est“ — гэта знача, што яно з натуры сваей імкнецца да таго, каб удзяліцца каму. У акадэміі існаваў гурток беларускіх студэнтаў. Такі-ж у тым-жа Петраградзе існаваў гурток беларусаў у сэмінарыі. Адзін гурток з другім былі ў кантакце. Удавалася нават часамі прабірацца з сэмінарыі ў акадэмію на ўзаемныя нарады і нават часам наладжваць рэфэраты. З такім рэфэратам быў я ў сэмінарыстаў 31. III. 1918 г., за пару месяцаў да аканчальнага майго выезду з Петраграду. І дзіўная рэч. Тэма майго рэфэрату была гэткая: „Якуб Колас і яго паэзія“. Саньня знаходжу ў сваім архіве гэны рэфэрат і вось што між іншым у ім чытаю. „Прыемна быць разам, жыць супольна людзям, у каторых адны думкі, адны жаданьні, сэрца каторых б'еццa ў адзін тон і адна іх ажыўляе душа... А можа думаеце, што гэта няпраўда, што я з фантазіі такую думку выснаваў? Не. Вось чатыры гады мінае, як я тут у Петраградзе, і праз усе гэтыя гады ў вашых асобах і ўва ўсіх тых, што мяне апярэдзілі, я знаходжу пацьвярджэньне сваіх думак. Бо як-жа! Падчас сумнага настрою душы, падчас цяжкога духовага перажываньня, падчас завярухі ў сэрцы, — мы адны другіх найлепш разумелі, мы, у каторых супольная ідэя. Дык вось сяньня, у час майго з вамі разьвітаньня, хацелася-б з вамі, браточкі, яшчэ раз, раз апошні, пагаварыць шчыра, ад сэрца. Але хто-ж раскалыша гэта сэрца, хто яго струны паруша, каб яшчэ жывей і больш суладна яны зайгралі? А калі жаданьні нашы споўняцца, дык хто-ж утрымае тон гэтай музыкі на аднэй вышыні, на аднэй роўнай, нефальшывай ноце? Загаловак тэмы вам адкажа. Зробіць гэта той, хто як вецер у васеньнюю цёмную ноч жаласна плача ў пушчы-Беларусі, галосячы над народу сконам, хто як родная маці над калыскай дзіцяці свайго бязсонна ночку каратае, пяець аб долі-нядолі свайго роднага народу, яго будучыню гадае, хто сам жывой ёсьць Беларусяй, люстрам пакутнага жыцьця яе, той, хто будучы вучыцелем-народнікам шмат і вельмі шмат супольнага мае з намі... Зробіць гэта паэтычная думка аб пакутнай Беларусі, аб долі-нядолі дзетак яе... паэтычная думка таго, каму імя Якуб Колас“...

І далей, аж да сяньня, паэзія Коласа мела і мае на мяне асаблівую, вылучную дзейнасьць. У 1918 і 1919 гг. прышлося мне за беларускую справу пабываць за рубяжамі этнографічнай



Беларусі аж у Драгічыне над Бугам, куды мяне саслала мая духоўная ўлада. І тут нішто так мяне ня цешыла, не падтрымлівала на духу, як паэзія Коласа, вершы якога заўсёды меў я пры сабе і чытаў іх па некалькі разоў, разводзячы тугу па Бацькаўшчыне і забываючыся аб дазнанай крыўдзе. І цяпер, у хвіліну сумніваў і духовай прострацыі, у хвіліны духовай зьнямогі, паэзія Коласа прыводзіць мяне да роўнавагі, супакойвае, улівае новыя сілы і варочае веру ў зьдзейсьненьне вялікага нашага ідэалу — адраджэньня і вызваленьня беларускага народу.

„Ой вы, дарожанькі людзкія, пуцінкі вузкія, крывыя!.. Прасторны шлях! калі-ж, калі ты закрасуеш на зямлі і злучыш нашы ўсе дарогі?“—пытае Колас, канчаючы сваю паэму „Новая Зямля“.

Прасторны беларускі шлях ужо красуе, ужо злучаюцца нашыя дарогі ў Тваіх песьнях, у Тваей паэзіі, Вялікі Пясьняр наш, і, пакрысе, у рэальнасьці.

Вышэйсказанае няхай будзе маім скромным ляўравым лістком у вянок на голаў Вялікага Беларускага Народнага Песьняра з нагоды 30-лецьця мастацка-літаратурнага Яго творства.

---

А. УЛАСАЎ

# Якуб Колас і „Наша Ніва”.

**(успаміны)**

Мне ўжо 62 гады. Я належу да пакаленьня, якое адыйшло ў гісторыю. 90 проц. маіх равесьнікаў ужо скончылі зямную кар'еру. Я яшчэ на пару гадоў затрымаўся. Варта было-б мне напісаць свой „кінэматаграф“ на працягу якіх 35 гадоў для беларускай моладзі. Можа і ўдасца гэта зрабіць перад сьмерцяй. Малады пясьняр Жылка (ён ужо на тым сьвеце!) мне купіў тоўсты сшыток на гэта.

Калі я быў студэнтам, то мне прарочылі кар'еру літэратарагумарыста, а я як раз усё жыцьцё пісаў на праклятыя палітычныя і эканамічныя тэмы. І цяпер прасілі мяне напісаць пра Якуба Коласа. Я па старой паганай прывычцы (як жартавалі з ваеннага пісара, каторы ўмеў танцаваць толькі ад печкі!) мушу трохі паглядзець на жыцьцё кругом. На сьвет гляджу з заходнебеларускіх земляў. Хацелася-б мне пабываць яшчэ ў Менску. — Калісь старая „Беларуская Рэвалюцыйная Грамада“ у пракламацыях нясьмела пісала ў 1905/6 г.: „аўтаномія Беларусі з соймам у Вільні альбо ў Менску“. Менск неспадзявана выскачыў першы на сталіцу. Вось я бы хацеў паглядзець на новае там жыцьцё

і „напіцца вады са Сьвіслачы“. Кідаць мае бедныя, заняпалыя, з сумным жыцьцём народу, заходне-беларускія землі я не хачу. У мяне астаўся сэнтымэнт да скрыўджаных... У нас тут у хаду песьня:

„Rolnik nasz poczciwy,
Jaki on jest kciwy:
Pije liter z denatury,
A w butach ma dziury“...

* * *

Мне трэба адыйсьціся ад цяперашніх часоў і з 1936 году пераскочыць на 30 гадоў узад. Бачыце, ніяк не магу адразу перайсьці на „заданную тэму“.

Бунтавалі, баставалі ўсе студэнты, далучыліся работнікі і сяляне, самадзяржаўе скранулі з гранітнага фундамэнту. Дума... Народныя выбарныя...

Энэргія была ў нас колёсальная, энтузіязм моладасьці. Вера горы перасоўвае! Менск 1905/6 г. Пасьля першых маіх мітынгаў у Радашкавічах, гдзе я гаварыў страшэнныя штукі: „цара ня трэба“ і т. п., —я, як кажуць далікатныя местачковыя нашы жыды, „трошкі“ ўцёк, уначы, зімой, абсаджаным бярозамі старым трактам у Менск. Селянін падганяў каня свайго з пашаны да пасажыра: „Гэй, пролетарый усіх старон... саедзіняйся!“ У Менску я з Бурбісам і братамі Луцкевічамі і яшчэ з кучай моладзі арганізавалі забастоўкі шаўцоў, парыкмахераў, музыкантаў... Стэцкевіч („Аганёк“) друкаваў проклямацыі; пускалі іх па вёсках і т. д.

Я ня меў кватэры, быў падпольнік. Начаваў кожны дзень у другім мейсцы, а пару разоў і на сквэры „пільнуючы ўсходу сонца“... Здароўе было жалезнае, энэргія маладая! З паўгоду так рыскаў, як воўк, а й Іван Луцкевіч цэлы год у Вільні так бадзяўся. Гэта я пішу для характэрыстыкі дэкарацыі таго часу.

Раз на вуліцы спатыкаю Леаніда Канстантінаўскага *), прыяцеля майго і друга са школьнай лаўкі ў Лібаве. Леанід ажаніўся, быў багаты, наймаў віллу ў Менску. Я знайшоў у яго і стол, і дом. Яго жонка была тыпам тургенеўскіх кабет. Зараз, мае чытачы, дабярэмся і да Якуба Коласа. Гэта я малюю фон абраза.

Ехаў я — раней, чым тое дзеялася — у трэцяй клясе. Раптам уваліваецца лапцяватая грамада беларусаў з Нёмана. Загналі плыты ў Коўну, едуць назад па Нёмане, каб ізноў гнаць дрэва. Мяне тады расьпірала, як кажуць цяпер, ад агітацыі; разгаварыўся скора, чытаў вершы Мацея Бурачка. Тады ня было яшчэ ні Купалы ні Коласа! Плытнікі з в. Мікалаеўшчыны. Гэта вёска

*) Леанід быў ранены на вайне ў 1914 г. і цяпер недзе на Украіне.



дастаўляла ня толькі „рачных ваўкоў“, але і вучыцялёў народных, як м. Валожын — рабінаў. Мне гавораць: „а ў нас адзін настаўнік „сьмешна“ чытае панашаму!“

Праз нейкі час быў у Менску зьезд вучыцялёў, на дачы на Камароўцы. На гэтым зьезьдзе я спытаўся: хто тут з вас з Мікалаеўшчыны беларускія вершы фабрыкуець? — Выходзіць лабаценькі, з чорнай маладзенькай бародкай. Від у яго быў не саўсім забіты сэмінарскай трафарэтнай вучобай.

Я павёў гэтае жамчужнае зерне да Леаніда Канстантінаўскага. Ветлівыя гаспадары, шыкарная вячэра. Мой вучыцель разьвярнуўся. „Но лишь божественный глагол до слуха чуткого коснется, душа поэта встрепенется, как пробудившийся орел!“ Хлапец пераабразіўся, вочы яго зьялі, твар адухатварыўся. Мілагучныя рыфмы сьпявалі ў яго.

Мы ўсе зразумелі, што перад намі — узыходзячая зорка беларускай паэзіі.

* * *

Браце Якубе! Можа, прачытаўшы гэта, ты ўспомніш нашу залатую моладасьць і моладасьць беларускага адраджэньня і наш стары „губернскій город“ Менск. Можа, пішучы аб Табе, я, адышоўшы ад актыўнай работы, стары, ужо ня ўмею трымаць нос па ветру і ня ўсім дагаджу: ня прывык я гэтага рабіць. — Чуў твой голас, Якубе, праз радыё, чуў і гарачае прывітаньне менскай публікі. Прайшоў Ты праз жыцьцё, зрываючы, як і маё пакаленьне, мала кветак і многа церняў і турмы. Для мяне ўсё-ж гэта гонар, што я першы Цябе расшукаў — не праз абвесткі ў газэтах, а праз лапцяватых мужыкоў! Я — твой хросны бацька. Нагародай мне было-б, каб што-небудзь зрабіць для „Каласкоў“ Беларусі, дзе я дажываю свой век! З маей, цяпер набошчыцы, радашкоўскай гімназіі, выйшаў малады паэт Танк, і многа іх яшчэ выявілася-б пры добрых варунках асьветы...

* * *

Помню, як я ў Менску хадзіў у турму да Коласа. За гэны самы вучыцельскі зьезд ён дастаў тры гады. Помню, недзе пад Брэсцкім вагзалам, у завулку, драўляную турму, тыпу павятовай турмы, досыць патрыархальную. „Старшой“ Пікулік, чалавек дабрадушны, убачыўшы мяне з дарамі прыроды, гаварыў: „Пазавіце Кінстінтіна!“ З нутра турмы выходзіць неяк баязьліва наш паэт. Сядаем на лавачцы каля варот, „пасямейнаму“ неяк сядзяць Пікулік і стражнік...

Я шмат раз адведываў людзей у турмах. Ніколі ня трэба пытацца: як маешся? а найлепш расказаць што-небудзь вясёлае, анэгдоты. Іх любіў слухаць і Пікулік.

Калі К. Міцкевіч адсядзеў турму, Іван Луцкевіч, каторы ведаў увесь край, — у кожным закавулку ён меў знаёмых, — намовіў адну сымпатычную старую паню Т. Гордзялкоўскую (кабету тыпу Э. Арэшчыхі) зрабіць беларускую школу тайную, і Якуба зрабілі вучыцелем яе. Ён быў першы беларускі вучыцель першай беларускай школы. Як гэта ўсё было там, я ня памятую.

* * *

Цяпер пяройдзем да „Нашай Нівы". Пачатак беларускай прэсы быў увесь на ахвярах і цяжкай начной працы. Паўтраця году мы з Антонам Луцкевічам пісалі ад вечара да раніцы. Як мы вытрымалі гэту работу, я не разумею. Моладасьць, нязломная воля і энтузіязм! Трэба было вырабляць літаратурную мову. Пазьней зьявіліся памацнікі. Прыходзілі да нас як у „Запарожскую сеч". Помню, зайшоў да нас хлапец, з выгляду падобны да клерыка, каторы адразу сеў пісаць сотні адрасоў. Піша дзень, другі, трэці... Прыклеіўся да работы. Пытаюся ў Івана, як яго прозьвішча? Іван кажа: „а чорт яго ведае! — яле малайчына". Аказалася, ніхто яго ня ведае, а гэты малец прыклеіўся надоўга.

Так папаў да нас і „дзядзька Барадаты". Апрацовываў матарыял! Прышоў з сытым тварам, але, папрацаваўшы пару месяцаў, пабялеў, і нэрвы, як іскрыпка зрабіліся. Затое мысьль, стыль зрабіўся лёгкі. „Барадаты" раніцай раз пісаў і кажа: „я пасьля абеду даканчу, а цяпер бягу ў суд, як сьведка". Няма яго ні на абед (3 абеды мы дзялілі на 5 чалавек), ні ўвечары. Іван паляцеў разьнюхаць, гдзе ён дзеўся. „Барадатаму" што называецца „пашанцавала": тры сьведкі зрабілі яго вінаватым і дастаў 10 гадоў ссылкі ў Сібір за с.-р. партыю... Праз месяц „Барадатага" ў кайданох павялі з партыяй на вагзал. Потым мы яму паслалі ў вокладцы кнігі „акуляры", г. зн. фальшывы пашпарт і ён у Сібіры ажаніўся ды абсеў.

* * *

Прыбыў у рэдакцыю да нас урэшце і Якуб Колас. Далі яму адпаведную работу.

Прысылалі ў „Нашу Ніву" многа вершаў, расказаў, карэспандэнцыяў. Колас меў многа працы. З благіх вершаў рабіў добрыя, і местачковы вершаплёт, прачытаўшы свае вершы сваім знаёмым, дзівіўся разам з імі: якія пекныя вершы!

Колас унёс многа гумару ў рэдакцыю; чалавек ён быў жыцьцярадасны, у жыцьцё нашае „богемы" ўносіў у вольныя хвіліны многа вясельля.



Помню, раз цэлую ноч працавалі ў рэдакцыі на рагу Завальнай і Троцкай у Вільні. Колас а гадзіне 3 уночы кажа: „Вот бы выпіў гарэлкі!" — „На грошы і купі!" — Колас за паўгадзіны вярнуўся з цёмнай вуліцы і кажа: „Няма, усё зачынена! Тут і генэрал не дастане!" — Я пайшоў. Пытаюся ў гарадавога: „Калі ласка, гдзе тут можна дастаць гарэлкі?" — „Ды вось, у стоража пад № 58"...

* * *

Маладыя мае чытачы! Вашае жыцьцё ўсё ўперадзе. Вашая вера ў шчасьлівую будучыну, яна недзе за ружовымі хмаркамі — лятуценьнямі, — там адкрываюцца новыя і новыя далі. Я ўжо прайшоў праз усе далі: жыцьцё іх мне адкрывала год за годам. Нашае пакаленьне несла свае ідэалы вызваленьня народаў пакрыўджаных, занядбаных, — пашанаваньня ўсіх цяжка працуючых, на карысьць не сваю, а чужую. Мае равесьнікі і аднадумцы клалі свае маладыя гады, сваё асабістае шчасьце, сваё здароўе, сваё жыцьцё. Многа іх звалілася ў баразну, аддаўшы ўсе сілы даканца.

Гдзе мае таварышы старыя? Большасьць сьпіць у зямлі сырой. Праз іх трупы ідуць новыя барцы, утрымліваючыя заваяваныя папярэднікамі пазіцыі, сьмела імкнучыся далей — уперад. І як нашае пакаленьне старалася вызваляць і дух народу з рабскае залежнасьці ад чужынцаў, так і вы, маладыя, мусіце гэта рабіць і стварыць новы пэрыяд, які-б адыграў ня меншую ролю ў беларускім рэнэсансе, як пэрыяд „нашаніўскі".



# НАРАЧ

## (частка чацьвертая)

1.

Кашуля шырокая з пэрту,
лапці з пяньковых абор,
ў шапцы салдацкай падзёртай
ходзе па вёсцы Прахор.
Ходзе ад хаты да хаты:
— Гэй, нарачанскі народ,
госьці прыехалі ў сваты —
клічаць зьбірацца на сход!..

А вецер з-за возера сіні,
з пахам смалістай сасны,
суха кудзеліць чупрыну,
рве на грудзёх рызманы;
гне вербалозныя веткі
шэпчучы казкі свае
і на разьвешаных сетках
шэрыя песьні пяе.

— Эх, рыбныя дні наступаюць,—
дарма накормяць сірот!.. —
Ходзе Прахор і склікае
тлумы галодных на сход.
Хаты прачнуліся, гумны
і затрашчалі калкі, —
гразкаю вуліцай шумна
хмарай пайшлі рыбакі...

2.

Ў хаце Архіпа
рана зьбіраўся тлум.
Пужліва застылі малыя разьбітыя шыбы.
Горкі і сіні дым ад махоркі, шум
і пахне балотам, вясной, недасоленай рыбай.



Каля стала улада. Загад: маўчаць!
Ды толькі шуміць да адказу набітая хата.
Плача ў калысцы з соскай пустой дзіця
і плачаць чагось сіратліва
пад ложкам ягняты...

А за вакном, далёка, відаць рабы,
з пад сьнегу, гасьцінец,
а далей бярозы і гоні,
ськівы разораў, сьнег і межаў гарбы —
эх! як мазалі на працоўных сялянскіх далонях.
— — — — — — — — — — — — — — —

Із лавы падняўся
солтыс грамадзкі,
клінам задзёр бараду—вехаць іржавай саломы.
Камнем лягла цішыня на плечах рыбацкіх;
кашаль сухі надрываў грудзі Сымону старому.
Солтыс пачаў гаварыць: —
урад, быццам, хоча
сам рыбаком памагчы рыбу лавіць невадамі...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
шумна, ў кутку, старыкі нат замахалі рукамі.
Пасьле з-за столу падняўся хтось ў акулярах: —
трэба урад шанаваць . . . . . . . . . . . . . .

З таўпы

Але, як жыць нам, скажы, на дошчатых нарах?
Нат палыном з лебядой нас не пракормяць загоны!..

Пасьле другі гаварыў:
усе мы павінны
справўна плаціць падачкі, ціха жыць, не бунтавацца
і працаваць на карысьць народу, айчыны...
з нэндзы каб выйсьці, з бяды—болей ўлажыць
трэба працы...
Сяньня будуем для вас дарогі, гасьцінцы;
сяньня культуру нясём мы ў вашы вёскі і сёлы.
Можаце самі і дзеці вашы вучыцца
могуць задарма ў сьвятліцах і ў урадовых школах...

Сыпаў славамі — рыбай з падзёртага саку.
Пасьле успомніў яшчэ голад, сялянскае гора...
Сам над рыбацкаю доляй ледзь не заплакаў
ды, мімаходам, пачаў і...
гаварыць пра вазёры...

А цішыня прытаілася паміж плечаў...
Толькі, часамі, шопат хусткі галовы ўскалыша,
змые натоўп,
і згасьне ў куткох каля печы...
Ціха, чуваць, шэры дождж шыбы ваконныя ліжа...

Сымон

Я ўжо, паны, ня рыбак
і сілы ня маю,
сілы сваей маладой... Дні ўжо мае мінавалі.
Рукі ня так ужо моцна вёслы трымаюць
і на руках мазалёў больш, як у пана мэдаляў...
Шмат каштавала і нам Міколы айчына,
гэта . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сяньня на брацкіх магілах
вербы чупрыны
спусьцілі,— толькі ў грудзёх не загаіліся раны...
А паглядзіш на зямлю, як вокам ахопіш,—
ямы, канавы — рубцы не зажылі і чарнеюць...
Плугам нярaз выарыш дрот, косьці з акопаў,
пліты разьбітых магіл —
рускіх, нямецкіх траншэяў...—

І успаміны прыйшлі
з дарог, з над вазёраў,
дзе непагодай ліхой вербы сумуюць маркотна.
Ўсталі мінуўшыя дні з пад чорных разораў...
Мые, за вокнамі, дождж поле —
рабыя палотны.—

Кажыш: дарогі, гасьцінцы... Чорнага поту
шмат пралілося і там з рук ды з збалелага карку.
Ўсюды ўлажылі нямала сілы, работы,—
вёска пацьвердзіць уся,
як мы абраблялі шарваркі...

Так і асьвета, паны... Ня шмат павіднела
ў нашых саломенных хатах . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзень непагодны, ветраны, шэры
невадам цяжкім вісіць,
з стрэхаў спусьціўшыся мокне...
І шалясьцяць на стале ахапкі папераў,
ды запацеўшы глядзяць сьлепа разьбітыя вокны...—



Вось тут умова ляжыць...—
пачаў ў акулярах...
Быццам ударыў віхор у валавяную цішу.
— Не! пастаім да канца за Нарач...
за Нарач!..
— Не! з рыбакоў ні адзін гэтых умоў не падпіша!..

Хтось за сталом гаварыў — крычаў неяк хрыпла.
Хата шумела, як бор:
шумна з размахам і гулка...
Тлум, як рака ў крыгалом, нястрыманы выплыў,
хваляй расплыўся, пайшоў бурна вясковаю вулкай...

3.

Над гарамі, перавалам і,
над разорамі і хатамі,
над глухімі пералескамі,
над лясамі над кудлатымі, —

гасьлі зоры, загараліся,
дні ўставалі і хаваліся...
Эх! і маладасьць адзіная
расьцьвіла ў садох рабінаю...

Расьцьвіла... а можа восеньню
яе скосяць ветры чорныя
што гуляюць над вазёрамі,
над Старонкай непакорнаю?..

Ці мо скутая і босая
пройдзеш сьцежкамі, палосамі,
незнаёмымі разлогамі,
невядомымі дарогамі?..

І пачнеш блудзіць ты песьнямі
зноў над нівамі узорнымі,
на размашыстых гармоніках,
тэнарамі непакорнымі...

— — — — — — — — — —

Быў пагодны хоць ветраны час.
На шырокім, на Мядзельскім рынку
надрывалася хрыпла катрынка,
пачынаўся вясеньні кірмаш.

Быццам войска, пасталі вазы,
на парадзе ці можа на вечы,
з тлуму шэрага — з шэрай лазы
лес аглобляў падняўшы на плечы.

Як зара і як неба паркаль
усьмяхаўся з палатак да сонца
і каралі, як сьлёзы ці жаль,
расьцьвілі дзе-нідзе на сарочцы.

Вецер
пальцамі перабіраў
з гарманістым густыя частушкі
і вясёлкі — калёрныя стужкі —
быццам ў косы дзяўчат уплятаў...

На шнурох вісяць лапці, кнаты,
а вышэй — на падмостках
і ганках —
скуры жоўтыя і хамуты
і — як сонца — вянкі абаранкаў...

Плешчыць
мора людзкіх галасоў...
— Гэй, тавар загранічны, парыскі!..
І кудакчаць між цесных вазоў
бабы шумна купляючы міскі.

— Як задарма тавары мае!..
Шоўк дзяўчаты ускінуць на грудзі...
— Гэй, купі чорнабрывай сваей, —
будзе моцна любіць,
не забудзе!..



4.

Грышка доўга па рынку хадзіў,
прыглядаўся дзявочым уборам.
Хустку, не таргаваўся, купіў, —
сіні шоўк з пералівам вазёраў.
Добра — блізка дзяўчат ня было:
Бо з кірмашу-б яшчэ не прыехаў —
раззваніла-б у лапці сяло,
было-б вечарам гутаркі, сьмеху...

Іван

Што-ж, прыехаў і ты на кірмаш?
Даўна стужкамі стаў любавацца?..

Прахор

Кінь, Іван, чалавек гэта наш!
І пашто усё лезеш спрачацца?
А табе гэтак, Грышка, хадзіць
на вачох я ні раджу ніколі...
Тут пранюхаюць, будуць сачыць, —
у мястэчку, брат, ведай, ня ў полі.
Ды пайдзём!
Каля крайніх вазоў
ўжо чакаюць сабраўшыся людзі,
шмат баторынскіх ёсьць рыбакоў,
нехта з Гатавіч, з Пасынак будзе...

Грышка

Бачыш... куць профсаюз пачалі.
Справу толькі падняць было гора.
Сіла толькі куецца ў агні;
хутка бура падыме вазёры...

Рынак пеніцца,
рынак шуміць,
шматкалёрны і шэры і зрэбны.
Сонца лушчыцца, сонца гарыць
на люстэрках,
на хустках, на грэбнях.

Бабы кужаль, маткі прадаюць,
дываны, ручнікі, палатніны...
І калі яны зноў напрадуць —
ўсё, што выцягнуў голад на рынак?..
Польнай сьцежкай
цьвітуць паяскі,
разшытыя кашулі і стужкі
ў каляровыя дзіўныя птушкі,
ў каласы, верасы, васількі...
Ў тлуме тонуць палаткі, рады.
Ўсё зьмяшалася — людзі і коні.
Вецер з Мястра
вільготны, густы
ў залатыя шарахаўкі звоніць...
— Гэй, купіце прыборы хутчэй!..
Не, купец не маніў, не марудзіў,
ведаў: хлопца любіць весялей
чорнабрывая
з хустачкай будзе...

5.

Шмат гаварылі
і птушкі, і ветры,
і верасы расьцьвітаючы ў нетрах
далёкіх;
або начамі пужлівыя зоры
мыючы вочы ў
крыштальных вазёрах
глыбокіх...

Шмат гаварылі
батрацкія нівы
гонючы хвалямі ў даль пералівы
зарою,
быццам нядолю радзімай Старонкі;
шмат гаварылі
бярозы, сасонкі
і хвоі,
песьні, што блудзяць па стоптаным полі —
нам гаварылі аб Волі...

Праўда, што сокалаў
шмат ужо пала
восеньню скошаных чорнай навалай
па сьвеце...



Але на слаўных, народных магілах
ўсталі бунтарныя новыя сілы —
іх дзеці.
Ў сэрцы няма
іх пакоры, трывогі...

Гэткія толькі вазьмуць перамогу
хоць з бою...

Вецер калыша трысьнік надвазёрны;
ціха бор дрэміць
над возерам чорны,
і хвоі
часам зашэпчаць аб чымсь мімаволі
гледзячы ў сіняе поле...

— — — — — — — — — — — —

Ні галасоў, ні гоману
ў нахлынуўшым тумане
з над возера Баторына...
Сядзіць адна Тацяна.

Заснулі даўна вуліцы,
і толькі адгалосы
дзе-недзе яшчэ чуюцца
спазьніўшыхся калёсаў...

Зара ў вадзе хаваецца,
мігцяць радкія зоры...
Дзяўчына прыслухаецца,
што Мястра ей гавора.

А хвалі пераліўныя
пяшчотна галасамі
шапочаць казкі дзіўныя
з густымі трысьнікамі...

Пад вербамі і вязамі
ўсё плёскаюць бяз зьмены
і цешацца алмазамі
змываючы іх пенай.

Здаецца хвалі змучаны,
і вецер з трысьнікамі,
і возера магучае
сьпіць, дыхае грудзямі.

А месяц пераломаны
калышыцца ў тумане,
што пераплыў з Баторына...
Сядзіць адна Тацяна...

6.

Грышка

Прыйшлі...
што, доўга нас чакала?
Сход зацягнуўся да пазна...
Што-ж, Кагарка, не сумавала
над Мястрам—возерам адна?..

Тацяна

Дамоў ісьці была гатова,
або на лодках уцячы...

А вочы зорацца з пад броваў,
як першы
золак у начы.

Прахор

Ну, хлопцы, —
ў даль па моры сінім!
Ў сяло вярнёмся да зары.
А ты, Арол, глядзі —дзяўчыны
у рыбакоў не забяры!..

І пырснуў сьмех
разьбітай хваляй
закалыхаўшы трысьнікі.
І песьню дружна запялялі
на першых лодках рыбакі.
Ў даль паплыло
па хвалях рэха,
туды, дзе цёмны бор стаіць,
дзе сумна дрэмяць хаты, стрэхі...
Эх, песьні родныя мае!..



7.

— Трэба вёсламі ударыць —
зноў Прахор гавора.

Лодкі выплылі на Нарач, —
Эх, на сіне мора!

Лес над берагам сагнуўся,
зоры расьцьвітаюць...

„Паляцелі белы гусі
ды з чужога краю“...

Грышка

Слухай, суджана так мусіць,
што цябе кахаю,
а ты, быццам тыя гусі,
ад мяне ўцякаеш...

Не работнік можа ў попі?—
Жыць мы будзем працай,
За вазёры і за Волю
ў грамадзе змагацца...

Ціха Кагарка паўноччу
песьню абарвала,
за шаўковай хусткай вочы
зорныя схавала.

— Дык і я цябе кахаю... —
быццам шопат сосны
ўскалыхнуў вазёрнай хваляй,—
кінуў Грышка вёслы...

— Што-ж там песьню абарвалі?—
зноў Прахор гавора.—
Паняслася песьня далей,
рэхам па вазёрах!

То падняўшыся высока
блудзіць за гарамі,
або спусьціцца, як сокал,
дзесь за трысьнікамі...

Вецер з шолахам прачнуўся,
вецер навявае:
„Вы пастойце, белы гусі, —
я вас запытаю“...

*Канец частні чацьвертай.*

Вільня, 10. IX. 36.



# Сьвяткаваньне юбілею Коласа
## ў Менску

Усё грамадзянства і розныя установы БССР вельмі ўрачыста адзначылі юбілей 30-гадовай літаратурнай дзейнасьці народнага паэта Якуба Коласа. Пачынаючы з першых дзён кастрычніка, у працягу месяца, былі ладжаныя юбілейныя акадэміі ў розных установах усяе БССР, а нават і ў СССР, дзе толькі існуюць якія-колечы беларускія культурна-прасьветныя ўстановы (прыкл. у Маскве, Ленінградзе і інш.).

Найболей урачыстая акадэмія была зладжана дня 11-га кастрычніка ў БССР, у Менску. Акадэмія адбылася ў салі І-га Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, перапоўненай грамадзянствам з Менска, дэлегатамі з розных пунктаў БССР і прадстаўнікамі іншых рэспублік СССР.

Юбілейная ўрачыстасьць перадавалася праз менскую радыёстанцыю.

У прэзыдыюм акадэміі былі пакліканы наст. асобы: Якуб Колас, Гікала (сэкратар КП(б)Б — быў няпрысутны), Галадзед — старшыня СНК БССР, Чарвякоў — старшыня ЦВК БССР, Сурта — прэзыдэнт Акадэміі Навук БССР, Дзякаў—Нарком асьветы БССР, Янка Купала, А. Александровіч — паэты, Туранкоў — кампазытар і цэлы рад іншых асоб.

Акадэмію адчыніў Нарком асьветы Дзякаў, які ў кароткіх словах абзнаёміў прысутных з біографіяй Якуба Коласа. Далей былі прачытаны прывітальныя тэлеграмы ад розных установаў і асоб. Першая тэлеграма была ад сэкратара КП(б)Б — Гікала. Тэлеграма была зрэдагавана і адчытана ў расейскай мове!

Па адчытаньні тэлеграмы Гікала, прэзыдыюм акадэміі абвесьціў пастанову ўраду БССР, якой Я. Колас атрымлівае нагароду ў форме дачы, дому, у якім цяпер пражывае ў Менску, і лёгкага аўтамабілю, якога кошты ўтрыманьня бярэ на сябе ўрад БССР.

Далей віталі паэта вучнёўская моладзь з Менску, пасьля выступіў з абшырным рэфэратам аб жыцьці і дзейнасьці Я. Коласа кіраўнік справамі мастацтва пры СНК БССР П. Пасюкевіч.

Пасьля рэфэрату Пасюкевіча далей былі чытаны прысыланыя прывітальныя тэлеграмы.

Трэба сьцьвердзіць, што зашмат было расейшчыны ў прывітаньнях, тым больш, што карысталіся расейскай мовай мясцовыя прадстаўнікі розных устаноў і арганізацый БССР. Парасейску напр. вітаў Ткачэвіч—ад імя Цэнтр. Каміт. КП(б)Б, тэлеграму ў расейскай мове ад старшыні СНК БССР Галадзеда прачытаў праф. Бранштэйн Якуб, парасейску ад Акадэміі Навук БССР вітаў прэзыдэнт Акадэміі Сурта, ад імя тэатраў вітаў Рафальскі і інш.

Пабеларуску віталі: вучнёўская моладзь з Менску, дэлегацыя стаханаўцаў з Менску, дэлегацыя друкароў друк. ім. Сталіна, дэлегацыя ад менскіх настаўнікаў.

Ад імя пісьменьнікаў і паэтаў БССР доўгай і вельмі рачовай прамовай прывітаў хораша пабеларуску паэт Александровіч.

Далей вітаў юбіляра народны паэт Янка Купала. Ён сваё прывітаньне ўлажыў у форму верша.

З найбольш рачовых прывітаньняў гасьцей — гэта глыбокае і сэрдэчнае прывітаньне Ал. Суркова — ад імя Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў.

Суркоў параўнаў Коласа і Купалу да вялікага расейскага паэта А. Пушкіна. Зазначыў, што творчасьць Коласа і Купалы ў беларускай літаратуры адыгрываюць такую ролю, як у расейскай літаратуры творчасьць Пушкіна. А веліч Коласа і Купалы ў тым, што яны ніколі не адрываліся і не адрываюцца ад народу; мову сваей творчасьці жывяць сокамі жывой беларускай мовы.

Цёплымі прамовамі прывіталі юбіляра украінскія паэты і пісьменьнікі Тычына, Масэнка і Лэ.

Ад пісьменьнікаў „Западной Области“ — гэта знача Смаленшчыны — вітаў юбіляра пісьменьнік Кудзімаў.

Дзіўна, што Кудзімаў вітаў Коласа, як прадстаўнік небеларускай зямлі, хоць Смаленшчына, якая прылучана да РСФСР, якраз зьяўляецца інтэгральнай часткай этнографічнай Беларусі.

Пасьля з адказам на ўсе прывітаньні выступіў сам юбіляр — Я. Колас.

Прамоўца коратка спыніўся над гісторыяй навейшай беларускай літаратуры за апошнія 30 гадоў, сьцьвярджаючы яе буйнае разьвіцьцё.

*П. М.*

Наступная кніжка „Калосься“ выйдзе з друку ў палавіне першага кварталу 1937 году.

*Рэдакцыйная Калегія: др. Ст. Грынкевіч, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Рэдактар-выдавец: Ян Шутовіч.*

